

У Мазырскім порце.

Эцюд мастака В. Жолтак.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

У НУМАРЫ:



Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

8 (78)

Жнівень.

1959.

Год выдання VII.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

На вокладцы — малюнак мастака І. Раманоўскага.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8.586 экз. Цана 4 руб.
АТ 03599. Здадзена ў набор 1.VII.59 г. Падпісана да друку 30.VII.59 г. Зак. 435.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.



**Там, дзе сышліся граніцы трох рэспублік, былыя партызаны сабраліся каля кастра і ўспамінаюць даўнія гады.**

# З'ЯДНАНЫЯ ДРУЖБАЙ

— Камсамольцы, наперад!

Кулямётчыкі Васіль Равінскі і Імант Судмаліс сталі паспешна прасоўвацца на баявы рубеж. Праз некалькі хвілін іх бязлітасны кінжальны агонь ужо сеяў смерць сярод фашысцкіх карнікаў. Гэта вырашыла зыход бою. Партызаны Асвейскай брыгады былі выратаваны ад паражэння, якое ўсім здавалася непазбежным.

Гэты эпізод адбыўся ў самым пачатку партызанскіх баёў 17 год таму назад ля вёскі Лісна. Ужо тады ва ўсіх атрадах беларускай Асвейскай брыгады былі байцы з Латвіі. Хутка яны сталі аб'ядноўвацца ў групы. Гэта ж адбывалася і ў суседніх брыгадах. І вось летам 1942 года ў лясах непадалёку ад граніц РСФСР, Беларусі і Латвіі нарадзілася партызанская Латышская брыгада.

Кроўная дружба рускіх, беларускіх і латышскіх партызан мацнела з дня ў дзень. Нямала баявых аперацый правялі яны разам, кантралюючы вялікую тэрыторыю і захоўваючы на ёй савецкія парадкі. Ад бою да бою ўзрастала баявая вывучка латышскіх партызан, большасць якіх былі камсамольцамі. Імант Судмаліс, які адзін з першых узяўся за зброю, стаў славутым баявым камандзірам, Героем Савецкага Саюза.

Закончылася вайна. Раз'ехаліся партызаны па сваіх родных мясцінах. Але не спынілася іх дружба. І вось праз 15 год пасля вызвалення Беларусі дрымучы лес на стыку граніц трох братніх рэспублік зноў напоўніўся народнымі мсціўцамі. Былымі, праўда... З Масквы і Ленінграда, з Мінска і Рыгі, з навакольных раённых цэнтраў і вёсак, хто адзін, а хто з сям'ёй сцякаліся яны сюды, на сонечную паляну, да падножжа землянога кургана, насыпанага ў памяць аб сумесных баявых справах. Паводле рашэння Прэзідыума Вярхоўнага Савета Латвійскай ССР вялікай групе былых беларускіх партызан былі ўручаны Ганаровыя граматы.



**Былыя камсамольцы-партызаны зноў сустрэліся разам.** Злева направа: **камандзір Асвейскай брыгады Аляксандр Раманаў, камандзір першай групы латышскіх партызан Аляксандр Гром, намеснік камандзіра Асвейскай брыгады Георгі Казарцаў і камандзір Латышскай брыгады, Герой Савецкага Саюза Віліс Самсон.**

Фота аўтара.

«За шчырую і братнюю дапамогу, аказаную партызанам Савецкай Латвіі ў гады Вялікай Айчыннай вайны супраць фашысцкіх захопнікаў», — гаворыць тэкст гэтых грамат.

Звычайны лес са звычайным птушыным перасвістам, з ручаём, які зарос вольхай, са стракатым дыванам палянак стаў раптам незвычайна ўрачыстым. Хмызняком і маладымі дрэўцамі зараслі месцы зямлянак і баявых пазіцый. Пасівелі скроні ў тых, хто свае камсамольскія гады правёў тут са зброяй у руках. Але ўсё з тым жа маладым запалам правялі яны свае свята.

Яно прадаўжалася два дні, — раніцай усе перабраліся ў Асвейскі раён да памятнай усім вёскі Лісна, дзе быў урачыста адкрыты помнік партызанам.

**А. ДЗІТЛАЎ.**



**Рэдкі здымак латышскага паэта Яніса Райніса.**
На здымку: **Яніс Райніс выступае перад рабочымі горада Мінска на пачатку 20-х гадоў.**
Фота У. Барашкі.

# Да тыдня латышскай літаратуры



**Яніс СІРМБАРДЗІС**

Яніс Сірмбардзіс нарадзіўся ў 1937 годзе ў сялянскай сям'і.

У 1952 годзе скончыў Елгаўскае педвучылішча і цяпер вучыцца на філалагічным факультэце Латвійскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

У 1958 годзе вершы Сірмбардзіса ўпершыню з'явіліся на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў.

Два леты паэт працаваў на цаліне, многія яго творы прысвечаны гэтай тэме.

Сірмбардзіс падрыхтаваў да друку першы зборнік вершаў «Маё пакаленне».

## ДАЙ РУКУ!



Невядомы сябар, дай руку!
Я цябе ад сэрца прывітаю.
Сёння на любым мацерыку
Дружба і спагада расцвітаюць.

Дай руку! Мы племя аднаго,
Гул адчулі ранняе паводкі.
Не вада у жылах ад таго, —
Кроў кіпіць у венах аднагодкаў.

Дай руку! І не зважай на тых,
Хто баіцца нашых прывітанняў, —
Па дарогах пройдзем мы крутых,
Дружбу загартуем у змаганні.

Дай руку, мой друг! Зямля пяе!
Песню ёй і ты павінен скласці.
Як бацькі, заўжды любі яе,

Разам будзь
І ў горы з ёй, і ў шчасці.

Дай руку, мой незнаёмы друг!
У сасны вятры ірвуць ігліцы.
А як гушча вырасце наўкруг,
Ёй тады не страшны навальніцы.

## ПАЧАТАК

**Прысвечана камсамольцам—пакары-целям новых зямель.**



Слуп у стэпе. Ні кустоў, ні рэк.
Толькі ў твар лупцуе вецер жорсткі.
Ні душы не стрэне чалавек,
Хоць асіліць, пройдзе сотні вёрстаў.

Тут зямля не ведае плугоў,
Травы ссохлі...
Дзе нябёс спагада?
Палыны завялыя кругом,
Ап'янёныя уласным чадам.

Стэпы... Стэпы...
Адзінокі слуп...
Ды гавораць хлопцы і дзяўчаты:
«Гэты слуп
Усім бясконца люб —
Ім адзначан наступу пачатак!»

І да позняй ночы стэп дрыжыць,
Ён аглух —
Не моўкне гоман працы.
*Глеба ўзнята, глеба стала жыць,* —
Стэпу час з мінулым развітацца.

Дні бягуць, забыўшы на спачын,
А кашулі выеў пот салёны.
І да долу хіліцца палын —
Надыходзяць хвілі яго скону.



І плывуць з-пад лемяхоў крутых,
Сцелюцца і сцелюцца барозны,
Каб да промняў сонца залатых
Узняліся стрэлы ўсходаў росных.

*Пераклаў з латышскай мовы*
**І. Калеснік.**



Імант Аузінь нарадзіўся ў 1937 годзе ў Екабпільскім раёне ў сялянскай сям'і.
Цяпер вучыцца на III курсе філалагічнага факультэта Латвійскага дзяржаўнага ўніверсітэта.
У 1956 годзе творы яго ўпершыню з'явіліся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.
Хутка выйдзе з друку першы зборнік вершаў Аузіня «Спытаўся я ў сэрца».

**Імант АУЗІНЬ**

## ПЫТАЮ СЭРЦА



Пытаю я вішню зялёную ўслых,
Што сніць яна, зведаўшы вёсны.
«Той дзень, калі я па галінках сваіх
Адчула дым квецені роснай,
А сонца снавала ў ёй кросны...»

Пытаю пра тое ж я птушку, якой
Час выраю зычыць сумоту...
«Мне сніцца світанак, калі над зямлёй
Я крылы ўзняла для палёту.
Як вабяць зноў даль і высоты!»

Я сэрца пытаю: «Скажы мне як след,
Якой ты зарою спавіта?
Што згадваеш ты, нібы вішня свой цвет

І вольная птушка блакіты,
Дзе крылам прасторы адкрыты?»

«Дзень слаўны, народжаны ў грозным баю,
Кастрычніка дзень, што вятрамі
Загойдаў калыску маю,
І шчасце прынёс пад сцягамі
І шлях азарыў нам агнямі.

Ён волатам крочыць па землях краін,
Гарыць першацветам свабоды.
Пялёсткі знікаюць з вішнёвых галін,
Птах падае ў сцюжах нягоды,
Кастрычніку ж — жыць назаўсёды!»

Пераклаў з латышскай мовы
М. Калачынскі.

## ГЕРОЙ



Які рашучы позірк, смелы, востры!» —
Каля партрэта чуеш ад усіх.
А ён, гавораць,
У жыцці быў просты,
Студэнтам быў,
Не лепшым за другіх.

Любіў з сябрамі гутарыць да ночы,
І як і ўсім, яму,
Хто ў грозны бой
Бясстрашна падымаўся неаднойчы,
Было ўставаць так цяжка раніцой.

У інстытут, нібыта ў шумны вулей,
Спяшаўся ён на лекцыі заўжды,
Ён, хто не ўздрыгнуў нават перад куляй,
Дрыжаў на сесіях усе гады...

Яго, хто смерці лютай не скарыўся,
Перамагла вачэй гарэзных сінь,
І на спатканне — «толькі б не спазніўся!» —
Ён кожны раз імчаўся з усіх сіл...

Ён жыў, як ты, як хто другі ці трэці,
Быў сябрам гэткім жа, як мой ці твой.
Але ў яго была адна сустрэча,
Пасля якое ўжо не мець другой.



Дзе ж сіл яго вулкан скрываўся тайны?
Здаецца, чую — кажа ён услых:
«Я быў студэнт,
Быў, як і ўсе, звычайны.
І мая сіла —
Гэта сіла іх».

Пераклаў з латышскай мовы
Ніл Гілевіч.



Ояр Вацыецiс нарадзiўся ў 1933 годзе ў Апскiм раёне ў сям'і батрака.
Вучыўся на фiлалагiчным факультэце Латвiйскага дзяржаўнага ўнiверсiтэта i адначасова працаваў у рэдакцыi газеты «Лiтаратура ун Максла» i ў Латвiйскiм дзяржаўным выдавецтве. Цяпер працуе ў рэдакцыi часопiса «Лiесма».
Вышлi з друку зборнiкi Вацыецiса «Вецер далёкiх блуканняў» (1956 г.), «У агнi» (1958 г.).
Вацыецiс напiсаў таксама аповесць «Вачыма таго дня».

**Ояр ВАЦЫЕЦІС**

## БІСЯ, ЮНАЧАЕ СЭРЦА



Тою часінаю ў свеце
Нас не было зусім,
Як над зямлёю штандары
Схіляла журба цяжкая.
Хай не пабачылі
Мы Ільіча жывым,
Голас ягоны і сёння
Юных у строй гукае.

Наша жыццё патокам
Імкнецца к наступным дням,
Ад красавіцкага ветру
Шугаюць сцягі няспынна.
Зброю, з якою крочыць
У заўтра тваім сынам,
Дай у юначыя рукі
Родная маці — Айчына!
Дай нам нарог сталёвы —
І зашуміць ураджай
На цаліне, што спрадвеку

Пустэчай глядзела ў неба.
Шчодрай сваёй рукою
Пэндзаль і молат дай,
І аўтамат салдата
Дай змагарам, калі трэба!

Так, як насустрач сонцу
Імчыць красавіцкі ручай,
Барозны спяшаюцца ў лета,
Абняцца са жніўнем хочуць.
Дык бiся, юначае сэрца,
*Як білася б у Ільіча,*
Калі б па зямлі не я,
А' ён на прадвесні крочыў.

Пераклаў з латышскай мовы
П. Макаль.

## СТАРЭЙ СВАЙГО ЎЗРОСТУ



Хоць агню ў радках і нестае,
Молатам грымець свой верш прымушу,—
На шляхах жыццёвых паўстае
Шмат яшчэ тупога раўнадушша.

Аб зямлі на золку, аб вясне
Песень мог бы тысячу я скласці —
Бэз дыміцца, вабячы мяне...
Але гэта прыдзецца адкласці.

— Адкладаць, — здзівіўся ты, — нашто!
Лепш ісці лавіць пялёсткі ў жмені...
Лепш? А хто мяне заменіць —
Хто? —
У штодзённым нашым наступленні.

Дзесяць сутак — у цябе ўсё вальс.
Дзень і ноч. І клопату — ні знаку.
Нехта ж іншы ў гэты самы час
Рушыць у дзесятую атаку.

Ідучы з гулянкі, на рагу
Раптам штосьці прыкрае заўважыш,
Але пройдзеш міма, хоць і скажаш:
— Я цярпець такога не магу!..

Гэта нам пасля туды ісці
Працаваць, дзе ты быў толькі сведкам,
Хоць і знаем: шмат разоў цвісці
Ды не тым ужо, а іншым кветкам.



Добра. Сіл на ўсё хапае ў нас.
І тваё паробім. Вельмі проста.
Ды, прабач, калі праз нейкі час
Скажаш, што ў нас выгляд не па ўзросту, —

Адкажу табе я: Памаўчы!
Дзе было нам выглядам займацца —
Калі дзень кароткі быў для працы,
Час мы пазычалі ў начы.

Будзеш ты маўчаць, нібы нямы,
Ды спагады не сустрэнуць вочы.
І тады з цябе спагонім мы
Нашы вёсны, кветкі, нашы ночы!

Пераклаў з латышскай мовы
А. Вольскі.



Арыя Элксне нарадзілася ў 1928 годзе ў Рызе ў сям'і служачага.
У 1953 годзе скончыла медыцынскі факультэт Латвійскага дзяржаўнага ўніверсітэта, а пасля аспірантуру біялагічнай кафедры Рыжскага медыцынскага інстытута, у якім працуе цяпер асістэнтам.
Вершы пачала пісаць у 1956 годзе. Цяпер падрыхтавала да друку першы зборнік.

**Арыя ЭЛКСНЕ**

## ЛЮБОЎ



Слёзы крыўды мёдам робіць часу замяць,
Крыўды, што ў дзяцінстве за палын гарчэй.
Ды суровасць маці захавае памяць,
Стрыманую ўсмешку бацькавых вачэй.

На работу бацькі толькі скоса гляне:
Нешта ўсё псаваў ён ды рабіў не так,
І ні разу нават насадзіць мятлянік
Да спадобы маці не сумеў, бядак.

А калі мышасты на магільнік крочыў
І пясок усмешку ціхую прыкрыў,

І тады сухімі былі ў маці вочы,
З вуснаў не зрываўся ані ўсхліп, ні ўскрык.
Толькі той хвілінай
Гасла ўсё жанчына...

## ПАСАГ



Майго вяселля жаўранак звінеў у каласах —
Мне маці трубку кужалю тады дала ў пасаг.
Каб к восені без вяцярка
Цякла майго жыцця рака.
А што я дам дачцы сваёй?

А дам я мора бурнага неўтаймаванасць ёй,
Каб з роднай век не ведаўся асенніх дзён спакой.

Пераклаў з латышскай мовы
Р. Барадулін.



Харый Галынь нарадзіўся ў Ліепаі ў 1931 годзе.
Ён працаваў кур'ерам, грузчыкам, рыбаком, агентам страхавання жыцця, карэктарам, журналістам.
У 1958 годзе скончыў філалагічны факультэт Латвійскага дзяржаўнага ўніверсітэта.
У 1959 годзе выйшаў першы зборнік яго вершаў «Шторм берагі бурштынам засыпае».
Галынь многа перакладае з беларускай і літоўскай моваў.

**Харый ГАЛЫНЬ**

## ДЗЕДАВА ЗАКВАСКА



Навуковых не любіў дзед мерак,
Ён прасцей дарогу вымяраў:
Ад сяла — тры люлькі да кар'ера
І адна — да панскага двара.

Двор... Цяпер тут школа у палацы.
Парк старымі ліпамі шуміць.
Добра ў засені сядзець на лаўцы,
Папяросай таннаю дыміць.



Не люблю лічыць гадзін. Напэўна,
Дзедава закваска у мяне.
Закуру, і чую голас гнеўны:
«Друг мой, зноўку ты прышоў раней!»

Сапраўды, я паспяшаўся трохі,
Толькі сварышся, дальбог, дарма:
Быў бы зараз я на паўдарогі
Ад цябе — злавала б, што няма.

Не люблю і днямі мерыць час я:
Дзедава закваска у касцях.
Вечар, калі мы з табой не разам,
Марны вечар, для мяне ён — прах.

І тады я ненавіджу проста
Каляндар пузаты на сцяне.
Мерыць час я маю папяросы —
Самы лепшы спосаб для мяне!

Я б за дзень усё здыміў, што трэба,
Толькі б стрэнуцца хутчэй з табой,
Толькі б не чакаць мне, пакуль неба
Дагарыць чацвёрты раз зарой.

Пераклаў з латышскай мовы
Ніл Гілевіч.



Вольга Лісоўска нарадзілася ў 1929 годзе ў сям'і батрака.
Цяпер яна вучыцца на завочным аддзяленні Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага.
У 1950 годзе ў рэспубліканскіх выданнях Лісоўска ўпершыню надрукавала свае творы.
У гэтым годзе выйшаў першы зборнік яе вершаў «Сасна на гары».

**Вольга ЛІСОЎСКА**

## ГАРМОНІК



Толькі ляжа змрок на падаконнік
І туманам ахінецца гай,
Хочацца падаць табе гармонік
З просьбаю дзіцячай:
«Татачка, сыграй!»

Пальцамі, шурпатымі ад працы,
Дзіўнае мелодыі матыў
То заплакаць, то да зор узняцца
Гэткаю хвілінай прымушаеш ты.

Ведаю: ты ўспомніў на змярканні
Роднае Латгаліі цяпло,
Дзень калі іграў на развітанні
Песню гэтую, кідаючы сяло.

Мне здаецца, я таксама бачу,
Як праз лес сцяжынкай уначы
Ты ідзеш у край чужы батрачыць,
На плячы гармонік несучы.

... Кожны чалавек знаходзіць шчасце,
Ды свайго — ты не сустрэў тады.
Радасць, што жыла ў табе, украсці
Вырашылі цяжкія і горкія гады.

Толькі мог гармоніку даверыць
Ты свой сум, што біўся цераз край.
Цьмяна зорка зазірнула ў дзверы,
Мы цябе прасілі:
"Татачка, пайграй!"

Гора мы твайго не разумелі,
Слухаючы песні дзіўны звон.
Зводзіў вочы на сырой пасцелі
Пад гармонік, нібы казка, сон.

... Помню дзень: вярнуўся у хаціну
Ты худы і змучаны, як цень,
Бо прадаў гармонік свой адзіны
За кавалак хлеба для сваіх дзяцей.

Быў нямым пакой наш у той вечар,
Як нямым бывае ў студні дно;
Ад пакуты апусціўшы плечы,
Моўчкі пазіраў ты ў нізкае акно.

. . . . . . . . . . . . .

Толькі ляжа змрок на падаконнік
І туманам ахінецца гай,
Хочацца падаць табе гармонік
З просьбаю дзіцячай:
«Татачка, сыграй!»

Пераклаў з латышскай мовы
Ул. Нядзведскі.



Інт Лубей нарадзіўся ў 1931 годзе ў сям'і ўрача. Скончыўшы сярэднюю школу, пастyпае на філалагічны факультэт Латвійскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля заканчэння ўніверсітэта Інт Лубей працуе рэдактарам мастацкай літаратуры ў Дзяржаўным выдавецтве Латвійскай ССР.

З першымі апавяданнямі маладога пісьменніка латвійскі чытач пазнаёміўся ў 1949 — 1950 гг., калі яны з'явіліся на старонках часопісаў «Берніба» і «Карагс». Інт Лубей з'яўляецца членам Рыжскага аб'яднання маладых аўтараў. Нядаўна выдадзен першы зборнік яго апавяданняў «Сустрэчы».

**Інт ЛУБЕЙ**

# ДЫРЭКТАР

## Апавяданне

Мал. А. Бараноўскага.

— Я хацеў бы бачыць дырэктара,— сказаў, увайшоўшы ў кантору мясакамбіната, малады чалавек у акулярах і пры гальштуку малінавага колеру.

— Таварыш дырэктар на бойні,— паведаміла сакратарка, адарваўшыся на хвілінку ад папер. — Вам прыдзецца пачакаць.

Тыдзень назад на камбінаце быў непрыемны выпадак: шмат прывезенай на адкорм скаціны пала. Ветэрынарны ўрач камбіната — чалавек з дзесяццю гадамі практыкі за плячыма — катэгарычна патрабаваў звальнення даглядчыкаў. Але дырэктар — дэмабілізаваны палкоўнік авіяцыі, расследаваўшы справу, звольніў самога ўрача.

Ветурач узняў шум у выканкоме, пасля чаго настойліва звінелі тэлефоны на дырэктарскім стале. Дырэктар цвёрда адказваў: «Я ведаю, што раблю! Усё высветлена...» і клаў трубку. У кабінеце ўседзець усё ж было цяжка. Ён адкладаў ўбок папку з дакументамі на подпіс, уставаў і выходзіў.

Тэлефоны званілі. Шукалі гаспадара камбіната. Сакратарка адказвала адрывіста: «Так, так... У кілбасным цэху... На складзе... На падсобнай гаспадарцы... Пазваніце пазней!»

Праз якой паўгадзіны дырэктар вяртаўся, знаходзіў на пісьмовым стале запіску з тэлефоннымі нумарамі, куды трэба пазваніць. Рашуча

выкрэсліваў частку нумароў, буркаючы пад нос: «Ведаю! Глупства!» Астатнія набіраў, штосьці энергічна тлумачыў або каго-небудзь лаяў, падпісваў паперы і зноў пакідаў кабінет.

Каштанавую дырэктарскую «Пабеду» з гаспадаром за рулём часта бачылі, як яна імчалася па горадзе — цэхі камбіната былі размешчаны ў розных кутках яго. Скорасці, на якіх вадзіў дырэктар сваю машыну, часам намнога былі большыя за дазволеныя, і хоць гэта мала хвалявала яго, але рабіла вялікі клопат для міліцыі. Міліцыянеры ўсур'ёз трывожыліся, і іх было цяжка супакоіць звычайным дырэктарскім адказам: «Што вы паніку ўзнімаеце? Я яшчэ і кураняці не задушыў».

«Ну, вядома, — чалавек у акулярах расчаравана глытнуў камячок сліны і прадаўжаў размаўляць у думках: — Гэтыя дырэктары!.. Калі трэба ўладзіць якую-небудзь справу, тады іх ніколі няма».

Адкінуўшыся на стуле, малады чалавек паклаў нагу на нагу. Прыслухоўваючыся да стракацення пішучай машынкі, якое даносілася з-за сцяны, ён пільна аглядаў памяшканне канторы. Кожны раз, калі стукалі дзверы, ён паварочваў галаву ў іх бок, падпраўляў гальштук. І кожны раз кіслы выраз застываў на яго твары — рабочыя і служачыя камбіната заходзілі, выходзілі, а дырэктара, якога ён асабіста не ведаў, як відаць, не было. Пазяхаючы, як гэта ён рабіў звычайна, у далонь, малады чалавек лічыў марудныя хвіліны.

Раптам нехта не ўбег, а ўварваўся ў кантору.

— Піражковы цэх гарыць! — Гэты гучны покліч прымусіў чалавека ў акулярах крыху ўздрыгануцца.

Спыніўся стукат пішучай машынкі. Былі загорнуты канторскія кнігі, па стале пакаціліся алоўкі. Адзін за адным служачыя павыбягалі на двор. Усхваляванае шаргаценне ног, панадрываныя галасы, — і ўсё сціхла. У канторы застаўся толькі чалавек у акулярах.

— Прышоў, каб пабачыць дырэктара, а тут на́ табе, — пажар!.. — бурчэў ён, насцярожана азіраючыся па баках. Глянуў на свой новенькі летні гарнітур, наваксаваныя туфлі, з хвіліну памарудзіў і, узяўшы пад паху жоўты з свіной скуры партфель, асцярожнымі крокамі падаўся ў двор камбіната.

— Агонь дайшоў ужо да гаража і склада! — пачуў ён трывожны вокліч высокага хлопца, які на хаду скідаў белы халат. За ім бег, шырока раскрыўшы вочы, сівы рабочы. Спяшаліся ўсе — мужчыны і жанчыны.

Чалавек у акулярах убачыў чорны слуп дыму, які павольна ўзнімаўся над будынкам камбіната.

Высокі хлопец ледзь цягнуў цяжкую лесвіцу, прыставіў яе да сцяны — рабочыя мігам узляцелі па ёй угору, каб узабрацца на дах.

Размахваючы рукамі, падбег пагалены прысадзісты мужчына з загарэлым тварам і скінуў пінжак. Рукавы белай кашулі былі закасаны ў яго вышэй локцяў. Ён учапіўся за масіўныя дзверы гаража і адчыніў іх насцеж. Аўтамашыны не было відаць. Стары загадчык гаража, налёгшыся на бочку з бензінам, марна намагаўся адзін зрушыць яе. Прысадзісты кінуўся на дапамогу. Бочка падалася і пакацілася ў дзверы. Падышлі і яшчэ памочнікі.

— Ну, што вы топчацеся! — цяжка дыхаючы ад стомленасці, прамовіў прысадзісты мужчына.

Бочка, што зачапілася была за шула, нарэшце выкацілася ў двор.

— А вы чаго стаіцё, малады чалавек? Ідзіце ж на помач! — сказаў



прысадзісты мужчына, на секунду спыніўшыся каля чалавека ў акулярах і паказваючы яму ў кірунку вадзяной помпы.

— Я... Я ж, разумееце, хацеў бачыць... я...

Чалавек у акулярах глянуў туды, дзе стаяла помпа: дзве канторшчыцы там па чарзе набіралі ваду ў вёдры, якія падхоплівалі мужчыны і беглі да агню.

— Чаго захацелі... Кожны мне будзе загадваць, што рабіць, — прабурчэў малады чалавек, павольна адышоўшыся ўбок і ўсеўся на лаўку для вартаўнікоў, якая стаяла непадалёку ад варот камбіната. Ён спадзяваўся, што тут хутчэй сустрэне дырэктара.

Неўзабаве чалавека ў акулярах зноў патурбавалі — з прарэзлівым выццём у двор уехала чырвоная пажарная машына. Каля вялікага будынка, дзе мітусіліся дзесяткі людзей камбіната, пачалі дзейнічаць мужчыны ў касках. Распусцілі шлангі, і белыя струмені ўдарылі па даху, збіваючы языкі полымя. Малады чалавек з дзіцячай цікаўнасцю назіраў гульню пажарнікаў з агнём.



Урэшце агонь залілі. Пажар быў ліквідаваны. Пажарнікі збіралі свой рыштунак. Сярод іх, энергічна махаючы рукамі, бегаў прысадзісты чалавек з закасанымі рукавамі.

— Паслухайце, хто гэты мужчына? — запытаўся чалавек у акулярах, спыніўшы аднаго рабочага.

— Які? Вунь той, з закасанымі рукавамі? Дырэктар!..

— Як гэта — дырэктар?

— Ну так проста — дырэктар камбіната.

Малады чалавек правёў рабочага тупым позіркам, потым павярнуўся і, збянтэжаны, накіраваўся да дырэктара. Твар прысадзістага чалавека быў увесь у кроплях поту, чорны ад дыму, кашуля — падраная і заплямленая.

Малады чалавек пакланіўся яму.

— Што вам на самай справе трэба? — цяжка дыхаючы ад стомы, дырэктар бліснуў на маладога чалавека злоснымі

вачыма. Ён запомніў гэтую абыякавую ў няшчасную часіну асобу пры малінавым гальштуку.

— Мне... Я, даруйце, таварыш дырэктар, так не ў час... Хацеў... як гэта гаворыцца... у сувязі з вакансіяй ветэрынарнага ўрача... Трэст рэкамендаваў... — малады чалавек сумеўся. — Але я прышоў, як кажуць, так няўдала.

— Што вы, зусім наадварот, — перапыніў яго дырэктар, усё выціраючы пот з твару. — Нават вельмі ўдала...

— Значыць... — юнак не знаходзіў слоў. — Значыць... я мог бы спадзявацца?.. Я, вядома, з усёй добрасумленнасцю... Калі б толькі вы, таварыш дырэктар, згадзіліся праверыць мае здольнасці...

— Я ўжо гэта зрабіў.

— Гэта... гэта... — чалавек у акулярах праглынуў камячок сліны. — Гэта было б...

Але дырэктар павярнуўся ўжо спіной, каб пайсці займацца сваімі справамі.

Пераклад з латышскай мовы.





Зігмунд Скуінь нарадзіўся ў 1926 годзе ў г. Рызе ў сям'і рабочага.

Пасля ўстанаўлення савецкай улады ў Латвіі Скуінь уступае ў піянерскую арганізацыю. У складзе першай дэлегацыі латышскіх піянераў ён едзе ў Маскву; вярнуўшыся адтуль, друкуе свае нататкі ў часопісе «Піянер». Гэта была яго першая літаратурная спроба.

У апошнія дні фашысцкай акупацыі Латвіі Скуінь быў арыштаваны і вывезены ў Германію, дзе працаваў на прымусовых работах землякопам.

Пасля вайны вярнуўся ў Рыгу і пачаў працаваць карэспандэнтам газеты «Падом'ю Яунатне» («Савецкая моладзь»). У 1948 годзе змясціў у ёй свае першыя апавяданні.

«Шляхі і скрыжаванні» — першая кніга прозы Зігмунда Скуіня. Яна вышла ў 1954 годзе. Пасля гэтага ён выдаў яшчэ 2 кнігі апавяданняў і працуе цяпер над раманам з жыцця рабочай моладзі Рыгі.

Зігмунд **СКУІНЬ**

# РАДЫЁ

## Апавяданне

Мал. Л. Дубара.

Я заўсёды здзіўляўся гэтаму, а яно іменна так бывае: зіма як зіма — мароз, снег, але раптам выходзіш на двор і ўжо адчуваеш — зімы няма, вясна прышла. Зямля яшчэ халодная, дрэвы голыя, рэкі пад ільдом, а зімы няма... І думаеш тады неяк бадзёра, і хваляванне поўніць твае грудзі, таму што паветра поўнае сілы і жыцця.

Я іду бальшаком, засунуўшы рукі ў кішэні, і нясу за плячыма старую брызентавую сумку з інструментам. Любуюся сонцам, што скача ў лужах, і думаю, як усё-такі добра, што мне ў такі дзень не трэба сядзець у чатырох сценах. Такая ўжо ў мяне работа: сёння — тут, а заўтра — там. І мне здаецца, што мая работа — самая лепшая на свеце.

Я — сельскі радыётэхнік. Магчыма, гэты факт сам па сабе нічога яшчэ не гаворыць. Жыццё пайшло далёка ўперад, і ў вёсцы, як і ў горадзе, патрэбны ўсякія спецыялісты.

Але, паверце мне, радыё ў вёсцы — усё ж цудоўная рэч...

Вяртаюся я з калгаса імя Кірава, дзе да гэтай пары мне не давялося пабыць. Я толькі ведаў, што гэта адзін з лепшых калгасаў у раёне — аплочвае ён па сем рублёў грашыма і па два кіло хлеба на працадзень. А старшыня там — вось дык старшыня! Мне аднойчы

давялося бачыць яго... На выязной сесіі акадэміі навук ён так лоўка дыскутаваў з нейкім акадэмікам, што ў прысутных ад воплескаў далоні забалелі. Вось бадай і ўсё, што я ведаў пра гэты калгас.



Некалькі дзён назад гадзін у дзевяць я зайшоў у канцылярыю калгаса імя Кірава. Вясны тады яшчэ не адчувалася; на двары было шэра і маркотна.

У канцылярыі за сталом, які быў увесь завалены паперамі, пастуквала лічыльнікамі прыгожая дзяўчына. У куце, прыхінуўшыся да печы, стаяла невысокая брунетка з сур'ёзнымі вачыма і маршчынкай над пераноссем. Я падумаў, што гэта не калгасніца: была яна ў цёмна-зялёнай форме фінработніка.

— Добрай раніцы! — прывітаўся я. — Мяне прыслалі зрабіць рамонт радыёвузла. Што ў вас сталася з ім?

— Што праўда, то праўда... — прыгожая дзяўчына перастала раптам стукаць лічыльнікамі. — Не працуе ён, як трэба. Маскву транслiруем нядрэнна, а вось на рыжскай хвалі адзін трэск і піск...

— Мажліва... — я паклаў на стул сваю брызентавую сумку і зірнуў на чорнавалосую фінработніцу. Яна таксама глянула на мяне, а мо' толькі на мае пачырванелыя з холаду вушы. Дзе я сустракаў яе? На станцыі, у магазіне ці на вуліцы? Успомні цяпер... Свет вялікі... А што бачыў я яе — у гэтым не сумняваўся: памяць у мяне была добрая.



Работа радыётэхніка — тонкая справа; не станеш адубелымі ад холаду пальцамі лезці ў апаратуру. Пакуль я сагрэўся, прайшло хвілін з дзесяць. За гэты час я ўжо дазнаўся, што дзяўчыну, якая мае справу з лічыльнікамі, клічуць Велтай, а гэту, другую, Мартай. Але ж, калі я пацікавіўся, ці шмат у калгасе моладзі, Марта коратка і неяк рэзка адказала:

— Не вельмі. А радыёвузел, каб вы ведалі, знаходзіцца ў суседнім пакоі...

Што ж, добра. Рукі мае адагрэліся, і я ўзяўся за работу.

Праз якую гадзіну ў канцылярыю зайшоў старшыня калгаса. Гэта сапраўды быў той чалавек, што дыскутаваў з акадэмікам на сесіі. Шыракаплечы, стройны, у расшпіленай ватоўцы; на вуглаватым падбародку ў яго адрасла шчэць. Не, Іоргіс Крамайніс, — старшыня, — не «канцылярыст», гэта адразу відаць. І выпіць ён, бадай, любіць... Спярша ён мяне зусім не заўважыў і заняўся сваімі больш важнымі справамі. У першай брыгадзе нехта, возячы сена, услаў ім усю дарогу, і цяпер таму гаспадару хапала лаянкі па тэлефоне:

— Крастынь, гэта ты сёння раніцой сена вазіў? Ты? Каму вазіў? Каму? — пытаю. Цялятам? Сам ты цяля! Так, так! Я пра сена кажу. Пускаць на вецер калгаснае дабро мы не маем права. Зразумеў? Зараз жа едзь назад і падбяры ўсё, да апошняй сяніны... Чуеш?..

— Старшыня... Нядаўна званіў Плацынь з кааператыва, — сказала Велта, — калгас «Гайсма» не можа выкупіць макуху. Ці не ўзяць яе нам?

— Макуху? Колькі дадуць — усю возьмем.

— Толькі ў банку цяпер грошай няма.

— Прыдумаем што-небудзь. Пазвані загадчыку фермы, няхай адкормленых свіней вязе на прыёмны пункт.

— Не згаджаецца той, гаворыць — не выгадна цяпер.

— Скажы яму, каб дарэмна не ўзнімаў шуму. Нядобра гэта! Скажы, што я гаварыў! Вось і ўсё... Якія навіны з лесу?

Я рабіў сваё і толькі адным вухам чуў усё гэта. Ды чаму б мне не паслухаць. Іоргіс Крамайніс, як старшыня, цікавіў мяне ўсё больш і больш. Побач на сцяне вісела старая ўжо насценгазета пра выбары ў мясцовыя Саветы, і на пажоўклай паперы было расказана пра ўсё жыццё Крамайніса. Ён з рабочых, адукацыя ўсяго чатыры класы. У вайну служыў у гвардзейскай часці шафёрам, мае ордэн. Калгасам кіруе з часу яго заснавання.

Не, як сабе хочаце, а такога чалавека варта паслухаць.

Нарэшце, старшыня заўважыў і мяне.

— А, радыётэхнік прыехаў! Дачакаліся ўсё ж...

Ён працягнуў мне руку, якая бадай магла сагнуць падкову ў абаранку, і сказаў:

— Слухай, наладзь мне гэтую скрынку як мае быць, а то без яе я ўсё адно што нямы.

Перада мной на стале ляжаў разабраны трансляцыйны апарат: куча дэталей, радыёлямпы, правады. А я сабе кручу толькі адвёрткай, са спрытам, які набываецца пасля пяці гадоў адной і той жа работы.

— Ну, як?.. — спытаў я ў старшыні, перакінуўшыся сім-тым. — Людзі не шкадуюць, што радыёвузел маюць? Гэта ж недзе ў ладную капейку абышлося...

— Ды што ты! Добрая штука, гэты радыёвузел... Карысная! — старшыня адкінуўся ў крэсле, на якое быў прысеў, і пачаў апавядаць: — У мінулым месяцы райком паслаў мяне на гадавы справаздачны сход да нашых суседзяў, якія яшчэ адстаюць. Першае, што я ім параіў, дык гэта наладзіць сабе радыёвузел. Бо вартая гэта штука... Ты сам памяркуй... Калгас з канца ў канец на дваццаць кіламетраў расцягнуўся. Людзей сотні. Сувязь патрэбна? Але ж. А цяпер, толькі — раз! — уключыў мікрафон і: «Першай брыгадзе высці заўтра на работу туды і туды»... Або зноў жа: «Вечарам будзе праўленне. З'явіцца таму і таму!..»

Старшыня гаварыў, падкрэсліваючы жэстам кожнае слова. Твар яго ўсміхаўся. Колькі ж яму гадоў? Сорак, сорак пяць? Валасы на скронях Крамайніса пачыналі ўжо серабрыцца.

— А для гультаёў... для іх радыё — што вар для клапоў! Ты толькі скажы такому: — Заўтра табе анекдот раскажуць і пласцінку паставяць «Якім ты быў...» — і ўсё тут. Лепшых лекаў не знойдзеш. А іншы раз і так бывае: прыедзе хто-небудзь з Рыгі ці з раёна, пра тэрміновае штосьці хоча са мной пагаварыць. Чалавек гэты мог бы хто ведае колькі чакаць у канцылярыі: я больш за ўсё ў брыгадах прападаю. А тут аб'явяць па радыё, і якая-небудзь бабка ўжо крычыць мне: «Старшыня, у канцылярыю бяжы, там шукаюць цябе!» А потым яшчэ — розныя паведамленні, музыка, лекцыі. Ды што казаць...

Пачалася і пацякла наша гутарка. Пасля радыёвузла Крамайніс перайшоў да гаспадарчых спраў. І тут ён раптам зусім разышоўся. Па тыпавому праекту прадугледжана, што ў новым кароўніку, які будуецца, жалабы для сцёку жыжы з-пад гною трэба класці драўляныя... Праз пяць жа год яны згніюць, і тады што? Насціл з бетону ўзрываць?

— Не будзе так! — аж крычыць старшыня. — Я ў раёне коратка і ясна сказаў: «Хочаце, — можаце з гэтых гнілых дошак сабе ложкаў панарабляць, а трубы бетонныя класці будзем». Ці не мая праўда?

— Як тут сказаць... Можа ваша, а мо' і не. Я ж не бачыў праекта.

— Праектыроўшчыкі гэтыя толькі і ведаюць, што малююць. А я ў сваім калгасе адказваю за ўсё, і нечага мне скакаць пад іх дудку.

— Скакаць, вядома, не трэба.

Вось як мы гутарылі.

Нарэшце Крамайніс паглядзеў на гадзіннік і падняўся:

— Вось так, — сказаў ён. — Толькі дзень яшчэ кароткі.

Калі ён накіраваўся да дзвярэй, у канцылярыю ўвайшла захутаная ў белую шарсцяную хустку жанчына. Была яна у акулярах, якія цяпер запацелі ад раптоўнай перамены тэмпературы, і яна працірала іх вялікім пальцам пальчаткі. Жанчына была ўжо немаладая, мела такія ж белыя валасы, як і хустку.

— Добра, старшыня, што я вас застала.

Яна прывіталася і абвяла ўсё наўкол уважлівым позіркам.

Крамайніс паскроб пальцам недзе за вухам і яшчэ бліжэй падаўся да дзвярэй.

— Для цябе можа і добра, а для мяне добрага ў гэтым мала.

— Я хацела пра Гулбісавых хлопцаў пагаварыць. Проста бяда з імі. Тыдзень ходзяць, другі — не...

— А што, па-твойму, я магу зрабіць? Што я, міліцыя?





— Вы — старшыня калгаса.

— У тым уся і справа. Мне, як бачыш, калгасам кіраваць трэба, а не з вамі, настаўнікамі, разбірацца. Ты за сваімі хлопцамі сама глядзі, дзяржава ж табе за гэта грошы плаціць.

Настаўніца хацела сказаць яшчэ штосьці, але ў гэты час стукнулі дзверы і магутная постаць Крамайніса праплыла паўз акно. Ён ішоў па вуліцы ўпэўнена, цвёрда, але цяжкай хадою. Вельмі цяжкай.

Я пачаў ціха насвістваць нейкі матыў і, працягваючы сваю работу, думаў, што ўсё ж дрэнна, калі чалавек падчас не можа паглядзець на сябе сам праз акно — спераду, ззаду і збоку.

Вечарам, упоцемках, я ішоў да брыгадзіра Прыедэ: у яго я дамовіўся пераначаваць. Марта ішла ў той бок таксама і паказвала мне дарогу. На небе не было ні зоркі, толькі месяц, ахутаны малочнай смугой, свяціў цьмяна і быў белы, як твар мерцвяка.

Марта чамусьці не мела ахвоты размаўляць, але я ўсё ж такі дазнаўся ў яе, што працуе яна ў вёсцы фінагентам і што яна сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса.

Цяпер я ўспомніў, дзе я яе бачыў — на раённай камсамольскай канферэнцыі. Гэта яна тады гаварыла, што ў калгасе імя Кірава камсамольцы парашылі накіраваць трох таварышаў працаваць на жывёлагадоўчую ферму.

Я напомніў Марце пра гэта, і яна тады неяк адразу пасмялела.

— Вырашыць то мы вырашылі, — гаварыла Марта, — але гэта ўсё засталася толькі на паперы.

— Чаму?

— Бо старшыня другое думаў, а спрачацца з ім... — Марта злёгку ўздыхнула.

— Ага. Я сёння нават сёе-тое за ім заўважыў. Сухі гэты Крамайніс і рэзкі.

— Як старшыня, дык ён, наогул, добры: энергічны, гаспадарлівы, клапатлівы і акуратны. Але характар мае... Яму здаецца, мусіць, што толькі ён адзін праўду і думае і гаворыць. А калі вып'е — лаецца.

— Ад гэтай хваробы можна вылечыць. Чаму гэтаму Крамайнісу ніхто не дасць заўвагі? Хоць бы на агульным калгасным сходзе ўказалі...

— Хто яму можа ўказаць...

— А хоць бы вы, як сакратар камсамольскай арганізацыі.

Марта зноў уздыхнула.

— Старшыня нават у раёне можа кулаком па стале стукнуць. Скажаш, усміхаецца і ўсё. Не ведаю я яго, ці што? Толькі адносіны абвострыш. А мне працаваць з ім. Я ж вельмі часта прашу ў яго помачы...

— У раёне вас абавязкова падтрымаюць. Вы думаеце, што там не бачаць гэтых плямак у Крамайніса?

— Вядома, бачаць. Але ім хапае валакіты з дрэннымі старшынямі, нашто ім чапаць Крамайніса. Яго калгас перадавы, у прыклад ставяць. Ды і пра яго, як пра старшыню, нічога дрэннага не скажаш. Толькі хіба, як вы кажаце, з плямкамі ён...

— Усё ж гэтага так пакідаць не варта, — абураўся я, — гэта сур'ёзная справа. Падумайце толькі — крытыкаваць яго нельга, заўваг ён не слухае, сам усё вырашае... Да чаго гэта прывядзе? Я згодзен — Крамайніс, наогул, добры старшыня, але і ён можа памыліцца і пайсці не па той дарозе. І што тады?

— О-о-о... Ён ужо не раз памыляўся. Не раз...

— Дык пра гэта ж гаварыць трэба!

Марта не адказала. Нейкі час мы ішлі моўчкі, потым я сказаў:

— Радыёвузел будзе заўтра ў парадку. Наладзім разам камсамольскую перадачу пра гэта, добра?

Марта кіўнула галавою.

— У нас такой яшчэ ніколі не было, — сказала пры гэтым.

— Дык вось будзе.

Зноў маўчанне.

— Ну, добра, па радыё можна...

На другі дзень пад вечар радыёвузел быў ужо спраўны. Мы пачалі рыхтаваць перадачу. Выявілася, што Велта складае сатырычныя вершы. Яна нават напісала доўгую песню пра сыноў Гулбіса. Яе можна было спяваць на матыў: «Куды бяжыш, куды бяжыш ты, пеўнік мой?» Я падрыхтаваў уступнае слова, хоць мне давялося напсаваць шмат паперы: для мяне лягчэй адрамантаваць тры радыёвузлы, чым напісаць адзін артыкул.

У цэнтры нашай перадачы быў фельетон Марты «Пра плямкі старшыні».

А дваццатай гадзіне мы пачалі перадачу.

— Увага! Увага! Гаворыць радыёвузел калгаса імя Кірава. Слухайце камсамольскую перадачу — аб'явіла Велта.

Мы ўключылі вясёлы марш, пасля — маё выступленне і нарэшце — песенькі пра сыноў Гулбіса.

Перадача ішла выдатна, але мы ўсё-такі хваляваліся.

І, відаць, не дарэмна, бо раптам здарылася нешта непрадбачанае. У тую хвіліну, калі Марта стала перад мікрафонам, каб прачытаць фельетон, у пакой на дыбачках зайшоў Крамайніс.

— Нічога, нічога... — зашаптаў ён, паднёсшы да губ палец. — Я толькі паслухаю, што вы тут расказваеце...

Марта правяла языком па вуснах і дрыготкімі пальцамі яшчэ раз перагарнула лісткі.



Як я зразумеў яе ў гэту хвіліну!.. Што яна стане рабіць? Прачытае ці не?

— Добрая штука радыёвузел! — самазадаволена прамармытаў старшыня. Ён зноў недзе выпіў.

У Марты валіліся лісткі з рук...

Але ўсё ж яна пачала чытаць. Спачатку голас яе быў ціхі, хрыплы, потым памацнеў. Марта нават не пазірала ў лісткі, а глядзела проста ў вочы Крамайнісу.

А што сталася з ім, Крамайнісам, гэтым сухім, рэзкім чалавекам? Пасля першых слоў ён усміхнуўся, а потым, вырачыўшы вочы, усё больш і больш уцягваў галаву ў плечы. На яговым твары мільганула разгубленасць і нешта падобнае на страх. Гэта ж гаварыла не Марта-дзяўчынка, а калгасны радыёвузел. Аж у ста дваццаці дамах ля рэпрадуктараў сядзелі і слухалі калгаснікі. Яшчэ ніколі і нідзе з Крамайнісам не здаралася такога...

Якая ўсё ж такі добрая рэч — радыё на вёсцы.

Я кончыў свае справы ў калгасе імя Кірава. Бяру брызентавую сумку з інструментам і іду далей. Учора яшчэ стаяла зіма, а сёння — вясна! Зямля пакуль што халодная, дрэвы голыя, але зімы ўжо няма...

Пераклад з латышскай мовы.





Мал. У. Лося.

Алесь АСІПЕНКА

# ПАПЛАВЫ

Аповесць

## Дарагое сэрцу Падзвінне

I

Льва Раманавіча Алексіча ў апошні раз назвалі маладым чалавекам 3 ліпеня 1941 года. Было гэта пры абставінах не зусім звычайных, можа таму той выпадак запомніўся на ўсё жыццё. Пасля таго як па радыё перадалі выступленне Старшыні Дзяржаўнага камітэта абароны, Леў Раманавіч раптам адчуў, што яго месца там, дзе ідуць крывапралітныя баі, што хавацца далей за паперкай-броняю непрыстойна і нават злачынна. Хіба зможа выратаваць гэтая паперка ад смерці, калі гітлераўцы ірвуцца да Масквы. Напісаўшы кароткае пісьмо сястры, ён сабраў найбольш неабходныя рэчы і пайшоў у ваенкамат. Але не паспеў прайсці і двух кварталаў, як завыла сірэна. Людзі адразу зніклі. На першых днях непрывычныя да вайны людзі яшчэ настойліва хавалі ад смерці галовы пад аркамі дамоў, у сутарэннях і пад'ездах. Адзін Леў Раманавіч ішоў па тратуары, неяк адразу зразумеўшы немалаважнае для вайны правіла: ад гвалтоўнай смерці ў сутарэнні не схаваешся. І ён ішоў.

Раптам з-за чыгунных варот чыясьці рука ўхапіла яго за крысо і пацягнула ў нізкую брамку. Хутчэй таму, што Леў Раманавіч знаходзіўся ў нейкім летаргічным стане, нейчай руцэ ўдалося перамагчы яго супраціўленне, уцягнуць у сыры пад'езд.

— На якое ліха вы мяне хапаеце? — крыкнуў ён і запнуўся. Гэта была немаладая ўжо, але прыгожая жанчына, падвітая, падфарбаваная, з вялікімі і, як здалося ў паўзмроку, чорнымі вачыма.

---

Працяг. Пачатак у № 7.

— Прабачце, — заікнуўся Леў Раманавіч, — але сапраўды, навошта вы мяне зацягнулі ў гэты змрочны пад'езд?

— Я страшэнна баюся. А тут ні душы, чуеце: ціха, як у магіле. Заб'юць, і ніхто не даведаецца. А калі раняць?! Божа мой, навошта толькі гэтыя войны!..

Яна ўхапілася за яго рукаў, быццам ёй вось-вось пагражала жахлівая небяспека. Леў Раманавіч пастараўся супакоіць жанчыну тым, што трывога хутка кончыцца.

— Вы думаеце?

— Упэўнены. Чуеце? Зусім ціха. Страляніны няма. Пэўна, дзе-небудзь непадалёк пралятал самалёты, вось і аб'явілі трывогу. А магчыма, проста вучэнне, так сказаць, уверцюра да сапраўднай оперы.

Жанчына адразу спыталася ці не музыкант ён. І калі Леў Раманавіч адказаў, што ён усяго толькі аспірант, ды яшчэ па заатэхніі — жанчына ўспляснула рукамі і запыталася, ці не ведае ён яе мужа Івана Іванавіча Мажэйку, які таксама належыць да той жа кагорты спецыялістаў сельскай гаспадаркі.

Леў Раманавіч не ведаў Мажэйку, але чуў, што той нядаўна абараніў дысертацыю. Слова за слова — і размова набыла шчыры, непасрэдны характар, як у людзей блізкіх прафесій. Тым часам быў аб'яўлены адбой, і яны праз тую ж нізенькую брамку вышлі на сонечную, гарачую вуліцу.

— Я вельмі хацела б вас папрасіць, — заглядаючы яму ў твар, пачала жанчына, — але не ведаю, ці зручна гэта...

— Калі ласка, не цырымоньцеся.

— Але ж мая просьба не зусім звычайная. Я хацела б, каб вы правялі мяне. Ведаеце, неяк жудасна ісці дамоў. Вы нікуды не спяшаецеся?

Леў Раманавіч запэўніў, што ён нікуды асабліва не спяшаецца, і што там, куды ён ішоў, мусіць, згодзяцца пачакаць яшчэ дзве-тры гадзіны.

Лілія Нікадзімаўна жыла непадалёк ад таго пад'езда, у якім яны хаваліся, у шэрым, панурым доме.

— Прабачце, мушу пакінуць вас адну, — сказаў ён, як толькі яны падышлі да яе кватэры.

Яна зноў ухапілася за яго рукаў, сказала, бліснуўшы белымі, як часнок, зубамі:

— Уявіце, што вы трапілі ў палон, і пакуль я вас не пачастую чаем — не адпушчу.

Хочаш не хочаш, прышлося зайсці ў пакой, піць чай і міла жартаваць. На развітанне ён паабяцаў, што вайна хутка закончыцца і дадаў:

— А каб хутчэй закончылася вайна, дык вось я і спяшаюся ў ваенкамат. Пайду на фронт добраахвотнікам.

Пасля гэтага Лілія Нікадзімаўна і сказала тыя словы, якія запомніліся Льву Раманавічу:

— Малады чалавек, вы вельмі яшчэ малады і неразумны. У чалавека адно жыццё, і яго трэба берагчы. А вы так безразважна адносіцеся да яго... У вас, відаць, палкае сэрца, і яно патрэбна вам, каб кахаць. — І раптам: — Гэта вельмі жахліва. Навошта вы ірвецеся? Вядома, ваш учынак высакародны. Але, дарагі мой, часам трэба дбаць і пра сябе...



Леў Раманавіч адчуваў, аднак, што ёй зусім не страшна і не жахліва, і пастараўся развітацца, паабяцаўшы перад ад'ездам заглянуць да яе. Потым, ужо ў ваенкамаце, ён успомніў, што не запытаўся ў яе пра мужа. Дзе ён? Пэўна, таксама на вайне?

З таго дня Льва Раманавіча больш ніхто і ніколі не называў маладым чалавекам. Нават Лілія Нікадзімаўна, якая праз два дні ў адказ на паштоўку перад самым адыходам эшалона прышла праводзіць яго ў доўгую салдацкую дарогу. Ды і сам сябе ён даўно перастаў лічыць маладым. Праўда, гады тры назад паверыў было ў тое, што зноў вярнулася пара незабыўнага юнацтва. Але другая маладосць прамільгнула, як сон, пакінуўшы нявыладаную горыч нечаканага растання. І тады, паглядзеўшы на сябе ў люстэрка, Леў Раманавіч канчаткова пераканаўся, што вельмі пастарэў: парадзелі валасы, паблеклі вочы. Застаўся яшчэ жывы, нязгасны агеньчык у грудзях, але пра яго гарэнне ведае толькі сам Леў Раманавіч, астатнім здаецца, быццам то не аганёк задзірлівай маладосці, а простая бурклівасць, няўжыўчывасць — прадвеснікі блізкай старасці.

Затое не вельмі даўно Льва Раманавіча пачалі называць маладым вучоным. І гэтая на першы погляд зусім малаважная акалічнасць таксама паўставала супраць яго, але якраз з адваротнага боку.

Тыя ж самыя людзі, якія, лёгка ўздыхаючы, гаварылі: «Старэе Леў Раманавіч. Няўжыўчывы, не дай божа», — гэтыя ж самыя людзі ўспрымалі яго выказванні і выступленні, як фантастычныя мары юнака. Аднаго разу, разгарачыўшыся ў час дыскусіі, Леў Раманавіч адарваўся ад канспекта, што ляжаў на трыбуне, абвёў вачыма шумлівую залу: яго ўразілі недаверлівыя, кплівыя, а ў некаторых — спачувальныя ўсмешкі. Ён зразумеў: яго слухаюць, але не вераць, ставяцца да яго слоў з той разважлівасцю старога дзядулі, які маўкліва слухае балбатню хлапчука толькі таму, што не хоча пакрыўдзіць малое. У такія хвіліны ён не мог стрымаць сябе: гарачыўся, гаварыў залішне рэзка.

На гэтай глебе ўзнікалі шматлікія непаразуменні, інцыдэнты і нават невялікія скандалы, ці як іх называлі «сямейныя канфлікты», падкрэсліваючы гэтым абмежаванасць і несур'ёзнасць разладу.

Леў Раманавіч заўсёды пакутліва перажываў «сямейныя» непрыемнасці. Не адзін раз вырашаў памякчэць, змаўчаць, не заўважаць, але праходзіў час і ўсё паўтаралася, ішло звычайным, нібы па раскладу, парадкам.

У тую раніцу Леў Раманавіч прачнуўся рана і адразу ўспомніў пра чарговы «сямейны канфлікт». Зрабілася прыкра, але найбольш балюча за сябе. Навошта зноў уступіў у бязмэтную дыскусію з Мажэйкам. Мала таго што палез у спрэчку, дык, здаецца, нагаварыў шмат чаго лішняга, непатрэбнага, недазволенага ў навуковых дыскусіях. Пасля выступіў Мажэйка, скарыстаў промахі, павярнуў справу зусім у іншы бок.

А чым Мажэйка пераканаў людзей? Навуковымі довадамі? Глыбокім аналізам? Якімі-небудзь незвычайнымі адкрыццямі? Зусім не. Сваёй алімпійскай спакойнасцю. Яшчэ ніхто не бачыў, каб Мажэйка хваляваўся. Кожнае слова ў яго ўзважана, кожны жэст загадзя абдуманы, а інтанацыя голасу разлічана на тое, каб пераканаць чалавека.

«Проста артыст!.. Комік!.. — абурана падумаў Леў Раманавіч. — Чорт бы яго ўзяў з яго аратарскім майстэрствам! Хай бы лепш займаўся навукай. Шэсць гадоў працуе над праблемамі, якія толькі заводзяць людзей у зман. Уся энергія ў чалавека ідзе на тое, каб даказваць, пераконваць, абдурваць, атрымліваць. І ён хоча, каб я маўчаў...»

Леў Раманавіч не заўважыў, як пачаў думаць уголас. І апошнія словы яго, відаць, пачула цётка Арына. Яна ціхенька адчыніла дзверы.

— Пойдзеш ужо? Яшчэ ж рана.

Леў Раманавіч ад нечаканасці здрыгнуўся, пасля засмяяўся, што аж старая жанчына здзіўлена паглядзела на яго: ці не звар'яцеў часам чалавек. Гэта ж падумаць, столькі працуе!.. Леў Раманавіч зразумеў, што ён і сапраўды напалохаў жанчыну. І ўжо жартаўліва, як заўсёды, папрасіў:

— Дарагая Арына Восіпаўна, я галодны, як воўк, і калі вы на тое згодны, давайце падсілкуемся крыху.

Цётка Арына махнула рукой і тут жа дадала:

— У мяне ўжо ўсё гатова.

Яна выйшла, а Леў Раманавіч зноў пачаў дакараць сябе. Ён, сапраўды, нясцерпны чалавек. Дайшло да таго, што размаўляе сам з сабою ўголас... Даўся гэты Мажэйка!.. Няхай робіць, што хоча. Следам з'явілася другая думка: мо' памыляецца ён сам? Можа надта забягае наперад? Можа сапраўды не падаспеў той час, калі можна сур'ёзна брацца за вырашэнне той праблемы, над якой працуе. А што, калі ён адарваўся ў сваіх планах ад жыцця?.. Успомнілася, як на адной нарадзе Мажэйка назваў яго фантазёрам, а яго праблему навуковай фантастыкай, якую, магчыма, ажыццёвяць калі-небудзь толькі нашы нашчадкі. Успамін пра Мажэйку адразу вывеў Льва Раманавіча з раўнавагі. «Фантастыка... — зноў загарэўся ён нецярплівымі думкамі. — Дык уся ж навука фантастыка!.. Кібернетычныя машыны — фантастыка, новыя пароды жывёлы — фантастыка. Ды вучоны заўсёды адкрывае тое, што яшчэ ўчора здавалася казкай. Інакш — грош цана таму адкрыццю. Важна, каб фантастыка стала явай. А гэта ўжо залежыць ад чалавека. Ну так, я люблю памарыць... Але ж я не проста мару, а расказваю, паказваю, даказваю, як і што трэба рабіць. Тады праўда не Мажэйкава, а мая. Лайце за тое, што я не вытрыманы, але не за мае навуковыя ідэі. Яны правільныя, і я за іх буду змагацца, няхай тут выступяць хоць сто такіх Мажэйкаў».

Вывад гэты быў зусім не новы. Да яго Леў Раманавіч прыходзіў заўсёды, калі раздумваў над сваёй даўняй спрэчкай з Мажэйкам. І тады намеры памякчэць, змаўчаць, не заўважаць ляцелі да д'ябла і «малады» вучоны ішоў з ваяўнічым настроем на працу.

Так было і ў гэты дзень.

Пасля абеду да яго забегла маладзенькая сакратарка — Любачка. Афіцыйным, але па-дзявочаму лагодным голасам папрасіла яго зайсці да Алега Пятровіча, сакратара партыйнага бюро.

— Не ведаеце, Любачка, навошта я спатрэбіўся Алегу Пятровічу? — запытаўся Леў Раманавіч. Любачка хацела сказаць, што не ведае: Леў Раманавіч папярэдзіў яе. — Дарагая Любачка, па вашых вачах я добра бачу, што вы ведаеце, і размова для мяне не будзе прыемнай. Мы з вамі заўсёды былі добрымі сябрамі, і я думаю, што будзем дружыць і далей.



У Любачкі адразу знікла тая строгая афіцыйнасць, якую яна напусціла на сябе. Спяшаючыся, яна расказала, што да Алега Пятровіча прыходзіў Іван Іванавіч Мажэйка з нейкай паперкай, што яна чула, быццам Мажэйка збіраецца скардзіцца на Льва Раманавіча. Напэўна, паперка тая і была скаргай, бо Алег Пятровіч, праводзячы Івана Іванавіча, абяцаў таму разабрацца.

Алег Пятровіч хадзіў па кабінеце, заклаўшы за спіну рукі.

— Сядайце, — папрасіў ён Льва Раманавіча, а калі той сеў, пачаў пільна паглядаць на яго, відаць, спрабуючы адгадаць, ці ведае ён, чаго прышоў сюды. Леў Раманавіч адвёў вочы. Тады Алег Пятровіч выняў з шуфляды акуратна складзены лісток, паклаў на стол перад Алексічам.

Гэта сапраўды была скарга Мажэйкі. Вельмі карэктна Іван Іванавіч пісаў пра немагчымую абстаноўку ў інстытуце, якую стварыў кандыдат навук Алексіч, пра яго ўчарашняе абразлівае выступленне і ў канцы ў цьмянай форме выказваў просьбу строга пакараць Алексіча за знявагу Мажэйкі і, наогул, усёй савецкай сельскагаспадарчай навукі.

Леў Раманавіч кінуў на стол заяву, ускочыў з крэсла з паспешлівасцю абражанага хлапчука.

— Карайце. Не варта нават было адрываць ад работы, — разззлавана сказаў ён.

У Алега Пятровіча ўсмешка ледзь кранула вусны.

— А вы і сапраўды гарачы чалавек.

— Тут і святога выведуць з раўнавагі, — адказаў Леў Раманавіч, але сеў. — Мне і так горка, а тут яшчэ ваша заява.

— Не мая, а Мажэйкава.

— Усё роўна.

— Па-вашаму, я не павінен быў нават прымаць яе?

— Я хачу толькі аднаго — працаваць, — узрушана загаварыў Алексіч, — і працаваць над такімі праблемамі, якія прыносілі б карысць.

— Працуйце. Хіба вам перашкаджаюць?..

На хвіліну Алексіч сумеўся. Яму ніхто не перашкаджае. Але яго працы пакуль носяць чыста тэарэтычны характар. Іх хваляць, называюць патрэбнымі, цікавымі, важнымі, але не адважваюцца рэкамендаваць калгасам.

— Перашкоды бываюць розныя, — растлумачыў ён: — Актыўныя, калі чалавеку не даюць працаваць, і пасіўныя, калі ўмовы для тэарэтычнай работы створаны, праца закончана, а карысць ад яе атрымліваюць пацукі, якія сякуць паперу, каб зрабіць цёплае гняздзечка.

— Сказана вобразна, але патрабуецца такое-сякое ўдакладненне. Якую вы адчуваеце перашкоду? Пасіўную?

— Думаю, так.

— Тады, выходзіць, вы актыўна перашкаджаеце Мажэйку.

Леў Раманавіч хацеў сказаць, што ён не перашкаджае, а толькі лічыць, што праблемы, над якімі працуе Мажэйка, нязначныя і яны не рухаюць навуку наперад, а толькі тармозяць яе развіццё. Але замест гэтага ён адказаў зусім інакш.

— Магчыма, я памыляюся. Кожнаму бацьку сваё дзіця здаецца самым лепшым і самым прыгожым, а кожнаму вучонаму — яго праца.

Таму мне цяжка меркаваць пра свае даследаванні да таго часу, пакуль іх не прыменяць на практыцы, але я ўпэўнены: Мажэйка робіць зусім не тое, што трэба рабіць. І калі хочаце ведаць, яго так званыя адкрыцці адцягваюць увагу ад вырашэння надзённых пытанняў.

— Яны і з'яўляюцца той пасіўнай перашкодай, якая стаіць на шляху вашых праблем?

Леў Раманавіч адказаў: «Так». Абодва пасля гэтага доўга маўчалі: Алег Пятровіч падышоў да акна, памацаў зямлю ў вазоне, потым наліў паўшклянкі вады, паліў кветкі, адарваў пажаўцелы лісток і выкінуў яго за акно.

— А апрацоўка саломы хімічным спосабам, па-вашаму, таксама не вартая справа? — запытаўся ён.

Не задумваючыся, Алексіч адказаў:

— Безумоўна.

— І вам не здаецца, што вы памыляецеся? Мы маем добрыя водгукі — раз, па-другое, навуковыя даныя гавораць за тое, што салома, апрацаваная хімічным спосабам, з'яўляецца нядрэнным кормам, асабліва ў тых умовах, калі ў калгасе не хапае сена і сакавітых кармоў, канцэнтратаў. Вы, мусіць, закрываеце вочы на гэтую акалічнасць.

Гэта была спрэчка, якую ўжо не раз у думках, на паперы і нават на пасяджэннях вёў Леў Раманавіч. Таму ён адразу ж перайшоў у наступ.

— Закрываю вочы не я, а вы. Нават не вы, а Мажэйка. Вы толькі паўтараеце яго словы. Я гэта ўжо чуў. Мажэйка кажа: у нас не хапае кармоў. А ў каго іх не хапае? У дрэннага старшыні калгаса, які не ўмее весці гаспадарку. Вось арыенцір Мажэйкі. Нейкі старшыня калгаса не здолеў стварыць кармавых фондаў. Зімой пачынаецца бяскорміца, і вось Мажэйка спяшаецца на выручку гэтаму недарэку. Не хвалюйся, маўляў, салома таксама нядрэнны корм. Варта прымяніць хімію, і ўсё будзе добра. Не хопіць саломы, можна гэтак жа насекчы гучкоў, і яны добры корм. А малако ад гэтага корму будзе? Не, не, вы не перашкаджайце... Я давяду думку. А гэты самы старшыня разумее ўсё па-свойму. Ён тую хімію па баку. Нарэжа сечкі, добра калі запарыць, а то і так: еш, карова, папраўляйся, навука кажа, што гэта не горш за сена. А я кажу — гэта здзек. Па-другое, можа вы ведаеце, Алег Пятровіч, што колькасць гною ў некаторых калгасах скарацілася да мінімуму. Яго ледзь хапае пад бульбу. Вы скажаце, ёсць торф. Але торф — багацце, якое не расце. Ён і на паліва нам патрэбны. Лясоў жа становіцца меней. А салома кожны год расце. А калі б мы добра ўгнойвалі палі, дык яе было б удвая больш. Гэта з аднаго боку. А з другога боку, наша прырода такая багатая, што не скарыстоўваць яе — злачынства. Няхай мяне называюць фантазёрам, але я веру, што кожны калгас можа ўсе неўрадлівыя лугі, балоты, залежы, усю непрыгодзіцу засеяць культурнымі травамі — лубінам, цімафееўкай, люцэрнай, канюшынай, райграсам. Дадайце сюды кукурузу, бульбу. Гэта ж багацце! І тады не дваццаць кароў на сто гектараў можна будзе трымаць у калгасе, а пяцьдзесят і не абы-якіх кароў, а тых, што цяпер называюць рэкардысткамі.

Алег Пятровіч усміхаўся аднымі вуснамі. І калі Леў Раманавіч змоўк на хвіліну, пажартаваў:

— Калі б не вашы сівыя валасы, я падумаў бы, што размаўляю з вельмі маладым і надта гарачым юнаком. Не крыўдуйце, я думаю, што гэта нават добра. Прадаўжайце, калі ласка.

— У мяне амаль усё. Можна дадаць вось што. Мы цяпер маем такія лугі, на якіх нельга выкарыстаць вялікую тэхніку: кусты, купіны, ямы, каменне, — чаго толькі не сустрэнеш на нашых лугах. А калі б усе іх апрацаваць, засеяць канюшынай, цімафееўкай... Вы не ўяўляеце нават, наколькі лягчэй было б праводзіць касавіцу.

— Дарага гэта будзе каштаваць.

— І нічога не дарага. Затое кожны калгас зможа атрымаць чыстага прыбытку тры, чатыры мільёны.

Алег Пятровіч крыху недаверліва паглядзеў на Алексіча. Той перахапіў яго позірк і ўжо больш спакойна сказаў:

— А што два мільёны, згодзен прысягнуць...

Наўкось у акно заглянула сонца, па-летняму яркае. З панадворку патыхала сухой, спёклівай гарачынёй. Удалечыні, там, дзе канчаўся горад і пачыналіся зялёныя палеткі, бруіла паветра. На самым даляглядзе сінеў вузкай стужкай лес. На хвіліну павеяў лагодны, з водарам кветак ветрык, і абодвум здалося, што ён прыляцеў з-пад зялёных лапін хвой.

— Адкуль вы родам? — запытаўся Алег Пятровіч.

— З Віцебшчыны.

— Вядома, з вёскі?

— Ёсць такая невялікая вёска Закружжа. Вось там некалі і давялося ўпершыню ўгледзець свет.

— Прыгожыя мясціны?

— Ва ўсякім выпадку, дарагія мне па ўспамінах дзіцячых год.

— Даўно там былі?

— Прызнацца, даўно. Неяк пасля вайны.

— Радні там не засталося?

— Ёсць сястра, — Леў Раманавіч раптам адчуў сябе вельмі няёмка. Як магло здарыцца, што за дзесяць гадоў ён не знайшоў часу пабываць у сястры? Прыехаў на першым часе, па гарачых слядах вайны, калі ў вёсцы яшчэ нікога не было. А пасля таго перапісваўся з сястрой, высылаў ёй грошы, так і не выбраўшы часу з'ездзіць. Апраўдваючыся больш перад сабой, чым перад Алегам Пятровічам, ён сказаў: — Закруціла мяне неяк. Вучыўся, пісаў дысертацыю, часу не было.

Думаў, што Алег Пятровіч папікне яго. Але той загаварыў пра другое:

— Перад вашым прыходам я гутарыў з дырэктарам інстытута. Цікавіўся вашымі прапановамі. Тая пасіўная перашкода, пра якую вы гаварылі, існуе толькі ў вашым уяўленні. Вы задумалі грандыёзную справу: шырокі франтальны наступ. А вам павінна быць вядома, што такі наступ без вялікай падрыхтоўкі пачынаць нельга. У нас няма насення траў.

— Але ж яго ніколі не будзе, калі мы скіроўваем увагу на салому, — уставіў Леў Раманавіч.

— Ну, вось зноў салома. Чаму яна вас так непакоіць?!.— Алег Пятровіч паморшчыўся, быццам раскусіў гарчычнае зерне. — Каб вырашыць праблему такога грандыёзнага паляпшэння паплавоў, акрамя насення патрэбен яшчэ энтузіязм людзей. І вось тут, мне здаецца, вы не ўсё да канца прадумалі. У добрых калгасах хапае і сена, і сіласу,

а няхватка кармоў якраз у адстаючых калгасах. А ў такіх калгасах, як правіла, дрэнная дысцыпліна, няўпраўка з іншымі работамі. Пачнеце вы гаварыць там, што трэба сеяць канюшыну, люцэрну, а яны вам у адказ, што мы ледзь упраўляемся са жнівом, што бульбу капаем да позняй восені.

— Тут ужо не наша справа. Для гэтага ёсць адпаведныя органы, няхай яны наладжваюць дысцыпліну.

— Так, так, пісьменнік піша — чытач чытае, вучоны вынаходзіць, а галаву — няхай дзядзька ломіць. А ці не здаецца вам, што вось гэтыя сцены занадта цесныя для савецкага вучонага?

— Значыць, замкнутае кола?

— Чаму? У мяне былі такія-сякія думкі, але цяпер я нават не ведаю, ці варта гаварыць пра іх.

— Алег Пятровіч хітравата паглядаў на Алексіча.

— Лепей сказаць усё адразу.

— Вы не ведаеце, які калгас у вашай вёсцы?

— Здаецца, сярэдні і нават ніжэй за сярэдні.

— Цікава.

Толькі цяпер Леў Раманавіч зразумеў сэнс сённяшняй размовы. Кальнула здрадлівая, прыкрая думка: «Хочуць пазбавіцца ад мяне». Але тут жа ён адагнаў яе. Калі ён паглядзеў на Алега Пятровіча, дык убачыў, што той зразумеў яго думкі.

— Канешне, я не настойваю, каб вы ехалі ў калгас, на месцы даказвалі магчымасць карэннага палепшання лугоў, выпасаў і ўсёй зямлі, якая завецца няўдобіцай. І потым гэта мая думка — асабістая. Самі разумееце, калі вы захочаце ехаць, дык трэба камандзіроўку ўзгадніць, абдумаць і наогул за гэтую справу брацца вельмі сур'ёзна.

Леў Раманавіч зразумеў, што гутарка закончана. Падняўся, патупаў на месцы, нібы хочучы сказаць нешта важнае, і, не ўспомніўшы, развітаўся. Толькі ў сваім кабінеце ўспомніў, што так і не пацікавіўся, калі будзе разгляд Мажэйкавай скаргі.

## II

У Закружжы рыхтаваліся да сенакосу. Даўней, калі падзвінскія паплавы не таптаў яшчэ ботам чужынец, пачатак сенакосу быў сапраўдным святам. Звычайна пад вечар брыгадзіры разам з барадатымі дзядамі абходзілі паплавы. Ішлі па ўзмежках, нягнуткімі, каструбатымі пальцамі зрывалі кволыя кветкі, расціралі іх на шурпатых ад мазалёў далонях.

— Гарошак гатовы.

— Канюшынка таксама.

— Пачакаць якіх дні два можна.

— Букавіца, бач, пастарэе.

— Ды з яе і наедак такі...

— Па званцу дык запозна хапіліся...

Дзяды размаўлялі ціха, не перабіваючы адзін другога. Кожны заставаўся пры сваёй думцы, але ўсё ж дамаўляліся аб тым дні, калі засвішча ў роснай раніцы каса, застракочуць касілкі.

Увечары мужчыны даставалі з падстрэшша косы, кляпалі іх, ладзілі муліцы. На ноч касу клалі ў халодную ваду, каб вастрэй рэзала



густыя травы. Потым збіраліся на бярвеннях ці проста на мурагу ля канавы. Дыміліся самакруткі, ляніва вяліся размовы.

— На маёй памяці на Дабрынях трава па пояс была. Помню, хлопцам яшчэ хадзіў, з бацькам нябожчыкам лучкі ля Пітамкі нам дасталіся. Стаў гэта, значыцца, я, узмахнуў касой, а да канца давесці не магу — угразла...

— То дзед, відаць, перад тым шмат танцаваў, калі сілы не было.

— Я табе пашкілюю...

— Смех смехам, а паплавы марнеюць.

— А што, раней не выгарала вось так, як і сёлета?

— Выгараць, вядома, выгарала.

— Перад японскай вайной дашчэнту ўсё высмаліла.

— Перад японскай не помню, а пасля ўжо рэвалюцыі адзін год запомніўся: два вазы з паплавоў прывезлі.

— Ну, то і паплавоў у цябе было: з лапаць, не болей.

— Та-ак, марнеюць паплавы...

— І не марнеюць, самі вы, дзяды, марнееце...

Моладзь горача адстойвала паплавы. Разыходзіліся са спрэчкамі. Клаліся спаць і снілі свае паплавы, Пітамку, Сільніцу, Віцьбу і маці іх — крутабярэжную Дзвіну, высокую траву і блакітнае неба над галавой. Прачыналіся да сонца, разам з раннім шчабятаннем ластаўкі. Світальны халадок падбадзёрваў і, здавалася, напаўняў цела крамяней, маладой сілай. Гулкі пераразвон малаткоў весяліў душу чалавека. І які злыдзень мог спаць у такую пару! Хто мог уседзець дома ад такой музыкі!

Ва ўсе даваенныя гады першы пракос пракладаў дзед Ахрэм. Пакуль касцы цеснай купкай стаялі на беразе Пітамкі, ішоў дзед па поплаву. Мажны і высокі, як дуб, сівы, як выбелены лён, ён лёгка махаў касой, пракладаў у высокай траве роўную, гладкую сцяжынку — пракос. Назад да рэчкі дзед ішоў маладой важыстай хадою. Не дайшоўшы крокі са тры, ён спыняўся, нізка ў пояс кланяўся мужчынам.

— З пачаткам касавіцы вас, людзі!

Мужчыны адказвалі:

— І цябе, дзеду, таксама.

— Дзякую. Не за хлебам і соллю, не дзеля сябе за спажывай, а худобе бесславеснай і бездапаможнай прыйшлі мы нагатаваць корму. Пастараемся, людзі.

— Пастараемся, дзеду.

— Дзякую. Шчыра дорыць лета ўсякую істоту жывую. Не памрэ яна летам, але зімою падсцерагае яе холад і голад. Не пакідайце ніводнага каліва. Цяпер яно граша не каштуе, а зімой — золатам абернецца.

— Будзем чыста касіць, дзеду.

— Дзякую, людзі.

Дзед браў у рукі шматок вахкаватай мокрай травы, падносіў яго да твару, зарываўся ў яго вялікім наздраватым носам.

— Хораша пахне. Ну, хто сёлета першы?

Весела перагукваючыся, падганяючы адзін другога, касцы ўлад махалі косамі.

Жык — ужжык — жык!

Жык — ужжык — жык!

Сталёвымі галасамі спяваў поплаў. Над рэчкай крычалі кнігаўкі.

Абуджаныя косамі, праносіліся над поплавам чародкі шпакоў. За рэчкай на ялінах сядзелі нецярплівыя вароны — найвялікшыя аматары да пчаліных сотаў. Жыкалі, пасвіствалі косы, ахкалі, гукалі касцы, рыпелі муліцы — спяваў поплаў.

Закончыўшы пракос, па аднаму вярталіся да рэчкі мужчыны, падыходзілі да старшыні, жартавалі:

— Млосна нешта, хоць бы расы ў чарку сабраў ды нам падаў.

— Раса сёлета адменная, на травах настоеная. Ад такой расы смагі не будзе.

Старшыня наліваў кожнаму па чарцы, падаваў, усміхаючыся на касецкія жарты.

— Смачная вадзіца — ведаць бы, дзе тая крыніца...

— Не абдзялі сябе, старшыня...

— Хлопцы, далібог, летась чарка большая была...

— Налівай другую, чаго там нутро дражніць.

— За мяне хай вып'е.

— Ото, моладзь пайшла, хутка і ваду піць перастане.

— Хто-небудзь з жанчын падаваў касцу лусту хлеба, пасыпаную соллю, ладны скрыдлік сала, невялікі кружок цыбулі.

— Пастарайцеся, мужчынкі, каб і жывёле сена хапіла і нам на сеннікі засталося. Спаць мулка, леташняе сена на пыл перацёрлася.

Мужчыны выпівалі і закусвалі стоячы, бо які ты касец, калі табе абавязкова трэба прысесці...

І зноў з перасвістам жыкалі косы. Неўзабаве да іх суладнага хору далучалася стракатанне касілак. Шыбавалі паркі адкормленых коней, паўзла па зямлі зубастая чорная стужка, пакідаючы за сабой упалую ніцма траву. Пазней прыходзілі на лугі дзеўкі і маладухі, разбівалі сена ў пракосах. Ішлі, шматаючы грабільнамі падвялую траву, раз-по-раз нагіналіся, выбіралі з пракосу кветку за кветкай, каб аддаць той букет бацьку, брату, каханаму ці проста адзінокаму касцу. Вісеў букет у хаце да самай зімы, а калі ацельвалася карова, аддавалі ёй: лічылася некалі, што тлустым будзе малако ўвесь год.





Так было да вайны.

У часе навалы і пасля вызвалення нешта гады чатыры ці пяць узапар выходзілі на паплавы адны жанчыны. Не хапала ў іх часу на тое, каб прытрымлівацца старой завядзёнкі. Беглі па адной на поплаў, касілі ўразброд, каму дзе спадручней. Дамоў вярталіся не з букетам, а з ношкай сена для сваёй каровы. З вайны мінула многа гадоў, але ўсё яшчэ не пакідалі жанчыны кос, неяк уцягнуліся ў цяжкую мужчынскую работу. Ды і мужчын не хапала.

Даміра верхам на кані аб'ездзіў усе сенакосы. Быў ён злосны, як чорт. Раней усё абыходзілася гладка, выкручваўся не з такіх абставін. Цяпер, здавалася, усе згаварыліся супраць яго.

Не хапала касцоў, а, як на тое ліха, тры старыя даваенныя касілкі стаялі ля кузні няспраўнымі. Пятроўскі старшыня абяцаў запасныя часткі, але як толькі выпіў гарэлку, дык адразу накрыўся хвастом. Можна ўзяць касілкі ў МТС, але тады трэба было б прызнацца ў райкоме, што адасланая яшчэ вясной зводка хлуслівая. Цвяроза думаючы над усімі нягодамі, ён разумеў — сам вінаваты, злавацца няма на каго. І ўсё ж ён злаваўся, раз-по-раз сцёбаў даўганогага рыжага каня.

Па-казацку схіліўшыся да лукі, Даміра на поўным галопе праскочыў цэнтральную вуліцу, збочыў у завулак, дзе стаяла яго немудрагелістая хаціна. І адразу ж яго секанўў прарэзлівы плач. У Даміры здрыганулася, перакасілася брыво, чорны змрок ахутаў вочы. Скрыгануўшы зубамі, ён перасіліў сябе, саскочыў з каня. Хісткай, таропкай хадою пайшоў у хату. Ірвануў дзверы. Ля ложка, распластаўшыся, ляжала жонка, страшэнна белая, з чорнымі кругамі пад вачыма. На каленях ля яе звівалася, млела ў плачы сямігадовая дачка Волечка. Потым ён



заўважыў сына — трохгадовага Колю з пацёкамі слёз на шчоках. Можа ён яго і не заўважыў бы, але хлопчык, убачыўшы бацьку, загаласіў так моцна, што заглушыў і плач сястры, і натужлівае хрыпенне маці. Ён кінуўся да сына, ухапіў яго на рукі, і той адразу сціх. Але тады хату запоўніў цяжкі з прысвістам хрып. Даміра пасадзіў сына на ложак, і той зноў залемантаваў на ўсю моц. Але бацька ўжо не зважаў на яго. Ён адштурхнуў дачку, паклаў на жончын лоб сваю вялікую натруджаную далонь. Лоб быў халодны і мокры. Тады Даміра гэтак жа, як і дачка, пачаў спачатку злёгку, потым усё мацней трэсці жанчыну.

— Анютка, што з табой, Анютка? Табе дрэнна?.. Можа, ты чаго хочаш?..

Ён прыўзняў яе на руках: галава матлянулася і звісла. Адразу спынілася натужнае хрыпенне. Даміры здалося, што яна памёрла, і ён, спалоханы і разгублены, паклаў яе зноў на падлогу. Жанчына зноў пачала дыхаць, цяжка сапучы.

«Чаго ж я стаю! — падумаў ён. Але як толькі падняўся, каб бегчы па доктара, Волечка залемантавала, учапілася ў крысо пінжака, не даючы зрабіць ні кроку.

— Я зараз, дурненькая...

— Не хадзі, тата.

З ложка споўз Коля і таксама абхапіў яго за нагу. Разгублены, Даміра ледзьве дацягнуўся да лаўкі, дзе стаяла вядро. Зачэрпнуўшы конаўку вады, ён змачыў уціральнік, паклаў яго жонцы на твар.

«Верхам туды пяць хвілін, — думаў ён, — а як жа назад? Аддам каня дактарыцы, няхай едзе. Не захоча, узганю на каня сілком. Вось толькі б дзяцей угаварыць».

— Ці ёсць хто дома? — даляцеў з вуліцы жаночы голас. Даміра не дужа разумеў, чый.

— Сюды, хутчэй!.. — крыкнуў ён і сам не пазнаў свайго голасу.

— Конь усе грады вытаптаў.

«Чорт яго бяры», — падумаў Даміра.

У хату, не спяшаючыся, увайшла Ніна Шумейка, спалоханая, спынілася ля парога.

— А што з ёю? — ледзь чутна прашаптала яна.

— Ды вось жа...

— Чаму ж вы стаіцё? Хутчэй доктара трэба.

— Дзеці ж...

— Бяжыце хутчэй. Які ж вы!

Даміра выскачыў з хаты. Мільганула за акном яго квадратная постаць, потым пачуўся дробны перастук капытоў. Ніна не разумела, што ёй рабіць? Дзеці, прытуліўшыся адно да другога, плакалі. Ніна пакратала бялявыя валасы Волечкі, выцерла слёзы Колю, потым падышла да Анюты. Тая ляжала нерухомая, у яе на шчоках разгараўся румянец. Ніна нагнулася над жанчынай і мабыць толькі цяпер заўважыла, што яна ляжыць на падлозе. Падумала, што варта было б падняць яе на ложак. Спадзявалася адчуць цяжкасць, але Дамірыха была лёгкая, як пушынка. Ніна паклала яе на пасцель, паправіла пад галавой падушкі. Раптам Анюта варухнула вуснамі. Ніна паднесла конаўку да вуснаў — вада палілася па шыі, знобкая дрыготка скаланула цела. Жанчына расплюшчыла вочы, доўга глядзела на Ніну.

— Ты, Ніначка? — нарэшце пазнала яна.



— Можа хочаце піць?

— Дай кропельку. У посуду мікстура стаіць, налі мне лыжачку... Ну, вось і лягчэй.

Тым часам пад'ехала ўрач, няўмела спаўзла з сядла. Ніна выбегла, прывязала каня да плоту. Падбег потны і змораны Даміра.

— Ну, як яна?

— Лепш.

— А я думаў, канец.

— Ачуняе.

— Не, ужо вядомая справа. З'ела хвароба дашчэнту.

Ніна думала, што Даміра пойдзе ў хату. Але ён раптам сеў на калоду, абхапіў галаву рукамі. Толькі цяпер Ніна заўважыла, што валасы ў яго сівыя і рэдкія, як выбітая градам збажына. Нешта блізкае і дарагое адчула Ніна ў Даміравым жыцці.

— Ідзіце ў хату, — папрасіла яна Даміру.

— Адхалану трохі. Перапалохаўся вельмі. Столькі на мяне напасцяў сыплецца ў сёлетнім годзе, слану не вытрымаць. А я вось жыву яшчэ. Іншы раз думаеш: кінь ты, Тарас, усё, пажыві спакойна. Не магу. Прывык кіпець. Пашлі мяне на год у санаторыю — памру. Калі чыгун распаліць, а потым у халодную ваду кінуць — трэсне. Так і я... Анюты шкада. Залатой душы чалавек. Бывала, разважыць, параіць — любую бяду адгоніць. Можа цяпер і навалiліся на мяне напасці, што яна хворая. Я ўжо дома ні пра што і не кажу. Аднаго разу сказаў, што мне вымову далі, — самлела.

Ён устаў, нейкі адразу пастарэўшы. Абое зайшлі ў хату. У густой духаце пахла спіртам, эфірам, камфарой. Урач выцірала бінтам шпрыц.

— Папраўцеся, нічога страшнага няма. Я выпішу лякарства. Больш на паветры бывайце, — гаварыла яна, складаючы інструмент. Даміра бачыў, што ўрач адводзіць вочы.

— Можа каня запрэгчы? — запытаўся ён.

— Дзякую, дайду. Упершыню за сорак гадоў верхам ехала.

Даміра пайшоў яе правесці. Ніна стаяла ля акна, думала: «Няўжо Анюта памрэ? Як жа дзеці?» — і ёй зноў хацелася прытуліць іх да сябе.

— Ніна, — паклікала хворая. — Скажы мне, што з Дамірам, знялі?

— Не, што вы.

— Здымуць. Глядзі, што пішуць.

Ніна выхапіла газету. У вочы кінуўся чорны, тлусты загаловак: «Слова за пракурорам». Знаёмыя прозвішчы здаваліся чужымі і ўсё, што пісалася ў артыкуле, нейкім далёкім, неадчувальным. Потым яна пачала чытаць тое, што было ўзята ў двукоссе. Хтосьці расказваў, што Даміра пазычаў у яго грошы, каб можна было частаваць членаў камісіі. Той жа самы выкрываў Даміру, як заўзятага хлуса, ашуканца і зацятага зажымшчыка крытыкі. Ніна зноў пачала перачытваць. Толькі цяпер яна зразумела, што ўсё гэта гаварыла і рабіла заатэхнік Алексіч.

— Здымуць жа яго, — прастагнала хворая. — Няўжо ўсё праўда?..

— Ды не, цётачка, хлусяць...

— Не, не хлусяць...

— Канешне, ёсць праўда. Але нікога ён не спойваў.

— Гэта я ведаю... Канькоў перад ад'ездам заходзіў. Цвярозы быў.

Увайшоў Даміра. Ніна схавала газету, але ён заўважыў. Узяўшы, доўга чытаў. Над пераноссем збіраліся крутыя складкі.

— Гадаўка... — выдыхнуў ён.
— Тарас, не трэба. Паслухай мяне...
— Я яе са свету зжыву, паскуду такую!..
— Тарас, ці пазычаў ты грошы?
— Ну, пазычаў...
— Чаму ж ты ў мяне не запытаўся? Сядай тут. Не бойся, я вытрымаю. Расказвай.
Ніна адчула, што яна тут лішняя, і выйшла.
Пасля размовы з жонкай у Даміры памякчэла душа. Чорная навала няўдач здалася не такой ужо страшнай: варта толькі пайсці і ўсё расказаць Сяльчонку, пакаяцца. І адразу забурліла, закіпела Дамірава няўрымслівая натура. Ён гатовы быў варочаць горы.
Спачатку ён аб'ехаў брыгадзіраў, загадаў ім паклікаць мужчын на выган за вёскай, дзе ад вясны ладзілі хлопцы маёўкі. Наказаў не забыць і дзядоў. Наважыў Даміра адрадзіць старую завядзёнку. Нават уяўляў, як пахваляць яго ў раёне. Потым у клубе ён знайшоў Еву Пляскач і Лёньку Зайчыка.
— Засядаеце ўсё? Эх вы, бедакі-дзівакі! Вунь дзяды без пасяджэнняў на ўвесь калгас шум паднялі. А вы языком толькі менціце. Мы ды мы... Ліпанава нядаўна пытаецца: «Як там мае выхаванцы гадуюцца?» Я ёй адказваю: «Што ім абыходзіць: многа спяць, мала робяць. Мне такое б жыццё — да ста гадоў польку танцаваў бы». «Яны, — кажа, — табе сенакос правядуць, брыгад наробяць». А мне смех адзін. Пабіліся аб заклад. Цяпер бачу, што выйграю.
Лёнька, вядома, Даміру не паверыў. Да таго недарэчнай была гэтая гульня ў заклад: стане Ліпанава спрачацца з Дамірам.
Лёнька толькі ўсміхнуўся Дамíравай выдумцы.
— Мы ўжо даўно вырашылі брыгады стварыць. З Евай вось пра гэта і гаварылі.
Цяпер здзівіліся Даміра і Ева. Даміра не чакаў такога павароту, а Ева не разумела, навошта хлусіць Лёнька.
— То добра. Але ж гэта толькі размовы.
— Калі пачынаем касьбу?
— Паслязаўтра.
— Чалавек дваццаць выведзем. — паабяцаў Лёнька.
Калі Даміра пайшоў, Ева накінулася на Лёньку:
— Навошта хлусіў?.. Даміра цяпер у раён зводку дасць, ды яшчэ прыбавіць удвая. А Ліпанава потым сварыцца будзе.
Лёнька чухаў рыжы чуб.
— А брыгады-такі стварыць трэба. Людзей мы на фермы паслалі? Паслалі. Абавязацельствы яны ўзялі? Узялі. А як іх без кармоў выканаеш? Правал форменны, на сто працэнтаў. А ты ведаеш, што гэта такое? Удар па нашай рабоце. Мы самі сабе памагаць павінны. Адзін на ферму пайшоў, а другі пра яго клапоціцца — кармы нарыхтоўвае. Гэта вось і называецца калектывізмам.
— Ты мяне вельмі мудрагелістымі прамовамі не дацінай. Лепш скажы, як мы брыгады арганізуем?
— То іншая справа. Думаю, так: мабілізацыю правесці. Лагерам жыць будзем. Ніхто нікуды — пакуль сенакос не закончым.
Тым часам Даміра купіў дзве чвэрці гарэлкі, патраціўшы на іх рэшту Верынай пазыкі. (Дзе, маўляў, нашае не прападала!) Гарэлку ён занёс да Аксінні Пляскач.



Надвячоркам, калі гарачае сонца павісла над лесам, за вёскай сабраліся мужчыны: каго прывяла цікаўнасць, каго — прага да дармавога пачастунку. Дзяды сядзелі на лаўках, успаміналі даўнішнія гады, хвалілі Даміру, што не цураецца старых звычаяў. Мужчыны курылі і таксама ўспаміналі, але пра часы больш познія. Хваліліся, дзе каму давялося пабыць за вайну. Даўно не збіраліся гэтак разам. З вёскі стракатым гуртам высыпалі жанчыны, чалавек дзесяць, усе ўдовы.
— Прымайце ў кампанію, мужчынкі, адным вам сумнавата будзе.
— Мужчына цяпер пайшоў, што манах — баб баіцца, як чорт свечкі...
— А цю іх!.. Манахі вунь якія ласыя на жанок.
— Прохар, ці забыўся, як некалі з вечарынкі праводзіў?..
Мужчыны сустрэлі жанок жартамі. Гулліва абдымалі іх. На нейкі час усё перамяшалася: квяцістыя хусцінкі, ваенныя шапкі, замасленыя кепкі, стракатыя кофты, пацёртыя пінжакі, вылінялыя гімнасцёркі. Потым аднекуль наявіўся Даміра, гукнуў на ўсю моц:
— Таварышы! Цішэй, таварышы!..
Рознагалосы гул замёр. Даміра ўзлез на лаўку, стаў над натоўпам, па-маладому зыркаючы вачыма. Забыўшыся на ўсё, паправіў на плячы ўяўныя партупеі.
— Вы, таварышы, мяне ведаеце. Разам мы пачыналі з вамі пасля вайны разбітае праклятым ворагам наша жыццё. Ці не да цябе першага, дзядзька Сілявей, зайшоў я, калі з лесу вярнуўся. Помніш, што ты сказаў мне тады: на жывой касці мяса нарастае.
— Сказаў, — пацвердзіў Сілявей.
— Тады ты ў зямлянцы жыў, цяпер вось хата-пяцісценка. Ці так я гавару?
— Праўда.
— Канчай ужо. Няхай Аксіння гарэлкі нальe: у горле суха.
— Дайце паслухаць, нячысцікі...
— Адбудаваліся, дзякуй богу. А чаму? Бо ў нас не так, як у заморскай Амерыцы. Там кожны за сябе...
— Адзін бог за ўсіх, — выгукнуў нехта з натоўпу і зарагатаў.
Прамова Даміры рэзка крутанула ўбок:
— І пра бога скажу. Там, у Амерыцы, ён можа катораму Форду памагае. Багатаму чорт дзяцей калыша. А нам ён прама вось як перашкаджае. Ну, вось ты, дзед Гаўрыла, праз два дні на трэці ў Кармаліты пнешся. Заморышся, суткі потым ног пацягнуць не можаш. Раней ты, як хаты не было, радзей у царкву наведваўся. Цяпер зачасціў.
— Хворы я чалавек...
— Таксама работу знойдзем. Косы, напрыклад, кляпаць будзеш. Моладзь вунь уся на паплавы выходзіць. Многія і малатка яшчэ ў руцэ не трымалі... Гаворка мая кароткай будзе, часу ў нас няма на балбатню. Мы засядаць не прывыклі. Ад мяне і ад праўлення загад такі і просьба, значыцца, цвёрдая: паслязаўтра на касавіцу як аднаму высці. Загадзя віншую вас з прыпарам. Ну, і прашу выпіць. А хто не выйдзе — у таго няхай і думкі не будзе пра сена. Няхай і кароўку сваю хоць гучкамі ўсю зіму корміць. Дзе там Аксіння, давай гарэлку!.. Частуйцеся, таварышы, і адразу ў брыгадзіраў запісвайцеся, хто ў чыё звяно пойдзе.
Прыблізна ў гэты ж час ля кашары сабралася моладзь. Тут меліся адбыцца адразу дзве нарады. Першую наважыла правесці Вера Алексіч

з даяркамі, другую па пытанню сенакосу — Ева і Лёнька. Пакуль ішлі зборы, Ева ўгаварыла гарманіста павесяліць моладзь. Той прызвычаеным рухам ссунуў кепку на вуха, паволі расцягнуў гармонік, потым неяк адным рухам сціснуў яго і зноў расцягнуў на ўсю шырыню. Мелодыя полькі ўзвіхурыла хлопцаў і дзяўчат, выштурхнула іх з гурту на круг.

Танец змяняўся танцам. Трэба было пачынаць сход, але Вера ўсё не прыходзіла. Без яе ж Ева адчыняць сход не хацела. Заатэхнік павінна была выступаць з прамовай.

Танцаваць нарэшце надакучыла. Час быў позні. Сонца вісела над самым небакраем. Чырванаватыя промні яго вымалёўвалі на зямлі густыя цені прысад і будынкаў. Халадок блізкай ночы данёс кволае мычанне кароў — пастухі гналі скаціну з пашы. Хлопцы і дзяўчаты, якія не працавалі на ферме, маглі б танцаваць да паўночы. Але даяркі пачыналі бурчэць. Дзяўчаты раз-по-разу нецярпліва паглядалі на дарогу, што пралягла між маладога сасняку, — чакалі, ці не паявіцца заатэхнік. Нецярплівасць падагравала Ніна Шумейка.

— Сямёра аднаго не чакаюць. Пані знайшлася... — злосна гаварыла яна. — Вось кіну ды пайду...

— Ну і ідзі. Потым абмяркуем на сходзе, — прыгразіла Ева.

Ніна кусала вусны, але не ішла.

— Начальства развялося, як макрыц у склепе, а толку ніякага. Хай бы боты купілі, — зноў бурчэла яна.

— Купяць, глядзі...

— Можа лодачкі захацела? — зыркала вачанятамі Ева.

— Лодачкі ўжо няхай табе даюць.

Ева збялела ад злосці, але адказала спакойна:

— Сама ж пайшла...

— Думала, вельмі вялікую справу раблю, аж у нас так: кось-кось, пакуль аброць не надзенуць.

Зіна Асташка доўга маўчала, толькі ўздрыгвалі яе пульхныя вусны. Нарэшце, яна не вытрымала.

— Ты ж не такая, я ведаю. А вось жа спрачаешся...

— Няхай не лезе, — не здавалася Шумейка. Яна расчырванелася. Яе кароткія бровы былі насуплены. У вачах сапраўды не было злосці, у іх свяцілася нейкая вінаватасць.

Здавалася, спрэчцы прышоў канец, але Ева не хацела заставацца ў даўгу:

— У цябе, Шумейка, свядомасці, як у перадойкі малака. Архаічны ты чалавек... Былі некалі такія архаісты, пад чорным сцягам ваявалі. Шкада, што ты позна нарадзілася, а то яны цябе за мілую душу да сябе прынялі б.

— Ну, а ты хто, ты хто? — затрэслася ад абурэння Шумейка.

— Чаго вы ўсхадзіліся? — умяшалася Ліда Раковіч. Дасюль яна маўчала, толькі зрэдку ўсміхалася.

— Дык жа ты чуеш, хто я такая?

— А ты не звяртай увагі.

Да моладзі падышоў Раман Дзяжэвіч, адразу спыніўшы далейшыя пярэбары.

— Дык, значыцца, сядзім? — натапырыў ён пракураныя вусы. — А каровак даіць Чэрчыль ці, можа, яшчэ які лорд будзе?



Лёнька вымушаны быў адкрываць сход. Доўга не гаварылі. Склалі брыгады, прызначылі брыгадзіраў, дамовіліся, калі пачынаць касавіцу. З песнямі разыходзілася моладзь. Засталіся адны даяркі. На час спрэчка заціхла, але Ніна ўсчала яе зноў. Сустрэўшыся з Евай, злосна сказала:

— Май на ўвазе, я болей на такія сходы не пайду. Гадзіну трымалі, а пяць хвілін сход ішоў. Табе абы птушачку ў сваім сшытку паставіць. А чаму пра нашы справы не далі пагаварыць? Бо не смачна было б слухаць.

— А цябе і слухаць не варта.

— Пачакай, я яшчэ скажу. Але не тут... — прыгразіла Ніна, хоць і добра ведала, што нікуды яна не пойдзе і скардзіцца ніколі не будзе.

Хвілін праз колькі, калі былі раздадзены кармы, цененькія струменьчыкі малака зазвінелі аб даёнкі. Яны ўзбівалі на дне наздраватую малочную пену, потым надціхалі, шуршэлі, разбіваючы шапку з малочных пухіркоў. То там, то тут перамаўляліся дзяўчаты, саплі каровы, стукалі аб драўляныя станкі рагамі.

Сутоньвалася. На стале, дзе ўчотчыца Феня Крушаль прымала малако, запалілі ліхтар.

Ідучы наўпрост да фермы, Вера назбірала невялікі букет васількоў. З маленства яна любіла гэтыя кветкі. Неяк удзвюх з маці ішлі яны паўз высокую сцяну жыта. Маці раз-по-раз зрывала ў збажыне сінія-сінія кветкі. Калі тых назбіралася многа, маці прысела на мяжы, высыпала ў падол і спрытна пачала прыкладаць іх адзін да другога. Увачавідкі атрымаўся вяночак. Маці надзела яго на русявую галоўку Веры.

— Якая ты харошанькая, дачушка мая, — плесканула яна ў далоні, быццам не верачы сваім вачам. — Вочкі сіненькія, а валасы светлыя, залацістыя...

Яна прытуліла дачку і раптам запела песню. У яе голасе чулася непрывычная самотная задуменнасць і пяшчотная, як дыханне, лагоднасць. Голас звінеў неяк нясмела і ціха, як далёкі званочак у вячэрнюю пару. Маці пела пра вянок з васількоў-кветак, які ніколі не вяне. Бо пояць яго росы буйныя, не салодкія, а салёныя, грэе сонейка гарачае, што любоўю называецца.

Маці пела, пяшчотна разгладжваючы доўгенькія пялёсткі кветак. Яе маленькія пальцы, натруджаныя ўсялякай работай, з любасцю дакраналіся да кожнага пялёстка, а вочы задуменна глядзелі некуды далёка-далёка. І Вера ўсёй сваёй істотай адчула, што маці забылася на яе, што яна жыве недзе ў другім свеце. Скончылася песня, а маці сядзела ў задуменні, толькі твар яе ўсміхаўся некаму з вялікай пяшчотай і шчырасцю.

— Пра каго ты пела? — спытала Вера.

— Пра васількі, дачушка. Бачыш, якія яны чысценькія, ласкавыя, такія, як і ты, мая дачушка. Калі ты зазлуеш на каго-небудзь, паглядзі вось на такі вяночак, і адразу адыдзе сэрцайка.

Вось з таго часу і палюбіла Вера васількі. Над яе захапленнем часта смяяліся сяброўкі. Жартавалі, што ёй падабаецца пустазелле,

з якім дзяўчыне належыць змагацца па абавязку службы. Але кожны год праз усё лета на Верыным стале стаяў сіні букет з васількоў.

Вера ўсміхнулася: дваццаць тры гады, а летуценнасць у яе нейкая дзіцячая. Васількі... вяночкі... успаміны... А Рамір, старшыня калгаса Даміра, Ніна Шумейка, Пацейчык, ферма, кармы... Вось гэта — само жыццё. А я пра вяночкі з васількоў задумалася.

І тут Вера ўспомніла, куды і чаму яна ідзе. Успомніла і спалохалася: яе чакаюць, а яна васількі збірае. Іншыя ўспаміны нахлынулі паводкай, змылі пяшчотныя згадкі далёкіх дзён...

Пасля таго камсамольскага сходу ленаватае, спакойнае жыццё на ферме раптам забурліла. Дні два дзяўчаты працавалі дружна. Крычалі на Рамана Дзяжэвіча, патрабуючы ад яго кармоў, уціральнікаў, новых бітонаў, мыла, усяго таго, чаго не хапала раней даяркам. Потым нямаведама чаму ўсё перамянілася: пачаліся сваркі. Узнікалі яны з-за дробязей, але неўзабаве ў іх уцягваліся ўсе даяркі: абвінавачвалі адна другую ў нядобрасумленнасці, у зазнайстве... Знаходзілі такія грахі за кожнай, што нават цяжка было разабрацца.

Першая сварка разгарэлася паміж Нінай Шумейка і Тацянай Шахнюк. Ніна раптам прапанавала пераразмеркаваць кароў і для гэтага кінуць жэрабя. Але Тацяна, якая ўжо не першы год працавала на ферме, запярэчыла:

— Прыйшла і думаеш тут свае парадкі наводзіць!..

— Ага, не хочаш!.. — ускіпела Ніна. — Думаеш, мы дурныя. Не бойся, усё ведаем.

— Маўчы лепш, а то каровы язык ад'ядуць, — перапыніла яе Тацяна.

— Не, не буду маўчаць. Вы мне рот не завяжаце. Бачыце, Вера Антонаўна, якія яны хітрыя: павыбіралі лепшых кароў і — на вам, божа, што нам не гожа!.. Тады будуць хваліцца, што ўмеюць працаваць, а мы не. Давайце жэрабя, і ўсё тут.

Вера ледзьве ўгаварыла дзяўчат. Давялося забраць адну карову у Тацяны і аддаць яе Ніне. Абедзве засталіся незадаволеныя. Толькі Зіна Асташка, якая атрымала самых найгоршых кароў, працавала моўчкі, толькі тады-сяды ўступала ў сваркі на баку тых, што нядаўна прыйшлі на ферму.

Потым пачаліся сваркі з-за кармоў. Падкормку прывозіў звычайна Максім Шняк. Пад'язджаў да хлява з нагружаным возам і крычаў:

— Налятай, дзеўкі!..

Дзяўчаты наляталі, стараючыся захапіць як мага больш кармоў. Учора, калі Вера з Евай прыйшлі на кашару, дык убачылі, што дзяўчаты стаяць навокал Тацяны Шахнюк, якая прыкладае да ілба змочаную ў вадзе хусцінку.

— Што здарылася? — спалохана запыталася Вера.

Тацяна адняла хусцінку: над вокам лілавеў з гусінае яйка гузак.

— Хто гэта цябе?

— Шумейка.

— Вера Антонаўна, пагаварыце з Шумейкай, нельга так... — адразу ж усхадзілася Ева.

— Ты ж сакратар камсамольскай арганізацыі, вось і пагавары з ёй на пасяджэнні камітэта камсамола. Што ў вас робіцца, ніяк не зразумею!



Усхліпваючы і раз-по-раз выціраючы слёзы, Тацяна Шахнюк пачала расказваць пра тое, як яна наклала ў кош кармоў, а Шумейка прычапілася да яе, а потым ударыла граблямі.

— Добра, што яшчэ вока не выбіла, — закончыла расказваць Шахнюк.

— Я табе не адно, а два вокі выбіла б, — умяшалася Ліда Раковіч. — Табе хочацца дадатковую аплату атрымліваць, а нам не?.. Усе кармы да сябе грабеш.

— А як ты думала!.. — Тацяна ўзялася ў бокі і ад таго выглядала вельмі ваяўніча: — На нашых каровах ферма трымаецца. Дык мы іх, па-твойму, будзем галадам марыць... Не, хто больш надойвае, той больш і кармоў павінен атрымаць...

Гэта было сапраўды так, і Вера хацела падтрымаць Тацяну. Але тут нечакана загаварыла Зіна Асташка. Гэтая ціхая дзяўчына ўсё больш і больш падабалася Веры. Саромячыся свайго несамавітага выгляду, Зіна глядзела некуды пад ногі. Ад таго акуляры ў яе з'ехалі на кончык носа, і цяпер Вера ўпершыню бачыла яе вочы не праз шкельцы. Вочы ў Зіны былі нейкія светлыя, ні то шэрыя, ні то сінія.

— Мы, Вера Антонаўна, пайшлі сюды добраахвотна, працаваць хочам, а нам увесь час перашкаджаюць. Кароў нам выдзелілі самых горшых, кармы не даюць. А калі я надоечы прынесла з дому батоўя, дык яны ж, Тацяна і вось Матрона Башукевіч, першыя на смех мяне паднялі. Кажуць, каб наперад не вытыркалася, правучыць нават збіраліся. Гаварылі вы так, ці не?

— Дык жа мы жартавалі, — пакрыўдзілася Башукевіч.

— Вам жартаваць можна, а калі Ніна пажартавала, дык адразу ў суд...

Сёння Вера павінна была сур'ёзна пагаварыць з дзяўчатамі. Калі так пойдзе і далей, абавязацельствы не будуць выкананы. Многія кінуць ферму. А што тады рабіць? І вось маеш: спачатку яе затрымаў сакратар па зоне МТС, потым васількі... Упершыню за многа гадоў Вера са злосцю кінула прэч свае кветкі. Трэба ж было так захапіцца ўспамінамі...

Дабегшы да кашары, Вера спынілася.

Дзінь-дзінь-дзінь-дзінь!.. — званілі аб даёнкі струменьчыкі малака.

«Які сорам!.. Ганьба, недаравальная ганьба...»

Вера нават хацела павярнуць назад, але тут жа раззлавалася на сябе. «Баязліўка, спалохалася!»

Яна прымусіла сябе пайсці. Першая заўважыла Веру Ніна Шумейка. Яна толькі што выліла малако і ішла ля загародкі. Убачыўшы Веру, яна хацела прашмыгнуць незаўважна, але тая затрымала яе, прывіталася.

— Запазнілася. Сакратар затрымаў. Як у цябе, Ніна, сёння з надоямі?

Да іх ішла Матрона, несучы поўную даёнку малака.

— Паглядзіце вось, — ледзь стрымліваючы сябе, адказала Ніна, — ад добрай казы і то больш надоіш.

— А чаму Матрона Максімаўна не крыўдзіцца? — спытала Вера і тут жа спахапілася, што зрабіла памылку. Чорныя Нініны бровы сышліся, яна злосна зірнула на Матрону.

— А мы таго і не дамагаемся.

— Нагаворваеш на сябе, — паспрабавала Вера выправіць памылку. — Усе ведаюць твае здольнасці. Ты яшчэ ўсіх абгоніш.

Ніне было прыемна пачуць такое, але недарэчнае жаданне казаць наперакор яна ўжо не магла спыніць.

— Можа нам і не выгадна больш малака надойваць.

— Чаму?

— Адна справа тры літры надаіць, іншая дзесяць. А вы як думалі?

— Жартуеш, ці проста не ў гуморы?

— Ах, не ў гуморы... Тады вось што, на табе даёнку, паспрабуй падаі. Думаеш, лёгенька?.. — Ніна працягнула руку з даёнкай. Вера не ведала, што рабіць. — Бяры, бяры. Усе вы языком любіце працаваць.

— Я — заатэхнік.

— Гэта мы ведаем. Таму і паспрабуй. А мы паглядзім. Указваць кожны ўмее.

Можа Вера і не ўзяла б даёнку, каб не даяркі, якія стоўпіліся воддаль. Веры здалося, што яны на баку Ніны. Яна ўзяла даёнку, паволі пайшла да станка. Яна бачыла перад сабой толькі чорны змрок падлогі, белую спіну каровы ды чула яе лёгкае пасапванне. Вера зайшла ў станок, пагладзіла карову па цёпламу, гладкаму боку. Карова, жуючы авёс, паглядзела на яе і зноў пачала есці.

— З другога боку зайдзіце, — пачула яна чыйсьці голас, нясмелы, у якім чулася спагада. Вера азірнулася. У паўзмроку бліснэлі шкельцы акуляраў на Зініным твары. Веры здалося, што з-пад іх Зіна падбадзёрваюча падміргвае.

Вера падышла да каровы справа, зноў пагладзіла яе па спіне. Цяпер жывёліна, відаць, зразумела, чаго ад яе хочуць. Яна пераступіла з нагі на нагу, каб зручней было яе даіць. Вера прысела на кукішкі, прымасціла між каленяў даёнку. Сядзець было нязручна. Яна прыўзнялася і зноў прысела. Але цяпер аказалася, што даёнка знаходзіцца неяк збоку і воддаль ад таго месца, якое, на яе думку, найбольш падыходзіла. Тады, ужо не падымаючыся, Вера падпаўзла на кукішках бліжэй. Карова зноў паглядзела на яе, відаць, здзіўленая нязвычным корпаннем даяркі.

Вымя было шурпатае і сухое. Вера падумала, што варта было б памыць яго і змазаць вазелінам. Але тут жа яна ўспомніла, як некалі маці цыркала першыя кроплі малака сабе на пальцы, каб ямчэй было даіць. І ўжо забыўшыся на ўсе тэорыі даення, якія некалі выкладалі ў інстытуце, Вера націснула на карычнева-буры сасок. Малако пырснула некуды пад ногі, убок, наступны струмень трапіў у рукаў. Вера адчула, як пабег па руцэ цёплы ручаёк.

«Не трэба хвалявацца, не трэба хвалявацца», — супакойвала яна сябе, але струменьчыкі, перакрыжоўваючыся, менш за ўсё траплялі ў вядро. Навокал на чорным гнаі бялелі малочныя плямы.

«Якая ганьба! Якая ганьба! — стукала ў вісках, а струменьчыкі ўсё пырскалі і пырскалі то на зямлю, то ў рукаў, то ў падол. — Плацце сапсавала, — раптам мільганула думка. — Як жа я яго адмыю? І трэба ж было мне надзець шарсцяное...»

Раптам яна адчула, што струменьчыкі ўжо не звоняць, як раней, а гулка шумяць, быццам падаюць у нешта мяккае, пухкае. У вядры ўзбівалася пена. Вера яшчэ крыху падаіла, потым пераможна глянула на дзяўчат, прыўзнялася, падсунулася бліжэй. У той жа міг карова



пераступіла з нагі на нагу, зачапіла вядро, і малако разлілося па зямлі, пакідаючы на паверхні густыя купкі пены. Яны шыпелі, лопаючыся ў цішыні.

Вера паднялася. Нехта забраў у яе з рук пустую даёнку. Тады яна, не паглядзеўшы ні на каго, пайшла да выхаду. Чула, як дзяўчаты лаялі Ніну.

Яе дагнала Ева.

— Вось бачыце, якая яна.

Вера знайшла Евіну руку, пацiснула яе.

— Не трэба, Ева... Сама вінавата — інстытут закончыла, а кароў даіць не навучылася.

## III

Ісці дамоў не хацелася. Вера спынілася на курганку, што над ракой, абапёрлася аб танклявую з шапаткой кронай бярозу. У самотнай маўклівасці слухала яна гукі ліпеньскай ночы. Недзе ўнізе плёскалася рыба. Звінелі конікі. Крычаў драч. Шуршала ў сухой траве яшчарка. На суседнім дрэве заціўкалі і змоўклі птушаняты. Дзесьці заіржаў конь.

Над галавой недасяжнымі зоркамі мігцела неба. На захадзе самы краёк яго ўсё яшчэ залаціўся. А на ўсходнім ужо разгаралася світанне. Над вершалінай вялізнай разлапістай хвоі раптам паявіўся веташок. З Балоння падымаўся ад зямлі белаваты туман.

Пахла сырнягом. Ад ракі патыхала аерам. Ад паплавоў далятаў водар палявых кветак і роснай паспелай травы. Здавалася, дыхае ноч. І ад таго сутонны прастор уяўляўся нескангчоным, без межаў і краю. Тым меншай адчувала сябе Вера, быццам пясчынка, занесеная ў бясскрайняе мора. Пэўна, ад таго і былі такімі яе думкі.

Вера думала, перабірала ў памяці падзеі свайго жыцця, задавала сабе нікчэмныя пытанні, на якія спрабавала знайсці адказ у атуманенага крыўдай сэрца. Ці трэба было ехаць? Няўжо шчасце — у вечным хваляванні, а не ў спакоі? Хто разумнейшы: той, хто гуляе, ці той, хто працуе? Навошта чалавек жыве?

У лесе на такія пытанні, вядома, не адкажаш. Хто жыве на поўныя грудзі, той не задумваецца над бязглуздзіцай, якая лезла ў Верыну галаву. А можа і не ў адну Верыну галаву. Яна і не здагадвалася, што глядзіць на свет адным вокам. Мабыць, толькі адзін раз у жыцці і не схлусіў Рамір — тады, калі маляваў яе партрэт. Хіба можна глядзець на свет адным вокам!.. Асабліва, калі яно пачне слязіцца ад крыўды.

Пройдзе няммнога часу, і Вера здзівіцца сваім думкам. Хіба можна чакаць спачування ад бярозкі, няхай стройнай і белай, але беспачуццёвай? Навошта глядзець на месяц, няхай яркі і ганарысты ў сваёй адзіноце, але халодны і да ўсяго безуважлівы? Не ўцякаць ад людзей, а смялей ісці да іх — вось чаму навучыцца Вера. Але на гэта патрэбен час.

Вера не выцірала слёз. Адзін месяц бачыць яе, ды і ад яго засланяе Веру шапаткая бярозка.

А хто гэта зычыў ёй няўдачы? Ага, Машанька Ашман... Адразу прыгадалася ўсё да найменшых драбніц.

Вытворчую практыку Вера праходзіла на Алтаі. Яшчэ ў раённым цэнтры яе сустрэў старшы заатэхнік саўгаса. Усю дарогу ён пакрыкваў на шафёра: «Цішэй, Ціма, цішэй», — быццам Вера была нейкай дарагой цацкай.

Іван Іванавіч Ашман аказаўся былым студэнтам таго ж самага інстытута, які канчала і Вера. Усю дарогу ён распытваў пра горад на Дзвіне, пра інстытут, пра яго выкладчыкаў, лабарантаў. Агульных знаёмых было не так ужо многа, затое, калі яны знаходзіліся, Іван Іванавіч прыходзіў у такое захапленне, што аж было няёмка.

Саўгас — вялікае сяло — патануў у зеляніне. Забегшы на невялікі двор перад чысценькай хатай з блакітнымі аканіцамі, Іван Іванавіч весела гукнуў:

— Машанька, глядзі, каго я прывёз!

З сянец выбегла поўная, круглатварая жанчына. Яна нядобразычліва паглядала на Веру. Іван Іванавіч растлумачыў:

— З нашага інстытута, студэнтка... Каляжанка наша.

Машанька ўзмахнула поўнымі белымі рукамі. Яе жэст здаўся Веры залішне тэатральным.

— Якая радасць, божа мой! — Машанька не гаварыла, а варкавала, як галубка. — Да нас пасля вайны ўсё больш з Масквы прыязджалі.

Машанька сышла з ганка, абняла Веру. Ад жанчыны пахла палыном, духамі і паленымі валасамі.

— Што там новага ў нашай алма-мацеры? — запыталася Машанька.

Адказваць узяўся гаспадар.

— Уяві, дарагая, Зося жывая і працуе лаборанткай. Верачка кажа, сівая ўся. Цяжка паверыць. Яна заўсёды была яркай брунеткай.

Машанька пахлопала пульхнай рукой па голенай сіняватай галаве мужа.

— А ты вось палысееў... Час ляціць хутка.

— А здаецца, усё было ўчора. Можа не было ні інстытута, ні Зосі? Не, былі. Інакш вось тут па-ранейшаму ляжаў бы стэп. Мудрасць жыцця, яго найвялікшы сэнс — у стваральнай працы, у творчасці, у няспынным абнаўленні.

Машанька замахала рукамі.

— Кінь ты, калі ласка... Ён некалі быў паэтам... І вось, бачыце, на ўсё жыццё захаваў прывычку гаварыць прыгожа. А сядзім мы ў мядзведжым кутку, за сто кіламетраў ад чыгункі.

Заатэхнік дакорліва глянуў на жонку. Але яна па-змоўніцку падміргнула Веры.

— Вершы ён Зосі прысвячаў. Мне больш прозай гаварыў.

— Машанька, я цябе прасіў...

Жонка пачала дэкламаваць, знарок расцягваючы словы:

> — С тобою ехали на лодке,
> Здесь аш два о, там небосклон,
> И в этот вечер в царской водке
> Тобою был я растворён.

Далей забылася...

— Былое — прайшло. Пойдзем, Вера Антонаўна, пакажу вам нашу гаспадарку. А ты, Машанька, абед нам змудруй.



— Пачакаў бы. І, наогул, няма чаго яе па хлявах вадзіць. Хопіць, што я тут змарнела. Няхай лепш стэпам падыхае, адпачне. І нікуды я яе не адпушчу. Тут такі сум, жах адзін!.. У майго мужа сэрца бранірававанае, ён нічога не заўважае. Яму скаціна даражэй за мяне.

— Што ты, Машанька! Ты для мяне ўсё. Толькі, Машанька, шчасце ў рабоце, а не ў гульні ды мілаванні.

— Усё жыццё працуй, а якая за гэта ўзнагарода?

— А такая, што працаваў, рабіў, не сумаваў, а жыў на поўныя грудзі...

Жыць Вера засталася ў гасцінных гаспадароў. На фермы яна хадзіла зрэдку, калі надакучвала варыць варэнне або ляжаць на беразе невялікай мелкай рэчкі. Ішла не адна — з Машай. На фермах яе сустракалі, як госцю, больш паказвалі, расказвалі, ды хутчэй стараліся выправадзіць. У астатнія часы Машанька забаўляла размовамі.

На жыццё Машанька глядзела з акна сваёй хаты. А яно было маленькае. Можа таму Машанька бачыла праз яго толькі руды выгарэлы стэп і смугу на даляглядзе. У стэпу было вельмі прывольна, а з акна ён здаваўся цесным і надзвычай панурым. Панурымі былі і думкі Машанькі. А можа яны былі такімі сумнымі таму, што Ашманы не мелі дзяцей? Машанька любіла лашчыцца, сядзець у абдымку, запісваць сентыментальныя вершы і плакаць над сарванымі кветкамі. У кароткія перапынкі паміж сардэчнымі ўздыханнямі, Машанька вучыла Веру, як жыць.

— Які з цябе, Верачка, заатэхнік, — гаварыла яна, абдымаючы Веру. — Характар у цябе лагодны, мяккі. А на гэтай праклятушчай рабоце трэба быць злосным і ўпартым. Потым я не веру свайму Івану, што работа можа захапіць. Узнёсласць належыць мастацтву, літаратуры, музыцы. Якая можа быць узнёсласць у кармавым балансе. Гэта мой Ваня гаворыць, што яго захапляе размах і ўзвышанасць яго працы. Глупства, мая мілая. Чалавек працуе для таго, каб есці і апранацца. Вось табе мой наказ: шукай мужа і не абы-якога. Любоў праходзіць — муж застанецца. Табе трэба муж.

— Дзе ж яго ўзяць? Потым жа трэба, каб ён мяне адшукаў...

Машанька гулка хлопала пульхнымі аладкамі далоняў.

— Дзіця ты горкае. Дзе ты бачыла, каб мужчына сам жаніўся? Мне ўспамінаецца адна загадка: хто вядзе карову, чалавек ці вяроўка, якую ён трымае? Можна сто гадоў спрачацца — не дакажаш. Мужчыны робяць выгляд, што самі жэняцца, а выбіраем мы іх, а не яны нас.

«А вы таксама жанілі на сабе мужа?»—хацелася запытацца Веры, але яна саромелася. Больш слухала. Часам Іван Іванавіч пачынаў спрачацца з жонкай. Размахваючы кароткімі рукамі, ён крычаў:

— Што, па-твойму, ідэал?

— На сённяшні дзень мне хацелася б мець аксамітнае плацце і сядзець у партэры Вялікага тэатра, — Машанька падміргвала Веры.

— Мець бальнае плацце, кватэру, уласную «Пабеду», халадзільнік! А што для душы? Твае погляды нізкія і пошлыя. Жыць можна вялікімі ідэаламі.

— Напрыклад, тым, што карова «Зорка» дала дзесяць тысяч літраў малака?..

— І гэтым, — перабіваў Машу Іван Іванавіч. — Усё — прадукт чалавечай думкі, яго творчасць. Пройдзе дзесяць, дваццаць гадоў і «Зорка»

будзе не адна. Мільёны такіх кароў будуць даваць мільярды літраў малака. Чалавецтва зможа ўдвая, утрая менш трымаць скаціны, удвая менш выдаткоўваць кармоў, а малака мець утрая больш. Чалавеку тады прыбавіцца хлеба, гародніны, садавіны... Ідэал — мая думка, якая абганяе мяне. Я жыву сёння, а мая думка — далёка наперадзе.

Машанька не здавалася:

— А хто будзе ведаць, што «Зорку» адкрыў ты?

— Слава! Увекавечанне памяці! Глупства. Марная трата часу. Мы не ведаем многіх скульптараў Грэцыі, але захапляемся мастацтвам грэкаў. Хто рабіў індыйскія храмы? Ці не ўсё роўна хто? Народ робіць усё. А я кропля яго, і мне аднаму не трэба славы.

«А што сказаў бы Іван Іванавіч цяпер? Ён, мабыць, пачаў бы даказваць мне, што сённяшні выпадак — дробязь у філасофскім сэнсе. А гордасць? А павага да сябе? Машанька вучыла не губляць іх. А што сказаў бы Рамір? Рамір... Ён жа таксама гаварыў пра гонар, пра павагу. Тады чыя праўда?»

Думка пра Раміра заглушыла ўсе начныя гукі. Клопаты, беганіна неяк адсунулі ўбок пачуццё да Раміра. Цяпер пад шапаткой бярозай пачуццё кахання авалодала ёю так моцна, з такой неўтаймаванай нецярплівасцю, што былі б крылы, узляцела б пад воблакі, ластаўкай заглянула б у яго пакой. Здалося, яна вырашыла пытанне.

Дадому ішла спорным крокам. Перад самай вёскай спынілася. У цемрачы мігалі воўчым вокам чырванаватыя агеньчыкі цыгарак. Чуліся нястройныя размовы. Вера, спалоханая, падыходзіла ціха, быццам яе лёгкія крокі маглі пачуць. Раптам прамільгнула здагадка: мабыць, прадаўжаюць тут распачатыя на кашары танцы. Адразу стала весялей. Ёй перагарадзілі дарогу два хлопцы. Яны зацягваліся папяросамі, каб ямчэй было разгледзець Веру.

— А, таварыш заатэхнік!..

— Дзе вы так позна ходзіце, каб часам вас не ўкралі? Можа ахова трэба?

Гэта быў Максім Шняк і яго сябрук гарманіст.

— Дзякуй, дайду сама.

— А вас таварыш Даміра хацеў бачыць. Ой, як хацеў бачыць...

— Навошта?

— Запытайцеся ўжо самі. Ён вунь дзе папяросу смаліць.

Вера пайшла на агеньчык. Там сапраўды чуўся голас Даміры. Вера прывіталася. Даміра прадаўжаў гаварыць:

— Мы, значыць, у абход. Я камандую...

— Вы мяне хацелі бачыць? — перапыніла Вера.

Даміра змоўк, толькі дыхаў у Верын твар гарэлкай. Вера чула, як ён скрыгоча зубамі.

— Хацеў,—выгукнуў ён нарэшце.— Ты што ж гэта!.. Напляла карэспандэнту...

Нехта абхапіў Даміру, пацягнуў. Ён крычаў, выплёўваў злосную лаянку. Хтосьці супакойваў Веру, прасіў не звяртаць на Даміру ўвагі. Вера пабегла. Адбегшыся, заплакала, пайшла памалу. Ужо ў вёсцы нехта дагнаў яе, узяў за плячо. Вера ледзь не закрычала. Азірнулася: Дземідзенка разгладжваў вусы.

— Хамства, скажу я вам, у нас болей, як клапоў у хаце. Цемра нялюдская. Але прабачыць такое не раю. Папусцішся — на галаву, прабачце, наплююць.



— Што ж вы параіце?

— Раіць не магу. Не заўсёды людзям нашы парады да спадобы прыходзяцца. Чалавек — істота няўдзячная. Прабачце, не пра вас, а наогул. Другому параіш, а ён пасля на цябе ж злуецца. А толькі, на маю думку, тут варта альбо ўцякаць альбо грызціся да апошняга зуба.

Веры здавалася, што гэта гаворыць не Дземідзенка, а Рамір, потым пачуўся голас Машанькі Ашман. Уцякаць! Так, так, уцякаць! Пайсці да дырэктара інстытута, папрасіцца на работу, на любую работу. Будзе сорамна? Няхай. Але ж ніхто гэтак яе не пакрыўдзіць...

Раптам яна ўстрапянулася. А можа напісаць пісьмо Льву Рамановічу?..

— Я раіў бы змагацца,— Дземідзенка прыкурыў папяросу, запахла паленай поўсцю і нейкай цвіллю.— Вы зразумелі цяпер Даміру? А некалі вы пакрыўдзіліся на мяне. Памятаеце, як я прапаноўваў вам сваю дапамогу... Давайце напішам разам.

— Заўтра я паеду ў горад...

— У нас глухамань, бягуць таму. Ну, я развітваюся...

Раніцай яна пад'язджала ўжо к гораду. Аўтобус прыпыніўся на галу. Увайшла кантралёр, шафёр вылез з кабіны, пачаў нешта поркацца ў маторы. Вера паглядзела праз акно. Азораны залацістым святлом, горад ляжаў на пяці гарах. Справа відаць быў белаваты высокі будынак даўнішняга педтэхнікума. Недзе лявей быў іх інстытут. Яшчэ лявей цераз раку віднеліся мачты высакавольтнай лініі. На доўгай высакаватай градзе тырчэлі рэдкія сосны. То там, то тут відаць былі недабудаваныя дамы, асобныя руіны на іх фоне здаваліся дзівоснымі прывідамі. Дымілі коміны заводаў.

Аўтобус крануўся; дарога крута бегла ўніз. Перад вачыма раскінулася панарама цагельных заводаў. Сляпыя камяніцы, прыплюшчаныя да зямлі доўгія паветкі, чырвоныя высокія коміны, пад'язныя пуці. Снуўдалі пыльныя машыны, па рэйках каціліся ваганеткі, паспешлівыя чалавечкі паяўляліся і знікалі, як у кіно.

Затым аўтобус пачаў паўзці ўгару. Ён натужна падвываў, быццам злаваўся, што людзі пабудавалі горад за глыбокім ровам. Справа і злева пачыналіся пабудовы: прамільгнуў будынак з вялізнай шыльдай «Бакалея», гараж, упраўленне цагельнымі заводамі, шэраг новенькіх трохпавярховых дамоў, адгароджаных ад вуліцы палісаднікамі, вароты вялікай фабрыкі, школа, яшчэ дамы, новабудоўлі. Па тратуарах беглі заклапочаныя людзі, грымелі жалезам грузавікі, рыпелі лябёдкі, шматгалосы гул горада ўладна ўрываўся ў Верыну душу. Раптам яна ўбачыла дзяўчыну ў крэмавым плацці, вельмі знаёмую з твару. Аўтобус прапоўз міма, выбраўся з затору машын, паімчаў хутчэй.

Перш за ўсё Вера зайшла да сябе на кватэру. Паднялася па шырокай белай лесвіцы на трэці паверх, адамкнула дзверы. З пакояў патыхнула нежылым, застаялым паветрам. Успырхнула патрывожаная моль. На паліраваным стале роўным пластом ляжаў пыл. Вера не стала прыбіраць кватэру. Дастала з шафы любімае васільковае плацце, надзела яго, прыпудрыла загарэлы нос, падвяла вусны, хмыкнула, угледзеўшы свае рукі: манікюр аблез, на кожным пальцы былі завусеніцы. Чаму яна толькі цяпер заўважыла гэта?

Усю дарогу Вера думала над тым, як сустрэне яе Рамір, як яна, зайшоўшы ў пакой, усміхнецца яму, потым абдыме за шыю. Усё адбылося інакш.

Рамір яшчэ спаў. На сталку між двух мяккіх крэслаў стаяла недапітая бутэлька каньяку, на талерачцы ляжала ікра, побач проста на стале — кавалак каўбасы, вяндліна, хлеб. Яна доўга будзіла Раміра. Ён адмахваўся, нязлосна лаяўся. Потым павярнуўся да яе, працёр вочы, сказаў:

— Адвярніся, апрануся.

Яна адышлася да акна. Чула, як ён бразгае дробнымі манетамі, папругай, як шчоўкнуў партсігарам. Запыталася:

— Можна ўжо?

— Калі ласка. Ты, як снег на галаву... А я, разумееш, сумаваў.

— Бачу.

— Хочаш каньяку?

— Дзякую.

— Я вып'ю. Галава гудзе. Пачакай, пайду памыюся.

Ён узяў ручнік, вышаў. Вера пачала прыбіраць у кватэры. Прывесці ўсё да ладу тут было надта цяжка. Прыслоненыя да сцен, стаялі эскізы, карціны, загрунтаваныя пустыя палотны, валяліся гіпсавыя злепкі чалавечага цела. На стале панаваў яшчэ большы беспарадак: фарбы, пэндзлі, алоўкі, вугаль, папяросы, нейкія гузікі, кавалкі чэрствага хлеба, кнігі, — усё перамяшалася, пераблыталася, запылілася.

— Пакінь, не турбуйся дарэмна, — спыніў Рамір Верыны намаганні хоць крыху надаць пакою людскі выгляд. — У свеце няма нічога вечнага, а дзеля аднаго імгнення ці варта затрачваць дарагія хвіліны нашага кароткага жыцця.

Ён быў у бэзавай тэнісцы, якая прыгожа аблягала цела гімнаста. Чорныя валасы, гладка зачасаныя назад, блішчалі ад вады, тонкія вусны дрыготка ўсміхаліся, чорныя бяздонныя вочы пакорліва і сумна глядзелі на Веру. А яна любавалася яго белым тварам, шырокімі чорнымі бровамі, тонкім з глыбокімі выразамі ноздраў носам, вострым падбародкам.

— Я не пытаюся, як жывеш. Адгадай чаму?

— Не цікавіць?

— І гэта гаворыш ты... Раней так адказвала тысяча з тысячы адной. Адной была ты. І вось за некалькі дзён не стала і той адной.

— Чаму? Адкажы на сваю загадку.

— Бо я ведаю, як ты жывеш. Табе цяжка...

Вера падумала, што ён вельмі разумны, яе Рамір. Падышла, абхапіла яго за шыю, прытулілася да грудзей. Ногі лёгка адарваліся ад падлогі, цела павісла ў паветры на моцных Раміравых руках. Перад вачыма паплыла столь. Гарачая цеплыня рук і Раміравых вуснаў заціналі дыханне. Чыёсьці сэрца моцна стукала, ірвалася з грудзей. «Вось як гэта здарылася», — мільганула далёкая думка. Яна дацягнулася вуснамі да яго шыі, прыпала да яе там, дзе білася трапяткая, сіняя жылка. Раптам яна адарвалася, паляцела, як у бездань.

Яна моцна выцялася, падскочыла на пругкай стальной сетцы і зноў адчула сябе ў абдымках Раміра. І ў той жа час яе рука намацала нейкую рэч. Гэта была жаночая прыколка. Вера з усяе сілы адштурхнула Раміра. Ён зноў кінуўся да яе, заламаў рукі, прыціснуўся да яе вуснаў. Неймаверным намаганнем яна вырвалася з яго абдымкаў. Глядзячы ў незнаёмы, шэры твар Раміра, закрычала, прыдушана, злосна:



— Нізавошта, чуеш!

Ён спакойна падышоў да стала, наліў паўшклянкі каньяку, выпіў.

— Шалёная, новую тэніску парвала.

Вера заціскала ў кулаку шпільку, другой рукой папраўляла косы. Рамір зачыніў на ключ дзверы.

— Зараз жа выпусці мяне.

— Ніколі.

— Выпусці, ці я выскачу з акна.

— Спалохаешся, ты вельмі любіш жыць.

— Зараз жа адчыні.

— А чаго ты, уласна кажучы, ішла?

— Я думала, ты чысты і разумны. А ты брудны і нягодны.

— Гэта нешта новае.

Яна расціснула кулак. Рамір зарагатаў.

— Што гэта?..

— Ты яшчэ смяешся?

— Святыя існуюць толькі ў кнігах, ды і то яны робяцца святымі пасля найвялікшых зямных грахоў.

— Хто яна?

— Ці не ўсё роўна? Вось глядзі. — Рамір павярнуў адно з палоцен. Вера жахнулася. На скамечанай пасцелі ў агіднай, неверагоднай позе ляжала яна сама.

Вера заплюшчыла вочы. Калі адкрыла іх, дык убачыла, што Рамір крывіць вусны: ці то смяецца з яе, ці то дражніць. Забыўшыся на ўсё, яна кінулася да дзвярэй. Стукала ў іх кулакамі: роспач і сорам адабралі ў яе розум.

— Пакінь вар'яцець. Не люблю істэрычных баб. Садзіся, я цябе не з'ем.

Яна перастала стукаць, але не адышлася ад дзвярэй. Невідушчымі вачыма пазірала на Раміра. Ён курыў, седзячы ў крэсле.

— Ты забылася, што я жывы чалавек. Я больш года хадзіў за табой, і ты сама вінаватая, што адкладвала тое, што магло здарыцца сёння. Навошта хаваць свае прыгожыя інстынкты? Ты хавала іх, і ты вінавата ў маім падзенні. Я цар цароў — Асаргадон. Усе астатнія — мае рабы. Я ёсць на свеце. Так трэба жыць. Усё астатняе — мяшчанства, якое даўно трэба выкінуць на сметнік. Я марыў пра цябе, і вынік гэтай мары — мая карціна. Я верыў, што калі-небудзь ты прыдзеш да мяне.

Вера ўзяла са стала чарнільніцу, плесканула з яе на карціну. Чорныя пацёкі паплылі на падлогу.

— Калі ты мяне не выпусціш, дык з астатнімі будзе тое самае.

— А па мордзе не хочаш?

Вера адчула, што гэты чалавек здольны на ўсё. Папрасіла больш лагодна:

— Адамкні, калі ласка...

Ён адамкнуў і сам адчыніў дзверы.

— Думаеш, кахаў цябе?

На беразе Дзвіны, у скверыку, на той знаёмай лаўцы з літарамі «К» і «В» выплакала Вера слёвы, што даўно душылі яе.

## IV

Па суботах ціхую ўрачыстасць райкома камсамола абуджала моладзь. На бюро звычайна набіралася шмат вялікіх і малых спраў. За кожнай стаялі людзі, маладыя, гарачыя, якіх абавязкова трэба было паслухаць. Прыходзілі сакратары камсамольскіх камітэтаў — рухавыя, галасістыя, неспакойныя; старшыя піянерважатыя — маладыя і чамусьці, як на падбор, маленькага росту дзяўчаты; няштатныя лектары — салідныя і недаступныя з выгляду, быццам набіраліся яны мудрасці ў сямі акадэміях; загадчыкі бібліятэк і хат-чытальняў — марудлівыя, разважныя, але гаваркія; звеннявыя — здаровыя, нібы вылітыя і загартаваныя пад сонцам, дзяўчаты; каржакаватыя, маўклівыя хлопцы, што прывыклі не гаварыць, а працаваць. Сярод іх вылучаліся тыя, што парашылі на ўсё жыццё звязаць свой лёс з камсамолам. Усё гэта была галасістая братва: пелі песні, спрачаліся, жартавалі, кпілі, экзаменавалі адзін другога па міжнароднай палітыцы.

Ліпанава вельмі любіла гэтыя дні. Перад ёю праходзілі дзесяткі людзей па-дзіцячаму вясёлых і непасрэдных, па-юначаму задорлівых і шчырых, па-даросламу сур'ёзных і прамых. На яе памяці многія ўпершыню прыходзілі ў райком, гэтак жа, як і цяперашнія навічкі, зубрылі правы і абавязкі камсамольца, запінаючыся, расказвалі біяграфію, якая ўкладалася ў адзін нядоўгі сказ, нясмела выконвалі першае даручэнне, баючыся на крок адступіць ад указанняў. І вось цяпер яны смела ўступалі ў спрэчку, здзіўляючы свайго сакратара глыбінёй думкі. Людзі раслі! Баявыя, няўрымслівыя людзі! З імі не страшна было брацца за самыя цяжкія справы. Ліпанава любіла слухаць сваіх актывістаў. Вірлівая маладосць захоплівала ў палон. Побач з ёю не адчувалася, што ідуць гады.

Саскочыўшы з грузавіка, Ліпанава зірнула на гадзіннік: зайсці дадому не было ўжо часу. Прывычнай таропкай хадою пайшла ў райком. Калідор гуў, як пчаліны вулей. Хлопцы, сарваўшы кепкі, прывіталіся з ёю. «Новенькія, — падумала Ліпанава. — Колькі ж сёння прымаем?»

Першай з сакратароў, каго ўбачыла Ліпанава, была Ева Пляскач. Следам за Тамарай яна зайшла ў кабінет, села на крэсла, схавала пад стол ногі.

— Я да вас, Тамара Аляксандраўна, з нашым горам. Робіш, як лепей, атрымліваецца горай...

Ліпанава села побач, але ў пакой адзін за адным пачалі заходзіць члены бюро, работнікі райкома. Улучыўшы хвілінку, яна папрасіла Еву:

— Расказвай.

— Заатэхнік збегла.

У Ліпанавай уздрыгнула брыво.

— Калі збегла?

— Заўчора. Ды вы не думайце, што сама збегла, — прымусілі. Даміра прымусіў і Ніна, помніце, высокая такая. Шумейка прозвішча.

— Расказвай па-парадку, а то я нічога не разумею.

— Я ўжо і так па-парадку вам кажу. Заатэхнік збегла, даяркі не ладзяць, Лёнька Зайчык гаворыць, што гэта дзіцячая хвароба росту. А наконт Шумейкі галасы раздзяліліся: адны кажуць, трэба яе выключыць з камсамола, другія — за яе гарой стаяць. А я думаю так, што хоць ты і сірата, але за сябе адказвай і рук не распускай...



Ліпанава адкінула надакучлівую пасмачку валасоў.

— Адказвай толькі на мае пытанні, а то мы з табой да вечара гаварыць будзем.

Ліпанава, не спяшаючыся, задавала пытанні. Ева адказвала на іх, насцярожана паглядала на сакратара. У Ліпанавай пасля кожнага адказу глыбокія маршчыны рассякалі лоб. Нарэшце, пытанні кончыліся.

— Бачу, што вінавата я сама. Здавалася, усё прадумала, а выходзіць — спадзявацца адно, а рабіць другое. Ну, вось што — прыеду выпраўляць сваю памылку. Гэтыя абавязацельствы, што ты мне паказвала — схавай. Будзем спачатку гаварыць з людзьмі. Можна, вядома, заклік да моладзі даваць ад жывёлаводаў «Прагрэса». У іх усё гатова. Але будзем усё ж пачынаць ад вас. На вашых камсамольцаў спадзявацца будзем. Зможаце вы ўзняць жывёлагадоўлю, падымуць яе і другія арганізацыі. Усё залежыць ад таго, як мы іх арганізуем...

Ліпанава змоўкла, думала... Яна не сказала тады ўголас, што думае пра Еву. Сакратар успомніла пра размову з членамі камітэта ў калгасным клубе, разважанні Лёнькі, Наташы Кароткай, Евы і раптам адчула, што Ева не зможа далей павесці за сабой моладзь. Пакуль камсамольская арганізацыя раёна вырашала прыватныя і не вельмі вялікія справы, Ева не была бездапаможнай. Сумленна выконвала ўказанні, своечасова здавала справаздачы, праводзіла сходы і ў кожным мерапрыемстве райкома — ці быў гэта месячнік па вывазцы гною альбо суботнік па вырабу торфаперагнойных гаршочкаў — удзельнічала актыўна. Цяпер перад камсамолам раёна (Тамара Ліпанава добра разумела, што не толькі раёна, але ўсёй вобласці і нават рэспублікі) стаяла вялікая праблема. Трэба не толькі пасласць моладзь на фермы, але разгарнуць спаборніцтва, стварыць умовы для работы маладых жывёлаводаў. А іх не створыш, калі не вырашыш праблему кармоў. Гэта ў сваю чаргу звязана з палепшаннем лугоў. Непарыўны ланцужок сувязей, якія прасачыла ў думках Ліпанава, дапамог ёй глыбей зразумець тыя партыйныя мерапрыемствы, якія пачыналі намячацца ў апошні час. Разумная рука партыі накіроўвала ўсіх па аднаму напрамку. І ў гэтым баявым ланцугу, што разгортваўся да наступлення, стаяла яна — Ліпанава, усе камсамольцы раёна. Грандыёзнае наступленне, і для яго патрэбны такія малодшыя камандзіры, што бачылі б намнога далей за Еву.

Ліпанава пакуль нічога не сказала. Лёс чалавека адзін чалавек вырашыць не можа. Гэта могуць зрабіць сумесна таварышы па рабоце, па агульнай справе. Але і яны могуць вырашаць яго не паспешліва, а глыбока ўсё абдумаўшы і так па-таварыску далікатна, каб чалавек пачаў працаваць яшчэ лепш.

— У цябе ёсць хто на прыём? — запыталася яна ў Евы.

— Прывяла, а як жа. Тамара Аляксандраўна, вы ўжо мяне першую адпусціце.

— Добра, — усміхнулася Ліпанава Евінай прывычцы абавязкова быць першай.

Члены бюро расселіся вакол двух сталоў. У канцы аднаго з іх пуставала крэсла, прызначанае для навічкоў. Але амаль ніхто з іх не сядзеў — стаялі побач, збянтэжаныя ўрачыстасцю хвіліны.



Першай зайшла Зіна Асташка. Разгублена азірнулася: сонечны зайчык трапіў на шкельцы акуляраў, рознакаляровай вясёлкай мільгануў па сцяне. Яна спынілася ля дзвярэй, ледзь чутна прашаптала: «Дзень добры!» Ліпанава папрасіла яе сесці. Зіна дайшла да крэсла, учапілася ў спінку. Ева пачала чытаць анкету. Зіне здавалася, што яна гаворыць не пра яе, а пра кагосьці другога, невядомага, але вельмі славутага чалавека.

«Камсамольцам можа быць кожны...» — шаптала Зіна перасмяглымі ад хвалявання вуснамі. Думкі яе перапыніла Ліпанава.

— Таварыш Асташка, раскажыце сваю біяграфію.

Зіна здзівілася: хто гэта таварыш Асташка? Няўжо яна? Навокал добразычліва паглядалі на яе. Таварыш! А толькі, што гэты таварыш можа расказаць?

— Ды вы не бойцеся, — праказаў кашчавы хлопец, таксама ў акулярах — выліты Лёнька Зайчык.

— Я не баюся, — адказала яна і раптам адчула сябе вельмі ўпэўненай, як у школе на экзаменах. — Толькі ніякай яшчэ ў мяне біяграфіі няма. У вайну была маленькай. Калі ў сорак другім годзе нашу



вёску фашысты спалілі, з мамай у лес перабралася. Потым нас у Нямеччыну пагналі, але далёка не паспелі завезці. Мы і вярнуліся дамоў. Сёлета вось школу кончыла. Тату на фронце забілі. Удвух з мамай жывём.

Яна змоўкла, пазірала з-за акуляраў то на аднаго, то на другога члена бюро. Здавалася, што яна ўсіх іх ведае: вось гэта Лёнька Зайчык, а вось тая дзяўчынка вельмі падобная на іх Наташу Кароткую — закружскую настаўніцу, далей сядзіць хлопец — як дзве кроплі вады Макар Башукевіч...

— Усё ў вас? — запыталася Ліпанава. Зіна кіўнула галавой. — У каго будуць пытанні да таварыша Асташкі?

«Камсамольцам можа быць кожны»... — заварушыліся Зініны вусны.

— Чаму вы дасюль не паступалі ў камсамол?

— Я нічога яшчэ такога не зрабіла.

— А цяпер?

— І цяпер таксама.

— Ці ведаеце, што камсамольцы ідуць працаваць на фермы?

— Яна працуе на ферме, — адказала за Зіну Ева.

— Што ж, таварышы, Зіна Асташка апраўдала сябе, лепш не трэба, — звярнулася Ліпанава да членаў бюро і тут жа дадала:

— Прымаем вас, Зіна, у Ленінскі камсамол. Беражыце баявыя яго традыцыі. Камсамольцы ніколі не хаваліся ад цяжкасцей, а ішлі ім насустрач. Віншую вас, таварыш Асташка, з высокім званнем члена ВЛКСМ.

Ліпанава выйшла з-за стала, падала руку. Зіна сарамліва паціснула яе. Падумала: сказаць ці не сказаць. Вырашыла: трэба сказаць.

— Вось толькі ў нас на ферме работа не ладзіцца. Дзяўчаты сварацца. Толькі вы не падумайце, што яны вінаватыя.

— Гэта не цяпер, пасля прыёму... — спалохана перапыніў Зіну другі сакратар.

— Чаму? Гавары, гавары, Зіна. Хто ж вінаваты?

— Лёнька кажа, што мала таго, каб паслаць людзей на фермы, трэба з імі працаваць. Потым астатнія, хто не пайшоў на ферму, няхай бы яны пра кармы паклапаціліся. Ды вось яшчэ старэйшыя даяркі коса на нас паглядаюць, а іншыя нават падбухторваюць маладых. Таму і не ладзяць у нас.

— Я, Зіна, хутка буду ў вас. На месцы лягчэй разабрацца.

Пасяджэнне прадаўжалася. Адзін за адным перад сталом сакратара паяўляліся хлопцы і дзяўчаты, якіх пярвічныя арганізацыі прынялі ўжо ў свае шэрагі. Усё гэта былі баявыя, адданыя справе маладыя людзі. Пасля разглядалі вынікі работы па пасылцы моладзі на фермы. Ліпанава слухала даклады з калгасаў і ў душы радавалася, што сярод камсамольцаў пануе такі вялікі ўздым.

Дзень праляцеў незаўважна. Кончылася бюро. Ліпанава засталася адна, выцягнула са стала кніжачку, пачала запісваць думкі, што падказаны былі на бюро. Захапіўшыся, не заўважыла, як у пакой зайшла Вера Алексіч. Адчула толькі чыйсьці доўгі, тужлівы позірк. Рэзкім рухам узняла галаву. Вера стаяла, апусціўшы рукі.

— А казалі, што вы ўцяклі?

Вера ўздрыгнула. Здзівілася, што Ліпанава ўжо ведае пра яе ўцёкі.

Нешта трэба было сказаць. Але што? Ліпанава закрыла кніжачку, запрасіла Веру сесці.

Вера села на край крэсла. «Чаго я прышла да яе? — думала Вера.— Злавала, нават ненавідзела, а першай, каго захацелася ўбачыць, — яе. Пра што мне расказаць? Хіба ж яна зразумее? Што яна можа параіць? Пачне павучаць — устану і пайду... А можа пайсці вось цяпер, нечакана?» Вера хацела падняцца і не магла. Адчувала сябе надта зморанай.

— Люблю запісваць розныя думкі. Часам мільгане што-небудзь вельмі слушнае і знікне. Потым шкада, што не запісала. А вы не запісваеце?

— Часам, калі няма чаго рабіць.

— Я нядаўна чытала, што Фурманаў — аўтар «Чапаева» — заўсёды што-небудзь запісваў. А ў яго было вельмі неспакойнае жыццё. Вы, відаць, з дарогі?

— Так.

— Дык чаго ж тады я сяджу!.. Паслухайце, Вера, хадзем да мяне дамоў, бо я вельмі есці хачу.

— Не, што вы!.. Я так зайшла.

— Ды вы не саромцеся. Нам доўга давядзецца разам працаваць. Можа і мяне калі-небудзь запросіце да сябе.

Веру ўразіла чысціня і нейкая суровая прастата пакоя Ліпанавай. У кватэры не было чаго-небудзь лішняга і непатрэбнага, што замінае жыццю. Кожная рэч паслужліва прапаноўвала сябе чалавеку. Мяккая шырокая канапа, без усялякіх падушачак, вышываных дарожак, кніжная шафа з роўнымі радамі кніг, пісьмовы стол з горкай газет і часопісаў. З кухні зайшла невысокая бабулька, вельмі падобная на Ліпанаву.

— Добры дзень, — пявуча загаварыла яна. — Нешта я вас ніколі не бачыла. Чаму ж ты, дачушка, так позна?

— Бюро было, мама.

— То бюро, то сход, то нарада... А жыць калі?

— Дык гэта ж і ёсць жыццё, мама.

Тамара выбегла. Бабулька падсела да Веры.

— Таксама яшчэ не замужам? — запыталася яна.

Вера пачырванела.

— Была. Разышліся.

— Здараецца. Дзіця для ўцехі засталося?

— Не.

— Гэта ўжо блага.

— Адной лягчэй...

Бабулька спалохана замахала рукамі.

— Што ты, дачушка, гаворыш!.. Як жа аднаму можа быць лягчэй? Ды што ж я адна рабіла б? Таму і на Тамару злуюся. У гадах, а толькі і думае пра сходы. Дзеці трэба, без іх і жыць не варта. У мяне васьмёра было: шэсць сыноў і дзве дачкі. Сыны на фронце загінулі, дачка прапала ў Германіі. Засталіся мы з Тамарай. А пасля вайны захварэла яна: з месяц ляжала. Калі б памерла, дык і мне не жыць. Тады і пасівела. Мне яшчэ і гадоў не дужа многа...

Прышла Тамара. Маці затупала вакол стала. Неўзабаве на ім паявіўся абед. Вера зноў адчула сябе ніякавата. Праўда, нялоўкасць тая хутка прайшла, бо і дачка, і маці аднесліся да яе вельмі шчыра.

— Пагуляйце ў садочку, — сказала маці, калі яны паабедалі.



Яны выйшлі. Садок быў маленькі, на самым беразе Дзвіны. Дзесятак яблынь, кусты парэчак і агрэсту, а над кручай расла тоўстая сукаватая вішня. Лістоў на ёй не было, толькі чырванелі дробныя ягады.

— Хочаш? — запыталася Ліпанава. — Толькі сама залазь на дрэва. Тут не высока. Станавіся на лавачку, потым вось на гэты сук і гатова...

Вера не адважвалася. Тады Тамара палезла першай. Крыху пастаяўшы, узабралася на вішню і Вера. З дрэва яшчэ лепш адкрываўся вачам далягляд: задзвінскія лясы і поплаў. Далёка ўнізе струменіліся хвалі Дзвіны.

Тамара нечакана запыталася:

— Чаму вы мяне не любіце?

Вера сумелася, не ведаючы, што сказаць.

— Гэта вам здалося.

— Не. Я — зыркастая.

— На гэты раз памыліліся.

— Хочаце, я сама адкажу на сваё пытанне? Бо вы не адну мяне не любіце. Помніце, я пыталася ў вас, ці кахаеце вы каго? Вы тады раззлаваліся на мяне. Падумалі: чаго я да вас прычапілася. А я хацела вас перасцерагчы, бо гэтая вашая любоў — вельмі дрэнны чалавек.

«Сапраўды зыркастая», — падумала Вера. Ёй раптам стала балюча, крыўдна за тую абразу, якую нанёс Рамір.

— Ён не дрэнны, а незразумелы.

— Ён, відаць, асляпіў вас альбо прыгажосцю, альбо размовамі, якія здаліся вам незвычайнымі. Я тады адчула, што вы пад чужым уплывам знаходзіцеся. І пад дрэнным уплывам. Хто ён?

Вера вымушана была расказаць пра Раміра, пра яго размовы. Не ўтаіла і тое, што адбылося сёння.

— А ведаеце чаму так атрымалася? — запытала Ліпанава. — Таму, што вы дрэнна ведаеце жыццё і, па-шчырасці, не надта стараецеся пазнаць яго. Вось вас захапілі незвычайныя размовы гэтага мастака. А калі вы задумаліся, дык самі зразумелі, што яны нічога, апрача шкоды, не могуць прынесці.

— Я ўжо задумвалася над гэтым, — прызналася Вера. — Быў у нас некалі ў вёсцы дзед Баўціль, богу маліўся, святым яго лічылі, дык ён гэтак жа, як і Рамір, гаварыў, а потым у вайну гітлераўцам праслужваў.

— Вось бачыце, Вера. Думкі ў вас правільныя. Тады чаму вы так да калгаснай моладзі паставіліся? Дружба з ёю можа толькі ўзбагаціць. А вы чамусьці цураецеся людзей...

— Гэта няпраўда. Я, напрыклад, паважаю, ну, гэтага, рахункавода, — Вера ніяк не магла ўспомніць, як яго прозвішча. Ліпанава ўсміхнулася.

— Лёньку Зайчыка? — запыталася яна. — У кожнага з іх многа цікавага, чыстага, шчырага. Трэба толькі прыгледзецца.

Яны злезлі з вішні, селі на лаўку. Вера сказала:

— Не тую я прафесію выбрала. Мала чаго тут цікавага.

— Зноў вы, Вера, не тое гаворыце. І прафесія ваша цікавая, і працаваць вы можаце. Помніце, Лёнька Зайчык пра ўзнёсласць працы гаварыў. Можа ён і не зусім правільна развагажаў, аднак жа надта цікава. Вы глядзіце на працу, як на непрыемную неабходнасць, а каб вы глянулі на яе як на патрэбнасць вашай душы, сэрца: Вы пастаўце

перад сабою якую-небудзь мэту. Чаго вы хочаце ў жыцці? Ды паспрабуйце дамагчыся таго сваімі сіламі. Якая гэта потым будзе радасць...

— Не ведаю, што за мэту паставіць можна?

— А вось тую, што калгаснікі перад сабой ставяць. Вунь Зіна Асташка добра ведае, што хоча ад жыцця. І я ведаю, і Лёнька, і Ніна Шумейка. Кожны чалавек ведае гэта і дамагаецца свайго.

— Усё гэта так, але мне цяжка працаваць, — адказала Вера.

— Калі цяжка — шукайце дапамогі. А вы ўсё хочаце самі зрабіць. Адзін у полі не воін. Вось жа сёння вы прышлі да мяне. А раней не хацелі.

— Цяпер я заўсёды буду да вас прыходзіць, — паабяцала Вера.

## V

Да Закружжа заставалася кіламетраў дзесяць. Час быў не позні, і Леў Раманавіч вырашыў не чакаць спадарожнага транспарту — пайсці пехатою. Да таго ж хацелася паглядзець родныя мясціны, па якіх не хадзіў ужо многа гадоў. З таго далёкага часу дарога стала куды лепшай. На прыцёртым пяску выразна відаць былі шырокія сляды аўтамабіляў і вузенькія, у елачку — веласіпедаў. Узышоўшы на ўзгорак, Леў Раманавіч спыніўся, каб паглядзець навокал. Усё здалося незнаёмым... Аднекуль з'явіўся ланцуг высокіх пагоркаў з вузкімі перамычкамі між імі. На пагорках рос густы сасновы хмызняк, на ніжэйшых мясцінах раскашаваў цёмна-зялёны ельнік уперамешку з бярозай. Леў Раманавіч успомніў, што некалі тут быў густы Струмецкі лес. Ад яго засталася толькі невялікая бародка калматых хвой ля самай рэчкі.

Дарога па-ранейшаму пятляла між пагоркаў, то апускалася ў невялічкія нізіны са слядамі былых рачулак, то паволі падымалася ўгору, каб потым зноў крута апусціцца на дно рова. Нарэшце, паказалася Закружжа — роўны, у струнку, рад новых хат з прысадамі. Леў Раманавіч дайшоў да сярэдзіны вёскі, звярнуў у бакавую вулачку, спыніўся ў нерашучасці. Недзе тут за Чорным ручаём павінна была стаяць хата Марыны. Але ручая не было відаць. Прайшоўшы яшчэ з паўсотню крокаў, Леў Раманавіч спыніўся на невялікім, камлюкоў на шэсць, мастку, які ляжаў ледзьве не на зямлі.

За мастком налева стаяла невялічкая хата з двума вокнамі на вуліцу. Ля яе рос клён, пад ім тулілася невялічкая лавачка.

З-за вугла хаты, што стаяла на другім баку вуліцы, нясмела выглянуў рыжы, вяснушчаты, як асеўкамі абсыпаны, хлапчук. Гулка шморгнуўшы кірпатым носам, ён прыклаў да вуснаў свісцёлку і даў доўгую руладу.

— Бач ты, музыкант які!.. — усміхнуўся Леў Раманавіч. — Хадзі сюды.

Хлопчык, падцягнуўшы штаны, нясмела ступіў некалькі крокаў насустрач.

— Гэта чыя хата? — паказаў Леў Раманавіч у бок клёну.

— Цёткі Марыны.

— Асташкі?



— Угу.

— Яна дома, не ведаеш?

— Не, нікога няма, — пасмялеў хлапчук. — На поплаве. А Зіна — на ферме.

— Дрэнная, брат, справа. А я да яе. Цябе як завуць?

— Валерка.

— Бач ты! А чый ты? Хто твой бацька?

— Іван Макарык.

— Пачакай, пачакай... Гэта ж які Іван Макарык? Не Цімохаў? Дзеда твайго як завуць?

— Дзед Цімох.

— Дык ты, брат, радня мне, вось як. Ну, падыдзі бліжэй. Дык гэта ж ты і сапраўды даводзішся мне траюрадным братам. Вось як!

Леў Раманавіч пачаставаў хлапчука цукеркамі. Той адразу запытаўся:

— Можа збегаць па цётку Марыну?

— Калі не лянуешся, збегай. Скажы ёй... А нарэшце не трэба... Скажы, што прыехаў да яе нейкі дзядзька. Зразумеў?

Хлапчук, не даслухаўшы, сарваўся з месца, як віхор, і паімчаў па вуліцы, падскокваючы і махаючы рукамі.

Леў Раманавіч адчыніў брамку, зайшоў на двор. Маленькі двор быў старанна падмецены. Леў Раманавіч абышоў яго, заглянуў у маленькі хляўчук, у прыбудоўку, нават у акно хаты і, зноў вышаўшы на вуліцу, сеў пад клёнам. Сонца прыпякала ніштавата. Але Леў Раманавіч не адчуваў яго гарачых праменняў: клён, дворык, увесь стары, хоць і абноўлены пасля вайны седас навяваў даўно забытыя падзеі.

Сонца ўсё ніжэй хілілася на захад. Даўжэлі, цямнелі цені. З-за прысад дыхнула свежым ветрам, сухім і духмяным. Недзе зарыпеў журавель. Над агародамі праляцела чародка шпакоў. Марыны ўсё яшчэ не было. Тады Леў Раманавіч зноў пайшоў на двор, без усялякай справы пахадзіў па ім, потым сеў на ссечаную калоду.

Стукнула брамка, і на двор узбегла дзяўчына. Яна спынілася, здзіўленая.

— Вы да нас? — запыталася яна, неяк уся падаўшыся наперад.

— Такі мабыць да вас, — Леў Раманавіч добразычліва ўсміхаўся. — Не, ты паглядзі толькі, як дзве кроплі вады, падобна на Марыну!.. Толькі вочы бацькавы.

Дзяўчына безразважна ірванулася наперад, потым нерашуча спынілася.

— Не пазнаеш? — запытаўся Леў Раманавіч, і яго натапыраныя шырокія бровы прыгладзіліся, ля вачэй збегліся маршчынкі. — Дзе ўжо табе, вось такой была.

— Дзядзька Лявон! — дзяўчына раптам збянтэжылася такой сваёй гарачнасці, сарамліва змоўкла.

— Пазнала... — Леў Раманавіч расставіў рукі, пайшоў насустрач дзяўчыне і, узяўшы яе за плечы, сказаў: — Ён самы — дзядзька Лявон.

Размова неяк не ладзілася. Леў Раманавіч і сам, расчулены сустрэчай, задаваў нейкія недарэчныя пытанні, на якія пляменніца адказвала коратка «так» ці «не». Лёд растаў, калі прышла маці. Марына ўвайшла ў хату, моцна прыціскаючы да грудзей рукі. Яна спынілася ля дзвярэй, моцная ўсхваляванасць спірала ёй дыханне, не давала

вымавіць слова. Па яе твары, дачасна зрэзаным маршчынамі, пабеглі два ручайкі слёз.

— Братка... — выдыхнула яна; ногі яе падкасіліся, але жанчына неймаверным намаганнем пераадолела слабасць, паспешліва, быццам баялася, што ўпадзе, кінулася да брата, прытулілася да яго грудзей.

— Годзе, годзе, Марына, — няёмка суцяшаў сястру Леў Раманавіч. — Вось жа бачыш: жывы, здаровы і. нават тоўсты.

Ён стараўся надаць голасу жартаўлівы тон, але яго самога душылі слёзы. Калі раней усё мінулае толькі прыпаміналася, дык цяпер яно было вельмі блізкім.

...Было гэта даўно. Леў Раманавіч быў тады яшчэ хлапчуком Лявонкам. Раніцай ён разам з бацькам і чарнявай, як галчанё, Марынкай паехаў на паплавы касіць сена. Быў вось такі ж гарачы дзень. Над поплавам сонна гулі авадні, пахла дзятлінай і чаборам. Лявонка то растрасаў траву ў пракосах, то забаўляў чатырохгадовую Марынку. Худы, з белым, як малако, тварам бацька, бясконца кашляючы, натужліва, праз сілу махаў касой. Раптам ён упаў на пракос, і з яго рота чорным цуркам пацякла кроў. Лявонка, які падбег да бацькі, скамянеў ад страху: бацька цяжка, з прысвістам дыхаў, так што пад зрэбнай кашуляй хадуном хадзілі вострыя лапаткі, і пасля кожнага ўздыху на зялёную траву выплёсквалася кроў, а вочы, жаласлівыя і шырокія ад страху, нешта ці то прасілі ў Лявонкі, ці то загадвалі. Гэты позірк паміраючага чалавека прыкаваў хлапчука да месца. Ён не мог саўладаць з сабой і апамятаўся толькі тады, калі ўбачыў побач з сабой Марынку. Яна трымалася за яго штаніну і моўчкі пазірала на бацьку, які біўся ў канвульсіях. Цяпер Лявонка адчуў сябе сталым, сарваў з галавы бацькі картуз, пабег да ракі, каб зачэрпнуць вады. Яшчэ на паўдарозе яго сустрэла Марынка. Яна абхапіла братавы ногі сваімі ручкамі так моцна, што Лявонка ледзь устаяў. Зазіраючы хлапчуку ў вочы, яна спалохана прашаптала:

— Я не хачу туды.

Бацька ляжаў на спіне, нейкі доўгі і жоўты, па твары яго паўзла муха, а ён глядзеў некуды ў неба застыглым, абыякавым позіркам.

І вось цяпер, калі да яго зноў прытулілася Марына, старое прыгадалася так яскрава, быццам усё было некалькі дзён назад. Ён гладзіў яе валасы, плечы і ўсё паўтараў:

— Ну, ну... Годзе, годзе.

Яны пацалаваліся тры разы, моцна сціскаючы адзін другога ў абдымках.

— Як добра, што ты прыехаў. Паглядзіш на наша жыццё.

Матка з дачкой замітусіліся. Марына ўвіхалася ля печы, распаліла на загнетцы агонь, нарэзала сала, збегала ў хлеў, прынесла яйкі, нацёрла тварог і ўвесь час расказвала пра сябе.

— Жывём не горай за другіх. Дзякуй, што памагаў. Хацёнку змудравала. Хацела большую ставіць, ды перадумала. Зіну ў горад хачу выправіць. Хопіць, што я руду ўсё жыццё тру. Паверыш, брацец, на руках іншы раз цыпкі бываюць. Няхай хоць яна ў чысціні пажыве, — і, выкарыстаўшы адсутнасць Зіны, па сакрэту, прыглушаным голасам дадала: — Каханак жа ўжо ёсць. Хлопцы ліпнуць. Скажу табе — баюся: выскача на малады розум замуж і хлебтане гора. А ты надоўга да нас?





— Калі прымеш, — надоўга.

— Можа на рабоце што здарылася?

— Думаю ў вас сваю навуку прымяніць. Як маркуеш: атрымаецца?

— Табе відней. Дык я пра Зіну. Не вельмі ж хоча ў горад ісці. За сяброўкамі гоніцца. Тыя застаюцца, і яна за кампанію. Кончыла школу, і не блага, а заяву дасюль нікуды не падавала.

Увайшла Зіна, хаваючы за спіной бутэльку. Марына паставіла на стол вячэру, папрасіла:

— Сядай за стол. Ты, Лявонка, вось сюды, а я тут сяду, а ты, Зіна, побач з дзядзькам.

Леў Раманавіч усміхаўся з таго, што Марына па-ранейшаму называе яго Лявонкам, хоць ён, па шчырасці, неяк адвык ад гэтага імя. Для Марыны ён заставаўся ўсё тым жа віхрастым хлапчуком.

Вячэралі і ўспаміналі мінулыя дні. Леў Раманавіч прыпамінаў таго-сяго з вясковых, але большасць з іх загінулі на фронце ці ў партызанах, многія засталіся недзе ў Літве, у заходніх абласцях Беларусі, куды былі выселены немцамі, і цяпер у вёсцы жыло многа новых людзей, якіх Леў Раманавіч не ведаў. Апусціліся змрокі, невыразныя, як здані. У хаце запалілі лямпу. Доўгія цені карабаціліся на сцяне, нязграбна варушачыся пры кожным руху.

Льву Раманавічу зрабілі пасцель на сене ў прыбудоўцы. Разварушанае ўспамінамі былое мроілася ў дзівосных снах: бязвавая прастрань палёў, акаймаваная на даляглядзе белаватай стужкай смугі; пагоня за бандытамі да поўнай знямогі; злосная немка — выкладчыца рабфака, якая крычала на яго за тое, што ён не мог перакласці слова

«Hundsrück»; доўгі Дзямід Пракуда — першы старшыня калгаса, што цягнуў яго з полымя, якое ахапіла калгасны хлеў. Раптам аднекуль з'явілася Лілія Нікадзімаўна, яго першая жонка, закрычала:

— Валерка, я табе, паршывец!

«З глузду з'ехала, — падумаў Леў Раманавіч. — Нашага сына завуць Вадзім».

Леў Раманавіч расплюшчыў вочы. Скрозь страху, пакрытую дранкай, там-сям прабіваліся вузкія палоскі сонца. На двары крычалі куры, недзе за сцяной рохкаў парсючок.

Марына канчала паліць у печы.

— Паспаў бы яшчэ, — сказала яна, хоць ёй вельмі хацелася пагаварыць з братам. Учарашняя размова была нейкай бесталковай.

— Хачу пахадзіць па палях, паглядзець. Як тут у вас паплавы?

— Пазнаеш. Трава толькі сёлета дрэнная.

— Вось я дзеля таго і прыехаў. Думаю ў вас адзін вопыт паставіць.

Марына прамаўчала, робячы сваё. Потым, калі селі за стол, запыталася:

— Адзін усё жывеш?

— Адзін.

— Дакуль жа так будзе? Гады ж бягуць.

— Бягуць...

— Жаніцца не збіраешся?

— Жанаты ж. Чакаю, хоць і ведаю, што дарэмна. Можа вернецца.

— Дзе ж яна цяпер?

— Пасля таго, як закончыла інстытут — ні аднаго пісьма. Хацеў шукаць, пасля падумаў: не варта.

— То можа да Ліліі Нікадзімаўны вяртаўся б. Усё стары друг лепей новых двух.

— Не, там кончана назаўсёды.

Праз якой паўгадзіны Леў Раманавіч вышаў з хаты.

* * *

Гэта была старая, прапрадзедамі вытаптаная дарога. Даўней, калі яшчэ дажывалі тут свой век аблыселыя дзяды і згорбленыя бабулі, што на ўласных плячах паспыталі смак паншчыны, хадзіў па людзях падобны на легенду расказ. Калі верыць яму, дык на ўсю прыпітамскую акругу жыў некалі драхлы, зялёны ад старасці дзед Запруда. Калі ён прышоў, калі паявіўся ў прыпітамскіх краях, ніхто дакладна не ведаў. Лічылі яго святым чалавекам, які даўно замаліў свае грахі і цяпер замольваў людскія. А грахоў у дзеда Запруды, паводле тых жа чутак, было шмат. Сек некалі Запруда праваслаўныя галовы па загаду самога Сценькі Разіна, бунтаваў манахаў на Салаўках, рабаваў купцоў на маскоўскіх гасцінцах, а потым уцёк ад царскай расправы на лясную рэчку Пітамку, невялікі, але па тых часах мнагаводны прыток Заходняй Дзвіны. Прынёс ён у лясную глухамань багатую казну, дыяменты і золата, схаваў іх і, можа па старасці, а можа знарок, забыўся, дзе.

Было дзеду пад паўтараста гадоў, калі землі прыпітамскага краю Кацярына Другая аддала пану Зубаву, нейкай задрыпанай радні апошняга свайго любоўніка. Новыя паны, што паяўляліся, адным росчыркам пяра ў кароткія хвіліны адпачынку сярод алькоўных уцех, былі гэткія ж ненажэрныя, як і любоўныя ласкі раздабрэўшай на рускім хлебе немкі-царыцы.

Пан Зубаў хацеў разбагацець за адзін дзень, як і яго больш шчаслівы родзіч, што аціраўся больш па інтымных пакоях царскага двара. Па яго загаду доўга каталі дзеда Запруду, каб выпытаць, дзе закапаны яго скарб. Але дзед маўчаў, сціснуўшы зубы, і толькі перад самай смерцю паказаў рукой у бок Балоння. Але як ні шукалі там скарб, — нічога не знайшлі.

Тады пан Зубаў прыдбаў у нейкага збяднелага нашчадка старапольскіх князёў паўтараста душ мужыкоў-уніятаў. У іх чатырохсотвёрсны маршрут, як апошняя сцежка да Галгофы, уваходзіла і гэтая дарога. Тады, праўда, дарогі не было. Навокал, падпіраючы хмарнае, слязлівае неба, стаяў непралазны лес, а Паграбішча было вялізным возерам з багністымі непрыступнымі берагамі. І толькі ўздоўж рэчкі Пітамкі ляжалі разложыстыя паплавы, а далей, там дзе пачынаўся бор — купкаватае, парослае верасам і мохам Балонне. Доўгі час Закружжа, так назвалі новую вёску прышлыя людзі, з навакольным светам звязвала звычайная лясная сцежка — вузкая, віхлястая, з мноствам кладак цераз ручаіны і дрыгвяністыя ўпадзіны. Зрэдку ў каламажцы прыязджаў у Закружжа панскі аканом. Прыязджаў адзін, а назад вёз на панскі двор для пацехі якую-небудзь чарнабровую закружскую красуню. Палівала дзеўка сцяжынку слязамі, і, здавалася, ніколі не высахне тая сцежка-віхлянка.

Пазней, калі сяляне крыху абжыліся, завялі па хлявах такую-сякую худобу, сцежка пашырэла, выпрасталася, перастала віхляць між хмызнякоў і выгарак — зрабілася добранаезджанай, выбітай мужыцкім горам дарогай.

Зімой закружскія мужыкі, выбраўшы самую завірушную ноч, ездзілі па ёй красці панскі лес. Толькі адна дарога і ведае, колькі было перавезена ў вёску стромкіх, гладкаствольх бярозак, цяжкіх дубовых камлёў, мяккіх, крохкіх асін, старых звонкіх елак ды сосен. Усё гэта вечарамі ў руках закружскіх майстроў ператваралася ў палазы, абады, балеі, цэбры, салонкі, лыжкі, у клёпку, прасніцы і проста забаўкі дзеля маленькіх дзяцей. Па той жа дарозе ўсё гэта адвозілася на кірмашы ў Віцебск, Янавічы, Сураж, Тадуліна, Пяцінку, а то і яшчэ далей аж за Усвяты.

Улетку па гэтай дарозе вазілі з паплавоў сена, мяккае, як воўна, жыта напалам з гірсой і мяцёлкай, а пад восень — дробную, але вельмі ўрадлівую бульбу.

Па гэтай жа дарозе ездзілі хрысціць дзяцей у паддубскую царкву, у мясаед са званочкамі і песнямі ехалі па ёй маладыя пад вянец, па ёй жа неслі чалавека ў апошні шлях на высокі бераг рэчкі, дзе нехта з першых пасяленцаў аблюбаваў сабе месца для райскага жыцця на тым свеце. Усё ў Закружжы было звязана з гэтай дарогай.

З пяці гадоў яшчэ кволымі дзіцячымі нагамі пачаў таптаць яе і Леў Раманавіч. Спачатку ганяў на выган свіней, робячы з імі два па-дарослаламу невялікія канцы на дзень. Потым, калі крыху падрос, ганяў на Балонне цэлы статак кароў, не сваіх, а чужых. Даводзілася рабіць ужо і па-дарослаламу далёкія чатыры канцы. Яшчэ пазней, застаўшыся без бацькі, нямала пахадзіў па гэтай дарозе з касой, граблямі, за возам, у дождж і ў спёку, халодны і галодны. У апошні час ішоў па ёй з цяжкой торбай за плячыма, — ішоў паступаць на рабфак.

Некалі гэтая дарога была скрозь у каляінах і выбоінах, а пасля навальнічных дажджоў то там, то тут перараззалі яе плыўкія ручаі мутнай, бурбалістай вады. Цяпер на гладкай роўнядзі зелянела мурава, прыцёртая ў адзін след коламі і збітая, запыленая конскімі капытамі.

Леў Раманавіч ішоў спакваля, стараючыся не толькі разгледзець, але адчуць, усвядоміць тыя перамены, што адбыліся за гады яго адсутнасці. Незаўважна для сябе ён спыніўся ля аблыселага курганка і доўга думаў, чаму спыніўся іменна тут. Памяць выцягнула на свет вельмі даўняе, незабыўнае. Некалі на гэтым курганку нябога-старац спяваў нудныя, жудасныя песні пра распусны, блудны Вавілон. Тады славуты горад уяўляўся маленькаму пастушку рагатым, агідным зверам.

За курганком ляжала вялікая імшара з альховымі, лазовымі і малінавымі кустамі. Увесну ў хмызняках да зморы спявалі салаўі. Улетку імшара абуджалася дзіцячымі галасамі: то закружскія хлапчукі і дзяўчынкі ласаваліся малінамі, чарніцамі і буякамі. Старыя бабкі ірвалі на імшары валяр'янавы корань і, настоіўшы яго на гарэлцы, пілі па чарцы тры разы на дзень.

Імшары цяпер не было. Роўнядзь зелянела ладнымі ўсходамі кукурузы. За палеткам ні з таго ні з сяго ўздымалася к небу залатастволая з парасонам цёмна-зялёных галінак сасна. Вочы непрывычна скіроўваліся ў далечыню, нават не хацелі затрымлівацца на сасне-прыгажуні, якая фарсіста выстаўлялася напаказ. Леў Раманавіч адразу ўспомніў, што там далей пачынаўся лес — Барок. Лес не існаваў болей. Таму так нязвычна было для вока. За Барком, — успамінаў Леў Раманавіч, — некалі быў вялікі роў. У рове над ручаём вісеў чорны абамшэлы камень.

Пра гэты камень расказвалі мноства казак, якія тады, у дзяцінстве, здаваліся праўдай. Адзін бачыў на камені белага баранчыка з залатымі рагамі, другі — на свае вушы чуў, як званілі пад каменем царкоўныя званы, трэці — наткнуўся аднойчы на старога дзеда, які, забаўляючыся, кідаў у ваду залатыя дукаты. А хто, як не Запруда, мог кідацца грашыма — яму яны дасталіся лёгка.

Льву Раманавічу раптам захацелася паглядзець той чорны камень, і ён збочыў на сцежку, якую наўпрост праз кукурузнае поле праклалі нейчыя несумленныя ногі. Калісьці ён пабіўся аб заклад на складаны ножык, што нацямку сходзіць і пасядзіць крыху на камені. І пайшоў, але не змог нават і блізка падысці да чорнай аграмадзіны. Пад каменем плюскацела вада, здавалася, дзед Запруда балбоча страшныя, незразумелыя праклёны. Успомніўся бяспалы Цярэшка, з бяльмістым вокам мужчына. На свае вушы хлапчукі чулі, як Цярэшка апавядаў пра чарцей, што жывуць пад чорным каменем. Аднаго разу ноччу ў люты мароз яны прывялі да каменя Цярэшку, пусцілі яму ў вочы чмур, быццам то гарачая печка, і, пакорны ім, бядак лёг спаць. І хоць бацька Льва Раманавіча запытаўся: колькі кварт гарэлкі перад гэтым выпіў Цярэшка, уражанне ад яго расказа засталося незвычайна вялікім. Так і перайшоў бацькаў сцізорык у чужыя рукі.

Па крутых схілах рова калісьці рос каржакаваты альшэўнік, тонкі, разгалісты арэшнік; то тут, то там узвышаліся калматыя яліны, абвешаныя варонінымі гнёздамі. Усё гэта было пераплецена хмелем, крушынай, калючым маліннікам, пахучым лясным парэчнікам, дзікай ружай, а знізу цягнулася да сонца лясная рута, цыбатая з бялесай шапкай дробненькіх кветачак валяр'яна, шыракалісты пырнік, высокі падгалісты балігалоў і яшчэ розная трава, — тонкая, крохкая, кволая.



За гады, што Леў Раманавіч жыў па вялікіх гарадах, буйныя дрэвы перавандравалі, відаць, у вёску; па-ранейшаму на схілах рос толькі хмызняк, але і ён значна парадзеў. Неяк адразу прапала ахвота глядзець на камень. Да яго можна было цяпер і не ісці: камень быў добра відзён адсюль.

За ровам пасвіўся статак кароў. Пастух, стары ўжо чалавек, згорблены і доўгі, хадзіў па ўзмежку, раз-по-раз згінаўся, быццам нешта шукаў. Было ў яго хадзе, ва ўсёй паставе штосьці добра знаёмае, але даўно забытае. Вось ён разагнуў спіну, выпрастаўся на ўвесь свой амаль сажнёвы рост, і тады Леў Раманавіч убачыў у яго руках снапок нейкіх траў-зёлак. Гэта адразу зацікавіла Льва Раманавіча. У горадзе ён спецыяльна хадзіў на рынак, каб пагаварыць з такімі вось нястомнымі шукальнікамі лекавых траў. У большасці гэта былі цікавыя людзі, дапытлівыя, верныя вартаўнікі народнай медыцыны. І вось яшчэ адзін. Хто ён?

Леў Раманавіч, чапляючыся за кусты, пачаў спускацца ўніз. Там на самым днішчы рова ледзьве прабіваўся між каменьчыкаў і чэзлай асакі малюсенькі ручай. Леў Раманавіч стаў адной нагой на левы, другой — на правы бераг, усміхнуўся. Прыгадалася былое, калі крыху ніжэй па плыні яны купаліся ў віры, што вымылі вясновыя воды. У тым віры кожны з іх хаваўся з галавой, і толькі аднаму Міколе Пракуду вір быў да барады. І тады адразу Леў Раманавіч успомніў, што за чалавек там на гары: безумоўна, гэта не хто іншы, як бацька Міколы, Дзямід Пракуда.

Ад каменя, як і раней, вілася па кручы вытаптаная з незапомных часоў сцяжынка. Некалі Леў Раманавіч узбіраўся на яе адным дыхам. Цяпер яна здалася надта доўгай: двойчы давялося адпачываць.

Калі ён падняўся на гару, дык на нейкае імгненне нават усумніўся: можа ўсё ж ён памыляецца. У тыя гады Дзямід Пракуда быў стройны, гнуткі, белатвары, а перад ім стаяў даволі стары чалавек, з бурым шрамам праз лоб і шчаку. Шрам хаваўся недзе ў густой шчаціне сівавасатай барады.

— Што, Лявон Раманавіч, цяжка пазнаць мяне? А вас я адразу пазнаў, як толькі вышлі з рова. Хоць таксама пастарэлі вельмі. У госці да нас завіталі? Відаць, родныя мясціны пад старасць не даюць спакою.

— Вось рашыў паглядзець, як жывяцё.

— На экскурсію, значыць. Жывем не дрэнна. Але хваліцца асабліва няма чым. Хацелася б лепей жыць. Толькі не мы тут вінаваты.

Падышоў падпасак Грышка. Прывітаўся. Леў Раманавіч па абрысах твару хлапца бачыў, што гэта нехта Макарыкавага роду. Але чый? Дзямід Пракуда падказаў:

— Гэта ж яшчэ радня нейкая вам, Цімохаў сын...

«Таго кірпатага Валеркі дзядзька», — падумаў Леў Раманавіч і яшчэ раз паглядзеў на Грышку. У яго твары ён не заўважыў чагонебудзь незвычайнага, але ва ўсёй яго постаці адчувалася штосьці хваравітае. І як толькі Грышка загаварыў, Леў Раманавіч зразумеў, што яго насцярожыла.

— Пастухом працуеце? — запытаўся ён у Грышкі.

Грышка ўсміхнуўся нейкай чужой усмешкай:

— Празаічнае мысленне — бяда ўсяго чалавецтва. Узнёслае і радаснае турбуе яго менш, як невялікае гора. Бачыце, навокал колькі

святла і паветра, — ён шырока развёў рукамі і яшчэ раз усміхнуўся, — і мне даручана загадваць ім. А пасьба — толькі непрыкметная нагрузка для разрадкі фізічных сіл чалавека, гэтага ўвасаблення гарманічных спалучэнняў святла і цяпла.

Дзямід маўкліва і вельмі сур'ёзна выслухаў Грышкавы сентэнцыі, а калі той выказаўся, папрасіў завярнуць кароў ад шкоды.

— Адзнака вайны, — растлумачыў Дзямід, як толькі Грышка пабег пераймаць кароў. — Мы з ім абодва мечаныя. Наляцелі аднаго разу карнікі. Яму прыкладам па галаве ўдарылі, а мне вось на твар пячатку прыклалі. Да вайны гэтым Грышкам бацькі нацешыцца не маглі. Да чаго разумны хлопец быў. Ды ён і цяпер не дурны. Каб вы паслухалі, як ён лічыць. Далібог, здзівіліся б. Скажаш яму: памнож, напрыклад, дзевяцьсот трыццаць сем на семсот дваццаць пяць, вокам не міргнеш — адказ гатовы. Нарабіла вайна праклятая. Рэдка і сям'ю такую знойдзеш, каб усё добра абышлося. Ды ці толькі людзей фашысты пакалечылі?! Паглядзіце вось — прырода пасля іх ніяк у сваю норму не ўвойдзе. Гэта ж некалі тут лясы, як звон, стаялі. Высеклі, вывезлі. Да вайны які краявід быў! Помню, прыязджаў аднаго разу да нас маскоўскі пісьменнік. Забыўся яго прозвішча, заўзяты такі паляўнічы, пра прыроду пісаў. Вось стаў ён на гэтым самым месцы, зняў саламяны капялюш, абапёрся на стрэльбу і доўга-доўга маўчаў. Потым кажа мне: «Я, Дзямід Сідаравіч, усю Расію аб'ездзіў, а нідзе яшчэ такой прыгажосці не бачыў. Нават ехаць адсюль не хочацца. Набудуем тут некалі санаторыяў. Будуць сюды прыязджаць людзі, лячыцца... Бо самы найлепшы лекар, прыгажосць прыроды». А цяпер вунь, бачыце, пагоркі лысеюць і як кінуць вокам адны кусты ды маладыя зараснікі. Калі дачакаешся таго лесу?

— Няўжо ўсё немцы высеклі?

— Усяго лесу не паспелі. Астатняе мы самі дабілі. Праўда, яго не так многа і заставалася.

— Дык як жа дазволілі? — абурыўся Леў Раманавіч.

— Эх, Лявон Раманавіч, хто б у той час не дазволіў... Ды тут кіламетраў на трыццаць ніводнай будыніны не засталося. Што ж, патвойму, удовам пад адкрытым небам трэба было жыць, — Дзямід непрыкметна перайшоў на ты. — Чытаў мне нядаўна Грышка кнігу. Спачатку я думаў, пра наш калгас напісана. Слухаеш і злуешся: ну як гэта столькі промахаў можна дапускаць?.. І тое не так, і гэта не гэтак. А пасля я сам сабе падумаў: здалёк ды ў цёмным пакойчыку і сабака ваўком здаецца. А ты хоць бы на нашу гаспадарку зірні. Сам, напэўна, помніш, як я пагарэў у дзевятнаццатым годзе. Дзесяць гадоў біўся, дзень і ноч, лета і зіму сам, жонка, дзеці працавалі, на нішчымніцы сядзеў, а так на ногі і не стаў. А тут увесь раён згарэў, ніводнай жывёлінкі не было. Бывала, прачнешся ў зямлянцы ды думаеш, хоць бы певень запеў ці сабака забрахаў. Ціха, як у магіле, А вось жа, бачыш, і хата ў кожнага ёсць, і хлеў, і жывуць нічога... Паглядзі на дзевак: у шаўках на сенакос ходзяць. Калі гэта было?! А цяпер зірні: хлявы ў калгасе пабудаваны, клуб — ёсць, статкі кароў, авечак... Дык што яно з неба звалілася? Прыгадаў я ўсё гэта і падумаў: глянуў той чалавек на свет злосным вокам. Канешне, калі я некалі не меў адных добрых штаноў, дык мне вельмі хацелася мець іх, а займеў адны, дык падавай другія. Я вось цяпер адну з табой гаворку ўспомніў. На першым часе, як толькі калгас арганізавалі, я тады за старшыню быў. Касілі мы з табой сена ў лучках. Я табе тады дужа прыгожае жыццё маляваў. А ты вось, напэўна, паглядзеў на мяне і падумаў: брэшаш ты, Дзямід.



— Гэта не падумаў, а што вы пастухом сталі, крыху здзівіла.

— Вось-вось... Заўважыў я, як ты мяне з ног да галавы аглядаў. Чырвонагвардзеец, першы калгасны старшыня і раптам — пастух. Ты толькі падумаў, а некаторыя, як наш Дземідзенка, не саромячыся, у вочы мне пра гэта кажуць. А толькі, брат, справа не ў тым, кім ты на зямлі лічышся, а ў тым, як ты жывеш і працуеш. Быў я некалі старшынёй, дык мне гаварылі: «Разумны вельмі языком працаваць, а ты на нашым месцы папрацуй, тады, можа, інакш запяеш». Не ўсе так казалі, але былі такія і найбольш з тых, каму не падабаліся мае размовы. Думалі, што я з-за партфеля за савецкую ўладу гарой стаю. А я і цяпер за яе вочы выдзеру. І калі б зноў жыць пачынаць, дык іншай дарогі не выбраў бы. Мне і цяпер гонар і слава. Вось нядаўна сам Сяльчонак уручыў імянны гадзіннік.

Дзямід выняў з кішэні прывязаны на ланцужку гадзіннік, адшпіліў яго, падаў Льву Раманавічу.

— Не, Дзямід ад сваёй праўды не адмовіцца, — сказаў ён, і Леў Раманавіч раптам успомніў адзін далёкі, да часу забыты вечар.

Паўзмрок у хаце. Чырвоныя водбліскі лучыны. Размаляваныя марозам вокны. Бацька, доўгі, з вострымі крыламі лапатак, якія тырчаць з-пад кашулі, майструе для кірмаша новы вазок. На падлозе мноства тонкіх, халодных стружак, якія маці падбірае і кладзе ў грубку. Вясёлае цяпельца ідзе ад агню. Калыска звешваецца са столі на доўгай вяроўчыне. Далёкі перабрэх сабак на вуліцы. Стук у сенцах. Клубы марознага паветра праз адчыненыя дзверы. Калі пара развеялася, Лявонка ўбачыў на парозе заснежаную чалавечую постаць. На ёй доўгае паліто з бліскучымі гузікамі, перавязанае папругай, і нейкая дзіўная вастраверхая шапка, якая закрывае ўвесь твар — відаць толькі вочы, нос і рот. Там, дзе павінен быць лоб, палымнее вялізная пяцікутная зорка. Лявонка ад страху замірае, бо маці толькі што прыгразіла яму дзедам Запрудай, які можа яго забраць, калі ён не захоча калыхаць сястру. Ён з усяе сілы штурхае калыску, каб дзед Запруда бачыў, што маці памыляецца: Лявонка не такі ўжо дрэнны сын. Ад моцных штуршкоў Марына прачынаецца, лемантуе на ўсю хату.

— Эх ты, герой... — гаворыць чалавек: — Дзіця выкінеш.

Ён стрымлівае калыску, а чалавек вітаецца:

— Добры вечар у хату. Лучыну палім?

— Няма газы, — гаворыць маці. — Праходзь, Дзямід, садзіся.

Ён пачынае разумець, што гэта і ёсць Дзямід Пракуда, які нядаўна вярнуўся з Чырвонай Арміі. Але чаму ён не ўвесь чырвоны, а толькі адна зорка? Яму вельмі хочацца запытацца пра гэта, і ён абавязкова запытае, але трэба гушкаць гэтае крыклівае малое, ад якога ўвесь дзень няма адхлання.

— Сабе вазок мудруеш?

— Сабе і на розвальнях добра. Гэта тым, хто багацей за нас жыве, — адказвае бацька, не пакідаючы стамескі.

— Так-так...

— Так — не так, аператакваць не выпадае.

— Адноператакнулі.

Лявонку незразумела тая гутарка, што вядуць старэйшыя, хоць ён стараецца не прапусціць ніводнага слова.

— Адваяваўся? — пытаецца бацька.

— Шыняля пакуль не скідаю.

— Замірыліся ж, кажуць? — устаўляе слова маці і бярэ на рукі Марынку.

Цяпер Лявонка вольны казак — рабі, што хочаш.

— Пачнем новае жыццё ладзіць, — адказвае Дзямід.

— Пакуль тое новае, — гаворыць бацька і прымайстроўвае да перадка выразаную з ліпавай дошкі рашотку.

— Думаеш, старое вернецца?

— Нашто яму варочацца. Само вырасце. Не паспееш аглянуцца, як тут будзе. Пані Залуцкую прагналі, дык, глядзіш, на яе месца Хведар Сапун лезе. Прамышляе, дзе б зямлі прыкупіць. Сваёй дваццаць дзесяцін, дык усё мала.

— Не купіць цяпер. Забаронена.

— Дзівак чалавек. За грошы ўсё можна купіць. Вунь Шумейчыха-ўдава ніяк не можа даць рады зямлі. Да яе, кажуць, падкідваўся. У долю лезе. А ці мала такіх, што зямля адолела. А ты кажаш...

— Чаго ж вы маўчыцё?

— Пагавары. А як хлеба да навіны не хопіць, куды папнешся? Зноў да Сапуна.

— Выходзіць, хоць саву аб пень, хоць пнём па саве.

— А ты як думаў...

— Не, браток, не за тое мы ваявалі, каб Сапунам вольна жылося, а вось за такіх, як ты, Шумейчыха, Асташкавы. Мацней нам трэба трымацца адзін за другога, тады і сам чорт не страшны будзе. Кажуць, што хаўрусам і пана лягчэй біць. Справіліся з Залуцкімі, дык і Сапунам дамо рады.

Тут Лявонка не вытрымаў, падышоў бліжэй і запытаўся:

— А чаму ты не чырвоны? Казалі, ты ўвесь чырвоны...

— У лазні, брат, адмыўся, — Дзямід прытуліў яго да сябе. — Вось, Раман, для іх мы жыццё заваявалі і на ногі яго паставім.

Прыгадалася ноч, хутчэй світанне той ночы. Тады ўжо бацькі не было. Яны ідуць з Дзямідам па шорсткаму, падмёрзламу за ноч снегу. Мігцяць зоркі. Цьмяна свеціць ветах. Хрусцяць пад нагамі тонкія шкельцы ільду, які пакрыў прataліны. З дахаў звісаюць доўгія ледзяжы капяжу. Пахне вясной. Абодва ўражаны і таму маўчаць. Толькі што закончыўся сход беднаты, і на ім чатырнаццаць сямействаў згадзіліся працаваць супольна. Арцель. Новае, непрывычнае слова. Такіх арцелей няма яшчэ ва ўсім раёне. Нарэшце Дзямід парушае маўчанне.

— Я вось іду і ўсё думаю, як заўтра ашалее Сапун. Рабочую сілу мы ў яго адабралі. Лета—бяжыць да Шумейкаў, Асташкаў, на жніво кліча. Касьба — да цябе, да Зайчыкаў. Малацьба — усіх збірае. І ніколі не спытаецца, а як у цябе: упраўка з работай ці не? І ідзеш, бо на прадвесні даводзіцца хлеб пазычаць. За трыццаць капеек увесь дзень без адпачынку жывот надрываеш.

— Ды яшчэ дзень за так працуеш, працэнты за тое, што гірсы пазычаў, адрабляць прыходзіцца.

— А калі ўсе ў арцель пойдуць — канец Сапуну. Што скажаш, не дарма ваявалі?!. Улада, брат, нашая...



І яшчэ ўспомніўся, але не вечар, а дзень. На выгане вылі Сапуновы нявесткі і дочкі, размазваючы па шчаках слёзы. Галасілі так, быццам адпраўляліся на той свет. Нецярпліва перабіралі нагамі сапуноўскія коні, не разумеючы, відаць, што апошні раз вязуць сваіх гаспадароў.

«Запалі, мама, свечку, выйдзі на сустрэчку», — раптам запеў вясельную песню п'яны Цярэшка. Некаторыя зарагаталі, на іх зашыкалі: няма чаго смяяцца. Тады ў Льва Раманавіча, помніцца, варухнулася сумненне, ці варта высяляць Сапуна? Няхай бы адабралі зямлю, жывёлу, але пакінулі жыць тут. Гэтай думкай ён і падзяліўся з Дзямідам. Той доўга глядзеў на яго, моцна сцяўшы зубы, увесь белы, як палатно.

— Думаеш, мне лёгка? Сасунок. Ды я, можа, з дарагой душой пакінуў бы яго тут, — і раптам грымнуў басам: — А хлеў арцельны хто спаліў? Шняк? Ды ён каб сто гадоў думаў, да гэтага не дадумаўся б. Не, брат, ваўку з авечкамі ў адным хляве не жыць. Запомні гэта. Жаласлівасць у цябе. А думаеш, у мяне няма яе? Але маё сэрца па бедных збалела. І па багатых яно балець не хоча. Кінуліся ў бой — шкадаваць няма чаго. Ды і не мы першыя той бой пачалі. Ясна?

Леў Раманавіч вярнуў гадзіннік. Дзямід схаваў яго.

— Сваёй работай я задаволены, толькі вось малака мала. Не ведаю, можа цяпер з кармамі палепшае, кукурузу сеяць пачынаем, а то, брат, бывае такая бяскорміца, жах адзін...

Гэта якраз было тое, пра што ўвесь час хацеў распачаць гаворку Леў Раманавіч. І ён адразу ж выкарыстаў гэта. Дзямід слухаў уважліва, не перапыняючы яго, не выказваючы ні адабрэння, ні сваёй нязгоды. Льву Раманавічу нават здалося, што Дзямід нічога не разумее. Ён пастараўся хутчэй закончыць.

— Замахнуўся ты на вялікае... — Дзямід дапытліва паглядзеў на Алексіча, быццам выпрабоўваючы, чаго той варты. — А не лёгка будзе. І вось, што я табе яшчэ скажу. Не ўсё адразу робіцца. Спачатку Балонне перaары, травамі засей, а пасля ўжо і за паплавы бярыся. Спакваля рабіць трэба. На ўсё і насення не хопіць. А на тое, каб Балонне засеяць, знойдзецца. Ёсць тут у мяне ўчастак...

— Дык жа самі ведаеце, што паплавы запушчаны. Чым паляпшаць такі луг, лягчэй пераараць яго ды канюшынай засеяць.

— Яно многа што лягчэй... Вось я зёлкі збіраю. Капануў я травы і ўбачыў, што не ўмеем мы імі карыстацца. Тут усё ёсць для чалавека. А з траў пчолы мёд бяруць. Таму мёд лякарства. Не будзе траў — не будзе і мёду. Поплаў ты не трывож пакуль. Не ведаю, як там навука кажа, а мне, здаецца, усё вельмі проста. Некалі ў кожным хляве за зіму вазоў дваццаць — пяцьдзесят гною набіралася. А цяпер вунь Даміра выдумаў кожны дзень у хляве падчышчаць, і ніякага гною. Ну, сеюць мінералку, але ж яна, кажуць, хутка раствараецца. А бывала, гной яшчэ на другі год на паплавы вымывала. Вось таму і трава на іх лепшай была. Ці можа не так я кажу?

— Доля праўды ёсць.

— Вось бачыш. Хочацца мне, каб нашыя кароўкі малака давалі паболей. Ды вось аднаму цяжкавата, стары, відаць, стаў і здароўе не тое.

— А заатэхнік у вас ёсць?

— Ёсць, дзяўчына з інстытута. Дарэчы, Алексіч таксама, Вера Антонаўна.

Леў Раманавіч адчуў, як у галаву ўдарыла гарачыня, — гэта ж яго апошняе каханне.

## VI

Даміру разбудзіў яркі прамень сонца, што пранік у свіран праз вузкую шчыліну ў падстрэшшы. Секануў па вачах і, як ні круціў старшыня галавой, — не адстаў, пакуль не раскрыліся цяжкія з пахмелля павекі.

Спачатку Даміра нічога не бачыў — аслеп ад сонца. Потым угледзеў у кутку падвешаную да бэлькі касу і адразу ўсё ўспомніў. Як падсмалены, ускочыў, грукнуў плячом у дзверы. Яны не паддаліся. Доўга біў кулакамі: цяжкія дзверы гудзелі ад удараў, але не адчыняліся. У роспачы сеў на перавернутую ўверх дном бочку і толькі ўспомніў, што ў свіран залез з-пад падлогі: не хацеў ісці ў хату па ключы.

Пад свіранам пахла прэллю. Перш чым вылезці, Даміра высунуў галаву, азірнуўся — ці бачыць хто. Вуліца пуставала. Абіўшы з каленяў зямлю, ён, не заходзячы ў хату, падыбаў да трох бяроз, дзе прызначаны быў збор. Яшчэ здалёк убачыў, што там, апрача дзеда Сілявея, нікога няма. «Падвялі, гады, — вылаяўся Даміра. — Гарэлку піць прышлі, а касіць — нікога. Я ж вас падыму, пачакайце мне...»

Ён не ішоў — бег. Нізенькі, з перабітым носам дзед збочыў, спалохаўшыся перакошанага злосцю Дамірававага твару. Каб паменшыць гнеў, паспачуваў:

— Ото ж людзі пайшлі, скажу я табе, Тарасавіч!.. Ну, як ёсць жывёліна няўдзячная: піць пілі, а цяпер хвастом накрыліся.

Даміра зыркануў вачыма, схапіў шворан, з усяе сілы пачаў біць па вагоннаму буферу. Сонную цішыню вёскі абудзіла звонкае блямканне. Дзед Сілявей затыкаў вушы, хаваў пляшывую галаву ў далонях. А Даміра ўсё біў ды біў па буферу, шэпчучы перасмяглымі вуснамі: «А вось жа разбуджу... Агоркне вам слухаць такую абедню...»

Хутка Даміра зусім аглух. Чуў толькі, як напаўняецца наваколле металічным звонам. Здавалася, усё прыціхла перад гэтым патрабавальным клічам.

Нехта разы са два тузануў Даміру за штаніну. Старшыня неахвотна азірнуўся, пашукаў вачыма таго, хто адважыўся перашкаджаць. Па-ранейшаму побач з ім быў толькі дзед Сілявей. Той глядзеў не мігаючы на Даміру ды раз-по-раз раскрываў рот, быццам выцягнуты на пясок мянтуз.

— Чаго табе? — крыкнуў Даміра і сам здзівіўся: уласны яго голас далятаў да вушэй аднекуль з падзямелля.

— Кінь, кажу, Тарасок, — запішчаў па-камарынаму дзед Сілявей. — Давай закурым лепей.

Абодва адышліся, селі на лавачцы, закурылі.

— Я табе, Тарасок, што скажу: бяры ты шворан ды не па бухверу гэтаму, а па загрыўку двух-трох стукні добранька — паглядзіш, пабягуць на паплавы. Разбандурыўся народ наш да чорцікаў. Ну, вось я да прыкладу: чалавек у гадах, праўнукаў дачакаўся. Па ўсіх правілах мог бы задам печку праціраць. А не хачу. Запытаешся: чаму? Зноў адказ дам — сумленне не дазваляе. Якога чорта ў цябе душа сялянская, калі ты, скажам, у сенакос за бабскую спадніцу трымаешся і ні на крок з хаты. Кажуць, мала атрымліваем на працадні. Дык адкуль жа яно будзе брацца?..



Даміра кінуў папяросу, рашуча ўстаў, паправіў салдацкую папругу.

— Вось што, дзед, пасядзі тут. Затрымлівай усіх. Скажаш, па майму загаду. Ясна?

— А ты куды?

— То не твайго розуму справа. Рабі тое, што загадана.

— Гэта мы можам. Толькі ж сумнавата аднаму будзе.

— Чакай, кіно прышлю, ці, можа, артыстаў лепш, — Даміра прыжмурыў і без таго заплыўшыя вочы. — Калі ты мне толькі з месца скранешся — душу дастану...

Дзед Сілявей кашлянуў у кулачок, потым, адводзячы ў бок вочы, папрасіў:

— Папяросачак бы мне падкінуў, а кіно ты і сам месяцы два ўжо не глядзеў.

Даміра вылаяўся, але папярос даў.

І зноў, прыгнуўшыся да лукі сядла, насіўся ён па Закружжу, забягаў у хаты, пагражаў, угаворваў. Блізка к снеданню Даміра сабраў чалавек пятнаццаць касцоў. Выстраіўшы іх у шарэнгу, ускінуў на пляча касу, пайшоў наперадзе, шырока расстаўляючы ногі, быццам баяўся, што вось-вось пакаўзнецца і ўпадзе. Ззаду, збіўшыся ў кучу, уразнабой тупалі хмурыя, заспаныя касцы.

Учора выпіўка не закончылася Дамiравым частаваннем. Прынеслі самагонкі, бражкі, і многія разышліся па хатах перад узыходам сонца. Якая ўжо тут касьба!

Яшчэ здалёк касцы ўбачылі на поплаве людзей. Мужчыны схамянуліся, прыўзнялі апушчаныя плечы, загаманілі:

— А ты, Даміра, баяўся. А тут — глянь!

— Косяць то яно косяць, ды і нас просяць.

— Камсамольцы косяць.

— А ты і рады!..

— Яму абы паспаць.

— Сапраўды, сорам нам.

— Не дым, вочы не выесць.

— Табе і дым нічога не зробіць. Прывык самагонку гнаць.

Першым у пракосе стаяў Лёнька Зайчык. Ён увішна махаў касой, прасякаючы ў траве шырокі чысты пракос. Следам за ім ішло яшчэ з дзесятак хлопцаў. Крыху далей касілі дзяўчаты: Ніна Шумейка, Ліда Раковіч, Зіна Асташка, Ева і нават настаўніца Наташа Кароткая. Як толькі мужчыны ўзышлі на поплаў, моладзь перастала касіць.

— А-а-а, паповы работнікі ідуць!.. — першай не вытрымала Ніна Шумейка.

— Чаго нам спяшацца, калі вы тут...

Дзяўчаты зашумелі, з хлапечай кампаніі нехта свіснуў у пальцы.

— Абібокі!..

— Лодыры...

— Ды мы вас у адзін мах абгонім.

— Знайшоў па сіле... Ты лепей з Дамахай Кузьмовай пазмагайся.

— А цю, ён пакуль дайшоў — замарыўся, пот цурком лье.

Мужчыны бачком абышлі камсамольскую брыгаду. Даміра быў рады. Папала ім — і добра... Няхай адчуюць. Калі крытыкавалі другіх, старшыня заўсёды задаволена ўсміхаўся.

Ён падышоў да рэчкі, абкасіў бераг і, пачаў валіць у пракос густую асакаватую траву. Хутка на поплаве чуўся толькі мерны посвіст кос.

Абсыхала раса на красках. Усё болей прыпякала сонца. Прападала ранішняя прахалода. Тым мацней нылі рукі і паясніца, салёна-горкі пот наплываў на вочы. Касцы даўно пашумлівалі, каб пайсці дадому, але Даміра адмоўчваўся, толькі злосна соп, калі няўмеру хто-небудзь пачынаў дакучаць з адпачынкам.

Не кідалі касіць і камсамольцы. Упарыліся, але не здаваліся. Няхай не думаюць, што ў моладзі мала сілы!..

Леў Раманавіч доўга глядзеў на руплівы людскі муравейнік. Пад яркім сонцам постаці касцоў былі асабліва добра відаць: маленькія, але ўвішныя і ўпартыя, яны нястомна махалі косамі, спыняліся на хвіліну, каб памянташыць іх, і зноў махалі, махалі...

І касцы даўно заўважылі Алексіча. Многія радасна ўздыхнулі: цяпер можна будзе адпачыць. Леў Раманавіч падышоў спачатку да моладзі. Узяў у пляменніцы касу, перавязаў вышэй мульніцу. Пракос у яго быў шырокі, удвая шырэй Зінінага. Усе глядзелі, як косіць сталічны вучоны.

Крокаў праз некалькі Леў Раманавіч адчуў, як моцна забілася сэрца, а па спіне паплылі ручайкі поту.

— Адвык, — прызнаўся ён, і ад гэтага прызнання, шчырага і непасрэднага, усе адчулі ў ім свайго чалавека.

Падышлі мужчыны. Кожны вітаўся за руку. Апошні падышоў Даміра.

— У госці да нас? Калі ласка, рады вучоным, тым болей, што яны рэдкія госці ў калгасах.

Усім зрабілася няёмка ад такой даміраўскай праматы. Выручыў дзед Сілявей. Ён увесь час таптаўся на месцы, не знаходзіў зручнага моманту, каб спрытней можна было ўлезці ў размову. А яму вельмі хацелася расказаць пра адзін даўні выпадак.

— Некалі з тваім бацькам, царства яму нябеснае, ехалі мы з Пяцінкі. Пад Пяцінкай тады славутыя кірмашы былі. Хто багацей, прыязджаў маліцца богу, ну, а такія, як мы — голь перакатная, вазілі туды тавар прадаваць: лыжкі фарбаваныя, калаўроты, свісцёлкі розныя. Склаліся мы, значыцца, купна, каб двух коней на ганяць. Хударуда прадалі тавар, выпілі з гора кварту гарэлкі на двух і не спяшаючыся едзем дамоў. Абвечарэлі ў дарозе, а тут яшчэ хмара насунулася. Цёмна, хоць вока выкалі. Я кажу: «Заначуем, Рамане, а то чаго добрага, яшчэ пярун заб'е». А твой бацька не згаджаецца. Вельмі яму дамоў хацелася. Дабраліся неяк да Сінюхі. У сухое лета яе куры ўброд пераходзілі, а то аж раве і маста няма — знясло. Пайшлі брод шукаць, толькі дзе яго знойдзеш, калі цемра непраглядная, а зверхуільё, як з пажарнай кішкі. Пачалі пераязджаць раку, перадок ударыў каня па нагах, ён і ўпаў у ваду. Як мы яго выцягнулі, самі не помнім. Садралі скуру, ды пехатою і прышлі дамоў. Вось тады Раман і захварэў на сухоты, прастыў вельмі. А людзі яшчэ выскаляліся, быццам мы абодва п'яныя былі, таму і каня страцілі.

Дык я чаму тое ўспомніў. Некалі так лічылі, калі бедны, дык абавязкова дурны і п'яніца. А мы вось якія вышлі. Нам толькі дай за



жыццё ўхапіцца. Хоць бы я, к слову сказаць, жабрак быў. Бывала, прывітаюся з багацейшым — не адкажа, а цяпер вунь сам таварыш Сяльчонак руку падае.

Мужчыны ўсміхаліся.

— Ну, ты, дзед, завёў шарманку, — не вытрымаў Даміра. — Госцю не цікава слухаць пра тое, што было.

— Нават вельмі цікава, — Леў Раманавіч па-сапраўднаму быў узрушаны. — У Закружжы мне ўсё дарагое. Таму і прыехаў сюды. Не ў госці, а каб жыццё лепш ладзіць. Паплавы хачу палепшыць. Канешне, без вас нічога не зробіш. А калі разам пачнем — многае дасягнем. Хіба вось гэта сена... Званец. Наедак з яго дрэнны. А канюшына тут расла б. Быў я сёння на Балонні: чорнагалоўка, зязюльчын лён, лаза ніцая — пустка.

— Балонне спрадвеку такое.

— Помню. Некалі балота было. Але на тое мы калгасы стварылі, каб лягчэй было зямлю пераўтвараць. Зямля квітнець павінна. Кожны кавалачак яе чалавеку мусіць служыць.

— Сілы няма.

— Людзей не хапае.

— Многія ў горад бягуць.

— Моладзь бяжыць.

— Старыя не адстаюць.

Леў Раманавіч перачакаў, пакуль надціх шум.

— Дзіўнага нічога няма, што ў горад бягуць. Помніцца, да вайны не вельмі ахвотна ішлі на будоўлі. Цікавага там было мала. Цэглу на спіне насілі. Работа сумная. А цяпер вось такая кірпаносая дзяўчынка — кранам кіруе. Цікава! Горад мяняецца.

— У нас, дарагі таварыш, таксама змены вялікія. Трактары, машыны, камбайны. Так што вы наконт нашай адсталасці памыляецеся, — Даміра шматзначна змоўк. Зноў наступіла няёмкае маўчанне. Усе чакалі, што адкажа Алексіч.

— Тэхнікі многа, гэта праўда. Але тэхніка пакуль не ўсюды. Вось дзяўчаты пайшлі на фермы. Чуў я, узяліся горача за работу. А пройдзе год — надоі не павялічацца, аднастайная праца абрыдне. Што тады будзе? Ад гэтага сена малака на ферме не прыбавіцца. А калі б мы далі каровам сена, канцэнтратаў, сіласу колькі хочаш, дык жа даяркі дабіліся б такіх поспехаў, што вы, таварыш Даміра, і не снілі.

— А я што казаў!.. — Лёнька Зайчык пераможна глянуў на Наташу Кароткую. — Гэтае самае. Патрэбны маштабы, і, наогул, моладзь на ўсё згодна.

Старэйшыя стрымана маўчалі, паглядалі на Даміру. Пад іх поглядамі Даміра рос, адчуваючы сваю перавагу над гэтым вучоным чалавекам. Урэшце, усё залежыць ад яго. Скажа, што ён згодны — і заўтра будуць пераараны паплавы. Не скажа — усё застанецца, як было. Даміру хацелася сказаць, што ён дае сваю згоду. У той жа час ён баяўся памыліцца. Ці мала ёсць людзей, якія любяць рабіць вопыты, хаваючыся за чужую спіну. Даміру выручыла Ева:

— Камсамольцы, канешне, згодны. Толькі, каб райком камсамола рашэнне прыняў.

Даміра падтрымаў Еву.

— Наконт паплавоў і я скажу: будзе рашэнне — не толькі паплавы,

а ўсё канюшынай засеем. Вось так. А пакуль работы ў нас хапае. Ну, пайшлі касіць. Адпачнулі і годзе. Ад размоў толку мала.

Ён першы пайшоў да свайго пракосу. Узяў касу, разы са два касянуў, потым пачаў мянташыць. Калгаснікі не разыходзіліся, стаялі каля Льва Раманавіча, збянтэжаныя нявеtлівым учынкам Даміры.

— Ты, Раманавіч, на яго не зважай, — дзед Сілявей першы адважыўся парушыць маўчанне. — Ён у нас чалавек зменлівы, як надвор'е ўвосень. Яго, як тую больку, кратаць нельга. Ды і то сказаць, давялося чалавеку пераважыць за пяцёх. І цяпер нясоладка. Людзі спачуваць не хочуць. А тое, пра што ты расказваў, палохае. Тут работы і без таго да самай суботы. Канюшына, вядома, справа прываблівая. Ну, а калі не ўправімся?

— Чаму мы не ўправімся? Ды моладзь на сябе ўсё возьме. Праўда, хлопцы? — Лёнька не доўга чакаў ад сяброў адказу. Усе загаманілі наперабой.

— Вядома.

— Узялі шэфства, дык ужо да канца.

— Правільна.

Лёнька, калі сціх шум, прадоўжыў:

— І Даміра астыне крыху, пагодзіцца. Калі ўсё пойдзе ладам ды жывёлагадоўля ўздымецца, яму ж першаму пашана будзе. І лаяць перастануць.

— Ды ён і цяпер толькі так, для выгляду. Не ведаеце вы яго, — Леў Раманавіч здзіўлена паглядаў на мажную постаць Ніны Шумейкі, якая гэтак горача абараняла Даміру.

— У кожнага чалавека свой характар, — сказаў ён, — толькі адзін умее ім кіраваць, а другі не. А вось у вас, моладзь, наш характар. Адчуваю, што з вамі мы так крута павернем справу — дзівіцца навокал будуць. Пройдзе год, і вось у такую пару на месцы купкаватага Балоння будзе прасціраццa зялёны дыван з яркіх ружовых кветак канюшыны. І не косамі будуць касіць траву, а машынамі. Ды не адзін, а два ўкосы можна будзе рабіць. Тады ўжо не па тысячы літраў малака можна будзе надойваць ад каровы, а па чатыры-пяць тысяч...

Алексіч бачыў, што позіркі, дасюль скіраваныя на яго, раптам скіраваліся ўбок. Прадаўжаючы гаварыць, ён павярнуў галаву і тады ўбачыў Веру Алексіч — сваю другую жонку. Яна ішла павольна, апусціўшы галаву, згорбіўшы плечы, быццам несла які цяжар. Леў Раманавіч не разумеў, чаму ўсе з такой цікаўнасцю паглядаюць на Веру. Раптам ён пачуў, як за спіной дзявочы голас сказаў:

— І не сорам ёй вачэй паказваць.

Лёнька сыкнуў:

— Самім сорамна. Напалі на чалавека.

Не дайшоўшы некалькі крокаў да касцоў, Вера спынілася. Яе сінія вочы здзіўлена і збянтэжана пазіралі на Льва Раманавіча. Адкуль ён паявіўся? Няёмкае маўчанне зацягвалася. Леў Раманавіч бачыў насцярожаныя позіркі сваіх аднавяскоўцаў, разгубленасць Веры.

— Добры дзень, Вера Антонаўна, — сказаў ён. — Чаму не вітаешся са сваім былым настаўнікам? Я, ці бачыце, выкладаў у інстытуце адзін час, і Вера Антонаўна была маёй студэнткай.

Сінія вочы сказалі вучонаму, што іх гаспадыня ўдзячна яму.



— А мы тут надумалі паплавы на свой лад перайначваць. Вы некалі захапляліся праблемай кармоў.

Сухі язык не слухаўся Веры. Голас прапаў. Толькі ў галаве віхурыліся думкі. «Чаму ён прыехаў?»

## VII

Перад світаннем наляцела навальніца. Буйны цёплы дождж змыў шызаваты пыл. Адразу ўсё павесялела і, як толькі ўзышло сонца, над зямлёй закурэла блакітнаватым дымам пара.

Сяльчонак прачнуўся ад першых удараў грому. Ляжаў на спіне, слухаў, як звоняць дажджавыя кроплі па шыбах. Побач соладка спала жонка. Напоўраскрытыя паўнаватыя вусны ўсміхаліся ў сне той прываблівай усмешкай, якая некалі растапіла яго сэрца. Маленькая сіваватая пасмачка, аддзяліўшыся ад чорных падвітых валасоў, какетліва ляжала на белым ілбе, ужо збараджоным зморшчынамі. Сяльчонак адкінуў гэтую пасмачку, жонка спрасонку паварушыла вуснамі, відаць, адчуўшы яго ласку. Хацелася пацалаваць у вусны, але пабаяўся разбудзіць яе. Няхай спіць. Сам Сяльчонак не любіў спаць позна. Падымаўся на золаку нават тады, калі не было асаблівай работы.

Некалькі гадоў назад яму даводзілася не соладка. Кожны раз заседжваўся ў райкоме да трох, а то і да чатырох гадзін ночы. Іншыя потым спалі да паўдня, а ён не мог. Роўна ў дзевяць прыходзіў у райком, а ўставаў яшчэ раней, з цяжкасцю выкройваючы якіх-небудзь тры гадзіны, каб паспаць.

Цяпер настаці іншыя часы. Прыходзіў з райкома, чытаў, а то і проста адпачываў на мяккай канапе. Хоць, шчыра кажучы, сапраўднага адпачынку не было: не мог пазбавіцца клапатлівых ліпнучых думак. Ім не было ніякай справы да таго, што зморany, што глядзіш кіно або чытаеш кнігу. Лезлі і лезлі сляпіцай у галаву. Хто і калі ўлічыць гэтую нябачную работу думак? Чым і як можна вымераць яе? А вельмі часта іменна вось у такія гадзіны адзінокіх роздумаў вырашаліся вялікія справы.

Сяльчонак асцярожна вылез з-пад коўдры, вышаўшы ў калідор, зрабіў некалькі нескладаных гімнастычных практыкаванняў. Як і ранні пад'ём, гімнастыка была старой армейскай прывычкай.

На маленькім дворыку пахла вільгаццю. Акуратна праполатыя градкі лапушыліся густым бацвіннем радыса, далікатнымі лапкамі морквы, густым гурочнікам і доўгім пер'ем цыбулі. Сяльчонак сеў на лавачцы, падставіў пад сонца твар. Кволыя ранішнія праменні прыемна лашчылі яго. З-пад апушчаных павек Сяльчонакназіраў, як прачынаўся гарадок. З жалезнага коміну электрастанцыі марудліва падымаўся ў празрыстае неба шызаваты дым. Хутка па правадах пабяжыць электраток, і тады загудуць станкі ў МТС, пачнуць працаваць машыны ў швейнай арцелі, з віскам будзе ўгрызацца цыркулярка ў сасну. Усё гэта маленькія прадпрыемствы, пра якія не гавораць на вялікіх нарадах. Але ў кожным з іх пульсуе, трапеча жыццё. Людзі выконваюць планы, дамагаюцца нечага свайго, можа і незначнага, але вартага. Потым думкі сакратара пабеглі далей, на прастор калгасных палёў.

«Добра як! Яравыя паправяцца, — думаў Сяльчонак. — Трава такса-ма. Такая падсада пойдзе! Каб можна было б яшчэ з тыдзень пачакаць. Толькі не. Тады не ўправімся, зноў не скошаныя застануцца паплавы. Трэба пачынаць зараз жа.

Сяльчонка каторы ўжо год запар непакоіла думка з кармамі. Здавалася б, дзе, як не ў іхнім раёне, павінна было хапаць кармоў. Іх паплавы і сухадолы славіліся на ўсю рэспубліку. Але неяк здаралася, што сена не хапала. Збіралі нарады, заслухоўвалі людзей на бюро, вышуквалі мноства прычын, накшталт тых, што, маўляў, вырасла пагалоўе, што не спрыяе прырода і таму паплавы не даюць вялікіх ураджаяў, — але сена ад таго не прыбаўлялася.

Позірк Сяльчонка спыніўся на разлапістай яблыні. Высока, на самай верхавіне, залацілася павуцінне. Прадаўжаючы думаць пра паплавы, Сяльчонак сходзіў у хлявок, насыпаў у марлевую анучку дусту, навязаў мяшочак на доўгую палку, асцярожна пачаў апыляць заражаныя вусенямі сучкі.

«Абавязкова заглляну ў сады. Каб часам не забылі апылкаваць. Колькі тых садоў... За вайну, ды і пасля нямала было загублена яблынь, ігруш, вішань, сліў. Некалі сюды прыязджалі па садавіну з Масквы і Ленінграда, а цяпер не хапае самім. Вось бы насадзіць у кожным калгасе сады!.. Хоць бы гектараў па дзесяць. Ды завесці пчол... Чаму нельга?.. Можна ўсё зрабіць. Трэба толькі як след узяцца за гэта».

Сяльчонак у думках спрачаўся са Старыковічам, старшынёй райвыканкома. На кожную новую прапанову сакратара райкома Старыковіч знаходзіў сотні розных прычын, якія зводзілі на нішто прапановы Сяльчонка.

— Ты, Сяргей Паўлавіч, напалеонаўскімі маштабамі ўсё мераеш,— казаў звычайна Старыковіч. — Ну, возьмемся мы садзіць сады... Людзей ад асноўнага занятку адцягнем. За сады, братка мой, нешта я не чуў, каб здымалі з работы. А вось калі з сяўбой альбо з уборкай бульбы правалімся — песенька наша будзе спета.

І ён пратэставаў, нават ездзіў у вобласць, скардзіўся. З работамі і сапраўды была няўпраўка, мусіць таму Старыковіч перамагаў. Сады садзілі. Але як?.. Не было такога размаху, які заўсёды ўяўляўся Сяльчонку.

«Трэба нешта новае прыдумаць, — думаў Сяльчонак. — Вялікія справы выклікаюць вялікі энтузіязм. А мы топчамся на адным месцы. Сумна і нецікава. Людзі працуюць з неабходнасці, а не па закліку сэрца. Мы павінны падымаць, натхняць, захапляць людзей навізной і грандыёзнасцю задач. Тады знойдуцца энтузіясты. Не, таварыш Старыковіч, вялікія справы павялічваюць сілы, а не памяншаюць іх. Усё залежыць ад людзей!»

Ад думак Сяльчонка адарваў гулкі перастук калёс па бруку. Сакратар раптам убачыў, як па вуліцы, сцёбаючы каня, праехаў Даміра. Седзячы ў перадку, Даміра раз-по-раз кратаў лейцы і злосна махаў пугай над конскай спіной.

Конь, Даміра і ўся фурманка хутка схаваліся за паваротам. Толькі тады Сяльчонак успомніў, што выклікаў сёння Даміру ў райком. Артыкул у газеце настроіў сакратара ваяўніча. Хопіць. Ці ж можна далей цярпець такое?!

У прыёмнай ужо сядзела чалавек сем наведвальнікаў. Сяльчонак прывітаўся з усімі, прайшоў у кабінет. Следам за ім у вузкія дзверы бачком праціснуўся старшыня райспажыўсаюза. Сяльчонак усміхнуўся: яму наперад было вядома, чаму так рана заявіўся Макарык. Заўсёды, калі на базу прысылалі які-небудзь дэфіцытны тавар, Макарык прыходзіў за ўказаннямі.



— Тавар прыбыў? — запытаўся сакратар, сядаючы ў крэсла.

— Так точна, дываны. І танныя...— ён на дыбачках падбег да стала, спыніўся, выцягнуў рукі па швах. — Так што, можна падкінуць. Алена Васільеўна, я чуў, даўно хацела набыць дыванок. Расфарбовачка — першы гатунак!.. Сам адбіраў.

— Добра. Колькі штук прыслалі? Дваццаць? Накіруеш у сельмаг. Усе дваццаць.

— Сяргей Паўлавіч, таварыш Старыковіч прасіў яму два дываны прысладь...

— Усе дваццаць накіруеш у сельмаг. Што яшчэ?

Макарык патупаў на месцы, вышаў. Адразу ж зайшоў дырэктар прамкамбіната, за ім — Маленчанка.

У кожнага былі свае неадкладныя справы. Вырашаючы іх, Сяльчонак забыўся пра Даміру. Той напомніў пра сябе сам. Спачатку ў кабінет прасунулася ўскудлачаная галава, потым ужо ўся яго квадратная, няўклюдная постаць. Выгляд у Даміры быў хваравіты. Нябрыты твар асунуўся, пад вачыма чарнелі кругі. Да крэсла ён ішоў хісткай, знямоманай хадою. Цяжка сеў, тужліва паглядзеў на Сяльчонка.

«Спагады шукае, — злосна падумаў сакратар. — Не, брат, паблажкі не будзе».

— Не надоўга хапіла цябе, Даміра. Думаў я — сумленны ты чалавек, ды, відаць, памыліўся...

— Здымайце, — выдыхнуў Даміра. — Мне цяпер усё роўна.

— А вось мне не ўсё роўна. Чалавека шкада. А вызваляць давядзецца. Толькі не мы, а людзі няхай вырашаюць. Эх, Даміра, Даміра!..

Даміра сядзеў, апусціўшы галаву, маўчаў. Потым падняўся.

— А вы, Сяргей Паўлавіч, ніколі не памыляліся? Я так вам скажу: правільна вы робіце, а вось каб вы ў душу маю заглянулі...

— Ды ты і сам у яе не заглядаеш... Памыліўся я...

— Можа і не памыліліся. Жызня мяне заела. Круціць, як вецер млын, супынку няма.

— На жыццё дарэмна крыўдуеш. Некалі сам яго каваў.

— А вось цяпер пад молат трапіў. Я, канешне, вінаваты перад вамі. У апошні раз прашу, загадайце мне што-небудзь такое, каб я вам мог сваю адданасць давесці.

— А перад калгаснікамі?

— І перад імі, але ў меншай меры.

— Нічога тады ты не зразумеў. Збярэм сход, людзей паслухаем...

— Што там слухаць: ім што скажуць, так яны і зробяць.

Сяльчонак злосна кашлянуў. На скронях у яго ўздуліся сінія жылы.

— Сход рыхтуй,— адрэзаў ён коратка, нібы падаючы каманду.— Але работу не ўздумай кідаць... Паглядзім, што калгаснікі зробяць, і без нашага ўказання.

Даміра патупаў на месцы, не хацелася ісці. На сэрцы было горка. «А можа дарэмна не сказаў, што жонка пры смерці», — і тут жа адагнаў здрадлівую думку: на каленях Даміра не стаяў...

Ён вышаў. У прыёмнай сядзеў Алексіч. Даміра абыякава глянуў на яго, падумаў: «Няхай цяпер хоць усе паплавы пераарупь. Што мне да таго...»

Ускочыўшы на калёсы, ён некалькі разоў моцна выцяў каня. Той адразу ірвануў галопам. Толькі за горадам конь сцішыў бег. Гаспадар болей не паганяў яго, сядзеў, бяздумна пазіраючы навокал, і не заўважаў, як цяклі па шчоках слёзы.

Сяльчонак праз акно бачыў, як Даміра выбег на двор, як пагнаў каня. «Пакутуе, — падумаў ён і тут жа абарваў сябе. — Няхай, можа чалавекам стане». Але рашучая думка не адагнала спагадлівасці. Падабаўся яму Даміра сваёй няўрымслівасцю, праматой і яшчэ нечым такім, што гарнула да шчырай мужчынскай дружбы.

— Да вас можна? — пачуў ён незнаёмы голас.

У кабінет уваходзіў Леў Раманавіч.

— Маё прозвішча Алексіч. Кандыдат навук.

— Сядайце.

Яны селі.

— Я, уласна кажучы, прыехаў сюды ў госці. Сам я з «Маяка», з былога Закружжа. Ну, не зусім у госці, але раз паявіўся ў родных мясцінах, дык, значыць, госць.

Сяльчонак дастаў з шуфлядкі цукерку, паклаў у рот.

— Адвыкаю курыць, — растлумачыў ён. — І вось ніяк не магу. Надоўга да нас?

— Як вам сказаць. Пэўна, надоўга. Ад вас многае залежыць.

— Калі ад нас, тады пастараемся затрымаць вас. Вучоныя нам патрэбны.

— Пачну я здалёк. Шмат гадоў назад з адной падзвінскай вёскі пайшоў у горад хлапчук...

— Вы?

— Можа і я. Ішоў вучыцца. Думаў, набярэцца розуму і хутка вернецца назад, каб памагаць людзям. Маладосць, ведаеце, нецярплівая. Ёй усё спяшацца... А жыццё ідзе сваім парадкам. Пасівелі ў хлапчука скроні, пакуль сабраўся ён у дарогу назад. Вярнуўся і пачаў сумнявацца, можа яго планы і задумы — проста юначая летуценнасць. Можа і сапраўды рана брацца за тое, што так хвалюе яго. Прабачце, я расказваю доўга і нецікава...

— Чаму?.. Цікава. Лёс гэтага хлапчука падобны на мой уласны.

— Гэта вельмі прыемна. Тады дазвольце яшчэ раз пазнаёміцца: той хлапчук — я. Я, уласна, наконт сенажацей нашых. З імі звязана ўсё маё маленства. Некалі я ганяў у поле скаціну і вельмі палюбіў паплавы. Мне здавалася тады, што замах на паплавы — самы найцяжэйшы грэх. І вось я прышоў цяпер да вас з просьбай — памагчы мне знішчыць паплавы. Так-так, знішчыць, каб пасля, падобна птушцы фенікс, яны ўваскрэслі зноў. Карацей кажучы, у мяне ёсць план карэннага палепшання паплавоў. І калі вы хоць крыху зацікаўлены ў гэтым, бяруся расказаць вам пра яго.

Леў Раманавіч адкінуўся на спінку крэсла, дапытліва паглядзеў на Сяльчонка. Той, адчыніўшы шуфляду, шукаў нешта сярод папер. Потым, выцягнуўшы адну з іх, паклаў перад сабой.

— Прадаўжайце, — папрасіў ён.



Леў Раманавіч абвёў вачыма кабінет, спыніў свой позірк на плане, што вісеў на сцяне. Устаўшы, узяў аловак, падышоў да плана.

— Калісьці я марыў пра тое, калі вярнуся ў сваё роднае Закружжа і пачну пошукі таго скарбу, што схаваў дзед Запруда. Знайду яго і аддам людзям. Крыху пазней, ужо на рабфаку, я зразумеў, што ніякага скарбу няма. Тады я пачаў марыць пра тое, як пачну шукаць карысныя выкапні, знайду іх, і стане маё Закружжа славутым на ўвесь свет. Лёс, аднак, зычыў мне нешта іншае: я паступіў у сельскагаспадарчую акадэмію. Здавалася, прышоў канец хлапечым марам. Які з заатэхніка геолаг! Але летуценнасць не пакідала мяне. Аднойчы пачутая легенда пра Запруду і яго золата — не давала мне спакою. З думкай пра скарб прайшоў я ўсю вайну. Пасталеў, як і ўсе мы за гэты час. Зноў, здавалася, канец юначым марам. Аж не. І вось тады я сказаў сабе: а скарб усё ж ёсць. Я знайду яго. І ён сапраўды ў нашых руках. Гэта нашы паплавы.

Я хадзіў па іх і думаў, што яны і ёсць той найцудоўнейшы скарб, на які ўказаў людзям Запруда перад сваёй смерцю. Ляжыць гэты скарб некрануты. Не заўважаючы таго, мы бярэм з яго толькі невялічкія часцінкі, што паяўляюцца на паверхні. А людзям патрэбны ўвесь скарб. Варта працягнуць рукі, і ён будзе ў людзей. Але аднаму чалавеку ён недаступны. Яго могуць здабыць не адзіночкі, а — калектыў. Вось таму я і прышоў да вас. Мне здаецца, што вам і трэба ўскалыхнуць людзей на пошукі гэтага скарбу.

Леў Раманавіч забыўся, дзе ён. Словы ліліся плаўна і лёгка. Здавалася, перад ім сядзіць цэлая аўдыторыя дапытлівых, цікаўных людзей. Вось яны зараз падымуцца і рушаць за ім. Змоўкнуўшы, ён убачыў Сяльчонка. Той загадкава ўсміхаўся.

— Прабачце, — сказаў ён, — я вельмі захапіўся.

— Кажуць, што выпадковасць дрэнны слуга, але няхай часцей здараюцца вось такія выпадковасці, — Сяльчонак падышоў да Льва Рамановіча, узяў яго руку, моцна паціснуў яе. — Я толькі сёння думаў пра паплавы. Я не ведаю яшчэ канкрэтнага плана, але мне здаецца, што ён у вас ёсць, і ажыццяўленне яго паможа нам вырашыць тую праблему, якая ўжо наспела.

Узяўшы Алексіча пад руку, Сяльчонак падвёў яго да стала.

— Возьмем канкрэтны прыклад: зону Закружскай МТС. Пяцьсот гектараў паплавоў дадуць сёлета шэсць тысяч цэнтнераў сена. Чатырыста гектараў сухадольных сенажацяў дададуць яшчэ тры тысячы. З Балоння, імшараў і балот, якіх амаль столькі, колькі паплавоў і сухадолу, калгасы атрымаюць трэцегатунковага корму яшчэ тысячы чатыры цэнтнераў. Усяго пятнаццаць тысяч. На тысячу кароў, паўтысячы коней і паўтары тысячы авечак — гэта мала. А далей глядзіце, што атрымліваецца. Каб сабраць гэтае сена, мы павінны выставіць сотні касцоў, бо касілкі ўсюды не пусціш. Ад такога сена надоі малыя, і вынік — літр малака ў нас каштуе чатыры рублі. А калі б мы маглі ўдвая павялічыць пагалоўе ды ўдвая павялічыць надоі, дык тады літр малака каштаваў бы пяцьдзесят капеек. Сапраўды, залаты скарб... Чатыры гады я ў раёне, а вось не чуў пра Запруду. Усім цікавіўся, толькі не легендамі. А яны аказаліся самай звычайнай явай. Прабачце, я перапыніў вас, але гэта толькі пацвердзіла вам, як зацікаўлены я ў вырашэнні той задачы, якую надумалі ажыццявіць вы. Дарэчы, пачакайце... Што я слухаю

адзін!.. Зараз паклічам таварышаў, раскажыце ім усё так, як і мне. Няхай паслухаюць.

Сяльчонак паклікаў сакратарку. Увайшла круглатварая маладзенькая дзяўчына, спынілася ля парога, чакаючы загаду.

Леў Раманавіч папрасіў:

— Што вы, я не рыхтаваўся.

— Нічога. Так нават лепей. Вось што, Аня, выклікайце членаў бюро. Ліпанаву таксама. Каму-каму, а ёй работы будзе. — А калі сакратарка пайшла, растлумачыў: — Будзем арыентавацца на моладзь. Яе лягчэй запаліць на такую справу. Камсамол, дарэчы, узяў шэфства над жывёлагадоўляй. А тут і рамантыка, асаблівa, калі паслухаеш вас.

## VIII

Ніна адкрыла вочы і адразу аслепла. Следам адрывіста і суха трэснуў гром. Потым наступіла цішыня. Чулася толькі, як за сцяной лапочуць аб капусныя лісты спорныя дажджавыя кроплі ды ў кутку шэпча малітву бабуля. Затым маланка зноў асвяціла хату сіне-белым святлом. З цемрачы на імгненне выніклі стол, шафа, распластаная на падлозе чалавечая постаць, ды зноў усё знікла.

— Бабуля! — крыкнула Ніна ў цемру. — Хадзі сюды...

— Страхоцце, не давядзі бог!.. А ты спіш... — бабульчына постаць засланіла шэры квадрат акна. — Баюся, Ніначка, вельмі. Даўным-даўно, яшчэ я ў дзеўках гуляла, наваражыла мне цыганка па лініях рукі раптоўную смерць ад нябеснага агню. І вось, як бліcне з хмары, дык уся калачуся: няйначай, думаю, Ілья-прарок у мяне цэліцца.

— Такога паляўнічага даўно трэба з работы зняць...

— А табе ўсе кпіны... Аднаго разу вось настолечкі ад смерці была. Узнялася неяк навальніца — свету белага не відаць... Адно маланкі свішчуць, ды пяруны б'юць. Я тады за парабчанку ў Сапуна служыла. Сабраліся мы ў каморцы за печчу, зубамі ляскаем. Раптам увярваўся гаспадар: «Варка, нягодніца, чаму дзверы ў пуні наросхліст пакінула? Зараз жа зачыні, а то вецер паломіць». Скаваў мяне страх, не магу з месца скрануцца. Прашуся: «Дзядзечка, баюся я на вуліцу высці». Толькі ў Сапуна не адпросішся. Бывала, як задумае што, хоць кол у яго на галаве чашы, — не адступіць. Кінулася я на двор. Як дабегла да пуні, не помню. Толькі ўзялася за дзверы аж перад вачыма як бліскане зялёны агонь... Запахла смаляным... А далей цёмна зрабілася. Апрытомнела, гляджу, сонца свеціць, я ў зямлю па грудзі закапаная ляжу і ў галаве маёй званы звоняць. Думала, на тым свеце апынулася. Страх мяне калоціць: раз закапана ў зямлю — значыць, у пекла трапіла, а за якія грэх не ўспомню. Толькі раптам вочы мае ўгледзелі пуню і тры бярозы пры ёй. Адна бяроза зверху да нізу абсмалена і да самага нізу надвое расшчэплена. Тут я ўсё прыпомніла і заплакала. З таго часу і баюся грому.

Нехта моцна загрукаў у дзверы. Бабка здрыганулася, палезла пад коўдру, шэпчучы.

Ніна, як была ў адной кашулі, так і выбегла ў сенцы. Праз маленькае акенца зазірнула на двор. У далёкім водсвеце бліскавіц угледзела Даміру,



праставалосага, у споднім кашулі. Адкінула засаў, прапусціла начнога госця. Ні слова не кажучы, Даміра зайшоў у хату, спыніўся ля парога. Ніна ледзь абышла яго згорбленую постаць.

— Хто там прышоў? — спалохана спытала бабуля.

— Гэта я — Тарас. Няшчасце ў мяне. Анюце кепска...

Ён чыркнуў запалкай. Жаўтаватае святло на хвіліну асвяціла хату. Аганёк стух, і цемра зноў абступіла людзей.

— Дык што ты хочаш, дзетухна?

— Прасіла Ніну зайсці. Хоча пагаварыць.

— Схадзі, унучачка, — параіла бабка.

Ніна знайшла ў цемнаце плацце, адзела, накінула на галаву хустку.

— Пойдзем, — і першай выйшла з хаты.

Дождж надціхаў. Па вуліцах цяклі плыткія ручаі, весела булькалі, шумелі ў каляінах. Рэдкія бліскавіцы драбіліся ў іх. Было сыра і свежа. Дыхалася лёгка. Даміра ішоў наперадзе. Яго квадратная постаць то паяўлялася, калі раптам успыхвала маланка, то зноў прападала, калі яна тухла.

На двары стаяў запрэжаны конь і злосна фыркаў, відаць, на агорклы



дождж. З хаты падаў на мокрую сцежку белы пук святла. Пераходзячы яго, Ніна заглянула ў пакой. На ложку, як прылеплены да сцяны, стаяў Коля. Вочы яго, поўныя страху, пазіралі некуды ўбок, маленькія ручкі распачліва трымаліся за худую доўгую шыю.

Жонка Даміры ляжала, закінуўшы галаву. Ніна бачыла толькі жоўты схуднелы яе твар і завостраны нос.

«Не жылец...» — падумала яна.

Хворая ўбачыла Ніну, паклікала да сябе. Голас у яе быў ціхі і нейкі надта спакойны.

— Дзякую, Ніна, уважыла... Сіротак маіх пашкадуй, сама сіратой расла.

— Паправіцеся яшчэ, — сказала Ніна знарок весела.

— Не ўжо, не выладнею.

Увайшоў Даміра.

— Дождж зусім сціх, паедзем, Анютка, — ён адварочваў галаву ад святла. Ніна ўгледзела, што твар яго мокры не толькі ад дажджу.

— Няхай бы не вёз ты мяне.

— Не выдумляй, Анютка, паправішся. Доктарка сказала, хутчэй трэба везці.

Ён падышоў да ложка, загарнуў жонку ў коўдру.

— Пачакай, Тарас, апошняе слова скажу, — яна некалькі хвілін цяжка дыхала, пад тонкай коўдрай натужна ўздымаліся і апускаліся грудзі. Нарэшце адпачнула. — Ніначка, цябе дзеці любяць і ты іх таксама — за матку ім застанься. Слова дай мне, што не кінеш іх.

Ніна, разгубленая дашчэнту, камячыла канцы хусткі, маўчала. Даміра падняў жонку на руках.

— Што ты толькі вярзеш...

— Не, Тарас, пакляніся, што нікога замуж не возьмеш, апрача яе. Я ўжо даўно свой лёс ведаю. Невылечная хвароба мая. Усё я абдумала. Яна дзяцей шкадаваць будзе, а ты яе не кідай.

Ніна правяла іх да калёс, захутала Анюту ў Даміраў кажух, потым адчыніла вароты. Даміра крануў лейцы, застаялы конь лёгка выкаціў калёсы на бязлюдную вуліцу.

Ніна, як сонная, зайшла ў хату. Волечка падбегла да яе, абхапіла за ногі.

— Куды маму павезлі?.. — хліпала яна.

— У бальніцу, Волечка. — Ніна пагладзіла дзяўчынку па галоўцы.— Не трэба плакаць, родненькая. Бачыш, Коля меншы, а не плача. Вось зараз мы ляжам...

Яна падняла Волечку, пасадзіла на ложак. Падышоў Коля, прытуліўся да рукі. Яго маленькае цела дрыжала.

— Ты нас не пакінеш?

— Не, з вамі буду.

Проста ў плацці яна лягла на ложак, дзе спалі дзеці. Яны прытуліліся да яе і хутка заснулі. А Ніна не спала. Усё думала аб тым, што сказала Дамірава жонка. І чым больш яна думала, тым больш дзіўным здавалася ўсё пачутае.

Потым яна выпаліла ў печы, зварыла сняданне, накарміла дзяцей. Падумала: «Добра яшчэ, што не трэба ісці на кашару». Але следам неўтаймаваная крыўда сціснула абцугамі грудзі.

Прышла Зіна Асташка. Паблісківаючы акулярамі, запыталася:



— Ёй вельмі кепска?

— Ну, так.

— Шкада, добрая жанчына... А ты чаму на кашару не ходзіш?

— Няхай Ева за мяне працуе, абрыдла.

— Сама таксама вінавата.

— Ты чаго прышла? — у Ніны на пераносіцы рэзка абазначылася глыбокая доўгая складка. — Маралі чытаць?.. А ці запыталася: хачу я іх слухаць або не?

Зіна прысела, усміхнулася. Ніна паступова сцішылася.

— Ты, Ніна, як той матылёк-шкляніца, толькі з выгляду на шэршня падобная, крычыш, а не ўкусіш. Я цябе даўно разгадала: душа ў цябе лагодная, мяккая.

— Не твая справа.

— Ліпанава сёння прыехала. Сход збірае, кожная даярка будзе абавязацельствы браць.

— Бярыце, а мне што?

— Ты таксама даярка.

— Выгналі...

— Ніхто цябе не выганяў.

— На сход не пайду, так і перадай Еве. Гэта яна цябе паслала—ведаю.

— Вось жа прыдзеш.

— Не, нават кроку не зраблю.

Зіна пайшла, а Ніна села на ложак і заплакала. Падышла Волечка, запыталася:

— Хто вас пакрыўдзіў, цётачка?

— Ніхто. Сама сябе крыўджу. Ідзі гуляй.

Пасля абеду прыехаў Даміра, пахмуры і злосны. Распрог каня, шыбануў збрую ў куток. Накасіў у садку каню канюшыны, моўчкі зайшоў у хату. Ніна, спяшаючыся, налівала абед. Дваістае пачуццё не пакідала яе ўвесь час. Даміра пазіраў з-пад ілба, левае павека раз-по-раз нервова краталася.

— Ты вось што, — пачаў ён ціхім, глухім голасам, — забудзь, што яна гаварыла. Чалавек у роспачы, ну і, канешне, пра дзяцей думае... А толькі ад мяне ніякіх намёкаў ніколі не было. Я сваёй Анюце да магільнага курганка чалавек адданы. І дзяцей сам выгадую.

Чырвань заліла Нінін твар. Ёй было сорамна. І ў той жа час радасна, што Даміра іменна такі чалавек, якім яна яго ўяўляла.

На развітанне сказала:

— Калі будзе якая патрэба, дык не саромцеся, заўсёды памагу. А наконт размовы той, дык я і сама так думала.

Даміра нават не ўзняў галавы.

## IX

У маленькай хатцы, схаванай пад шатамі старой ліпы, было халаднавата. Праз густую лістоту векавога дрэва ў пакой пранікалі круглыя, як пятакі, плямкі. На чыстай падлозе яны выткалі дзівосны карункавы ўзор.

Ліпанава прывіталася, але ёй ніхто не адказаў. З-пад ложка вылез пушысты белы кот, пацёрся аб нагу, раскрыў рот, але мяўкаць паляніўся.

Выгнуўшы дугой хвост, пайшоў пад ложак. Тамара не ведала, што рабіць, але тут з-за печы паказалася бабульчына галава: бальшаваты нос, пад якім чорнай складкай туліўся сціснуты рот. Ліпанава прывіталася яшчэ раз.

— Праходзь, калі ласка, — бабуля зусім вылезла з-за печы. — А я ўсю ноч не спала, цяпер прыдрамнула крыху.

— Зайшла праведаць вас.

— І на тым рады.

— З унучкай жывяцё?

— Удзвюх. Ды ты праходзь. Не пазнаю — чыя будзеш? Вочы слабавата бачаць, ды і людзей цяпер новых шмат. Даўней я ўсіх ведала. Бывала, у мяне пыталіся, калі хто нарадзіўся, — усіх помніла. А цяпер, вунь, рахункавод людзей на лічыльніках лічыць. Як, па-твойму, гэта?

— То добра, што народу многа. А мяне вы не ведаеце. Я — сакратар райкома.

Старая недаверліва паглядзела на Ліпанаву.

— У нас жа, здаецца, мужчына партыйнымі кіруе.

— То, бабуля, сакратар райкома партыі, а я ў райкоме камсамола за сакратара. З моладдзю, значыць, працую.

— А з імі яшчэ цяжэй. Мая ты дзетухна залатая, такая маладзенькая і столькі клопату на твае плечы ўскладзена!.. Тут вось з адной Нінай ніяк не зладжу.

— Нічога, бабуля, выдужаем.

— Яно так. Змоладу ўсякая ноша лёгкай бывае. А ты, можа, да Ніны? Яна ў старшыні нашага на гаспадарцы. Жонка ў яго занядужала, а дзеці малыя. Сам жа ўвесь дзень матляецца, работа ў яго катаржная.

— Ці не ведаеце вы, часам, чаму Ніна перастала на ферме працаваць?

— Ды што ты кажаш?.. Каб Ніна кінула работу — такога і ў сне не ўгледзіш. Хіба мо' паспрачалася з кім.

— З заатэхнікам.

— Пакрыўдзіла?.. У каго ўдалася — не ведаю. Бацька з маткай былі рахманыя, слова наперакор не сказалі нікому, а Нінка не па іх. Думаю, вайна яе такой зрабіла. Няхай яна, вайна гэтая, на сухі лес.

Ліпанава ўспомніла, як аднаго разу Сяльчонак расказаў ёй: «Эканоміку падлячылі, а пра чалавечыя душы, пакалечаныя вайной, забыліся. Вайна людзям прынесла нязлічоныя бядоты. Тыя раны, што на целе, — загаіліся, а пад імі другія крываточаць. У аднаго бацьку забілі — на ўсё жыццё след застаўся. У другога — нявесту змардавалі, а сэрца не маўчыць. Ці мала чаго за вайну здаралася. У кожнага яна след пакінула. Ды не абы-які. Ваенныя каляіны па дарогах травой параслі, а вось тыя, што ў душы, забыццём не зарастаюць. Таму да кожнага чалавека прыглядацца трэба. Нядаўна скардзіўся мне адзін старшыня на сваю калгасніцу. Матэрыял на яе ў суд перадаваў. Выцяла яна яго чапельнікам. А ў гэтай жанчыны немцы траіх дзяцей спалілі. Не жанчына — а камяк нерваў. Параіў яму не падаваць у суд. Да такіх людзей — асаблівы падыход патрэбны».

Увайшла Ніна, глянула нялюба на Ліпанаву, быццам тая была вінавата ва ўсім.

— Што ж ты, Ніначка, не здароўкаешся? — бабуля, як тая сарока, хуценька пацёпала на кухню. Адтуль нейкі час чуўся шэпт: адзін — старэчы, лагодны, паблажлівы, другі — малады, злосны, адрывісты.



Кожны раз, калі даводзілася весці размову па якой-небудзь надзвычай далікатнай справе, Тамара Ліпанава старанна абдумвала, з чаго яе пачынаць.

— І ўсё ж часта памылялася: або гаварыла такія словы, якія зусім не кранаді чалавека, або яшчэ горш — выводзілі яго з раўнавагі.

Колькі за гэтыя гады было зроблена памылак! Таму і абдумвала Ліпанава, што яна будзе зараз гаварыць Ніне.

Пасля доўгага шушукання на кухні Ніна паявілася ў пакоі: галава ў яе была апушчана, вочы пазіралі неяк скосу.

— Яршыстая ты, Ніна...

— Такая ўрадзілася.

— Нарадзілася ты другой.

— Адкуль вы ведаеце?

— Ды ўжо ж ведаю. На сход прыдзеш?

— Мяне з работы прагналі.

— А ты прыходзь. Дзяўчаты прасілі, без Ніны, кажуць, сумна жыць. А вось чым ты іх запаланіла — не разумею.

— Дзяўчаты мяне любяць.

— Я гэта заўважыла адразу. Пытаюся ў іх: якія будзеце на сябе абавязацельствы браць. А Ліда Раковіч адказвае: па тысячы літраў за лактацыю. Я ўсміхнулася ды і кажу: а Ніна Шумейка абавязваецца не менш паўтары тысячы літраў малака надаіць. Можа я памылілася, дарэмна за цябе слова сказала. А толькі дзяўчаты, як пачулі, што ты такое абавязацельства бярэш — зашумелі. Маўляў, памыліліся яны. Я чаму асмелілася за цябе гаварыць? Бо ты не горш Матроны Башукевіч, а тая якраз такую лічбу назвала.

— Я, калі трэба, і больш надаю. Кроў з носу, а надаю, пабачыце.

— То я ўпэўнена. А некаторыя дзяўчаты пабойваюцца.

— Чаго баяцца?!.

— Добра было б, каб ты мне памагла іх сагітаваць.

Ніна раптам натапырылася.

— Агітаваць — ваша работа.

Ліпанава зразумела, што сказала нешта не так. Але тут у размову ўмяшалася бабулька:

— Нядобра чыніш, унучка... Чалавек чалавеку памагаць павінен.

— Памагаць я не супроць.

Ля клуба ў змроку чырванелі агні цыгарак. Хлопцы расступіліся, далі дарогу сакратару. Дзве лямпы дрэнна разганялі змрокі, Ліпанава доўга прыглядалася да людзей, пакуль заўважыла знаёмых. Ева адкрыла сход.

...Першай выступіла Ніна. Яе прасілі падысці да стала. Але яна ўпёрлася, не пайшла. Ды і прамова ў яе была кароткая: паўтары тысячы літраў малака ад кожнай каровы за лактацыю.

Ніне доўга апладзіравалі. Дзяўчаты следам называлі такую ж лічбу.

Паднялася Матрона Башукевіч. Павяла падфарбаванымі брывамі, усміхнулася загадкавай усмешкай.

— Я так лічу: лепей верабей у руцэ, чым сініца за морам. Дзеўкі па паўтары тысячы бяруцца надаіць. Сказаць можна. Слова — яно гук пусты... А калі разабрацца па сутнасці, дык найлепшая пара для надояў упушчана. Яшчэ месяцы два-тры — зарвуць каровы. Адкуль жа тое малако будзе? Хіба з выгаркі?..

— А ты, цётка Матрона, за ўсіх не кажы, — паднялася Зіна Асташка і пачала прабівацца да сцэны.

— Не даяцё гаварыць — і не трэба, — Башукевіч села, але ўсё яшчэ прадаўжала сваю незакончаную прамову. — Кармоў не хапае. Без падкормкі якія надоі... Пры нашым старшыні, таварышу Даміры, не было парадку і не будзе. Дзякуй, кажуць, што вызваляюць.

Зіна ніяк не магла вымавіць першыя словы. Заікалася. Потым супакоілася, загаварыла спакайней:

— Раілася я з дзяўчатамі. Баяцца яны, а толькі баяцца няма чаго. Па паўтары тысячы надаіць можна. І час яшчэ наперадзе вялікі. Хто не хоча на нашай камсамольскай ферме працаваць — няхай другую шукае. А я ўношу прапанову аб'явіць ферму ўдарна-камсамольскай. Кожнай дабівацца таго, каб не ніжэй паўтары тысячы літраў надаіць. Калі даможамся гэтага — засвецім над фермай зорку чырвоную, каб не толькі ў нас, а ва ўсім раёне ведалі: камсамольцы свае слова стрымалі. А ў наступным годзе возьмемся па дзве тысячы надаіць. Даможамся, яшчэ адну зорку запалім. Няхай гараць зоркі ды другіх за намі клічуць. Неяк заатэхнік наш гаварыла пра тое, што ў Амерыцы надоі вялікія. Вось і будзем тую Амерыку даганяць. Астатнія няхай нас даганяюць.

Зіна змоўкла, абвяла вачыма прыціхлую залу. Дзяўчаты перашэптваліся, Матрона Башукевіч крывіла нафарбаваныя вусны. Нехта ад парога выгукнуў:

— А сама колькі збіраешся надаіць?

— Сама? Дзве тысячы хачу надаіць.

Ліпанава першай пачала пляскаць у далоні. Калі воплескі сціхлі, пачуўся нечый голас:

— Надоіш, калі матка вучыцца не пагоніць...

Насцярожаная цішыня лопнула, зарыпелі крэслы. Усе хацелі бачыць, хто там высоўваецца.

— То сябрук Шняка.

— Чаго не нашым трэба?

Зіна перачакала, пакуль супакоіліся.

— Магу растлумачыць. Уцякаць у горад не збіраюся, а вучыцца буду. На завочны факультэт заяву сёння адаслала. І яшчэ вось што. У нас арцель. Гэта значыць, што ўсе за аднаго і адзін за ўсіх. Нічога ў нас не атрымаецца, калі за надоі толькі даяркі будуць змагацца. А калі ўсе ў адну шарэнгу стануць, тады нам і мора па калена. Праўду цётка Матрона казала: кармоў у нас не хапае. Але ж пад ляжачы камень і вада не цячэ. Ёсць у нас час, можам і сіласу нарыхтаваць і атаву скасіць. Толькі ўсе за гэта павінны ўзяцца. А на наступны год, як паплавы палепшым, канюшыны ды цімафееўкі хопіць.

Летняя ноч кароткая. Не паспела зліняць яркая чырвань захаду, як на ўсходзе заружавеў край неба. Толькі тыя, хто быў у клубе, не заўважылі такіх перамен на небе. Пасля Зіны нібы ўскалыхнуў хто сход. У кожнага былі свае прапановы самыя найлепшыя, самыя дасціпныя. Нават Максім Шняк вышаў на сцэну выказаць сваю думку:

— Нам, моладзі, канешне, арцеллю спадручней. Толькі няхай дзеўкі разумеюць гэта таксама і насы не адварочваюць. Пасля, наконт гулянак трэба не забываць: работа работай, а як культурныя людзі — мы і павесяліцца хочам. Так што прапанова мая такая: як мы хочам быць перадавыя, дык няхай да нас артыстаў шлюць. Усё весялей будзе...



Максіма сагналі, не далі гаварыць. Следам Лёнька зачытаў абавязацельствы. Яшчэ не паспеў ён кончыць, як у зале ўзняўся лес рук. Ліда Раковіч аж дзвюма галасавала, тлумачачы сяброўкам:

— Доім мы кароў у дзве рукі, дык чаму галасаваць можна толькі адной?

Начаваць Ліпанаву запрасіла Ніна. Ішлі соннай вуліцай. Тамара, узрушаная сходам, маўчала, думала пра нешта і Ніна. Павячэралі. Ніна паціху разбірала пасцель. Марудзіла.

Патушылі лямпу. Ніна лягла з краю на спіну, запыталася:

— Гэта праўда, што Даміру знялі?

— Не чула.

— Шкада яго.

— А ён табе радня якая?

Памаўчаўшы, Ніна адказала:

— Не. А ўсё роўна шкада. Догляд за ім трэба, чалавек ён падатлівы, як скіруеш, так і пойдзе.

Ліпанава прыкусіла язык: хацелася яшчэ што-кольвечы спытаць у Ніны, але адчула — не варта, Ніна, памаўчаўшы, папрасіла:

— Можа вы з таварышам Сяльчонкам пагаворыце наконт яго. Жонка ў Даміры памірае, а калі здымуць яшчэ — прападзе чалавек зусім.

— Мусіць, то плёткі. Я нічога яшчэ не ведаю, — супакоіла яна Ніну.

Пра сябе падумала: «Абавязкова трэба пацікавіцца іх адносінамі».

(Працяг будзе.)

# *Да тыдня румынскай культуры*

Марыя БАНУШ

## НА ВАРЦЕ



Міруся з тым, што час свой для ўсяго —
Лісты жаўцеюць і мінаюць годы;
Над парасткам схілюся — сок яго
Боль супакоіць і змякчыць нягоды.

Міруся з думкай я, што ён настане,
Мой час: прачнецца луг, пачне звінець,
Ды золак твару мне не разрумяніць,
Я не прыду, ты будзеш без мяне.

Міруся з тым, што больш ужо не ўстану
І не пачую песень салаўя.
З пытаннем: дык няўжо у вечнасць кану
І ўсе жаданні пахаваю я?

І сочачы за плынню хваль сустрэчных,
Міруся я са звычаем зямлі —
З тым, што пад месяцам нішто не вечна,
Што пойдзем мы, як іншыя пайшлі.

Але — сумнення тут няма і ценю —
Пакуль гарыць агонь ў душы маёй,
Пакуль жыву, я не схілю калені
Ні перад крыўдай, ні перад хлуснёй.

Не прымІруся з тымі, хто на блізкіх
Паклёп узводзіць, брата абкрадзе,
І вораг — хоць ён красамоўны, слізкі —
Ад кары не схаваецца нідзе.

Не прымІруся з тымі, хто гандлюе
Без сораму усмешкай і слязой.



Паверыць нават д'яблу не магу я,
Што водзіць па струне анёльскаю рукой.

На тых, імкнецца хто жыцця разводдзю
Шлях перакрыць, спыніць жывы паток,
Цвет маладосці—лепшае ў прыродзе —
З карэннем вырваць з глебы, выпіць сок,

На тых, хто хоча з хваляй веснавою
Пакончыць, загадаць вытоку: стой! —
Выходжу я бязлітаснай вайною,
Змагаюся... Хай гэта жорсткі бой.

Пакуль са мною шчасце — шлях раздольны
І ніву пад пятою адчуваць,
Жыццё, — агонь, які трапеча вольна, —
Не перастану я ахоўваць і ўздымаць.

Пераклаў з румынскай мовы
М. Аўрамчык.

Яўджэн ФРУНЗЭ

* * *



Толькі вецер шурхне ў яварах-пабрацімах,
Страпянецца сцяна ліставая,
Я дыханне тваё адчуваю, радзіма,
Працавіты твой пульс адчуваю.

І здаецца, што бачу: з бязмежных вышыняў
Долу блізяцца зораў кілімы,
І душа з роўных стэпаў і горных вяршыняў
Убірае ўсе скарбы радзімы.

Льюць духмяны настой букавінскія шаты
На разлогі, дзе нівы буяюць.
Плешча пенай Дунай, і сівыя Карпаты
Купал неба гарбом падпіраюць.

У Дабруджы ў партах, як дамы, на прыколе
Параходы чакаюць сігнала.
Скора рушаць яны на марское прыволле,
Горда рэжучы воды канала.

І здаецца, што нашае Быстрыцы зоры
Ужо на вокнах заззялі яскрава...

Я ўсім сэрцам вас слаўлю, тварцы і манцёры,
Дзён вялікіх вялікія справы!

Знаю: кожны, як я, стаўшы ўпоравень з векам
Пад шчаслівай звяздой пуцяводнай,
Адчувае свабодным сябе чалавекам
У краіне сапраўды свабоднай.

За свабоду ад страху застацца без хлеба
І жыцця чалавеку не шкода,
Бо яму, чалавеку, нішто так не трэба,
Як свяшчэнная ява — свабода!

Пераклаў з румынскай мовы
Язэп Семяжон.



**Міхай БЯНЮК**

# «ЕСПЛАТАТАР»

## Апавяданне

Мал. Ф. Бараноўскага.

Дай бог здароўя Цэнтральнаму Камітэту — добрых людзей я там знайшоў. А вас беражы прачыстая матка боская — правільную далі мне параду.

Вышаў я з Котрагань * і пайшоў, як вы мне сказалі, на Сфынгу Элефтэрыя **. Пытаю ў людзей, як прайсці, расказваю то аднаму, то другому, якая бяда мяне ў Бухарэст прывяла, і даходжу памаленьку да Сфынту Георга, да плошчы. Шкада, што там далей ужо ні аднаго святога да самага Цэнтральнага Камітэта няма — па цэрквах яно лепш дарогу знайсці. Але ж куды толькі язык чалавека не давядзе! Пашанцавала мне, добрых людзей сустрэў, яны мне дарогу і паказалі, а, не дай божа, трапіліся б якія гарэзы, хто ведае, куды б забрыў. Далей, вядома, зноў на сваіх дваіх — пехатою яно надзейней, ды і бачыш, дзе ступаеш. Заблудзіўся — вярнуцца можна, захочаш — спынішся, паглядзіш, дзе сонца на небе,— і кроку, калі трэба, прыбавіш,

* Квартал у Бухарэсце.
** Вуліца ў Бухарэсце.



а не, дык так ідзеш сабе паволі. Адно дрэнна — дамы тут занадта высокія. Пакуль сонца з-за дахаў выйдзе — і паўдня агорне. А я ўсё-такі ў час прыспеў, да палудня. Не гэтак ужо і многа, думаю, за сем мінула, калі я з Котрагань вышаў.

А ведаеце, чаго я больш за ўсё здзівіўся? З кім я толькі ні гутарыў, каму пра сваю справу ні расказваў (калі ў чалавека знаходзіўся час паслухаць старога), ніводзін пра нашага Гофмана і пра арадскія дровы не чуў. Хоць у нас пра яго ўвесь уезд ведае. Ён, Гофман, што прыдумаў? Дай, думае, прыдбаю дрыўяны склад у Арадзе: дровы буду ў гарах танна браць і гарадскім прадаваць — у горадзе ж лясоў няма. Так ён і зрабіў і добры даход меў, што праўда, то праўда.

Дайце мне, аднак, дакончыць вам расказваць, як я да Цэнтральнага Камітэта дабраўся. Зусім нават лёгка знайшоў. Толькі як убачыў я, у якім дамішчы Цэнтральны Камітэт размяшчаецца, ледзь дамоў не вярнуўся, і вярнуўся б, калі б мяне не спыніў міліцэйскі і не спытаў, каго мне тут трэба. Я адразу ж руку ў кішэню і пашпарт дастаю, як вы мяне навучылі, каб чаго не вышла. Міліцэйскі нават крышачку спалохаўся быў — не зразумеў, чаго я ў кішэню палез, і на крок адступіў ад мяне. Што ж выявілася? А тое, што мы з ім землякі, з нашай ён вобласці, толькі сяло іх на раўніне, а наша ў гарах. Ну, і абрадаваліся ж мы! Браты родныя сустрэнуцца, і то, здаецца, так не абрадуюцца! Быў бы хоць які-небудзь паблізу шынок, далібог, я б гэтага міліцэйскага пачаставаў бы. Пытаўся — няма, гаворыць, паблізу, толькі на Палканскай Канфедэрацыі * ёсць.

Расказаў я яму пра сваю справу, як усё было і як мяне ў кулакі запісалі, а Гофмана, былога гаспадара, не запісалі, і паказаў ён мне, куды ісці. Добры чалавек, чэсны, наскі. Адвёў ён мяне ў прахадную і нават да канторы, у якую мне трэба, правёў.

Вось, значыць, я і ў Цэнтральным Камітэце. Ніхто з нашых і ў сне таго не бачыў. Прыняў мяне малады чалавек. Росту невялікага, голены — вы яго павінны ведаць. З выгляду яму і трыццаці год не дасі. Ведаеце, пра каго гавару? Напэўна, чулі — ён жа ў Цэнтральным Камітэце! Ян клічуць яго, пытаеце? Вось імя дык я і запамятаў. Успомню.

Прысеў я на стул з краёчку, канешне, а то як бы, думаю, не зламаць — потым устаў, шапку на палку начапіў, да сцяны палку прыставіў і зноў сеў.

* Скажоная назва «Балканскай канфедэрацыі».





— Сядзіце, дзядуля, сядзіце, — запрашае малады чалавек, — гаварыце, чаго прыехалі, што ў вас за бяда-гора.

Па гаворцы і па адзенню бачу, просты ён. А мне пра сваю справу самому таварышу Георгіу Дэж расказаць хацелася. Здарылася, гаворыць малады чалавек, што таварыш Георгіу Дэж цяпер адлучыўся — няма яго ў Бухарэсце, але, гаворыць, вы мне можаце цалкам верыць — расказвайце ўсё, як ёсць...

Пачаў я яму па парадку апавядаць. Як у сорак пятым годзе ўгаварылі нас, не ўсіх, вядома, у каланісты ісці. Я ўжо сваё адбатрачыў, ну і купіў парку коней, худых, канешне, па нашаму бядняцкаму становішчу, але, між іншым, яшчэ не старых. Толькі ў вараного на адным воку бяльмо, а другі, мышасты, на заднюю нагу накульгваў. Апрача гэтага, — усё ў парадку. Цягнуць добра і не наравістыя. Паехалі. Атрымалі мы зямлю на роўным месцы пад Арадам — ведаеце Панэдань? Добрая зямліца — хоць з хлебам еш! Адмерылі нам па пяць гектараў на сям'ю — багацце! Пачалі мы сяк-так працаваць. Якія з аўчароў плугары? Не зусім, але ўсё-такі справіліся, нічога нам тамашнія мужыкі сказаць не маглі. Толькі вось дроў у нас няма, а зіма на носе! У нас, ведаеце, сяло на ўзлессі стаяла — дровы самі на двор лезуць, толькі бяры. А тут, апроч саломы, нічога. Як жа быць? Добра яшчэ, што я пра свайго Гофмана ўспомніў. З'яўляюся да яго на склад — з грашыма, вядома, а не проста так. Гофман мяне адразу апазнаў, я ж яму чэсна служыў. Дваццаць год. З той самай пары, як ён у нас, у нашым горным сяле, пачаў гарэлку гнаць ды лямпавымі шкелкамі і смярдзючым мылам гандляваць. Там бы ён і цяпер застаўся — капіталу ж у яго не было: як у нас кажуць, — на сальнай свечцы вераб'ёў смажыў, ад таго і сыты быў. Выручылі яго грошыкі, што дзядзька ў Арадзе пасля смерці пакінуў — таксама Гофман, вы, напэўна, чулі, у яго вялікая жалезная лаўка была.

Наняў мяне гэты самы Гофман, і я яму чэсна служыў. Інакш ці ж бы я да яго за дрывамі для нашых калгаснікаў паехаў? Некалькі разоў я ў яго з даручэннем пабываў і дровы забіраў — вядома, за наяўны разлік. Нашы былі задаволены. Даручэнне гэтае я таварышу сакратару ў Цэнтральным Камітэце паказаў. Ён яго да канца з усімі подпісамі прачытаў — нашы каланісты ўсе, колькі іх ёсць, на ім распісаліся. Па твару пазнаў, што яно пану... цьфу, збіўся... таварышу сакратару спадабалася.

Як на тое ліха, у нас два гады запар неўраджай здараўся. Такая засуха, што студні павысыхалі былі, жывёла раве — вушы затыкай!

Пшаніца вырасла — курам даць нечага. А дзе хлеб для нарыхтоўкі ўзяць? З нарыхтоўкай нас не памілавалі...

А тут яшчэ хапіла мяне нялёгкая з жонкай старшыні часовага камітэта непаладзіць — з-за іх свінні, якая мне плот паламала. Не ведаеце вы, што гэта за баба, жонка яго! Маланка! Вар! Злісней за сабаку, што на прывязі.

Не ведаю, па якому праву запісаў мяне старшыня, — ён жа ў нас старшынёй застаўся, калі часовыя камітэты сельсаветамі сталі, — у кулакі. Мала таго, што ў кулакі — у есплататары. Чулі вы пра гэта? За дровы, якія я ад Гофмана вазіў — у падзяку, значыць. Нібы я з Гофманам — крый мяне божа! — круціў. Я — да Гофмана: у яго ў пратаколах усё запісана. А дзе ж Гофмана ўзяць, калі яго няма! Склад закрылі. Шукаў я, шукаў гэтага Гофмана, пакуль не знайшоў. Знайшоў я яго ў Турахонцкім раёне. Гляджу — ён загадчыкам свінафермы.

Ён — загадчык, я — кулак. Самі памяркуйце — здорава? га? — сказаў я таварышу сакратару ў Цэнтральным Камітэце. Ён нават засмяяўся, калі гэта пачуў. Такога, гаворыць, быць не можа. А можа, калі здарылася!

Я дваццаць год у Гофмана ў батраках спіну гнуў. Сацыяльнае паходжанне, як цяпер кажуць, самае правільнае. І дзяды, і прадзеды галадалі... А Гофман? Спачатку, праўда, яму не вельмі было, пакуль на сваю дарогу не выбіўся. А там да дрывяннога склада як па масле пайшло. І чаго б ён толькі не дабіўся, каб не стала народная дэмакратыя! Ці можа ён са мною сацыяльным паходжаннем раўняцца? Ці яму, кажу, дзядзька не пакінуў капіталу, на якім ён дрывамі разгандляваўся? А ў мяне якія дзядзькі! Ды калі б усе мае дзядзькі ўваскрэслі і мяне сваім наследнікам зрабілі, а пасля зноў памерлі, і то б, здаецца, я кулаком не стаў бы. А вось, калі ласка, у кулаках апынуўся. Есплататар! Ты, кажа старшыня, рабочы клас есплатаваў. А Гофман тады не есплатаваў, таму што яго свінячым загадчыкам назначылі.

А што ў мяне са здачай хлеба было, божа ты мой!.. Такога, думаю, ва ўсёй нашай краіне — хаця яна вунь якая велізарная — яшчэ ніхто не сустракаў. Хлеба мне, вядома, няма дзе ўзяць, каб усё здаць поўнасцю. Колькі мог, столькі і аддаў. Прыкупіў яшчэ, і ўсё адно не хапіла. А старшыня што надумаў? Ведаў, халера, — інакш яго і не назавеш, — што ў маёй цёшчы на ўзлессі гектар зямлі ёсць — яе ўласнай. Цёшча мая, трэба вам сказаць, на ранейшым месцы засталася, — жыве, гаруе, і пры ёй унучка, швагра майго, што на вайне забілі, дачка. Сабрала яна з горам папалам кукурузы—не хапае на зіму нават на мамалыгу ды свінню з курамі пракарміць. А курэй у яе ўсяго тры — гаспадарка... Прычым, цёшча ў другім раёне жыве, як вам вядома. Не ведаю ўжо, як гэта наш старшыня ўмудрыўся і адкуль у яго такая ўлада, толькі пасылае ён да цёшчы і забірае ў яе кукурузу — гэта значыць за маю нядоімку. Вы пра гэта калі-небудзь чулі? Напэўна, не чулі, таму што такога не было. Гарышча ў цёшчы начыста вымелі — каб ні зярняці не засталося, а ёй цяпер з унучкай хоць кладзіся ды памірай. Вось што наш старшыня ўчыніў, не дачакацца б яму, пакуль сын у дафтары выйдзе (ён у яго на дофтара вучыцца).

Добра, што я ўсё гэта, усё як і было, таварышу сакратару ў Цэнтральным Камітэце выклаў. Ведаеце, што ён мне ўрэшце сказаў? Што



заў таварыш сакратар — я гэтак разумею, што ён, калі гэта сказаў, дык абавязкова сакратаром павінен быць. Ат, шкада, што я ягонае прозвішча забыўся. А прозвішча ў яго... не тое, што нашы бязглуздыя: Сфоарна, Чурлік, Хулпэ, Канурэ, як у нас усякага клічуць.

Спытаў яшчэ мяне таварыш сакратар, ці ведаю я — Гофман яшчэ на ранейшай пасадзе? Не знялі?

— Ведаю, — адказваю, — і чуў ад людзей, што яму па службе нават як бы паніжэнне далі, але яно павышэннем выйшла.

— Як гэта? — смяецца сакратар.

Я яму расказаў, што Гофмана ад свіней знялі, былі чуткі, ён там насвінячыў вельмі, і другую пасаду далі. Ён цяпер у канторы працуе. Начальнікам.

— А як вы думаеце, начальнік — гэта ніжэй загадчыка? — пытае сакратар, а сам усміхаецца.

Убачыў я, што ён вясёлы, і адказваю:

— Не ведаю, — кажу, — хто вышэй, хто ніжэй, толькі мне думаецца, што Гофману больш было да спадобы свіннямі загадваць, чым цяпер начальнікам у канторы сядзець.

Зноў засмяяўся сакратар.

На развітанне падаў мне руку і параіў выкінуць з галавы лішні клопат: усё, кажа, будзе добра.

Правільны чалавек! Дай бог здароўя Цэнтральнаму Камітэту! Шкада толькі, што такіх сакратароў малавата: трэба было б пабольшей, каб увесь час па вёсках раз'язджалі і парадак на месцы наводзілі. Бо не ўсякі, як я, у Бухарэст паедзе.

Пераклад з румынскай мовы.



Мікола ХВЕДАРОВІЧ

# НЕЗАБЫЎНЫ ДРУГ

Паўлюк Трус нарадзіўся ў вёсцы Нізок Уздзенскага раёна Мінскай вобласці ў 1904 годзе. Вялікая і дружная сям'я Адама Труса ад дзядоў і прадзедаў жыла выключна з працы сваіх рук. Ці не таму з пакалення ў пакаленне не зводзіліся ў іх родзе каржакаватыя жаніхі, здатныя бондары і цеслі, весельчакі на ўсю вёску, найлепшыя спевакі і танцоры. І ўжо з маленства яны браліся за пасільную працу, каб не быць дармаедамі.

«У дзесяць гадоў, — расказваў Паўлюк Трус, — я ўжо хадзіў за бараною. Бацька сеяў, а я па свежых слядах баранаваў і не толькі баранаваў, а нават пад'язджаў на баране, за што ад бацькі часта пападала. У дванаццаць гадоў я браў першыя ўрокі на аратага. Праца гэтая куды менш цікавая, бо патрабавала пільнасці і вялікай увагі. У пятнаццаць гадоў я моцна трымаў касу ў руках і, як спрактыкаваны мастак, добра вымалёўваў шырокія пракосы на нашых прынёманскіх лугах».

Хлопчык рос дужы і каранасты. Гэта радавала сям'ю, якая бачыла ў ім добрага гаспадара. Бацька Паўлюка, хоць сам быў пісьменны, аднак часта гаварыў:

— Нешта не чутно было, каб з навукі хто-небудзь з простых людзей хлеб еў. Не навука, а дужасць і спрыт патрэбны простаму чалавеку.

«Але мяне цягнула да граматы, — пісаў Паўлюк Трус у сваёй аўтабіяграфіі. — Маці была на маім баку. Пасля доўгіх хатніх спрэчак бацька згадзіўся з настойлівым і жаласным прыставаннем мацеры і аддаў мяне ў школу.

— Няхай вучыцца, — сказаў ён настаўніку. — Але прабіваць сабе дарогу ў жыцці давядзецца яму сваімі кулакамі. Навука для нас — гэта, можна сказаць, адно балаўство».

Пахадзіўшы ў вясковую школу, Паўлюк здзівіў настаўніка сваёю стараннасцю і кемлівасцю. У яго пачалі праяўляцца і іншыя здольнасці. Ён добра маляваў, спяваў у школьным хоры. Нават саматугам складаў песні. Добра браўся хлопец і ў грамаце. Ён асабліва добра адказваў урокі, а чытаў — «як рэпу грыз». Гэтая жартаўлівая метафара была ў вёсцы Нізок вышэйшай ацэнкай для вучня. Усе вершы, якія былі ў падручніку, Паўлюк ведаў на зубок.

Аднойчы настаўнік, сустрэўшыся з Адамам Трусам, бацькам Паўлюка, так расхваліў яго сына, што той першы раз у жыцці паверыў у практычную вартасць граматы. Пасля сканчэння сельскай




Паўлюк Трус.

школы бацька адвёз Паўлюка ў сямігадовую школу ў мястэчка Узда.

Навучанне ў Уздзенскай школе акрыліла юнака. Там знайшліся добрыя сябры, сярод якіх асабліва блізкімі сталі Пятро Глебка і Алесь Якімовіч. Ім першым ён паказаў свае нясмелыя спробы пяра — вершы, напісаныя пад уплывам Янкі Купалы і Тараса Шаўчэнкі. Пасля гэтага падахвоціліся складаць вершы і Глебка з Якімовічам. Некаторыя з іх твораў змяшчаліся ў насценгазеце. Хлопцы надумалі: як скончаць сямігодку, пададуцца ўсе разам у Мінск вучыцца на настаўнікаў.

Але грамадзянская вайна не спрыяла нармальнай вучобе. У 1920 годзе пры наступе Чырвонай Арміі на Варшаву Паўлюк на сваім кані едзе ў абоз. Вярнуўшыся з далёкага падарожжа, доўгі час жыве дома і дапамагае бацькам у гаспадарцы. Вечарамі, запаліўшы газоўку, зачытваецца вершамі Пушкіна, Някрасава, Кальцова, Шаўчэнкі, Купалы. Кнігу вершаў Тараса Шаўчэнкі «Кабзар» ён амаль усю вывучыў напамяць.

Схільны да песеннай творчасці, Паўлюк Трус падбіраў матывы народных беларускіх песень да шмат якіх тэкстаў Шаўчэнкі. Трохі перайначваў іх і спяваў за плугам ці ў лесе, шукаючы грыбоў, дзе песня асабліва выразна раскрывала свае чары:

Селі гусанькі —
Селі лебедзі,
Палі шэрыя на ваду.
Ой, скажэце, гусанькі,
Ой, скажэце, лебедзі,
Ці я сваё шчасцейка ды знайду.

«Ці то на полі, ці ў лесе, ці за працай дома я заўсёды спяваў, голас песні гучаў у маім сэрцы», — расказваў неяк Паўлюк Трус. А пасля пісаў у адным з вершаў:

... Жыццё у песні,
Ад калыскі.
Пакуль гарэць ў вачах агні.
Пяеш аб родным, сэрцу блізкім,
А сэрца звон звініць, звініць.

У 1923 годзе Паўлюк Трус прыязджае ў Мінск, каб паступіць на вучобу. У гэты час яго сябар па Уздзенскай школе Алесь Якімовіч ужо вучыўся ў Белпедтэхнікуме. Туды ж падаў сваю заяву і Паўлюк. Алесь Якімовіч пры сустрэчы сказаў яму, што ў тэхнікуме выкладае методыку роднай мовы Якуб Колас.

Гэта была вельмі радасная навіна.

І вось Паўлюк Трус — студэнт Белпедтэхнікума. Пачалося знаёмства з шумнай студэнцкай сям'ёй. Неўзабаве першыя вершы Паўлюка Труса былі надрукаваны ў часопісе «Малады араты». Радасці яго не было канца. Яшчэ больш упарта і самааддана малады паэт стаў працаваць над вершаваным словам. У 1924 годзе літаратурны гурток тэхнікума пачалі наведваць навічкі Пятро Глебка, Максім Лужанін, Сяргей Дарожны. Кіраўніком гуртка быў Андрэй Александровіч, які ўжо змясціў у друку не адзін дзесятак вершаў,

Літаратурная праца ў гуртку, куды часта заходзіў Якуб Колас, стала сур'ёзнай школай. Якуб Колас умеў сардэчным бацькоўскім словам дакарыць і падтрымаць. Ён радаваўся, што вакол яго вырастае здольная і працавітая літаратурная моладзь, якая смела і ўпарта шукае свае самастойныя шляхі ў літаратуры.

Пісанне вершаў для Паўлюка Труса стала вялікай і слаўнай жыццёвай мэтай.

Неўзабаве Андрэй Александровіч і Алесь Якімовіч сталі членамі першай літаратурнай арганізацыі «Маладняк», а праз некаторы час увесь літаратурны гурток пачаў наведваць сходы і заняткі гэтай арганізацыі. У той час кожны з членаў «Маладняка» падкрэсліваў сваю прыналежнасць да маладнякоўскага згуртавання тым, што падпяразваўся саматканым беларускім паяском. Трошкі пазней гэты паясок з кімаўскім значком на яго левым канцы стаў своеасаблівай эмблемай маладнякоўцаў.

У гэты час я працаваў у рэдакцыі «Чырвонай змены». У адным памяшканні з намі размяшчалася рэдакцыя часопіса «Малады араты». Пасля заняткаў у тэхнікуме часта ў рэдакцыю забягалі маладыя паэты. Але мы чамусьці найбольш ведалі Паўлюка Труса. Ён быў надзвычай просты і ветлівы, здатны на трапныя жарты. Ды і вершы яго былі калі не песенна-лірычныя, дык абавязкова падсоленыя едкім гумарком.

Перад маімі вачыма ён нібы жывы і зараз. З шумам адчыняюцца скрыпучыя дзверы рэдакцыі на Камсамольскай вуліцы, і ў пакой убягае невысокага росту прысадзісты светлавалосы хлапец. На ім паўкажушок, на галаве шапка са скураным акалышам, якую ў той час называлі «нэпманкай». Не паспеў Паўлюк абтрэсці мокры снег з паўкажушка, як яго акружылі супрацоўнікі газеты.

— Можа прынёс новыя вершы? — усхвалявана крычыць Міша Гольдберг (зараз пісьменнік Міхаіл Златагораў). — Нясі сюды, я складаю літаратурную старонку!

Яго перабівае Шура Сучкова. Ёй патрэбны вершы пра дзяўчатт-камсамолак. Трус абяцаў ёй напісаць.

Паўлюк Трус часта забягаў у рэдакцыю не адзін, а з сваім лепшым сябрам Пятром Глебкам, часам — з Максімам Лужаніным ці Сяргеем Дарожным. Усе яны друкаваліся ў «Чырвонай змене» і былі шчырымі яе сябрамі.

1926 год. Вясна. Вокны нашай рэдакцыі адчынены. Па бруку вузенькай у той час Камсамольскай вуліцы грукацяць ламавыя падводы. Ад гэтага грукату нічога не чуваць, але мы ўважліва прыслухоўваемся да кожнага слова Паўлюка Труса, які чытае верш «Студэнтка», напісаны разам з Пятром Глебкам. Шмат спрэчак выклікаў гэты верш. Хлопцы забракавалі яго, а дзяўчатам, наадварот, ён вельмі спадабаўся. Справа ў тым, што ён быў напісаны таксама па заказу нашых камсамолак і рытмічна нагадваў вельмі папулярную ў той час песеньку «Кірпічыкі». Маладыя паэты занадта ўжо хацелі дагадзіць дзяўчатам і не зусім крытычна выкарысталі кампазіцыю і інструментоўку гэтай песні:

А ў горадзе ў Белпедтэхнікум
Паступіла з семнаццаці год.
Палюбіла тут словы светлых дум
І вясёлых дзяўчат карагод.

А на трэці год я пішу ў сяло,
Ой, матуля... Не знаю чаму —
За чароўны зірк і за шчырасць слоў
Падарыла я сэрца яму.

Потым, памеркаваўшыся, мы ўсё ж парашылі пайсці насустрач пажаданню нашых камсамолак.

Вершы Паўлюка Труса часта друкаваліся і ў піянерскім часопісе «Піянер Беларусі», які ў той час рэдагаваў Алесь Якімовіч. Палюбілі піянеры папулярную ў той час песеньку на словы Паўлюка Труса «Жуpавель», якая пачыналася так:

Піянерская сям'я
Распявае жураўля:
Жура-жура журавель,
Жуpавелька малады...



Больш стала мы пасябравалі з Паўлюком Трусам у пачатку 1927 года, калі я пачаў наведваць маладнякоўскую паэтычную студыю. Яна збіралася ў будынку прафсаюзаў на Пляцу Волі.

Паўлюк Трус у той час быў адным з прыкметных беларускіх паэтаў. Яго вершы часта з'яўляліся нават на старонках часопіса «Полымя» і былі выдадзены асобным зборнікам. Паўлюк часта выступаў разам з маладнякоўцамі на літаратурных вечарах. Я ж быў толькі пачынаючы і сарамліва прымайстроўваўся дзе-небудзь у куточку, наглядаючы за смелымі паводзінамі сваіх сяброў.

На сваіх студыйных занятках мы слухалі даклады па літаратуразнаўству, разглядалі творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. У гэтых майстроў мы вучыліся валодаць мастацкім словам. Найбольш цікавымі заняткі былі тады, калі разбіралася творчасць саміх студыйцаў. Запомніліся заняткі, на якіх Паўлюк Трус чытаў свае новыя вершы. Перад гэтым было надзвычай шумліва і весела. Але калі ён пачаў чытаць, мы слухалі, не прапускаючы ніводнага слова:

За акном, над хутарамі ноч...
І маўчаць над возерам таполі.
Толькі сэрца сціснецца ад болю,
Як успомню, што было даўно.

У канцы 1927 года, пасля так званага расколу «Маладняка», Паўлюк Трус зблізіцца з групай маладнякоўцаў, якія сталі ініцыятарамі перабудовы арганізацыі ў новых умовах.

У гэты час творчасць Паўлюка Труса набыла асаблівую актуальнасць і палітычную завостранасць. Будучы актыўным прапагандыстам беларускай літаратуры, паэт наведвае фабрыкі і заводы, часта выступае сярод студэнцкай і вучнёўскай моладзі.

Летам 1928 года Паўлюк Трус наведаў Капыль. Я быў надзвычай абрадаваны сустрэчай з ім на маёй радзіме. Я вадзіў яго па знаёмых мясцінах, якія маляўніча паказаны ў аўтабіяграфічным рамане Цішкі Гартнага «Сокі цаліны». Наведалі мы і той хвойнік, дзе Рыгор Нязвычны сустракаўся з Зосяю, падняліся на Замкавую гару — месца маёвак і дэманстрацый працоўных у 1905 годзе. Паўлюк расказаў, што ў яго з Цішкам Гартным неблагія сяброўскія сувязі, што Цішка Гартны дапамагаў яму ў выданні першага зборніка. У адзін з вечароў мы наведалі хату Цішкі Гартнага і гутарылі з яго старэнькай матуляй, якая добра-такі пачаставала нас капыльскай мачанкай. У Капылі Паўлюк Трус доўга не затрымаўся. Сустрэўшыся са сваімі сябрамі і знаёмымі, былымі студэнтамі Белпедтэхнікума, ён спяшаўся ў родны Нізок. Дома яго чакалі сёстры і браты. Пачыналася гарачая пара жніва, а сваю частку Паўлюк выжынаў кожны год, наведваючы родную вёску ў час канікулаў.

Зімою 1928 года Паўлюк Трус кароткі час жыў разам са мною ў адным пакойчыку на Шпітальнай вуліцы. Уставалі мы рана і, напіўшыся халасцяцкай гарбаты, спяшаліся хутчэй на лекцыі ва ўніверсітэт. Строга па чарзе, праз дзень, адзін з нас заставаўся дома для творчай работы. Увечары, вярнуўшыся дадому, мы чыталі новыя вершы і па свежых слядах рабілі папраўкі.

Неяк у нас узнікла думка паспрабаваць свае сілы ў літаратурнай пародыі. Мы доўга падбіралі псеўданім і нарэшце спыніліся на «Себасцяне Старобінскім». Паўлюку вельмі спадабаўся гэты псеўданім.

— Хвацка будзе, — узбуджана казаў ён і рагатаў так гучна, што з-за дашчанага прасценка пачуўся стук. Гэта суседзі рэагавалі на нашу бурную творчую гутарку...

Тэкст пародый пісалі разам. Уступ да цыкла пародый напісаў Паўлюк Трус самастойна.

Нельга перадаць, як захапляўся Трус сваёй працай у часы творчага натхнення. Ён мог лёгка перайначваць вершаваны тэкст, змяняць радкі і прапаноўваць новыя

нечаканыя варыянты. Радуючыся ўдаламу і ёмкаму сказу, ён не задавальняўся нават самым канчатковым па апрацоўцы варыянтам і шукаў яшчэ лепшага.

Гэты цыкл напісаных сумесна пародый, падпісаных псеўданімам «Себасцян Старобінскі», надрукаваны ў № 4 «Маладняка» за 1929 год. З выхадам гэтага нумара часопіса пачаліся здагадкі, хто аўтар пародый, але напэўна і па сённяшні дзень ніхто не ведае, што цыкл гэтых пародый напісаны Паўлюком Трусам сумесна са мною. Паўлюк Трус умеў трымаць сакрэт. Ён мне казаў:

— Я, брат, камень. Са мною можаш мецъ які хочаш сакрэт, ніхто нічога ведаць не будзе...

Нарэшце нам удалося знайсці прыватны пакойчык на ўскраіне горада ў раёне Серабранкі. Жылі мы тады вельмі сціпла. Усё наша багацце ўмяшчалася ў студэнцкім куфэрку. Там ляжалі рукапісы, томікі вершаў любімых паэтаў.

Летам 1929 года пасля залікаў Паўлюк Трус збіраўся ў творчую камандзіроўку ў адзін з буйных саўгасаў Беларусі, а я атрымаў пуцёўку ў дом адпачынку Ждановічы. Жылі мы ў доме адпачынку ў адным пакоі з Пятром Глебкам і ўсё чакалі лісем ад Паўлюка Труса.

Быў канец жніўня. Раніцою адчуваліся подыхі восені, але ўдзень лагоднае сонца туманнай дымкай ахутвала зялёны сасоннік. У паветры адчуваўся пах пераспелага рамонку і прэлага жаўталісця. Набліжаўся новы навучальны год, і я паехаў прыгарадным цягніком у Мінск са свежымі навінамі.

У Доме пісьменніка, у малым пакоі, побач з бібліятэкай, ішло пасяджэнне БелАПП. У час пасяджэння пазванілі і папрасілі да тэлефона кіраўніка БелАПП. Да тэлефона падышоў Рыгор Мурашка. Жахлівае паведамленне. Учора ў гарадской інфекцыйнай бальніцы памёр Паўлюк Трус.

Нечаканасць збянтэжыла ўсіх. Вось толькі-толькі, некалькі дзён таму назад, ён быў сярод нас, мы чулі яго звонкі смех...

Не ішлі, а ляцелі мы ў інфекцыйную бальніцу. Зайшлі да галоўнага ўрача. На яго стале ляжаў пісьменніцкі білет, даведка і акты ўрачэбнай экспертызы... Так, гэта жахлівая праўда. Паўлюка няма ў жывых.

Як расказалі нам работнікі клінікі, у дваццатых чыслах жніўня паступіў у бальніцу хворы з высокай тэмпературай. У запісах бальнічнай карткі значыцца імя і прозвішча. Хворы назваў сябе студэнтам. Хвароба — тыфус. Толькі пасля смерці ў кішэні яго адзення знойдзены пісьменніцкі білет. Такім чынам, ніхто аж да самай апошняй хвіліны яго жыцця не ведаў, што ў бальнічнай палаце, у кутку на ложку трызніць у вялікай гарачцы беларускі паэт.

Апошні летні дзень 1929 года. Праз адчыненыя вокны Дома пісьменніка льюцца мелодыі жалобнай музыкі. У вялікай зале стаіць труна з целам Паўлюка Труса. Кветкі і вянкі закрываюць родныя абрысы твару нашага сябра. На сцяне — партрэт у жалобным крэпе. На ганаровую варту становяцца Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Кандрат Крапіва. Сотні працоўных, студэнтаў і вучняў прыйшлі развітацца з любімым паэтам.

Апошнія словы развітання, і жалобная працэсія павольна рухаецца па Савецкай вуліцы да вайсковых могілак. Свежая магіла патанула ў вянках і кветках. Тры сасны, якія апеты ў вершы паэта, стаяць на варце, як жывыя сведкі. Яны несціхана шэпчуцца між сабою:

Мы прыходзім у свет,
Каб уславіць яго,
Ўсё аддаць
За жыццё і змаганне.



Толя Скляроў, Ліда Кудрава і Саша Несцяровіч на праполцы ў калгасе.

Вера ПАЛТАРАН

# СМАК ХЛЕБА

## Перад дарогай

Над вогнішчам, начэпленыя на тоўсты жалезны прэнт, ціха булькочуць духмяным варывам два ёмкія вядры. Побач, на кусце арэшніку, сляпучым сонцам ззяе начышчаная скавародка. Крыху воддаль, на ўкапаным у зямлю аднаногім стале — цэлы ворах лыжак і бляшаных місак. Відаць, немалая сямейка збярэцца сюды, да гэтага стала пад высокімі соснамі.

Над вёдрамі, засланяючы рукою ад дыму вочы, схіліўся хлопчык. Падняў крышку на адным вядры, потым на другім і заклапочана паклікаў:

— Любоў Іванаўна!.. Ой, як каша загусла!..

— Іду, Алік...

Любоў Іванаўна, якая дасюль здалёк наглядала за работаю маладога кухара, хуценька падхапілася і заспяшалася ратаваць кашу: не падлі ў яе цяпер малака — падгарыць.

Алік глядзіць на гэтую яе няхітрую турботу, і ўвесь яго выгляд шчыра гаворыць: «Дык вось як гэта ўсё проста!.. А я і не ведаў!» Пастаяўшы яшчэ хвіліну ў роздуме, нібы стараючыся добра запомніць гэтую нескладаную навуку, Алік спяшаецца да другой работы: трэба перапаласкаць лыжкі. Ён бярэ ў адну руку лыжку, у другую — кубак з вадой і, паліваючы на лыжку, па-хлапечаму няўмела шкрабе яе пазногцем. І адразу відно: гэтая работа не часта бывае ў яго руках.

За спіною Аліка, на ўкапанай у зямлю лаўцы, аж уваапрэўшы ад незвычайнае справы, завіхаецца ля распластанага селядца Саша Кляцко. Рыбіна, як жывая, выслізае, вылузваецца з яго не вельмі спрытных рук. Нарэшце Саша, злаўчыўшыся, добра ўбірае се-

лядца ў рукі і здзірае з яго ножычкам бліскучую, тлустую скурку. Цяпер засталося парэзаць яго, пасыпаць цыбуляю і спажывайце сабе на здароўе, хто ахвочы да салёнага...

Саша выцірае ўзмакрэлы лоб і, відаць, думае аб тым, што для неспрактыкаванага чалавека нават прыгатаваць сабе паесці — навука не лёгкая. Ды і каб жа толькі сабе, а то ж — двум дзесяткам чалавек, якія з самага рання працуюць недзе ў полі. А ўжо вядома, што за апетыт бывае ў людзей, якія напрацуюцца ў ахвоту!

Ды вось і яны, лёгкія на ўспамін.

Паперадзе ўсіх ідзе Коля Ліпатаў. Што зробіш — прывык хлопец заўсёды быць першы. Яго і ў працы нікому не ўдаецца перагнаць. Пакуль хто нарве кошык шчаўя на калгасным агародзе, дык Коля — два. А пойдуць палоць пшаніцу ці палівацъ памідоры — дык Коліна постаць заўсёды маячыць далёка ўперадзе, нібы дражнячыся: даганіце, у каго сілы хопіць...

Несучы на плячы хусцінкі і жакецікі з тою прыгожаю, крышку ганарліваю зграбнасцю, з якою колісь нашы маткі насілі сярпы, услед за Колем ідуць Ліда Кудрава, Оля Кунцэвіч і ўсе іншыя дзяўчынкі з IX класа 33-й сярэдняй школы горада Мінска. Ідуць не спяшаючыся, мернаю і нейкаю важкаю хадою, па якой заўсёды пазнаеш прытомленага чалавека.

Шэсце замыкаюць хлопцы. Яны на добрага паўкіламетра адсталі ад дзяўчат. І не таму, што стаміліся больш за іх, — не! Работа — работаю, стома — стомаю, але скажыце ж мне вы, тыя, каго яшчэ трымае ў сваіх абдымках бесклапотнае дзяцінства, — скажыце ж вы мне, як вы абыйдзеце казла, што пасецца на выгане, і не падражніцеся з ім?! Вось у тым та і ўся справа, што не абыйдзеце, калі ў вашых жылах цячэ сапраўдная хлапчукоўская, а не дзявочая кроў.

Ажыў, заварушыўся маленькі — з чатырох палатак — палатняны гарадок. Дзяжурныя ўсімі сіламі пачалі прыспешваць абед. Алік узяўся за сякеру і ўмомант накалоў дроў. Весялей зашугала вогнішча: захліпаючыся ад гарачыні, мацней забулькала варыва ў вёдрах; над гарадком, перабіваючы водар нагрэтай сонцам смалы, паплыў смачны апетытны пах смажанага з цыбуляю сала. Часцей зашкрабалі па вёдрах з вадою бляшаныя карцы, гучна запляскалі па загарэлых тварах і шыях мокрыя далоні.

Нарэшце з ручайкамі халоднай вады сцякла на зямлю стомленасць. Змыўся пыл і зямля, што паналіпалі да цела. Не змылася толькі тая адмеціна, якую пакідае на руках палявая работа: яны трошкі пасівералі ад расы і ветру, зрабіліся шурпатымі, у іх моцна уелася травяная зелень. Але ад гэтага сталі неяк яшчэ харашэйшымі гэтыя па-юнацку сухашчавыя рукі, на якіх чуць праступаюць пругкія вены. І адразу становіцца зразумела, чаму сапраўдныя мастакі так любяць маляваць працавітыя чалавечыя рукі. Характэр гэтых рук сапраўды незвычайнае, бо па іх відаць, з якою шчодрасцю аддае чалавек свае сілы жыццю і чаго яму каштуе жыць на свеце; па іх жа, складзеных спакойна на каленях, можна прачытаць і найвялікшую з усіх чалавечых асалод, калі па набрынялых, натруджаных венах цячэ да самага сэрца салодкая стома працаўніка.

Блізіцца час абеду. Хто-ні-хто крадком кідае вокам на вёдры, ахутаныя воблакамі пары, і на кухараў. Па гэтаму позірку, хуткаму і бліскучаму, адразу можна здагадацца: прагаладаліся працаўнікі. Ды яно і не дзіва: ужо 2 гадзіны дня, а снедалі рана, бо ў 8 гадзін раніцы трэба быць на рабоце.

З усіх сіл стараецца ўправляцца ля агню Саша Кляцко. Любоў Іванаўна Воранава, выкладчыца мовы і літаратуры, а цяпер у дадатак яшчэ шэф-повар і загадчык усяе гаспадаркі гэтага палатнянага гарадка і яшчэ ў дадатак — старэйшы сябар і дарадчык усяе гэтае шумлівае братвы, — спадцішка



наглядае за Сашынымі клопатамі і пасміхваецца сама сабе. Справа ў тым, што Саша сёння ўзяўся даказаць і ёй, і ўсім сваім таварышам, на што ён здатны. А што гэта трэба даказаць абавязкова, Саша добра адчуваў.

З самага пачатку, як дзевяцікласнікі пачалі працаваць у калгасе, павялося неяк так, што Саша быў усюды апошні. Пойдуць збіраць шчаўе на агарод, дык ён папраміняе цэлыя рады і назбірае менш за ўсіх, а палоць пшаніцу пачнуць — Саша ледзь цягнецца ззаду. Адным словам, непрывычны хлопец да работы. А сядуць абедаць, дык Саша баршчу не есць, кашы не любіць, а каву — толькі натуральную яму падавай. Вось і рабі з ім, што хочаш.

Не згаварваючыся, то адзін, то другі з аднакласнікаў, а то і ўсе разам пачалі даймаць Сашу жартамі, пасмейвацца з яго. А Юрый Аляксеевіч Хадыка, настаўнік гэтай жа школы, уголас палічыўшы пятнаццаты кош шчаўя, які высыпае Коля Ліпатаў, не праміне папытацца:

— А ў цябе, Кляцко, каторы?

— Шосты...

— Ого! — з самым сур'ёзным выглядам здзівіцца Юрый Аляксеевіч пад агульны смех.

І вось так, усе разам, мусіцьтакі добра данялі хлопца сваімі жартамі, бо паглядзець, як ён сёння нясе свае кухарскія абавязкі, дык не скажаш, што хлопец гэты — уломак. Стараецца, а што выходзіць у яго не вельмі ўмела, то не за адзін жа раз прыходзіць гэтае ўмельства. Як кажуць: ліхая бяда — пачатак, а ён ужо зроблены: рукі да працы прыкладзены з ахвотаю. Вось каб і дома, калі Саша вернецца пасля свае практыкі, ды таксама «паднацісну лі» на яго па гэтай працоўнай лініі, то з цягам часу прывычка да працы ў хлопца магла б умацавацца. А што яе трэба выхоўваць усімі мерамі, у гэтым няма ніякага сумнення. Ад школьнага парога вядзе ў жыццё сёння адна сумленная і пачэсная дарога — гэта дарога працы.

Паспеў абед. Прыладзіўшыся



**Косця Самыкін сёння дзяжурыць па лагеру.**

хто на пеньчуку, хто — ля стала, а хто і проста прымасціўшы міску на каленях, сілкуюцца нашы маладыя працаўнікі. І дарма, што ад варыва трошкі аддае дымком, — ад гэтага яно здаецца яшчэ смачнейшае. А хлеб! Дома, за сталом, ніколі не з'ясі такога хлеба, як тут, на прыволлі, у гурце сваіх сяброў. Хоць ён трохі і пачарсцвеў, паляжаўшы на ветры, але затое зрабіўся такі нейкі салодкі і пахучы! Такім бывае толькі хлеб, зароблены сваімі рукамі.

Пасля абеду патроху знікае тая агульная зладжанасць жыцця, якая бывае зранку. Кожны бавіць свой час, як хоча. Адны забяруцца ў палатку і ўвесь свет забудуць над цікаваю кнігаю, другія разам з Юрыем Іванавічам пойдуць у недалёкі паход. Юрый Іванавіч — школьны мастак, і ў яго можна навучыцца бачыць і разумець харaство прыроды.

Прытуліўшыся дзе-небудзь пад хвояй, з прыхаванай зайздрасцю паглядаюць на ўсіх «вольных» тыя, каму даводзіцца не зусім па сваёй волі ў такі цудоўны летні дзянёк сядзець над падручнікамі або практыкаваннем па мове. Але так ім і трэба! Было не ленавацца зімою, калі навука куды лягчэй, чым цяпер, лезе ў галаву!..

Мусіць, крышку зайздросцяць усім і нашы дзяжурныя кухары. Хоць натаміліся яны не менш і ўсталі раней за ўсіх — аж у палове шостай, але ім гуляць няма калі. Пакуль прыбяруць усё, ды павышароўваюць вёдры і скавародкі, то час будзе і пра вячэру

пачаць клапаціцца. А пасля вячэры — тое ж: прыбяры, пачысці, памый. Вось калі яна стане зразумелай, тая маміна доля! А паколькі за час практыкі кожнаму з вучняў давядзецца пабыць у гэтым матчыным становішчы не адзін раз, то можна чакаць, што многія з іх вернуцца дадому з гэтай свае хоць і недалёкае, але самастойнае жыццёвае дарогі крышачку іншымі, чым выпраўляліся ў яе. Убачыўшы, як маці завіхаецца на кухні, робячы адразу некалькі работ, яны падыдуць да яе і ласкава скажуць:

— Мама, дай я...

— На, дачушка (ці там сынок), — ціха скажа маці і замітусіцца каля пліты або печы, хаваючы за гэтаю сваёю заклапочанасцю светлую слязу ўдзячнасці.

Гэта і будзе пачаткам іхняе сталасці.

Няхай чытач не падумае, што мінскія дзевяцікласнікі толькі для таго і прыехалі ў калгас, каб добра рассмакаваць ежу, прыгатаваную сваімі рукамі. Хоць і гэта, шчыра кажучы, навука, — і для іх немалая, — але ёю не абмяжоўваецца мэта іхняга прыезду.

Яны прыехалі сюды для таго, каб паглыбіць свае веды аб жыцці. А ўжо даўно вядома, што самыя трывалыя і глыбокія веды дае практыка, практычная работа, праца.

Што ведае, напрыклад, гарадскі школьнік пра тое ж шчаўе, з якога маці варыць яму боршч і халаднік? Самае большае гэта тое, у якім магазіне яно прадаецца, колькі каштуе і якое на смак. Некаторыя бачылі, дзе яно расце, калі ездзілі ў госці да родзічаў на вёску. Але толькі па адным гэтым сказаць, што яны ўжо добра ведаюць гэтую расліну, нельга, як нельга паверыць таму анекдатычнаму панскаму лёкаю, які бажыўся, што добра ведае смак вустрыц, бо «видал, как их барин едал».

Такое веданне жыцця на чужы смак нам не падыходзіць. Трэба абавязкова паспытаць яго самім.

І вось, калі пачынаецца гэтае «паспытванне», то тут бываюць самыя розныя нечаканасці.

Узяць хоць бы тое ж шчаўе. Бачылі яго нашы дзевяцікласнікі на прылаўку, а найбольш — дык у талерцы. Калі яны прыехалі ў калгас, то першае, што папрасіў іх зрабіць брыгадзір, — гэта нарваць шчаўю. Хутка павінна была пайсці ў горад машына і завезці яго ў сталовую. А прадаць вясною машыну шчаўю па 3 рублі за кілаграм — гэта немалыя грошы.

Ну што ж, нарваць дык нарваць!.. І пакуль агледзеліся брыгадзір са школьным кіраўніком практыкі, дык нашыя рупліўцы вылаташылі з карэннем добры загон шчаўя. А то якое ж гэта, маўляў, ірванне, калі карэнне ў зямлі застаецца!

Ды яшчэ мала таго: і нарванае шчаўе яны сыпалі проста на дарогу, ушчэнт змяшаўшы яго з пяском. Так што і падступіцца да яго не было як — не толькі везці ў сталовую.

Ім расказалі, што шчаўе, — расліна шматгадовая і вырываць яго з карэннем не трэба, паказалі, як яго зразаць, а каб лепш рос — як даглядаць. І, відаць, старанным людзям гэта паказвалася і расказвалася, бо праз які тыдзень шчаўевая дзялянка весела зазелянела, праполатая, падкормленая ўгнаеннем і дагледжаная як след.

А ссыпаць шчаўе пачалі на мураўку, і такое чыстае, што люба паглядзець.

Нашы гарадскія школьнікі добра ўмеюць адрозніваць здобную булку ад чорнага хлеба, але пшаніцу ад жыта наўрад ці адрозняць.

Прышлося паказваць гэтую розніцу і нашым дзевяцікласнікам. Прывялі іх на поле, і яны ўбачылі: сярод роўнае, у пояс, збажыны («... гэта пшаніца», — растлумачылі ім) сям-там павытыркаліся высокія цыбатыя калівы («... а гэта жыта»...). Не будзе вельмі ўжо вялікае бяды, калі хлеб пакладзеш каля булкі, ды і то добрая гаспадыня так не робіць, бо вельмі хутка чарсцвеюць і трацяць свой пах і хлеб, і булка. А пакінуць гэтае жыта расці разам з пшаніцаю



ніяк нельга, бо калі яно закрасуе і яго пылок пападзе на пшаніцу, то лічы прапаў увесь масіў гатунковае пшаніцы. Ён то, праўда, не зусім прапаў, — булкі з такое пшаніцы будзеш есці ды яшчэ і пахвальваць, — але для гэтага калгаса ён прапаў, бо калгас — насенняводчы і забяспечвае гатунковым насеннем усе калгасы раёна. Апылкаваная ж жытнім пылком пшаніца траціць сваю гатунковасць.

А навошта ж ёй канешне быць гатунковай, гэтай пшаніцы? Няхай бы расла, якая ёсць. І клопату менш... Не. Няможна яе пакідаць такою. Справа ў тым, што чыстае гатунковае насенне дае куды большы ўраджай. Калі, скажам, з гектара азімай пшаніцы, пасеянай гатунковым насеннем, можна атрымаць па 20 цэнтнераў з гектара, то негатунковая дасць куды менш. Дык скажыце ж, калі ласка, хто гэта не захоча мець большую выгаду за аднолькава затрачаную працу! Вось чаму попыт калгасаў на гатунковае насенне такі вялікі і вось чаму існуюць спецыяльныя насенняводчыя гаспадаркі, такія, як калгас «Сталінскі шлях». Толькі з дапамогаю такіх гаспадарак калгасы змогуць атрымаць тыя высокія ўраджаі збожжавых, якія запланаваны сямігадовым планам.

Вось так яно і атрымоўваецца, што нашы дзевяцікласнікі, якія паехалі ў калгас «адбыць» практыку, самім жыццём аказаліся ўцягнутымі ў вялікую стваральную работу ўсяго савецкага народа, які ажыццяўляе велічныя планы сямігодкі.

Каб шляхам вось такіх, прыкладна, разважанняў абудзіць у вучняў цікавасць да тае работы, якую яны робяць, то яны маглі б яшчэ папытацца, адкуль жа бярэцца тое гатунковае насенне, якім засеяны палі насенняводчага калгаса.

Але справа ў тым, што гэтая цікавасць пакуль што мала распальваецца, ды і папытацца часам не вельмі ёсць у каго.

Вытворчая практыка школьнікаў у калгасах — справа новая, і



**Вучні Оля Кунцэвіч, Саша Несцяровіч, Люба Наркевіч і студэнт Міша Масны вывучаюць будову коласа.**

як ва ўсякай новай справе, тут яшчэ ёсць шмат чаго недадуманага. Пачаць хоць бы з таго: хто з настаўнікаў у першую чаргу пасылаецца з вучнямі на практыку ў калгас? Канешне — выкладчык фізкультуры ў першую чаргу, відаць, па той прычыне, што, маўляў, фізкультура найбліжэй стаіць да фізічнай працы: канешне — інструктар па вытворчай працы: маўляў, гэта ж яго прадмет: ну, і канешне ж, не абмінуць паслаць добрую душу — моваведа; гэты ніколі не адмовіцца. А вось тыя, хто можа найбольш прынесці карысці ў гэтай справе — выкладчыкі батанікі і заалогіі чамусьці якраз на гэты час аказваюцца занятымі ў школе. Праўда, яны наведваюцца калі-ні-калі да вучняў, што знаходзяцца на практыцы, але ж гэтыя наведванні так і застаюцца наведваннямі, карысці ад іх, безумоўна, менш.

І атрымоўваецца так, што ў школе, за партаю, веды па той жа заалогіі і батаніцы набываюцца пераважна тэарэтычныя, а калі настае час звязаць іх з практыкай, то гэтыя магчымасці выкарыстоўваюцца вельмі і вельмі слаба, бо вытворчая практыка ў нас пакуль што разумеецца толькі выключна як фізічная праца. Яно правільна:

дацъ школьнікам адчуць смак заробленага сваёю працаю хлеба — вельмі трэба. Але гэта толькі адзін бок тае вялікае справы, якую пачала наша партыя, перабудоўваючы работу школы. Не менш важна і тое, каб, даўшы работу юнацкім рукам, нястомна будзіць і юнацкі розум, усяляк імкнуцца пашыраць і паглыбляць яшчэ вельмі. нетрывалыя вучнёўскія веды аб жыцці.

Возьмем тую ж пшаніцу, якую так старанна полюць нашы дзевяцікласнікі. Каб вось сюды, на поле, запрасіць калгаснага агранома Паўла Міхайлавіча Міхалка, які мае вялікую пракыту ў насенняводстве, ён вельмі хораша расказаў бы пра тое, што перш чым зашумець на такім неаглядна шырокім полі, гэты гатунак пшаніцы па каліўцу адбіралі вучоныя-селекцыянеры. З каліўцаў на невялікіх вопытных участках вырошчваліся жменькі, са жменек — кілаграмы зерня. А цяпер з гэтых кілаграмаў трэба вырасціць дзесяткі тон гатунковай пшаніцы.

Пасля гэтага кожны з вучняў нягхай бы і падумаў, колькі вялікай працы прыкладае чалавек, перш чым хлеб духмяным боханам ляжа на яго стол.

Чым больш наша маладое пакаленне будзе ведаць аб жыцці, тым з большаю сур'ёзнасцю яно будзе адносіцца да сябе, да пошукаў свайго сапраўднага месца ў вялікім калектыве працаўнікоў.

Абуджаць цікавасць да ўсякай справы, якая трапляе ў юнацкія рукі, вельмі важна яшчэ і таму, што гэтыя рукі могуць і навек палюбіць цікавую справу, назаўсёды прыстаць да яе.

### Гаспадары палёў

Калгасу «Сталінскі шлях» пашанцавала сёлета на практыкантаў. Праўда, у практыкантаў гэтых — усяго і агульнага, што назва аднолькавая. Адны з іх вучацца пакуль што не вырываць з карэннем шчаўе, другія — сур'ёзна рыхтуюцца да таго, каб узяць на свае плечы ўсе тыя немалыя клопаты, якія ўскладаюцца на калгаснага агранома.

І тым не менш, будучага агранома Мішу Маснага нешта цягне да сваіх малодшых калег-практыкантаў. І гэтае «нешта» — гэта не толькі яго аграномаў абавязак навучыць іх хадзіць каля зямлі і ўсяго таго карыснага, што на ёй расце. Акрамя гэтага абавязку, Мішавы дачыненні да гэтых гарадскіх хлопчыкаў і дзяўчынак маюць трошкі «сваяцкі» характар. Справа ў тым, што гэты будучы аграном і шчыры прыхільнік вясковага прыволля таксама нарадзіўся і вырас у горадзе.

Тады, калі Міша вучыўся ў школе, вучняў яшчэ не пасылалі на практыку ў калгасы, і хлопец па сваёй ахвоце ехаў да родзічаў на вёску і цэлае лета практыкаваўся на ўсякай рабоце, якая была яму пад сілу.

Працуючы, ён прыглядаўся да мала знаёмага яму свету прыроды ўсё з большай і большай прыхільнасцю. А прырода, здавалася, толькі і падсцерагала гэты прыхільны хлапечы позірк. Як тая старая чарадзейка, яна адразу наслала на ўражлівага гарадскога хлапчука ўсе свае чары: дыхнула на яго бязмежным палявым прыволлем, нешта пашаптала яму ціхім шэптам налітых каласоў, падзьмула лёгкім пахучым дыханнем палявых вятроў. І назаўсёды запаланіла хлопца. Калі Міша закончыў школу, у яго не было іншай думкі, як стаць аграномам. А паколькі школу ён закончыў вельмі добра, то шлях у Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію не быў для яго цяжкі.

І вось Міша Масны — студэнт агранамічнага факультэта. Некаторыя яго таварышы па вучобе прышлі ў студэнцкія аўдыторыі ўжо з салідным жыццёвым і прафесіянальным вопытам. Міша ж пераступіў парог акадэміі з адною толькі вялізнаю любоўю да сваёй будучай прафесіі ды з упартай настойлівасцю чалавека, які вырас у добрай, працавітай сям'і.

І вось паступова, дзень за днём, пачаў раскрываць перад студэнтам-навічком свае таямніцы цудоўны свет раслін. Таямніцы гэтыя раскрываліся самым надзейным спосабам. Спачатку па кніжках ды па лекцыях вывучалася, напрыклад, карнявая сістэма той ці іншай расліны, а потым на сваёй акадэмічнай падсобнай гаспадарцы, з гнаявымі віламі ці матыгаю ў руках, трывала замацоўваліся здабытыя тэарэтычныя веды: гэтая самая «карнявая сістэма» падкармлівалася, праполвалася і дагледалася не на дзесятках, а на сотнях гектараў .

Такім чынам, будучыя аграномы раслі не толькі як спецыялісты, але і як працавітыя, дбайныя гаспадары.

Тут жа, на полі, на практыцы, Міша Масны высветліў для сябе яшчэ адну немалаважную акалічнасць: ён будзе не гароднікам і не садоўнікам, а толькі паляводам. На думку Мішы, у агранаміі няма галіны, цікавейшай за паляводства.

На гэты выбар самы рашаючы ўплыў зрабіў Мішаў характар. Вядома, што паляводства — самая шырокая галіна агранаміі, і якраз тут шукала сабе выйсця Мішава вялікая прага да ведаў і выключная працавітасць.

Хутка бяжыць час. Адзін за адным коцяцца і коцяцца ў вечнасць гады. А студэнцкія ж гады — найкарацейшыя ў жыцці. І не згледзіш, як прамільгнуць яны на самай высокай хуткасці, і толькі назаўсёды абдадуць цябе ветрам свайго вялікага разгону.

І Мішавы чатыры гады вучобыуга дзе ўжо далёка! Хоць на пальчыкі станавіся, каб іх убачыць... Але навошта глядзець назад, калі самае цікавае, самае галоўнае ў чалавека — заўсёды ўперадзе. Вунь расце 12 гектараў кукурузы, пасаджанай уласнымі рукамі ўжо не на вопытных участках акадэміі, а ў сапраўдных, як Міша кажа, — вытворчых умовах: на калгасным полі. На яе трэба глядзець. І глядзіць хлопец, ды яшчэ як, бо на кукурузным полі ні травінкі, ні зялінкі не знойдзеш. Дагледжана, прабаранавана, падкормлена — чаму ёй і не расці ў гэткай выгадзе!



Будучыя аграномы Генадзі Кудраўцаў, Міша Масны і Віктар Чарненкаў на вопытным участку.

Калі шчыра сказаць, то на гэтым участку вырасце не толькі добрая кукуруза, але і не горшы за яе дыплом будучага агранома Мішы Маснага. Справа ў тым, што ў сваёй дыпломнай рабоце Міша ўзяўся распрацаваць новую, цікавую і вельмі патрэбную тэму: як уплываюць мікраўгнаенні на выспяванне пачаткаў кукурузы.

Яшчэ два-тры гады таму назад нашым аграномам даводзілася даказваць, пераконваць на практыцы некаторых калгасных кіраўнікоў і калгаснікаў, што і на беларускіх землях можа расці госця паўднёвых палёў — кукуруза. Сёння гэта ўжо справа даказаная. Перад беларускімі аграномамі паўстала другая задача: знайсці тыя ўмовы, пры якіх кукуруза магла б выспяваць на працягу нашага нядоўгага і часам няшчодрага на сонца лета.

Такую задачу паставіў перад сабой і Міша Масны. У яго засеяна 12 вопытных участкаў кукурузы.

І кожны з гэтых участкаў засяваўся насеннем, пэўным чынам апрацаваным перад пасевам. На адным участку пасеяна непарошчаная кукуруза, на другім насенне яе перад пасевам добра ўвільгатнялася, на трэцім гэтае ж насенне, перш чым сеяць, клалася ў адпаведны раствор аднаго ўгнаення, на чацвёртым — другога і г. д. Калі кукуруза вырасце, дык тут і будзе відно, які ўчастак раней зацвіце, дзе перш завяжуцца пачаткі і дзе яны хутчэй пачнуць спець. І тут ужо сама справа пакажа, у якім напрамку весці далей доследы, каб прымусіць кукурузу выспяваць на нашых палях. А гэта неабходна для таго, каб наша рэспубліка мела магчымасць забяспечыць калгасы сваім кукурузным насеннем.

Для будучага спецыяліста любой галіны, які робіць свой першы самастойны крок у жыцці, вельмі важна, каб крок гэты быў зроблены ў правільным напрамку. А гэтую арыентацыю дае яму веданне жыцця, адчуванне таго, дзе, на якім участку працы больш за ўсё спатрэбяцца яго рукі і розум.

Вось такое добрае адчуванне патрэб жыцця і ёсць якраз у Мішы Маснага. Ужо сваёю першаю практычнаю работаю ён імкнецца ўнесці пасільны ўклад у агульныя намаганні нашых вучоных і аграномаў, якія наважылі канчаткова здружыць кукурузу з беларускімі землямі.

Разам з Мішам Масным на палях «Сталінскага шляху» адбываюць сваю першую вытворчую практыку яго аднакурснікі Генадзі Кудраўцаў і Віктар Чарненкаў. Хлопцы часта сустракаюцца, раяцца між сабой. Праўда, Віктарава брыгада — самая далёкая, і Міша з Генадзіем часцяком праводзяць свае «вытворчыя нарады» ўдваіх.

У другой брыгадзе, дзе праходзіць сваю практыку Генадзі, таксама пасеяна 13 гектараў кукурузы, і яна знаходзіцца пад неаслабным Генадзіевым кантролем. Акрамя кукурузы, малады аграном яшчэ цікавіцца гародніцтвам. Вунь пасаджана цэлая плантацыя кармавой бручкі. Генадзі аглядае яе і, як вопытны доктар па выгляду хворага адразу ставіць дыягназ, так і ён па цыбатых, кволенькіх сцяблінках бручкі адразу пазнае: у расадніку, дзе яна расла, глеба была бедная на фосфар. Трэба падкарміць згаладнелыя расліны.

Непадалёку ад бручкі растуць калгасныя агуркі. Частку іх Генадзі пасадзіў сваім спосабам. Радкі, у якія саджаецца прарошчанае насенне, ён зверху пасыпаў тарфяной крошкай. Гэты спосаб аграномы называюць мульчыраваннем. Тарфяная крошка не дае ўтварацца на паверхні глебы корцы, дробныя ж камякі торфу свабодна прапускаюць у глебу кісларод. І цікава панаглядаць, як узыходзяць гуркі на гэтых Генадзіевых градах. Там, дзе цягнецца роўненькая чорная тарфяная дарожка, папраскаквалі і цягнуцца ўверх двума моцнымі тоўстымі лісточкамі дзябёлыя агурэчныя калівы. Там жа, дзе гэтая тарфяная дарожка абрываецца, агуркі яшчэ і з зямлі не паказаліся, хоць іх садзілі разам з тымі, што паўзыходзілі.

Спосаб гэты, канешне, не новы, ды тут і не ў навізне справа, а ў тым, што ён, безумоўна, вельмі карысны. А дзе справа ідзе аб карысці, то напомніць аб забытым агратэхнічным прыёме вельмі нават не шкодзіць. А ў дадзеным выпадку малады аграном, як добры гаспадар, дбаў толькі аб карысці справы.

Адбыць вытворчую практыку можна па-ўсякаму. Абрадаваўшыся, што табе нарэшце дадзена поўная свабода, можна пракачацца ўсё лета ў халадку, а потым наспех запоўніць дзённік, навыдумляць сяго-таго для справаздачы і, зрабіўшы жаласлівы выгляд, выпрасіць у калгаснага агранома больш-менш прыстойную характарыстыку. Павел Міхайлавіч Міхалок расказвае, што на яго вяку сустракаліся такія «практыканты».

Можна пракапацца ўсё лета на сваім вопытным участку, больш нікуды не паказваючы вачэй і нічым не цікавячыся, і схаваць гэтую сваю абыякавасць да ўсяго пад выглядам вучонага-дзівака, па вушы закаханага ў сваю справу. І такія бываюць.



А можна прыехаць у калгас і неяк адразу стаць тут сваім і патрэбным чалавекам. Такому чалавеку да ўсяго і да ўсіх будзе справа, як усім будзе справа да яго.

Вось такімі сваімі, патрэбнымі людзьмі адразу адчулі сябе ў «Сталінскім шляху» Міша, Генадзі і Віктар. І таму, што хлопцы з вялікаю ахвотаю робяць усякую работу, дык яна, здаецца, сама ліпне да іх рук. Пашлі вучні палоць пшаніцу, Міша абавязкова сходзіць да іх у поле, паглядзіць, ці ўсё робіцца як след, пакажа, калі хто чаго не ўмее. За такімі працаўнікамі трэба глядзець ды глядзець, бо насадзілі ж яны ў суседнім калгасе замест бручкі — каля гектара сурэпы квадратна-гнездавым спосабам. Усё, маўляў, зроблена, як трэба, агратэхнікі не парушылі...

Або яшчэ. Насадзілі жанчыны памідораў і, не паліўшы іх, пашлі сабе абедаць. А спёка стаіць страшэнная, не палі — загінуць і памідоры, і людская праца. Пакуль там брыгадзір агледзіць гэты беспарадак, дык Міша ўжо агледзеў і ўгаварыў школьнікаў застацца на полі на паўгадзіны і ўратаваць памідоры.

Хіба пералічыш усе тыя справы, якімі бывае заняты ўвесь рабочы дзень маладых аграномаў! Ды яно і ўвечары работа знойдзецца: то трэба выпусціць свежы нумар калгаснай сатырычнай насценгазеты, то распілаваць калоду і зрабіць з яе слупы для баскетбольнай пляцоўкі... Ну, зусім жа не адчуваецца, што нашы маладыя аграномы тут — часовыя жыхары.



**Пеця Гарошка навучыўся запрагаць каня.**

Фота С. Чырэшкіна.

Яны ўсё робяць так, нібы пасяліліся ў сваім «Сталінскім шляху» назаўсёды.

— Добрыя хлопцы, я вам скажу, — неяк нават крыху расчулена гаворыць пра іх непасрэдны кіраўнік іхняй практыкі Павел Міхайлавіч Міхалок. — Гэткага вось Мішу я сам аберуч у свой калгас цягнуў бы.

— Хлопцы вартыя. — згаджаецца і другі калгасны аграном — Георгі Васільевіч Верамейчык. — Пра іх і напісаць не грэх.

А самі хлопцы просяць:

— Мы вам раскажам усё, што хочаце. Толькі пісаць пра нас не варта. Вельмі ж яшчэ мы нічога не зрабілі...

Што ж, з вашае згоды, таварышы, мы будзем лічыць, што тут ішла гаворка не пра Мішу Маснага, Генадзія Кудраўцава і Віктара Чарненкава, а наогул пра трох будучых аграномаў, якіх Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія і практычная работа на калгасных палях добра падрыхтавалі ў самастойную жыццёвую дарогу.

## М. МЕЛЬНІКАЎ

# ВІКТАР ЗАСТАЕЦЦА Ў СТРАІ

Сутаргава хапаючыся за кола трактара, ён ступіў крок, другі і асеў на мяккую раллю. Хлапчук-прычэпшчык кінуўся да яго:

— Віктар, што з табою?

— Хутчэй дадому, — прастагнаў трактарыст.

Калі яго клалі на ложак, маці галасіла:

— Казала ж табе, сынок, не лезь ты на гэты трактар...

З месяц праляжаў Віктар дома, потым — у бальніцы. Урачы катэгарычна забаранілі яму працаваць на трактары. Без нагі чалавеку і хадзіць цяжка, не толькі што працаваць трактарыстам.

Але Віктар, ачуняўшы, цвёрда сказаў:

— Усё роўна сяду за трактар. Сяду!

А пакуль што прыходзілася ляжаць у бальнічнай палаце і ўспамінаць мінулае.

Віктар Абуховіч меў поўнае права сказаць пра сябе: «Як мала пражыта, але як многа пражыта...»

Ці ж забудзе ён сваё нялёгкае маленства ў роднай вёсцы Паклады, на беразе Сожа. Без бацькі гадаваўся Віктар. Пражыў цяжкія гады акупацыі.

Увосень 1943 года савецкія войскі вызвалілі ад фашысцкіх захопнікаў Крычаўшчыну. І шаснаццацігадовы Віктар Абуховіч разам з Тоняй Якубенка і Надзяй Абуховіч першымі ўступілі ў камсамол, стварылі камсамольскую арганізацыю ў Пакладах. Камсамольцы дружна ўзяліся за аднаўленне калгаса. Пачалі збіраць насенне, каб абсеяць арцельнае поле. Людзі самі прыносілі, хто колькі мог. Прынёс і Віктар. Ён скінуў з пляч мяшок і паставіў яго перад сталом у канторы калгаса. Старшыня спытаў:

— Напэўна, усё падчысціў? А маці згадзілася столькі даць?

— Згадзілася, — адказаў Віктар.

Аднойчы паштальён прынёс у хату Абуховічаў паперку. У ёй гаварылася, што воін Савецкай Арміі Уладзімір Абуховіч загінуў смерцю храбрых у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі. Загаласіла маці. Уладзімір, старэйшы яе сын, пайшоў на фронт у 1941 годзе, і з таго часу аб ім не было ніякай чуткі. І цяпер такая вестка — першая і апошняя...

Віктар сціснуў да болю пальцы рук, але не заплакаў. Уранку ён пайшоў у Крычаў у райваенкамат і сказаў:

— Таварыш ваенком, брата майго старэйшага забілі фашысты. Я пайду на фронт, добраахвотнікам.

Так камсамолец Віктар Абуховіч стаў байцом 512 стралковага палка. Ён памятае цяжкія баі пад Псковам, пад Астравом. Трапіўшы на замаскаваныя пазіцыі ворага, палкавыя разведчыкі штыком і





**Віктар Абуховіч.**

гранатай пракладалі сабе дарогу. Цяжка параніла аднаго з іх, і Віктар пад варожым агнём вынес таварыша ў бяспечнае месца.

Ці памятае камандзір аддзялення, украінец Саша, як многа разоў, рызыкуючы жыццём, выносіў яго, цяжка параненага, з бою беларускі хлопец Віктар Абуховіч?!

Ніколі не забудуць байцы двойчы Чырвонасцяжнай Астраўскай дывізіі зацяжных баёў ля Тарту. У тыя дні даводзілася адбіваць па 12 варожых контратак і самім столькі ж разоў хадзіць у атаку. У гэтых пякельных баях Абуховіча кантузіла.

У жніўні 1944 года полк, у якім служыў Віктар Абуховіч, біўся з ворагам непадалёк ад Рыгі. Немцы ўмацаваліся ўздоўж чыгункі. Асабліва надакучаў нашым воінам варожы кулямёт. Аднойчы да камандзіра падраздзялення ў зямлянку ўвайшоў разведчык Віктар Абуховіч. Ён папрасіў дазволу ноччу знішчыць кулямёт. Камандзір паглядзеў на семнаццацігадовага салдата і ледзь прыкметна ўсміхнуўся.

— Кажаш, што знішчыш?

— Знішчу, таварыш камандзір! — горача адказаў салдат.

— Добра, я падумаю.

Цёмная жнівеньская ноч апусцілася над зямлёю. Цішыня. Толькі аднекуль здалёку даносяцца глухія раскаты выбухаў. Гэта наша авіяцыя бамбіць варожыя пазіцыі ля Рыгі. Віктар Абуховіч асцярожна прабіраўся да чыгункі. Ззаду — таварышы. Калі загіне ён, пойдзе наступны разведчык...

Усё бліжэй і бліжэй чыгуначны насып. Яшчэ некалькі крокаў... Віктар падняўся і, шырока размахнуўшыся, кінуў гранату. За першай — другую. Грымнулі выбухі, застракатаў кулямёт. Абуховіч зрабіў крок наперад і з усяе сілы кінуў трэцюю гранату. У той жа момант ён адчуў, як нехта, нібы жалезным бізуном, выцяў яго па нагах. Віктар упаў. Але варожы кулямёт змоўк. Таварышы ірвануліся наперад. Нехта, ухваціўшы на плечы абмякшага Абуховіча, прыгінаючыся, пайшоў назад...

Пацягнуліся пакутлівыя дні ў санбаце, у перасыльных шпіталях. Гэта былі дні цяжкага роздуму: «Што ж рабіць цяпер?» Таварыш з Растова, які таксама страціў правую нагу, клікаў Віктара на Дон. Ён ведаў, што Віктар не піша ў родныя Паклады, не хоча вяртацца туды калекаю.

Любоў да родных мясцін, да роднага краю — вялікая сіла. Віктара клікалі шырокія палі, сінія пералескі, ціхаплынны Сож. А мара аб шчаслівай хвіліне, калі ён сядзе за руль трактара і пракладзе загон на родным полі! О, гэтая мара была мацней за ўсё. Яна не давала спакою нават у сне.

І вось Віктар Абуховіч — салдат з фронта — у родных мясцінах. Засталося прайсці тры кіламетры — і будзе яго родная вёска Паклады. Вунь за тым узгоркам... Але раптам Віктар паслізнуўся. Жанчына, што ішла насустрач, падтрымала яго пад руку. Гэта была Марыя Пятроўна Ратабыльская — сяброўка маці.

— Дзякую, — ціха прамовіў Віктар. А хацелася сказаць: «Марыя Пятроўна, няўжо вы не пазнаеце мяне?»

— Вам далёка? — спытала тая.



**Вядомую латышскую пісьменніцу Анну Саксе наведала група маладых літаратараў. У садзе, сярод дрэў вырашчаных гаспадыняй, адбылася сяброўская гутарка.** На здымку: злева направа — **старшыня секцыі паэзіі ССП Латвіі Андрыс Веян, Анна Саксе, пісьменніца Дагіня Зігмонтэ і паэт Арвід Скабле.**

Фота А. Дзітлава.




**Паміж шматлікіх спартыўных спаборніцтваў гэтага года вельмі цікавай была пятая Усесаюзная спартакіяда працоўных рэзерваў, у якой побач з моладдзю нашай краіны прынялі ўдзел госці з-за мяжы.** На здымку: **адзін з забегаў дзяўчат на дыстанцыю 200 метраў** (у белай майцы венгерская спартсменка **Каталіна Ючас**).

Фота А. Дзітлава.



**Даярка калгаса «Чырвоны Кастрычнік» Мазырскага раёна Ева Нікіфараўна Басак.**
*Партрэт мастака В. Жолтак.*

**Конюх калгаса імя Дзяржынскага Мазырскага раёна Раман Данілавіч Ракоцкі.**
*Партрэт мастака В. Жолтак.*

— Да Пакладаў, — адказаў Віктар.

— Дык пачакайце крыху, вунь фурманка туды едзе. — Яна паклікала хлопчыка, які якраз выязджаў з двара на вуліцу: — Міколка, ты дадому? Падвязі салдата.

Фурманка выехала за Сакольнічы. Віктар углядаецца ў Міколкаў твар. Той нават пабойвацца стаў. «Чаго ён так глядзіць на мяне?»

— Ты мяне пазнаеш, Міколка? — ціха пытаецца ў хлопчыка Віктар.

— Што вы, дзядзька? Я вас першы раз бачу.

— Мікола, гэта ж я, брат твой, Віця!..

Мікола замахаў рукамі:

— Што вы, дзядзька! Мой брат Валодзя загінуў. Паперку прыслалі. І Віцька загінуў таксама... Адзін чалавек з Крычава з ім быў і бачыў, як яго кулямётам скасіла...

— Мікола, хіба ты не пазнаеш мяне? — зноў паўтарыў Віктар.

Хлопчык раптам уздрыгануў. Ён пазнаў голас брата. Так, гэта быў Віктар. І Міколка, нібы баючыся, што брата зноў не стане, сцебануў каня з усяе сілы.

... Ужо каторы дзень адлежваецца Віктар дома. І курыць, курыць без канца. Неяк вясновым ранкам зайшоў у хату Абуховічаў дэмабілізаваны лётчык-афіцэр Іван Васільевіч Кузікаў, сябар старэйшага брата Уладзіміра.

— Качаешся на ложку? — спытаў ён.

— Качаюся.

— Доўга думаеш бакі пралежваць?

— А што ж рабіць?

— Кім ты хацеў быць раней?

— Добрым трактарыстам, такім, як наш Валодзя.

— Дык чаго ж разгубіўся? Ты ж хлопец з характарам. Бярыся!..

— Лёгка сказаць — бярыся. А хто мяне без нагі ў школу трактарыстаў прыме?

— А ты дома вучыся. Вазьмі кнігу. Падчытай, потым на практыку. Людзі без абедзвюх ног на самалёце лётаюць, а ты на трактар не адважваешся сесці. Дзівак!..

— Пачакай, Іван Васільевіч, пачакай. Ты пра лётчыка праўду кажаш?

Віктар два разы прачытаў кнігу Барыса Палявога «Аповесць аб сапраўдным чалавеку». Потым гаварыў аднаму знаёмаму:

— Ну, браток, і кніга! Колькі сілы дадала мне.

Механік Крычаўскай МТС Іван Іванавіч Маслаў прыехаў на поле калгаса «Запаветы Ільіча» паглядзець, як працуе трактарыст Віктар Язерскі. Трактар стаяў ля дарогі. Пад ім нехта корпаўся. Механік прыглядзеўся: не, не Язерскі.

— Гэй, хлопец, што ты робіш пад машынай? — крыкнуў механік.

— Падшыпнік падцягваю, — пачулася з-пад трактара.

— А ну, вылазь, пагляджу, як ты яго падцягнуў...

Калі хлопец вылез з-пад трактара, механік праверыў работу таго, выцер рукі і спытаў:

— Даўно на машыне?

— Два тыдні прычэпшчыкам у Язерскага. Ён да вайны працаваў з маім братам Уладзімірам, а цяпер мяне ўзяўся падвучыць. Я сам вучыўся па кніжцы, а цяпер вось практыкуюся. Ён на абедзе, хутка вернецца.

— Падшыпнікі добра падцягнуў, — сказаў механік. — А што гэта ў цябе з правай нагою? Чаму накульгваеш? Ударыўся?

— Няма ў мяне нагі...

— Ты праўду кажаш? Дык ты ж, брат, герой!

З таго часу механік Маслаў і трактарыст Абуховіч сталі сябрамі. Неўзабаве Віктару дазволілі вадзіць трактар.

Шчыра, з душой працаваў Віктар. У 1947 годзе яго выклікалі ў райваенкамат і ўручылі ордэн Айчыннай вайны за праяўленую мужнасць пры знішчэнні варожага кулямёта пад Рыгай.

Усё ішло добра, але тагачасны старшыня калгаса, чалавек вельмі хітры і помслівы, знелюбіў простага і сумленнага трактарыста. Аднойчы, даведаўшыся, што Віктар паслаў у кіруючыя органы ліст пра беспарадкі ў калгасе, старшыня іранічна сказаў:



— Дарэмна стараешся, усё роўна заява ў раён прыдзе. І наогул, лепш бы табе галаву адарвала, чым нагу!

... Шмат год з таго часу прайшло. Даўно вытурылі таго Пакладаўскага старшыню. Паразганялі і яго апекуноў. А Віктар і сёння працуе, нібы песню спявае.

Дзве граматы, ганаровая пасада старшага трактарыста — гэта толькі знешнія прыкметы перамог, атрыманых Віктарам Абуховічам на працоўным фронце. Трэба бачыць, як водзіць ён трактар, якой радасцю свеціцца яго твар! Пра яго работу і аграном і брыгадзір заўсёды гавораць:

— Дык гэта ж Віктар, наш гвардзеец палёў!..

Летась Віктара паклікалі ў праўленне і спыталі:

— На гусенічным трактары здолееш працаваць?

— А чаму ж?.. Я ўжо яго вывучыў.

— Не ў гэтым справа. Не цяжка будзе?..

— Буду працаваць на «ДТ», — сказаў Абуховіч.

Усё лета вадзіў ён магутны гусенічны трактар па родных палях і вучыў маладых хлопцаў, у тым ліку і свайго брата Міколу.

Жыццё не песціла Віктара Абуховіча. Яно прынесла яму шмат цяжкіх выпрабаванняў. У 1953 годзе ад няшчаснага выпадку пры пажары памёрла яго жонка. Трое малых дзяцей засталіся на руках Віктара. Здавалася, цяпер воля чалавека будзе надламана. Але аднавяскоўцы памаглі яму, і Віктар адолеў вялікае гора.

Калгаснікі роднай вёскі выбралі Віктара дэпутатам Касцюшкаўскага сельскага Савета. Яны ведаюць, што ён будзе строга стаяць на варце інтарэсаў працоўных, не змірыцца з недахопамі.

Цяперашні старшыня калгаса, між іншым, гаворыць пра Віктара:

— Чалавек ён справядлівы, гэты Абуховіч, але вельмі патрабавальны.

І сапраўды, Віктар патрабавальны.

З дня апошняй сустрэчы з Віктарам прайшло больш месяца. Па беларускай зямлі ўжо крочыў вясёлы, увесь у сонечных промнях звонкагалосы май. Першая вясна сямігодкі была ў разгары.

Яшчэ здалёк я ўбачыў, як з-за пералеску вышаў гусенічны трактар. Асветлены ранішнім сонцам, ён нагадваў сталёвага каня, які цягнуў магутныя плугі і бароны. На трактары было два чалавекі. Аднаго я пазнаў адразу. Гэта быў Віктар Абуховіч. Калі машына падышла, Абуховіч спыніў яе і выключыў матор. Мы павіталіся. Віктар спытаў, дзе я так доўга гасціў? Даведаўшыся, што ў Маскве, ён спытаў:

— Ну, як там Масква, раскажыце? Будуецца?

Ён уважліва слухаў мой расказ аб Маскве, аб новабудоўлях сталіцы.

— А як у вас справы? — спытаў я ў Віктара на развітанне.

— Працуем, стараемся, — сарамліва ўсміхнуўшыся, адказаў Абуховіч.

— Няма чаго скромнічаць, — умяшаўся ў гутарку Віктараў таварыш і дадаў: — У яго самая высокая выпрацоўка, найлепшая якасць работы!

— Ці ж я адзін на трактары?.. — прагаварыў Віктар. — І зменшчык мой Сізоў таксама працуе не горш!

Завуркатаў матор. Хлопцы паехалі, а я, ідучы з поля, усё думаў і думаў пра гэтага чулага, простага чалавека, які шмат перажыў, — пра сапраўднага героя нашага слаўнага часу.

# ЖЫЦЦЁ КЛІЧА

Здавён-даўна вядома, што толькі жыццё дае мастаку і магутныя крылы думкі, і відушчы позірк, якому адкрываюцца ўсе таямніцы чалавечай душы. Нездарма ж жывая фантазія народа яшчэ на зары зараджэння мастацтва стварыла неўміручы вобраз Антэя, якому маці-зямля давала неадольную сілу і які траціў гэтую сілу і рабіўся бездапаможны, як толькі адрываўся ад яе.

Вось гэтае жывое дакрананне да жыцця, неабходнае ўсякаму мастаку, крайне неабходна мастаку-жывапісцу. У сілу самой спецыфікі гэтага віду мастацтва ў жывапісца жыццё павінна быць заўсёды «пад рукою» ў выглядзе цікавай, багатай натуры. І поспех работы жывапісца, больш чым у каго з яго сяброў па мастацтву, залежыць ад таго, наколькі яму пашанцуе напаткаць тып чалавека або з'яву, у якіх найбольш поўна праявіліся тыя бакі жыцця, якія яго цікавяць.

А паколькі шанс заўсёды знаходзіцца ў самай простай і непасрэднай залежнасці ад пошукаў, то нечага сядзець склаўшы рукі і чакаць, пакуль жыццё само пераступіць парог тваёй майстэрні і, усеўшыся ў крэсла ў самай эфектнай позе, скажа: «Вось я. Малюй...»

Трэба самому ісці насустрач жыццю.

Так, — ці прыкладна так, — паразважаўшы самі з сабою і добра паспрачаўшыся пра маршрут, пяць мастакоў: Раіса Кудрэвіч, Валянціна Жолтак, Аляксандра Паслядовіч, Уладзімір Стальмашонак і Натан Воранаў пачалі збірацца ў дарогу.

І вось, нарэшце, ва ўмоўленым месцы нецярпліва пафырквае, як стаеннік, аўтобус Саюза мастакоў. У яго хутка грузіцца ўсё неабходнае начынне: эцюднікі, мальберты, раскладушкі, фарбы і... гумавыя боты. А яны навошта ў такую гарачыню, каб хто папытаўся?.. «А як жа без іх? — здзівіліся б у сваю чаргу мастакі. — Вы ж не ведаеце, куды мы едзем...»

Аўтобус бярэ курс на Палессе.

Перад вокнамі пабеглі палі і пералескі Міншчыны, лясы Гомельшчыны, і вось яна, даўнейшая сталіца палешукоў — Мазыр. Вылазьце, калі ласка, са свайго аўтобуса, ды ступайце смела, не бойцеся: тут суха. Таго Палесся, якое некалі танула ў гразі, няма ўжо на свеце. Палешукі, як і ўсе добрыя людзі, ходзяць цяпер у басаножках і туфлях.

Знаёмства з раёнам пачалося ў райвыканкоме. Тут гасцям з Мінска расказалі, якая прамысловасць ёсць у горадзе, чым цікавы той ці іншы калгас раёна.

Мастакі зацікавіліся калгасам імя Дзяржынскага і адразу накіраваліся туды. І не памыліліся. Кожны з іх сустрэў тут слаўных людзей і выдатных працаўнікоў, і кожнаму захацелася напісаць чый-небудзь партрэт. Уладзіміра Стальмашонка зацікавіў лепшы брыгадзір калгаса, Аляксандру Паслядовіч — калгасны пастух. Раіса Кудрэвіч узялася пісаць партрэт дэпутаткі абласнога Савета даяркі Марыі Арцюшэнкі, а Валянціна Жолтак — калгаснага конюха.

Амаль усе партрэты пісаліся за адзін сеанс: мастакі стараліся як найменш адрываць людзей ад работы.

Не пашанцавала ў гэтым калгасе толькі аднаму Натану Воранаву: занядужаў чалавек. І трэба было бачыць, як устрывожыла гэта калгаснікаў! Яны клапаціліся пра хворага, кнігі цэлымі абярэмкамі насілі, каб весялей час бавіўся, доктара прыслалі: праўся, маўляў, хутчэй, добры чалавек. І ўсе, хто дагэтуль не ведаў палешукоў, пераканаліся, што не пакінуць чалавека ў бядзе гэтыя гасцінныя людзі і што самае далікатнае абыходжанне ім — не пазычаць у людзей.

На развітанне Уладзімір Стальмашонак аформіў дзяржынцам насценную газету і дошку гонару.

Цяпер шлях мастакоў ляжаў у калгас «Чырвоны Кастрычнік». Яшчэ ў Мазыры наслухаліся яны шмат добрага пра старшыню гэтага калгаса Кандрата Савельевіча Гарулю. Кандрат Савельевіч мясцовы жыхар. Ён, як тут кажуць, ведае нават, хто чым дыхае, і таму вельмі паспяхова кіруе немалаю гаспадаркаю «Чырвонага Кастрычніка». Не дзіва, што ўсе мастакі проста «накінуліся» на гэтага цікавага чалавека. У Аляксандры Паслядовіч ён намаляваны ў профіль, у Натана Воранава і Уладзіміра Стальмашонка — у анфас. Але на які партрэт ні паглядзіш — усюды цябе ўразіць бясконца разумны, добры позірк моцнага, валявога чалавека. Прыгледзеўшыся, яшчэ заўважыш у гэтым позірку тую хітрынку, — таксама вельмі разумную, — без якой няможна ўявіць сабе сапраўднага старшыню калгаса.

Па дарозе ў «Чырвоны Кастрычнік» мастакі напаткалі дзеда. Сталі распытваць пра жыццё, пра калгас. «Жывём не вельмі... Хваліцца нечым... Вось даўней, бывала...» — і, махнуўшы рукой, дзед паклыпаў у сваю дарогу.

Мастакі спахмурнелі. Але тут, адкуль ні вазьміся, насустрач ім — жанчына. Пазнаёміліся. Гэта была даярка Ева з «Чырвонага Кастрычніка». Яна расказала ўсё як ёсць і пра жыццё сваё, і пра калгас. А той дзед, як выявілася, нават не калгаснік. Ён — з той пароды людзей, якім міла толькі тое, што «колісь было». Ёсць у нас яшчэ такія...

Энергічную, бойкую, увішную Еву, лепшую даярку калгаса, захацелася пісаць усім. Але пісала яе, па агульнай згодзе, Валянціна Жолтак.

Пашанцавала ў «Чырвоным Кастрычніку» на добрую сустрэчу і Натану Воранаву. Ён пазнаёміўся з дэпутаткай Вярхоўнага Савета БССР даяркай Кацяй Шчыпер і напісаў яе партрэт. Мілая, задумённая, Кацюша вельмі спадабалася ўсім мастакам у жыцці і на палатне.

У майстэрні Аляксандры Паслядовіч сярод прывезеных з гэтай паездкі работ стаіць партрэт маладой свінаркі Розы Маспан, выкананы пастэллю. Прыходзіцца толькі пашкадаваць, што капрызную пастэль нельга перафатаграфаваць на клішэ без рызыкі папсаваць карціну.

Хутка прамільгнуў у рабоце час. Пара збірацца дадому. Зноў імчыць мастакоўскі аўтобус па дарогах Палесся. Цяпер ён кіруецца на Мінск.

Па дарозе яшчэ спыніліся ў вёсцы Вялікія Аўцюкі. Вельмі спадабалася ўсім гэтая палеская вёска. Прыехалі туды якраз у выхадны дзень. Перад кожным дваром на грудах бярвення (палескі звычай!) — цэлыя кветнікі па-святочнаму апранутых у маляўнічыя нацыянальныя ўборы жанчын і дзяўчат. Ну, як ты абмінеш такое харастве! Пісалі да знямогі. Потым на хаду частаваліся смачнымі палескімі коржыкамі і баршчом, які наперабой падносілі гасцінныя жанчыны, і спяшаліся ў дарогу.

У Мазыры наведалі дрэваапрацоўчы камбінат. Уладзімір Стальмашонак паспеў напісаць за час гэтага кароткага наведвання партрэт станочніцы Вольгі Целяпун, і мастакі пакінулі камбінат з гарачым пажаданнем усяму яго калектыву выпускаць лепшую, з добрым густам зробленую мэблю.

І апошні прыпынак — прыстань Пхоў. Тут усе пісалі рачныя пейзажы. У карціне Валянціны Жолтак, якую мы змяшчаем у гэтым нумары, мастаку ўлавіла-

ся ціхая задумёнасць маці ўсіх палескіх рэк — Прыпяці.

Пхоўскія воднікі ўсяляк гатовы былі памагаць мастакам: перамяшчаць параходы па іх густу і нават усю прыпяцкую флатылію выстраіць у кільватэр, каб толькі яна аказалася пад рукамі ды была ў гэтым патрэба.

Нарэшце развіталіся і з Пховам. Кожны імкнуўся дадому, у сваю майстэрню, каб абдумаць усё бачанае, дакончыць пачатае і задуманае.

Цяпер, сабраўшыся ўсе разам у чыёй-небудзь майстэрні, мастакі жартуюць:

— Паехалі ў Аўцюкі!

У гэтым жарце адчуваецца і цеплыня, якую прыносіць прыемны ўспамін, і гатоўнасць зноў сабрацца ў дарогу — такіх Аўцюкоў у Беларусі тысячы, а ў іх — дзесяткі тысяч цудоўных савецкіх людзей, вартых сапраўдных мастацкіх палоцен.

Шчаслівай вам дарогі, таварышы, цікавых сустрэч, сапраўднага натхнення і вялікіх творчых удач!

**В. ПАПОВА.**



Народны артыст СССР Р. Р. Шырма.

*Нашы інтэрв'ю*

# КАЛІ ПЕСНЯ МАЕ КРЫЛЫ

З самага ранняга ўзросту, з дзіцячай калыскі прыходзіць да нас песня, каб стаць нашай неразлучнай спадарожніцай. Яшчэ не валодае чалавек мовай, не навучыўся разумець сэнсу слоў, а ўжо слых яго чаруюць дзівосныя гукі песеннай мелодыі. Задумлівая матчына калыханка змяняецца рытмічнымі карагоднымі мелодыямі, потым — задорным піянерскім маршам, а пазней аваподвае сэрцам пранікнёны і ўзнёслы напеў маладосці... І гэтак у кожным узросце: свая любімая, свая непаўторная мелодыя.

Песня спадарожнічае чалавеку праз усё жыццё. Яна наш нязменны, наш верны сябар і ў светлы час, і ў цяжкую гадзіну. З песняй на вуснах ішлі на смерць за свабоду Радзімы юныя героі Краснадона, Скідаля, Обаля... Пад звон песні расце наша Радзіма сёння. Буйна каласяцца ўраджайныя палі. Дымяцца фабрыкі і заводы. Над імі калышуцца звонкія напевы. Гэта народ наш радасна, з песняй крочыць светлымі шляхамі сямігодкі ў камуністычнае заўтра. Нам зараз цяжка ўявіць хоць бы адзін наш дзень без песні.

Ёсць такія пачуцці, такія адценні настрояў і перажыванняў, якія немагчыма выказаць звычайнымі словамі. Гэта можа зрабіць толькі меладычная мова музыкі, спеву. Не перабольшваючы, можна сказаць, што песня — самае масавае, самае папулярнае мастацтва наро-

да. Бадай не знайсці ў нашай краіне ніводнага чалавека, які б не любіў спяваць. Але народ любіць не ўсякія песні, а толькі тыя, якія сугучны яго настроям, якія выказваюць яго запаветныя думы і пачуцці. Менавіта такія песні і знаходзяць шырокі водгук у сэрцах, набываюць, як кажуць, крылы, жывуць доўга, доўга. Аднак здараецца, што і песні, якія не вылучаюцца ні глыбінёй зместу, ні высокімі мастацкімі якасцямі, карыстаюцца даволі шумным поспехам... У чым жа справа? Ці толькі гэта даніна дрэнным густам некаторых неразборлівых слухачоў і выканаўцаў, ці ёсць якія-небудзь іншыя прычыны?

Гэтыя і іншыя пытанні, якія датычаць ролі песні ў жыцці людзей, цікавяць многіх чытачоў нашага часопіса. Таму мы і вырашылі звярнуцца да вядомага музычнага дзеяча Беларусі, народнага артыста СССР Рыгора Раманавіча Шырмы.

Перад намі — невысокага росту, з пасівелай галавой чалавек. Мяккія рысы твару, светлы пранікнёны позірк... Калі мы загаварылі аб песні, вочы Рыгора Раманавіча засвяціліся нейкім асаблівым бляскам. Адчувалася: гэта яго хвалюе.

— У чым, на вашу думку, сакрэт даўгавечнасці песні?

— Адказаць на гэтае пытанне можна вельмі коратка: у высокіх ідэйна-мастацкіх вартасцях яе. Але, я ведаю, што такі адказ нікога не задаволіць. Уся справа ў тым, што разумець пад гэтымі вартасцямі. На маю думку, песня можа прэтэндаваць на доўгае жыццё толькі тады, калі яна выказвае такія думкі, такія пачуцці і настроі, якія сугучны думкам і пачуццям людзей у той ці іншы гістарычны прамежак часу.

І сапраўды, што было ў сорак першым годзе важнейшае, чым абарона Радзімы ад фашысцкай навалы? Пачуцці людзей, якія ўзняліся на смяротны бой з ворагам, выдатна выказаны ў вядомай песні «Вставай, страна огромная»... Іменна гэта і забяспечыла ёй такі небывалы поспех, зрабіла яе сапраўды крылатай. Тое ж самае можна сказаць і аб такіх песнях, як «Каховка, Каховка», «Дан приказ ему на запад», «Широка страна моя родная»... Кожная з іх адлюстроўвае тое, што найбольш хвалявала людзей у пэўны час. Але яны не сталі аднаднеўкамі, мы з хваляваннем спяваем іх і сёння. І гэта зразумела: нас не могуць не кранаць пачуцці тых, хто ішоў на бой за наша шчасце.

Бадай нішто так не страшна для песні, як драбнатэм'е, нязначнасць думкі і пачуцця. Асабліва гэта датычыць лірычных песень. Вядома, калі твор напісаны на грамадскую тэму, куды лягчэй разабрацца, што ён сцвярджае — глыбокае ці павярхоўнае. Складаней справа, калі ў песні закранаюцца, як кажуць, інтымныя пачуцці.

Лірычная песня — гэта не бяздумнае і пустое спяванне. Нажаль, аб гэтым часамі забываюць некаторыя аўтары. Тады з-пад іх пяра і з'яўляюцца такія песенькі-модніцы, песенькі-стылягі, як «Мішка»...

Узоры сапраўднай песеннай лірыкі нам дае самы таленавіты творца — народ. Звернемся да фальклорнай песеннай спадчыны мінулага. У ёй нямала песень, што апяваюць пакуты дзяўчыны, якую выдаюць за нялюбага. І гэты матыў не выпадковы: у ім — адна з трагедый грамадства, дзе прыгнечаны чалавек пазбаўлены права на шчасце...

Такім чынам, народ спяваў аб тым, што яго больш за ўсё хвалявала. У нас жа часамі ў аснову песень кладуцца такія дробязныя здарэнні і эпізоды, аб якіх сам аўтар у звычайнай гутарцы наўрад ці знайшоў бы патрэбным расказаць свайму субяседніку. Спазнілася, напрыклад, дзяўчына на спатканне на некалькі хвілін — і вось вам, калі ласка, раманс аб бясконцых уздыханнях пакутніка, які чакае любую. Калі аўтар паставіў перад сабой задачу пераканаць закаханых у тым, што не варта спазняцца на спатканні, дык наўрад ці дзеля гэтага трэба было



ствараць песню. Не капанне ў дробязных перажываннях, а ўслаўленне характва чалавечай душы павінна вызначаць характар лірычнай песні. Высокія думкі, глыбокія пачуцці — вось тыя крылы, якія нясуць песню ад сэрца да сэрца многія гады.

— Чым усё ж можна растлумачыць, што часамі песні, якія не вылучаюцца ні глыбінёй зместу, ні добрымі мастацкімі якасцямі, набываюць даволі шумную папулярнасць?

— Беззмястоўныя, пуставатыя песенькі ніколі не знойдуць шырокага прызнання. Захапляюцца імі звычайна людзі з нізкім мастацкім густам. Але нават у рэпертуары і гэтых неразборлівых выканаўцаў такія песні доўга не трымаюцца. Яны забываюцца гэтак жа лёгка і хутка, як і засвойваюцца. Але такія песенькі — гэта яшчэ паўбяды. Горш справа з песнямі пошлымі. Успомніце хоць бы такія словы:

Всплакнёшь слезой,
Махнёшь рукой
И выйдешь замуж за Ваську-
диспетчера,
Мне ж бить китов
У кромки льдов
И рыбьим жиром детей
обеспечивать.

У гэтай песні і мелодыя гэткая ж недарэчная, як і словы. З такім «мастацтвам» трэба весці барацьбу, бо яно шкодна ўплывае на мастацкае выхаванне людзей, асабліва на моладзь, эстэтычныя густы якой яшчэ не сфармаваліся.

— Што ў песні галоўнае — мелодыя ці словы?

— Бясспрэчна, словы, тэкст. Калі песня дрэнная, перш за ўсё трэба лаяць паэта. Гэта я ўжо не раз падкрэсліваў і ў сваіх выступленнях і ў артыкулах. Харошы песенны тэкст можа нарадзіцца толькі тады, калі паэт яго, як кажуць, вынасіў, перахварэў ім, калі ён і не думаў аб тым, што з яго верша павінна ўзнікнуць песня. Ён проста выказаў тое, што не мог не выказаць, што жыло ў яго на душы і само шукала патрэбных слоў. Вельмі важна, каб у песенным тэксце была шчырасць і непасрэднасць інтанацый, прастата і натуральнасць выяўленчых сродкаў. Гэтым, між іншым, тлумачыцца тое, што вершы з складанымі метафарычнымі вобразамі вельмі цяжка, а часам і немагчыма пакласці на музыку. І яшчэ мне ўяўляецца вельмі істотным адно патрабаванне да песеннага тэкста — сюжэтнасць. Сюжэтны верш дае для кампазітара большыя магчымасці ў стварэнні багатай, каларытнай мелодыі.

Тэкст — гэта змест, а музыка — тыя настроі, якія схаваны між радкоў. Таму добрую музыку напіша толькі той кампазітар, які здолее знайсці ў вершы гэты падтэкст, калі ён, вядома, ёсць. Прычынай многіх творчых няўдач кампазітараў-песеннікаў з'яўляецца тое, што яны часта непатрабавальныя ў выбары тэкстаў, пішуць музыку на бездапаможныя ў мастацкім адносінах словы. Дзе ўжо тут можа ісці гутарка аб падтэксце, калі радкі ў вершы нават не зарыфмаваны як след! Але яшчэ больш сумная з'ява, калі кампазітар стварае песню, не маючы перад сабой наогул ніякага вершаванага тэксту, а проста пад выпадковы, бяссэнсны набор слоў. І толькі пасля таго, як нараджаецца мелодыя, кампазітар звяртаецца да паэта, каб той падагнаў пад яе словы, ці, як прынята ў кампазітарскім асяроддзі гаварыць, зрабіў «рыбу». Вядома, што ніякай адпаведнасці, ніякай гармоніі паміж тэкстам і музыкай у такім выпадку быць не можа. А значыць, не будзе і песні.

— Скажыце, калі ласка, якія з беларускіх песень апошняга часу Вы лічыце найбольш цікавымі? — запыталі мы далей.

— Іх, нажаль, вельмі нямнога. Асабіста мне падабаюцца «Лясная песня» і «Радзіма мая дарагая» У. Алоўнікава. Гэтыя песні сталі папулярнымі ў народзе. Сакрэт творчай удачы кампазітара, на мой погляд, у тым, што, звярнуўшыся да важнейшых хвалюючых тэм сучаснасці, ён смела выкарыстаў інтанацыі народных песень. Чуй-

наму слыху няцяжка ўлавіць у запеве песні «Радзіма мая дарагая» пераклічку з матывам «Ой, не кукуй, зязюленька». Аднак гэта не механічнае перайманне, не стылізацыя пад народнае, а творчае асэнсаванне, творчае развіццё народнай песеннай інтанацыі. Народная мелодыя паслужыла кампазітару як бы адпраўным пунктам, адштурхнуўшыся ад якога, ён стварыў арыгінальную песню аб сённяшнім дні нашай краіны. Песня гучыць як адказ сучаснікаў сваім папярэднікам, чыя мара аб шчасці спраўджана сёння...

— Дарэчы, што можна наогул сказаць аб народнай песеннай традыцыі ў творчасці сучасных беларускіх кампазітараў?

З народам трэба ўмець гаварыць народнай мовай. Гэта павінен памятаць кожны мастак, у тым ліку і паэт, і кампазітар, калі ён прэтэндуе на тое, каб быць зразуметым. Думаецца, што творчае выкарыстанне народных песенных традыцый — абавязковая ўмова плённай працы кожнага сапраўднага кампазітара. Мне могуць запярэчыць. Большасць жа народных песень створана у мінулым і выклікана цяжкімі сацыяльнымі ўмовамі жыцця, таму яны непрыймальныя для нас па духу. Гэта, вядома, так. Але не трэба забываць і пра тое, што ў песнях народа гучаў не толькі сум, але і мара аб светлай будучыні, вера ў здзяйсненне гэтай мары. Няхай жа нашы песні гучаць як гімн гэтай здзейсненай мары людзей, як заклік да яшчэ больш светлай будучыні, як магутная пераклічка пакаленняў... У гэтым вялікі сэнс звароту кампазітараў да народных песенных традыцый. Шкада, што не ўсе нашы кампазітары гэта разумеюць. Таму і здараецца часамі: напісаў аўтар дзве-тры добрыя песні, а потым пачынае таптацца на месцы, перапяваць іншых ды і самога сябе...

— Хто, на Вашу думку, найбольш цікавы з маладых беларускіх кампазітараў-песеннікаў?

— Мог бы быць Юры Семяняка. Кажу, мог бы, таму што ў апошні час яго захлынула хваля эстраднай лёгкасці. Малады кампазітар пачаў зняважліва ставіцца да народнай песеннай творчасці. Пры гэтым цяжка стварыць што-небудзь цікавае і значнае. Ніякае віртуознае валоданне музычнай тэхнікай не выратуе аўтара, які забывае сцежку да той адзінай невычэрпнай крыніцы натхнення і вобразаў, імя якой — народ. Кожны кампазітар павінен часцей звяртацца да гэтай крыніцы. Справы народа, думы народа, пачуцці народа — вось што дае крылы для песні.

*У свеце мастацтва*

# НАРОДНЫ ТЭАТР

Калі вясной у Дзяржаўным рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага адбылася прэм'ера драмы А. Салынскага «Барабаншчыца», кожны з рэцэнзентаў па-свойму ацэньваў спектакль. Нягледзячы на некаторае разыходжанне ў поглядах аўтараў рэцэнзій на асобныя моманты спектакля, усе яны гаварылі аб тым, што п'еса складаная і для таго, каб поўна ўвасобіць на сцэне задуму аўтара, выканаўцы галоўных роляў павінны валодаць высокім прафесіянальным майстэрствам.

Прыкладна ў тыя ж дні з'явіліся і два невялікіх артыкулы ў маладзёжных газетах, якія расказвалі аб урачыстым адкрыцці Пінскага народнага тэатра. Здавалася, што можа быць агульнага паміж спектаклем вядомага ў рэспубліцы і за яе межамі прафесіянальнага тэатральнага калектыву і першымі намаганнямі народнага тэатра?

Але ўважлівы чытач, мусіць жа, звярнуў увагу на тое, што спектаклем, якім Пінскі народны тэатр адкрыў свой першы тэатральны сезон, таксама была «Барабаншчыца». Як жа звычайны самадзейны калектыў, з дня арганізацыі якога не прайшло яшчэ і трох год, асмеліўся паставіць на сваёй сцэне такі складаны спектакль? Як здолелі самадзейныя артысты раскрыць вобразы герояў? Што цікавага зрабіў рэжысёр-пастаноўшчык спектакля і наогул ці варта самадзейным калектывам брацца за такія пастаноўкі? Для таго, каб атрымаць адказ на ўсе гэтыя пытанні, трэба не толькі прагледзець некалькі спектакляў новага тэатра, але і добра пазнаёміцца з яго самадзейнымі артыстамі, з прынцыпамі работы тэатра, з яго творчымі імкненнямі і, нарэшце, з гісторыяй стварэння і тымі акалічнасцямі, пры якіх узнік калектыў.

### Першыя крокі

Кожнаму, хто ўпершыню наведвае Пінск, кідаецца ў вочы перш за ўсё тое, якую вялікую цікавасць жыхароў выклікаюць канцэрты і спектаклі мастацкай самадзейнасці, выступленні вучняў музычнай школы, Пінскага гарадскога хору, а тым больш — прафесіянальных тэатраў, музычных калектываў і канцэртных брыгад. Але, нажаль, трэба сказаць, што канцэртныя арганізацыі і тэатры да гэтага часу не надта ўважлівыя да запатрабаванняў пінчан. За многія гады тут толькі па аднаму разу пабывалі Беларуская дзяржаўная акадэмічная харавая капела, народны аркестр, дзяржаўны ансамбль песні і танца БССР, тэатр імя Янкі Купалы і невялікія эстрадныя канцэртныя брыгады. Праўда, горад час-ад-часу наведваюць Брэсцкі абласны тэатр, калектывы з суседняй Украіны, але звычайна іх гастролі прыпадаюць на летні перыяд. Доўгімі ж зімовымі вечарамі пінчане павінны былі задавальняцца наведваннем кіно і рэдкімі выступленнямі самадзейнасці. Якраз самадзейнасць і запоўніла да некаторай ступені



Сцэна са спектакля «Барабаншчыца». У ролі Эдзіка вучань 6-й школы Валеры Фанабровіч, у ролі Сашкі — студэнт гідратэхнікума Барыс Конюхаў, у ролі Мокі Ставінскага — студэнт гідратэхнікума Міхаіл Еўдосін.

прабел у культурным абслугоўванні насельніцтва горада.

«Калі гара не ідзе да Магамета, дык Магамет сам створыць сабе гару»... — так жартам перайначылі старую ўсходнюю прымаўку ў Пінску, маючы на ўвазе адсутнасць у горадзе прафесіянальнага тэатра і канцэртных калектываў. І пінчане пачалі «ствараць гару». Гэта не было нейкай самамэтай: людзі проста імкнуліся найбольш поўна задаволіць свае мастацкія густы, развіць іх, аддаць свой вольны час любімай справе. Так на прамысловых прадпрыемствах горада, у навучальных установах, фабрычных клубах узнікалі дзесяткі самых разнастайных гурткоў мастацкай самадзейнасці. Некаторыя з іх працавалі перыядычна — толькі пад час святаў, другія, здзейсніўшы адну-дзве пастаноўкі, распадаліся, трэція працавалі ўпарта і настойліва і, дабіўшыся пэўных поспехаў, не спыняліся на дасягнутым, а прадаўжалі працаваць над павышэннем свайго выканаўчага майстэрства. Вядучую ролю ў развіцці мастацкай самадзейнасці і ў жывой, цікавай арганізацыі культурнага адпачынку жыхароў горада адыгралі камсамольская і беспартыйная моладзь Пінска, аб творчай ініцыятыве якой шырока і цёпла пісала сёлета «Комсомольская правда». Клопат партыйнай і камсамольскай арганізацый горада пра адпачынак пінчан і забяспечыў спрыяльныя ўмовы для арганізацыі добра падрыхтаванага, пастаяннага гарадскога самадзейнага тэатральнага калектыву. Ім стаў драматычны калектыў Пінскага гарадскога Дома культуры, арганізаваны ў 1956 годзе.

Ужо самыя першыя пастаноўкі — «Дзеці Ванюшына», «Машанька», «Вясельнае падарожжа» былі надзвычай цёпла прыняты грамадскасцю горада. Гэта не толькі акрыліла самадзейных артыстаў, але абумовіла прыток у Дом культуры новых здольных аматараў тэатральнага мастацтва.

Няма патрэбы пералічваць усе пятнаццаць спектакляў, пастаўленых тут за два гады. Дастаткова сказаць, што сярод іх былі «Чужое дзіця» Б. Шкваркіна і «Платон Крэчат» А. Карнейчука, «Квадратура круга» В. Катаева і «Алазанская даліна» К. Губарэвіча. Калектыў адразу пачаў выезды са спектаклямі на вёску, а неўзабаве — за межы вобласці і нават рэспублікі. Так, у 1958 годзе самадзейны тэатр выязджаў на гастролі ў Люблінскае ваяводства Польскай Народнай Рэспублікі і ў гэтым жа годзе атрымаў станоўчую ацэнку свайго майстэрства на дэкадзе самадзейнага мастацтва Беларусі, якая праводзілася ў Мінску ў гонар 40-годдзя рэспублікі.

Такі кароткі, але напружаны і цікавы творчы шлях аднаго з сямі самадзейных тэатраў Беларусі, які атрымаў ганаровае званне — «Народны». Але для таго, каб мець поўнае ўяўленне аб яго артыстах, творчым жыцці, мастацкіх прынцыпах і «сакрэце» поспехаў, трэба глянуць на сцэну тэатра не тады, калі ідзе спектакль і яна асветлена яркімі праменнямі пражэктараў, а зайсці туды ў звычайны час, калі яна губляецца ў паўзмроку «дзяжурнай» рэпетыцыйнай электралямпачкі.



## На рэпетыцыі

Немалады ўжо чалавек таропка падыходзіць да рэжысёра тэатра і, працягваючы яму вайсковую шапку, безнадзейна гаворыць:

— Усе! Апошняя!

— Што апошняе? — адразу не разумее рэжысёр.

— Ды шапка апошняя, — адказвае чалавек. — З самага ранку бегаю па ўсіх знаёмых, якія некалі служылі ў арміі, шукаю паношаную вайсковую шапку, і вось усё, што я здолеў знайсці! — і, падняўшы руку, ён крытычна аглядае гэты неабходны «элемент» вайсковага гарнітура.

— Ну, дык гэта ж якраз тое, што трэба, — заспакойвае рэжысёр.

— Тое-то яно тое, ды толькі на тры нумары меншае, чым мне трэба. Не лезе, цюбяцейка нейкая, — і, крыху падумаўшы, з надзеяй пытаецца: — А можа, мне пры выхадзе на сцэну трымаць шапку ў руках?



Выканаўца галоўнай ролі ў спектаклі «Барабаншчыца» Ніны Сняжко — хатняя гаспадыня Тацяна Сівохіна.

Гэта было на самай справе. Здарылася так, што адзін з артыстаў не мог удзельнічаць у спектаклі і на яго месца тэрмінова «ўводзілі» замену. Такія выпадкі часад-часу здараюцца, і трэба бачыць, з якім пачуццём адказнасці і ахвотай замяняюць артысты тэатра сваіх калег, занятых на экзамене ці на тэрміновай рабоце. Тут ужо справай гонару становіцца сыграць на сцэне не горш, чым іграе таварыш, «не падвесці» яго. Звычайна, такі «дэбютант» сам дастае для сябе касцюм, неабходны па ролі. Імкнецца ўмовы рэпетыцый як мага больш наблізіць да ўмоў спектакля. Калі па ходу дзеяння яму трэба выйсці на сцэну з чамаданам ці, скажам, з гітарай, то ён, каб не турбаваць рэквізітара, не паленуецца прынесці гэтыя чамаданы ці гітару з дому альбо пазычыць іх у знаёмых. Артысты крыху жартуючы, крыху сур'ёзна гавораць, што калі для спектакля спатрэбіцца трактар, дык яны і яго здолеюць прыцягнуць на сцэну.

Вясёлы дасціпны жарт, шчырыя ўсмешкі на тварах — усё гэта ў перапынку рэпетыцый. Але калі



Тацяна Сівохіна дома.

ідзе работа,— ніводнага лішняга слова, ніводнага жарту не пачуеце вы. Сур'ёзная, творчая, патрэбная ўсім работа! І — амаль штодзённа: 5—6 разоў на тыдзень збіраюцца самадзейныя артысты на рэпетыцыі. У дні, калі няма спектакляў, такія рэпетыцыі цягнуцца з невялікімі перапынкамі з 8 гадзін вечара да першай гадзіны ночы, і, якая б пара года ні стаяла, гэты парадак застаецца нязменным. Ні мароз і зімовыя завеі, ні восеньская слота ці буйны разліў веснавых ручаін не могуць прымусіць хоць аднаго з артыстаў спазніцца на рэпетыцыю.

А з якой увагай слухаюць артысты свайго рэжысёра, літаральна падхопліваючы на ляту кожную яго заўвагу! Напэўна, ні ў адным прафесіянальным тэатры артысты не стануць паўтараць мізансцэну, якой застаўся задаволены пастаноўшчык. Інакш робяць у Пінскім народным тэатры — тут не рэжысёр прапануе паўтарыць тую ці іншую сцэну, а артысты бясконца просяць яго «прагнаць яшчэ разочак», «замацаваць», «зрабіць начыста». І так ужо здараецца, што не рэжысёр «ганяе» артыстаў, а яны яго, і ўсё гэта таму, што калектыў хоча як мага больш ведаць аб тэатральным мастацтве, акцёрскай тэхніцы, сцэнічным майстэрстве, грыме, паводзінах, мове — гэта значыць, аб усім, што павінен ведаць кожны прафесіянальны акцёр. Жаданне авалодаць прафесіянальнымі ведамі, удасканаліць свае акцёрскія здольнасці характэрна для ўсяго калектыву, і не дзіўна, што рэпетыцыі часта пераходзяць у шчырую і задушэўную размову аб мастацтве, якое стала блізкім і дарагім для кожнага артыста тэатра.



Фрагмент з фінальнай сцэны спектакля «Барабаншчыца».

### «Для жыцця»

Калі запытацца ў мастацкага кіраўніка і рэжысёра Пінскага народнага тэатра І. Б. Сакольскага, які ў свой час скончыў студыю пры адным з прафесіянальных беларускіх тэатраў, ці не цяжка яму аддаваць так многа часу і сіл тэатру, ён заўсёды адкажа:

— Ды не, што вы! Стамляешся, звычайна, калі не бачыш вынікаў сваёй працы, а тут кожная заўвага адразу ўспрыймаецца і пераўтвараецца ў сцэнічнае дзеянне — гэта па-першае, а па-другое, увесь калектыў надзвычай згуртаваны і дружны, працаваць з ім вельмі прыемна. Дарэчы, я працую дырэктарам Дома культуры і праводжу рэпетыцыі, як кажуць «без адрыву ад вытворчасці», а вось удзельнікам нашых спектакляў даводзіцца цяжэй. Усе яны працуюць ці вучацца, жывуць у розных канцах горада, далёка ад Дома культуры. І час, які аддаюць тэатру, яны адрываюць ад свайго адпачынку.

А абавязкаў па тэатру ў іх даволі многа. Кожны з іх, акрамя ігры на сцэне, павінен дапамагаць мастаку, гарнітуршчыку, рэквізітару, электрыку, якія таксама з'яўляюцца артыстамі тэатра і добраахвотна ўзялі на сябе дадатковую нагрузку. У калектыве высока расцэньваецца не толькі пэўнае майстэрства пры выкананні ролі, але і ўмельства дакладна і хутка перамяніць дэкарацыі, падрыхтаваць сцэну да спектакля, дапамагчы жанчынам перанесці цяжкія скрынкі з касцюмамі і рэквізітам. І калі зайсці за кулісы ў час антракту, то можна ўбачыць, як галоўны герой п'есы забівае апошні





Тэлеграфістка Ларыса Сокал у спектаклі «Таня» сыграла ролю Дусі.



Ларыса Сокал за работай на тэлеграфе.

цвік у толькі што пастаўлены шчыт дэкарацыі, а гераіня, стоячы на каленях, падшывае нешта ў гарнітуры сяброўкі ці прасуе ёй сукенку. І ў моманты найбольшага напружання, калі за кароценькі антракт трэба ўправіцца з дзесяткам розных спраў, абавязкова зрываецца з чыіх-небудзь вуснаў вокліч:

— Весялей, весялей, сябры! Гэта ж для жыцця!

«Гэта — для жыцця» — такі выраз часта можна пачуць ад самадзейных артыстаў, калі гаворка ідзе аб тэатры, і таму, хто пачуе гэтыя словы ўпершыню, яны не адразу становяцца зразумелымі. Што «для жыцця»? Тэатр? А можа лепей сказаць «для душы», «для сэрца»?

Але калі бліжэй пазнаёмішся з удзельнікамі калектыву, іх адносінамі да сваіх роляў у спектаклях, да тэатра,— адразу становіцца зразумелым, што ён ім і «для душы», бо створан «для жыцця».

Так тэатр стаў другім і галоўным жыццём рэжысёра і пастаноўшчыка усіх спектакляў І. Б. Сакольскага; слесара рамонтна-эксплуатацыйнай базы, загадчыка пастановачнай часткі тэатра Л. Фанабровіча; кантралёра Дома культуры А. А. Міхайлавай, якая стварыла рад складаных сцэнічных вобразаў: мастака М. Неманава, які з вялікім густам аформіў многія спектаклі, яго жонкі Н. Нікольскай — краўчыхі і загадчыцы гарнітурным цэхам і дочкі Ніны Нікольскай — вышывальшчыцы арцелі імя 8-га сакавіка. Чым, як не другім, цікавейшым жыццём, з'яўляецца тэатр для старэйшага ўдзельніка калектыву былога шкловыдзімальшчыка, пенсіянера А. П. Лобава; для таленавітай выканаўцы галоўных роляў у многіх спектаклях хатняй гаспадыні Т. Сівохінай, электразваршчыка І. Жылёвіча, тэлеграфісткі Л. Сокал, студэнтаў гідратэхнікума М. Фрэнклаха і Б. Конюхава; кіраўніка танцавальнага калектыву і пастаноўшчыка ўсіх танцаў у спектаклях тэатра — В. Ліса; мастака гарадскога музея Г. Бойкі, слесара ліцейна-механічнага заво-

да М. Перальмана, бібліятэкара Л. Сурвілы і другіх?

Рознае жыццё і заняткі ў артыстаў тэатра, розныя шляхі прывялі іх на сцэну, але адно характэрна для ўсіх — любоў да свайго тэатра, любоў да мастацтва, без якога, здаецца, і жыць ужо немагчыма.

Найбольш складаным для кожнага самадзейнага артыста з'яўляецца майстэрства грыму. Каб добра загрыміравацца, артысты тэатра прыходзілі за 2—3 гадзіны да пачатку спектакля, і ўсё ж авалодаць у поўнай меры уменьствам грыму ім доўга не ўдавалася. І вось калі ў Пінск прыехаў на гастролі Брэсцкі тэатр імя Ленінскага камсамола, самадзейныя артысты здолелі дагаварыцца са сваімі калегамі-прафесіяналамі, і тыя штодзённа наладжвалі лекцыі, займаліся практычна з імі майстэрствам грыму. Самадзейныя артысты не спыніліся на гэтым і прапанавалі ў парадку сяброўскага абмену выконваць некаторыя ролі ў спектаклях брэсчан, а ім удзельнічаць у сваіх спектаклях. Так, карыстаючыся кожным зручным выпадкам імкнецца павышаць сваё выканаўчае майстэрства калектыў народнага тэатра.

Рэгулярна працуе мастацкі савет тэатра. На яго пасяджэннях абмяркоўваюцца не толькі генеральныя рэпетыцыі, прэм'еры, рэпертуарныя планы, але і гаспадарчая дзейнасць калектыву, творчыя поспехі і няўдачы асобных артыстаў. Мастацкі савет з'яўляецца сапраўдным гаспадаром тэатра. Гэта па яго ініцыятыве калектыў аднагалосна прыняў своеасаблівы статут тэатра. Можа некаторыя з пунктаў статута могуць здацца крыху наіўнымі, але ўсе яны напісаны ад шчырага сэрца і ставяць адну мэту — наблізіць майстэрства самадзейнага тэатра да ўзроўню прафесіянальнага. Вось, напрыклад, што гаворыцца ў некаторых з іх: «Пры любых умовах не хныкаць, не выхваляцца поспехамі, пераносіць магчымыя няўдачы і нягоды, заўсёды памятаць, што сціпласць упрыгожвае артыста»; «У спектаклях нашага тэатра няма маленькіх роляў, нават калі ў іх няма ніводнага слова»...



**У ролі Емельяна Чарназёмнага з п'есы «Квадратура круга» выступіў студэнт гідратэхнікума Міхаіл Фрэнклах.**

Гэтыя правілы не з'яўляюцца нечым надуманым ці штучным. Гэта — выкладзенае на паперу гарачае жаданне карыснай, патрэбнай работы.

Вельмі даражыць калектыў думкамі гледачоў аб сваім майстэрстве і таму часта наладжвае справаздачныя спектаклі і іх грамадскае абмеркаванне. Гэтыя абмеркаванні праходзяць як шчырая сяброўская размова, і можна быць упэўненым, што ніводная заўвага гледача, выказаная ў час такой размовы, не забываецца.

Станоўчую ролю адыгрывае калектыў у жыцці кожнага асобнага артыста. Пад кантролем калектыву знаходзіцца не толькі яго работа ў тэатры, але і жыццё па-за ім. Дастаткова каму-небудзь з артыстаў знізіць выпрацоўку на вытворчасці ці паспяхова у вучобе, як гэта адразу становіцца вядомым, і калектыў прымае захады для таго, каб дапамагчы таварышу парадай і справай ці зрабіць яму сур'ёзнае таварыскае папярэджанне.





**Міхаіл Фрэнклах на практычных занятках.**

Асабліва нецярпіма ставіцца калектыў да самых малых праяў зазнайства. Калі выканаўца вядучых роляў у спектаклях З. Саладзілава, адчуваючы сваю «незамяніmасць», пачала патрабаваць для сябе асаблівых умоў, калектыў вымушан быў прапанаваць ёй пакінуць тэатр. Напружана і плённа працуе тэатр і ў святы, даючы, звычайна па два спектаклі ў дзень, і трэба сказаць, што яшчэ не было выпадку, каб артыст не прышоў на работу, спасылаючыся на свой «законны» дзень адпачынку.

### Тэатр і гледачы

Нядаўна пафарбаваны, чысценькі аўтобус, падскокваючы на выбоінах і пакідаючы за сабой доўгі шлейф пылу, весела коціцца па няроўнай дарозе. У сярэдзіне — вясёлы шум маладых галасоў, праз які часам прабіваецца наўмысна жаласлівая песня:

— «Эх, дарогі — пыл ды туман...»

За акном аўтобуса праплыў блакітны серпанцін Ясельды, яшчэ праз колькі часу аўтобус прагрукатаў па мосце праз прамы, як страла, Агінскі канал, і вось паказаліся першыя хаты раённага цэнтра Целяханы. Спыніліся каля Дома культуры. Пасажыры аўтобуса адразу рынуліся да грузавой аўтамашыны (яна прышла крыху раней) і пачалі выгружаць і насіць на сцэну дэкарацыі, скрынкі з рэквізітам. Праз паўгадзіны ўсё было гатова, і ў перапоўненай зале Дома культуры пачаўся чарговы выязны спектакль Пінскага народнага тэатра.

Мяркуючы па добразычлівых усмешках гледачоў, увазе, з якой яны сачылі за развіццём падзей на сцэне, і гарачых воплесках можна было зразумець, што тут сустракаюць даўно знаёмы і паважаны калектыў. Так яно і было на самай справе. Адной з важных і найбольш каштоўных рыс дзейнасці Пінскага народнага тэатра з'яўляюцца яго рэгулярныя выезды са спектаклямі ў сельскія мясцовасці, бывае аж за сто кіламетраў ад Пінска. Артысты тэатра з вялікай радасцю і ахвотай робяць гэтыя паездкі і стараюцца як мага часцей наведваць сваіх вясковых сяброў. А між тым, не кожная паездка даецца лёгка. Пры бліжэйшым знаёмстве аказваецца, што свежа пафарбаваны аўтобус пераролен са старэнькага грузавіка і яго матор рухаецца не столькі на бензіне, колькі на энтузіязме шафёра. Бывае, што, спыніўшыся сярод поля, ён гадзінамі «шукае іскру» ці мяняе «абутак». А тым часам артысты падсілкоўваюцца буханкаю хлеба, прызапасенай для ўсялякіх сцэнічных «банкетаў». Бывае, што артысты вяртаюцца з паездкі не ноччу, як меркавалася, а раніцою і маюць для адпачынку перад работай усяго 2—3 гадзіны. Бывае... Але што можа быць больш важным для сапраўднага

артыста, — хоць ён і называецца самадзейным, — чым непераадольнае жаданне падзяліцца сваім майстэрствам з тымі, каму яно блізкае і неабходнае?

«Добрая слава ляжыць, а дрэнная наперадзе бяжыць», — гаворыцца ў старой прыказцы. Але добрая слава Пінскага народнага тэатра «праляжала» не доўга. Адразу ж пасля першых спектакляў гледачы пераканаліся, што маюць справу з сур'ёзным, працавітым і цікавым калектывам, а неўзабаве стала зразумела і тое, што ён можа вырашаць і даволі складаныя мастацкія задачы. Так паступова тэатр набыў сабе не толькі шчырых прыхільнікаў, але і гарачых «балельшчыкаў». Любоў і павага пінчан да свайго тэатра адразу кідаецца ў вочы кожнаму, хто ўпершыню наведае Пінск. Але гэта не сляпая любоў да «свайго» тэатра, «сваіх» артыстаў, а патрабавальная, і калі можна так сказаць — крытычная любоў да калектыву, якая аказвае самадзейным артыстам вялікую маральную падтрымку. Наведвальнікі Народнага тэатра бываюць шчодрымі не толькі на пахвалы, але і на вострыя крытычныя заўвагі, і гэта добра ведае калектыў, які імкнецца, каб такіх заўваг было як мага меней. Павага гледачоў сказваецца і на матэрыяльным становішчы тэатра — на кожным новым спектаклі тэатра бываюць аншлагі. Трэба адзначыць і тую ахвоту, з якой адміністрацыя прадпрыемстваў, дзе працуюць самадзейныя артысты, ідзе насустрач калектыву і вызваляе ў дні спектакляў ці генеральных рэпетыцый артыстаў ад работы, мяняе ім змены і г. д. Тэрмінова выконваюцца заказы на разнастайнае абсталяванне, гарнітуры і г. д. Вось чаму ў тэатры ёсць даволі багатая гарнітурная, добрыя дэкарацыі, разнастайны рэквізіт і нават невялічкі аўтобус з надпісам: «Пінскі народны тэатр».

Значна цяжэй дастаць калектыву парыкі, грым, лак і ўсе тыя дробязі чыста тэатральнага прызначэння, без якіх немагчыма паставіць спектакль. Усё гэта невялікімі партыямі тэатр атрымоўвае з Масквы ці ад свайго шэфа — Брэсцкага тэатра імя Ленінскага камсамола. Слушныя крыўды выказваюць самадзейныя артысты ў адрас Беларускага тэатральнага таварыства, ад якога тэатр не толькі не атрымлівае ніякай дапамогі, але якое пагардліва паставілася да запрашэння і не прыслала свайго прадстаўніка на ўрачыстае адкрыццё тэатра.



**У ролі Платона Крэчата ў аднайменнай п'есе А. Карнейчука выступіў слесар рамонтна-эксплуатацыйнай базы Леў Фанабровіч.**

### Планы, надзеі, мары

Існаванне і дзейнасць такіх калектываў, як Пінскі народны тэатр, выклікае да жыцця новыя сілы мастацкай самадзейнасці, выяўляе патэнцыяльныя магчымасці для росту агульнай культуры народа. Існаванне тэатра дазволіла выявіць не толькі шмат сапраўды таленавітых удзельнікаў самадзейнасці, якія з цягам часу



сталі ўдзельнікамі калектыву, але і самадзейных мастакоў, паэтаў, драматургаў. Так, напрыклад, даволі добрымі прафесіянальнымі якасцямі вылучаюцца рэцэнзіі на спектаклі і брашура аб народным тэатры настаўніка І. Аграноўскага. Ён жа напісаў п'есу «Тварам у твар» — аб слаўных працаўніках Палесся. П'есу тэатр уключыў у свой рэпертуарны план. А трэба сказаць, што план гэты вялікі і цікавы. Падлічыўшы свае магчымасці, калектыў вырашыў ставіць не па чатыры спектаклі ў год, як меркавалася раней, а па шэсць. Бліжэйшымі сваімі прэм'ерамі тэатр намеціў п'есу С. Міхалкова «Дзікуны», «Бездань» М. Астроўскага, «Тварам у твар» І. Аграноўскага і «Не верце цішыні» І. Шамякіна. Калектыў разлічвае значна пашырыць абслугоўванне сельскага насельніцтва і — хто ведае — можа праз гэта стаць прафесіянальным міжкалгасным тэатрам. Такія прапановы ўжо не раз рабілі калгасы-мільянеры Лагішынскага раёна, якія не супраць узяць на сябе частку выдаткаў тэатра. А пакуль што кожны з самадзейных артыстаў марыць аб новых ролях, новых, напоўненых асаблівым зместам тэатральных буднях, цікавых прэм'ерах, і, чаго грахі таіць, — аб поспеху ў гледачоў

**Д. ЖУРАЎЛЁЎ.**

## *На атэістычныя тэмы*

Аркадзь ЧАРНЫШЭВІЧ

# ЦЕМРАШАЛЫ Ў КРАСОЎШЧЫНЕ

У Радашковіцкім раёне на Маладзечаншчыне шмат цудоўных, непаўторных па сваёй прыгажосці мясцін. Самі назвы гавораць пра гэта: Краснае, Красоўшчына...

Вось вёска Красоўшчына. Мясціна сапраўды маляўнічая. Тут і палі, і маладыя лясы, і ельнік на гары, і лагчына, па якой працякае невялічкі ручаёк. На горцы размясцілася лясніцтва з пажарнай вышкай. Вёска ляжыць крыху ў баку ад шашы, затое сельскі клуб — амаль пры самай дарозе. Памяшканне клуба невялікае, не спецыяльнае, гэта звычайны сельскі домік, але калі зойдзеш у яго, то адразу адчуеш, што гэта — вясковы цэнтр культуры. Тут і бібліятэка, і тэлевізар, і радыёла, і куток атэіста з удала падабранай літаратурай, і куток для вывучаючых матэрыялы XXI з'езда КПСС. На сценах — заклікі, плакаты, добра зроблены стэнд «Наш раён у сямігодцы», дзе дадзены лічбы і па калгасу «Новае жыццё». Красоўшчына якраз і ўваходзіць у гэты калгас. Адчуваецца, што загадчыца клуба Ніна Іванаўна Лагунова не толькі любіць сваю работу, але і ўмее працаваць. Мы прыехалі рана, але была нядзеля, і ў клубе ўжо былі наведвальнікі.

За сотні дзве-тры крокаў ад клуба знаходзіцца малітоўны дом евангелісцкіх хрысціян-баптыстаў. Падыходзім да яго.

Прыглядаемся, хто ж тут ёсць? Выжыўшыя з розуму дзяды і бабулі? Ханжы і прытваракі? Так, ёсць і такія. Яны сядзяць на пярэдняй лаўцы. Гэта прапаведнікі і прасвітар. А астатнія? Астатнія калгаснікі, рабочыя — звычайныя савецкія людзі. Цікава, што іх сюды прывяло?

Калі мы ўвайшлі, адзін з прапаведнікаў гаварыў прамову. Нельга было зразумець яе зместу. Яна была перасыпана словамі: «Но господь бог наш с нами», «Слава господу», якія паўтараліся пасля кожнай фразы, і прысутныя адказвалі словамі: «Слава ему!» Потым выступае другі прапаведнік, трэці, чацвёрты, амаль кожны з іх прапануе пастве «пракланіць калені перад госпадам», і людзі становяцца на калені, заплюшчваюць вочы і паўтараюць малітвы за прапаведнікам. Малітвы гэтыя гучаць замагільна, жудасна. Кожная пропаведзь суправаджаецца спевамі псалмоў. Спевы гэтыя таксама наганяюць страшэнную сумоту.

Усё гэта, аднак, знешні бок. Цікава, што ж прапаведуюць баптысцкія прасвітары і прапаведнікі? Усе іх выступленні настолькі цемрашальныя, што нельга не абурыцца. Адзін тлумачыць аб шырокай і вузкай дарозе жыцця. Ён упарта даказвае, што шырокая дарога, па якой ідуць людзі (не баптысты, вядома) вядзе проста ў пякельную бездань, дзе будзе енк, плач і скрыгат зубоўны. Гэта лёгкі шлях, па ім ідзе той, хто не выбраны богам. Прапаведнік заклікаў людзей кінуць гэты шлях, ісці па вузкай дарозе, не звяртаючы ўвагі на прыніжэнні, насмешкі, здзекі, нягледзячы на тое, што вузкая дарога цярністая і ўсеяна шыпамі. Што трэба разумець пад гэтымі словамі? Вядома, шырокая дарога гэта тая, па якой смела і ўпэўнена ідуць савецкія людзі ў камунізм, а вузкая дарожка гэта тая, па якой тупаюць баптысты і іншыя цемрашалы. Як бачыце, баптызм заклікае людзей выракацца жыцця.



Другі прапаведнік усслаўляе глупства і цемнату. Ён гаворыць, што не трэба быць ні разумным, ні пісьменным, не трэба мець ніякіх здольнасцей, ніякіх дадатных якасцей, ніякага імкнення да ўдасканалення сваіх здольнасцей. Даволі таго, каб божая благадаць пасялілася ў сэрцы вар'ята, і ён адразу стане мудрацом. Але божая благадаць на нячыстых не сыходзіць. «Господь бог нечистых не избирает»,— цытуе прапаведнік евангелле. Каго ж ён разумее пад нячыстымі? Вядома, тых, хто не трапіў у баптысцкія сеці, хто самаадддана працуе на карысць Радзімы, народа. Нельга прывесці ўсе выступленні прапаведнікаў. Дарэчы, яны былі вельмі нелагічныя, супярэчлівыя па зместу, непісьменныя, з бясконцым паўтарэннем адных і тых жа слоў (...«няхай даруе бог прапаведнікам!»), але ўсіх іх аб'ядноўвала адно: ігнараванне новага, усяго таго, чым жыве савецкі чалавек. Ні адзін з іх не ўспомніў пра сваю сацыялістычную Радзіму, якая будуе камунізм, змагаецца за мір ва ўсім свеце, пра калгас, пра працу, пра свае прамыя абавязкі перад грамадствам. Не! Толькі літаніі да бога, хвала богу. Трэба сказаць, што прапаведнікі іншы раз ужываюць слова «мір», але ў якім сэнсе? У вельмі вузкім: «Няхай будзе з намі мір». Гэта значыць, не біцеся, не лайцеся, а то людзі будуць смяяцца.

Мы звяртаем увагу на заклікі, што развешаны на сценах малітоўнага дома. Іх шэсць. Яны добра афармленыя, у рамках, пад шклом і з'яўляюцца не чым іншым, як вытрымкамі з евангелля. Перад кожнай такой вытрымкай напісана: «Хрыстос сказаў». Чытаем, што ён сказаў: «И проповедано будет сие евангелие царствия по всей вселенной, во свидетельство всем народам и тогда придет конец». У часопісе не месца для перадрукавання такога глупства, але чытачы павінны ведаць, што прапаведуе рэлігія, у прыватнасці баптызм. Як бачыце, баптысты чакаюць канца свету, прапагандуюць яго. У наш атамны век, калі навука, тэхніка і культура зрабілі такі вялікі скачок уперад, калі савецкія людзі заваёўваюць космас, цемрашалы тлумачаць: усё гэта глупства, «суета сует», нашто яно? Усё роўна прыдзе канец свету.

Усім вядома, што па закліку камуністычнай партыі наша моладзь, наш камсамол шчыра і самаадддана працуюць у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, на будаўніцтве новых індустрыяльных гігантаў, на цалінных землях, асвойваюць прасторы поўначы і ўсходу, каб наблізіць шчаслівую будучыню — камунізм. Пачытаем цяпер, куды кліча баптызм нашу моладзь. «И помни создателя твоего в дни юности твоей, доколе не настали тяжелые дни и не наступили годы, о которых ты будешь говорить: нет мне удовольствия в них». Як бачыце, у гэтым «закліку» гутарка ідзе аб моладзі. «Забудзьцеся аб жыцці,— заклікаюць баптысты моладзь,— помніце бога». А пра якія гэта цяжкія дні і гады, у якіх не будзе задавальнення, гавораць яны? Вядома, пра нашы дні, пра нашу рэчаіснасць, пра камунізм, які мы будуем. Баптысцкім цемрашалам няма задавальнення ў нашых справах. Тут каментарыі не патрэбны. Усе рэлігійнікі, у тым ліку і баптысты, запэўняюць, што яны не ўмешваюцца ў палітыку,

не лезуць у яе. Лезуць, ды яшчэ як!

Аднак, што там за людзі з нейкімі талеркамі прабіраюцца між радоў і падсоўваюць прысутным гэтыя талеркі? Зразумела! Яны збіраюць грошы! І прысутныя кладуць. Хто дзесяць рублёў, хто пяць, хто тры. «Нашто вам грошы, божыя дзеці? (так называюць сябе баптысты) — хочацца запытаць нам.— Вунь на сцяне запісаны ваш дэвіз: «Господь пастырь мой: *я ни в чем не буду нуждаться*». Чаго ж пасля гэтага варты ўсе вашы пропаведзі і дэвізы!

У той дзень у малітоўным доме быў шлюб — вянчанне маладых баптыстаў. Нам проста цікава было зірнуць на гэтых маладых людзей. Хто яны. Фанатыкі? Ды не! Сімпатычныя маладыя людзі. Яна прыгожая дзяўчына, ён з мужным тварам юнак... Іх пасадзілі каля кафедры. Прасвітар нешта прамовіў ледзь чутным голасам. І вось выступае прапаведнік. Ён гаворыць аб святасці шлюбу, аб тым, што шлюб устаноўлены богам, бо калі бог ствараў першага чалавека Адама, то адразу падумаў, што дрэнна чалавеку аднаму, і прывёў да яго ўсіх звяроў і птушак, каб Адам сярод іх выбраў сабе памочніка і сябра. Адам патрабаваў у сяброўкі жанчыну. Тады бог усыпіў Адама, выламаў у яго рабрыну і з яе стварыў Еву... Дзіка і не хочацца верыць, што такія казкі расказваюць сёння, калі нашы савецкія спадарожнікі праносяцца наўкол Зямлі і Сонца. Прапаведнік тым часам многазначна дадае: ён і сам у свой час адчуў, што яму дрэнна аднаму, і што ўсе мужчыны, калі прыходзіць пара, таксама адчуваюць, што ім дрэнна адным, тады бог выбірае ім жонак. Кожная рэлігія і мнагалікія секты заўсёды ставяць жанчыну ў залежнае ад мужчыны становішча. Яна па рэлігійнаму вучэнню ніжэйшая істота, бо створана з мужчынскай рабрыны і павінна падпарадкавацца мужчыне. Яна сама нават не мае права выбраць сабе мужа. Гэта прывілегія мужчыны.

Але смяшнейшыя за ўсе былі спасылкі прапаведніка на біблейскіх праайцоў аб супружаскай вернасці. Ён прывёў у прыклад супружаскую вернасць цара Саламона і яго выказванні на гэты конт. Смеху варта! Гэты распуснік цар меў семсот жонак і трыста наложніц, не лічачы выпадковых прыгод з царыцай Саўскай, з жонкамі і дочкамі сваіх падданых, калі яны яму падабаліся. Якая тут можа быць супружаская вернасць! Не ведаем, на каго з біблейскіх праайцоў мог бы спаслацца прапаведнік. Усе яны, згодна свяшчэннага пісання, былі распуснікі, мнагажонцы, п'яніцы, жылі са сваімі рабынямі, а Лот, напрыклад, не грэбаваў роднымі дочкамі, Іуда — нявесткай.

Другі прапаведнік пачаў выхваляць баптысцкі шлюб, прывёў як станоўчы факт тое, што баптысты не п'юць алкагольных напіткаў, бо гэта, маўляў, забаронена свяшчэнным пісаннем. Ён расказаў аб шлюбе ў Кане Галілейскай і без жалю адлупцаваў сам сябе. На гэты шлюб, расказваецца ў евангеллі, быў запрошаны Хрыстос са сваімі вучнямі. Калі ён прышоў туды, там ужо была яго маці. Яна сказала, што ён дарэмна прышоў, бо ў гаспадароў кончылася віно. «Не бядуй, жанчына»! — адказаў маці ветлівы сынок і загадаў прынесці парожні посуд з-пад віна і наліць яго вадой са студні. Калі гэтую ваду прынеслі на баляванне, то яна аказалася найлепшым віном. «І гэта, — сказаў прапаведнік, — было зроблена не хіміяй, бо Хрыстос нават не падыходзіў да таго пасуду. Ад адной яго думкі вада ператварылася ў віно». На слове «хімія» прапаведнік спыніўся некалькі разоў, і мы падумалі, пры чым тут хімія, чаго ён так на яе насеў? Аказваецца, у сельскім клубе была гутарка аб цудах і цудатворцах, аб абнаўленні ікон і манет. Было растлумачана, што такія цуды можна зрабіць пры дапамозе хіміі. Вось прапаведнік на яе і накінуўся. Як бачыце, баптысцкія кіраўнікі рэагуюць на мерапрыемствы клуба. Але як! Нават хімію абвяргаюць! Тут прапаведнік зразумеў, што заблытаўся. Як ні тлумач, а на шлюбе ў Кане Галілейскай пілі віно. Ён паспрабаваў разблытацца і заблытаўся канчаткова. Ён пачаў тлумачыць, што на Усходзе, у прыватнасці ў Палестыне, замест вады пілі вінаградны сок. Знайшоўся выхад! Аднак жа ў евангеллі гаворыцца не пра вінаградны сок, а пра віно і пры тым вельмі добрае.

Мы не збіраемся палемізаваць з баптыстамі, але справа ў тым, што гэтыя «божыя дзеці», якія даказваюць, што не ўжываюць алкагольных напіткаў, зрабілі к вяселлю дзве бочкі брагі з цукру, хмелю і дрожджаў. З намі бог! Такая брага і быка з ног зваліць, не толькі якога-небудзь хліпкага баптыста.

Нам прышлося так доўга спыніцца на баптысцкім шлюбе таму, што ён пакідае вельмі цяжкае ўражанне. Гэта не вяселле. Гэта хутчэй за ўсё хаўтуры. У кожнага чалавека на ўсё жыццё астанецца ў памяці той шчаслівы час, калі ён навек злучае свой лёс з каханай або з каханым, каб прайсці разам праз радасці і нягоды ў жыцці. Гэты час паўстае ва ўяўленні, як нешта вельмі светлае, чыстае і святое. А што застанецца ў памяці гэтых маладых людзей, якія злучылі сваё жыццё семнаццатага мая ў красоўшчынскім малітоўным доме баптыстаў? Нудныя пропаведзі не менш нудных прапаведнікаў, нудныя спевы псалмоў, ад якіх так і патыхае нечым мёртвым і замагільным.

Нельга не спыніцца на хоры малітоўнага дома. Ён не малы, і ў яго ўваходзяць — ад першага да апошняга чалавека — моладзь, юнакі і дзяўчаты. Смешна і шкада глядзець, як гэтыя маладыя людзі паслухмяна, хоць і без энтузіязму, па знаку рэгента выконваюць псалмы. Эх! Чаму вы не ў харавым гуртку пры клубе? Ваша месца не тут, у гэтым затхлым доме, сярод гэтых цемрашалаў, што затуманьваюць вашы мазгі. Колькі б радасці прынеслі вы сваім таварышам-калгаснікам і рабочым сваімі спевамі! Што вас тут трымае? Няўжо вы не бачыце жыцця, якое прыгажэе з кожным днём!

Хочацца адзначыць, што баптызм у Радашковіцкім раёне — рэлігія імпартная. Яе яшчэ да трыццаць дзевятага года прывёз сюды з Амерыкі нейкі Мядзведскі. Гэты баптысцкі місіянер быў хітры чалавек. Калі з кім-небудзь здаралася няшчасце: здох конь або карова, здарыўся пажар, ён быў тут, як тут і прапанаваў дапамогу: пазычаў грошы і вербаваў даўжніка ў сваю секту. Такім чынам, першыя баптысты ў радашковіцкіх вёсках былі купленыя ў літаральным сэнсе гэтага слова.

...Да канца «багаслужэння» ў малітоўным доме мы не маглі дабыць. Яно цягнулася чатыры гадзіны без перапынку. Паветра душнае і цяжкае, усе людзі аблітыя потам, з ашалелымі затуманенымі вачыма. Калі мы вышлі, то не хацелася верыць, што ўсё бачанае і чутае тут, было явай, а не цяжкім сном, трызненнем. Здавалася, што мы вырваліся з дзевятнаццатага стагоддзя. Міжволі ўзнікае думка: трэба прымаць тэрміновыя меры з гэтым цемрашальствам. Калі ўлічыць, што красоўшчынскі малітоўны дом з'яўляецца цэнтрам не толькі красоўшчынскіх баптыстаў, а ўсіх прыверженцаў гэтай секты ў Радашковіцкім і прылягаючых да яго раёнах, то яму трэба нешта супрацьставіць. Нельга дазволіць цемрашалам затуманьваць галовы нашым людзям, нашай моладзі, нашым дзецям — нашай будучыні.

На гэтым можна было б паставіць кропку, але чытачы павінны ведаць, чым кончылася баптысцкае вяселле ў Красоўшчыне семнаццатага мая. Брага сапраўды аказалася мацнейшай і лепшай, чым віно ў Кане Галілейскай. «Божыя дзеці» — валяліся ў лужынах і канавах, паламалі веласіпеды. Стаяў сапраўдны енк, плач і скрыгат зубоўны. Вер пасля гэтага пропаведзям!

*З блакнота падарожніка*

Віталі ВОЛЬСКІ

# НА ВОЗЕРЫ НАРАЧ

## Залаты бераг

Паўночны бераг Нарачы. Пад нагамі сухая глеба, парослая ядлоўцам, верасам, чаборам. Высокі бераг з сасновым лесам пераходзіць у шырокі пясчаны пляж.

Справа, у нізіне, рыбацкая вёска Купа. Крыху далей за Купай — вёска Сцепянёва. Паміж Купай і Сцепянёвым размясцілася Біялагічная станцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Вада каля берага зеленавата-блакітная, чыстая і празрыстая, падобная па колеру на марскую. Там, дзе глыбей, яна здаецца сіняй.

Уражанне такое, быццам знаходзішся недзе пад Рыгай, на ўзбярэжжы Балтыйскага мора ў ясны сонечны дзень. Той жа колер вады, той жа бязмежны прастор, той жа залацістабелы пясок пад нагамі і тыя ж высокія сосны на ўзгорках. Залаты, бурштынавы бераг!

Мядовы пах чабору і верасу змешваецца з густым настоем нагрэтай сонцам хвоі. Ніводнай пылінкі ў паветры: яно проста ап'яняе чалавека сваёй чысцінёю і свежасцю.



Вось яны, прасторы возера Нарач.

Схіл берага сінее чаборам. На вяршыні растуць кусты шыпшыны. Кветкі дзікай ружы чырванеюць між дробных зялёных лістоў і калючак. Вялікі стары крыж, пацямнелы ад часу помнік мінуўшчыны, высіцца над вадою, над блакітным небам, якое зліваецца з возерам.

Белакрылыя чайкі лятаюць над Нараччу, то прыпадаючы да сіняй паверхні вады, то зноў узнімаючыся ўвысь.

Які цудоўны свет, якая прыгожая наша краіна, як хораша жыць у гэтым вялікасным гмаху!

Каля самага берага б'е з-пад зямлі крыніца чыстай, серабрыстай сцюдзёнай вады. Вясёлым ручуком струменіць яна ўніз, зліваючыся з вадою возера. Такіх крыніц тут многа. Вада ў іх гаючая, карысная для здароўя. Піць яе — асалода!

Мусіць таму, што вада ў Нарачы безупынна папаўняецца шматлікімі крыніцамі, узровень яе ніколі не зніжаецца.



## «Беларускае мора»

Так часта называюць Нарач. І нездарма: гэта — самае вялікае возера Беларусі. Плошча яго — восемдзесят квадратных кіламетраў. Знаходзіцца яно ў Маладзечанскай вобласці, на паўночным захадзе. Найбольшая глыбіня — трыццаць пяць метраў.

Нарач належыць да азёр, якія не зарастаюць раслінамі. Вада ў гэтых азёрах чыстая, празрыстая, багатая кіслародам. Такія вялікія і глыбокія азёры, як Нарач, называюцца алігатрафічнымі. Над Нараччу амаль заўсёды дзьмуць вятры. Адбываецца безупынны рух вады ад хваляванняў і ад глыбінных плыняў. Дзякуючы гэтаму прыбярэжная паласа не забалочваецца і возера застаецца чыстым і адкрытым.

Паўночныя і паўночна-ўсходнія берагі Нарачы высокія, паўднёвыя і заходнія — нізкія.

На паўднёвым усходзе з возера выцякае рэчка, якую мясцовыя жыхары называюць Нарачанкай. Паўнаводнай, пакручастай істужкай прабіраецца яна сярод тваністага балота, якое зарасло хмызняком і чаротам, у раку Вілію, прыток Нёмана.

На поўначы бераг возера закругляецца, прымаючы правільную форму чашы, да краёў напоўненай вадою. З усходняга боку віецца паўз возера дарога, па баках якой цягнецца цудоўны, сухі і вясёлы сасновы бор.

У паўднёвай частцы лясоў няма. Да вады спускаюцца спадзістыя ўзгоркі. На іх расце толькі трава. Тут няма ні дрэў, ні кустоў. Бераг нізкі, з зараснікамі трысця і чароту.

На ўсходзе возера Нарач злучаецца вузкім пралівам між пясчаных кос з возерам Мястра, плошча якога — трынаццаць квадратных кіламетраў. Непадалёку знаходзіцца возера Мядзель і маленькае азярцо Баторын. З вяршыні кургана каля вёскі Мікольцы можна ўбачыць усе гэтыя азёры нарачанскай групы.

Паўночную частку Беларусі нездарма называюць краем блакітных азёр. На поўнач ад Нарачы іх налічваецца некалькі тысяч — і малых, і вялікіх. Усе яны ўзніклі дваццаць—дваццаць пяць тысяч гадоў назад, у часы ледавіковай эпохі. Вучоныя лічаць, што магутны ледавік насунуўся ў чацвёрты раз з гор Скандынаўскага паўвострава і пакрыў усю гэтую мясцовасць пластам лёду таўшчынёю ў сотні метраў.

Рухаючыся з поўначы на поўдзень, вялікія масы лёду драбілі цвёрдыя пароды, цягнулі з сабою і пакідалі на сваім шляху буйныя валуны, дробныя каменні, гліну і пясок. З матэрыялаў, прыцягнутых ледавіком, утварылася асобная парода — марэна. Яна адкладалася на паверхні зямлі высокімі градамі па краях ледавіка. Узгоркі чаргаваліся з глыбокімі лагчынамі. Калі ледавік пачаў раставаць, адступаючы на Поўнач, з яго пацяклі струмені вады. Частка вады затрымалася ў лагчынах і нізінах, стварыўшы азёры. У спадчыну ад ледавіка засталіся не толькі гэтыя блакітныя азёры з чыстай, празрыстай і халоднай вадой, не толькі шматлікія каменні на палях Маладзечанскай і Віцебскай абласцей, але і прыгожы ўзгоркавы рэльеф мясцовасці.

Марэнныя грады былі прыроднымі плацінамі, якія затрымлівалі раставую ваду ледавіка, утвараючы найбольш буйныя азёры.

## На пляжы

З узгорка відна шырокая паласа пляжу. Зверху ўражанне такое, быццам на залацістым пяску расцвілі нейкія вялікія, незвычайна яркія кветкі — блакітныя, белыя, сінія, чырвоныя, жоўтыя.

Тут заўсёды поўна людзей: жанчын у яркіх халатах і сарафанах, мужчын у стракатых піжамах і саламяных капелюшах. Загарэлыя хлапчукі і дзяўчынкі плюхаюцца ў зеленаватай вадзе, пырскаюцца, пускаюць па вадзе караблікі з сасновай кары, будуюць на беразе крэпасці і гавані з вільготнага пяску. Юнакі і дзяўчаты гуляюць у валейбол. Тут адпачываюць мінскія друкары са сваімі сем'ямі. Яны першыя аблюбавалі гэтую цудоўную мясціну і збудавалі дом адпачынку. Кожны праводзіць свой вольны час, як хоча і як умее. Яшчэ ў 1955 годзе на ўзгорках пад соснамі выраслі ўтульныя блакітныя домікі пад чырвонымі чарапічнымі дахамі — дачы для летняга адпачынку рабочых і служачых Мінскай друкарні імя Сталіна.

З гэтага часу цудоўная мясцовасць паміж вёскаю Купа і пасёлкам рыбгаса пачала ператварацца ў курорт. Цяпер гэта — самая людная і ажыўленая частка возера. Як толькі пабывалі тут першыя дачнікі, пагалоска пра казачную прыгажосць возера абляцела ўвесь Мінск. Распаўсюдзілася яна і далёка за межамі Беларусі. Кожны год праводзіць ля Нарачы свой летні адпачынак многа працоўных не толькі з Мінска, але і з Вільнюса, Масквы, Ленінграда.

На беразе возера можна сустрэць асобных турыстаў, групы ўдзельнікаў турысцкіх паходаў і падарожжаў. Яны жывуць у палатках. Але густа населена ўлетку толькі невялікая паласа паўночнага берага з пясчаным пляжам між рыбгасам і біялагічнай станцыяй. Ва ўсіх іншых месцах на возеры пакуль ціха і спакойна. Ніхто не трывожыць шматлікіх і разнастайных птушак. Ніхто не парушае велічнай задумлівасці прыроды.

## У рыбгасе

У цэнтры рыбацкага пасёлка ўзвышаецца даволі прасторны атынкаваны дом з драўлянымі калонамі перад уваходам. Каля дзвярэй вісіць дошка з паказчыкамі выканання плана рыбнай лоўлі. Тут знаходзіцца дырэкцыя дзяржаўнай рыбнай гаспадаркі.

На адной лініі з гэтым домам выцягнуліся між брукаванай дарогай і берагам возера яшчэ некалькі дамоў. Усе яны новыя, яшчэ непафарбаваныя, з бліскучымі дахамі. У гэтых дамах жывуць працаўнікі «Беларускага мора».

Крыху далей, на другім баку пасёлка, на ўзгорку пад соснамі — рыба-кансервавы завод. Побач з ім — белы будынак халадзільніка.

Выбрукаваная роўнымі каменнямі дарога абсаджана, нібы алея, высокімі таполямі. З аднаго боку заўсёды чыстай дарогі нізкі бераг возера, з другога — сасновы лес на пясчаных узгорках.

Таполі надаюць дарозе паэтычную задумлівасць. Сонца свеціць скрозь густое лісце, пакрываючы брук трапяткою сеткай залацістых плямак.

Зойдзем у дом дырэкцыі рыбгаса. У пакоі, дзе адбываюцца сходы рыбакоў, вісіць каляровы выразаны з часопіса «Аганёк» партрэт старога чалавека з сівой барадою, але жывым і бадзёрым тварам, у традыцыйным рыбацкім капелюшы. Гэта — славуты нарачанскі рыбак Міхал Роліч.

— Дзе ж сам Роліч? — пытаюся я.

— Яго тут зараз няма, — адказваюць мне. — Ён жыве на тым баку, на касе, у Наносах, і бывае ў нас рэдка. Дабрацца да яго можна толькі на баркасе ці на кацеры.

Пра Міхала Роліча я чуў даўно, як пра самага выдатнага і вопытнага майстра рыбнай лоўлі на Нарачы і ўсіх навакольных азёрах і як пра мужнага арганізатара забастоўкі рыбакоў у часы панскай улады.

Я тут жа папрасіў, каб пры выпадку захапілі і мяне на касу. Мне захацелася сустрэцца з гэтым чалавекам.

На заводзе існуюць цэхі халоднага і гарачага вэнджання, кансервавы і вязальны. У апошнім вяжуць рыбацкія сеці.

Гарачым спосабам вэнджаць угра і сяляву, якая пад назвай усім вядомых «капчушак» ідзе ў тонкіх і плоскіх фанерных скрынках у рыбныя магазіны. З цэха халоднага вэнджання і з цэха вялення выходзіць пад назвай не менш папулярнай «воблы», ці «таранкі», вэнджаная і сухая плотка. Кансервавы завод выпускае ў бляшаных банках рыбныя кансервы ў таматэ пад назвай «малы часцік», якія вырабляюцца з укляі, плотак і дробных акунькоў.

## Рыбацкі стан

На зялёнай лугавіне за домам дырэкцыі ўваткнуты ў зямлю доўгімі радамі сасновыя калы з развілкамі на версе. На іх сушацца сеці.

Каля самай вады невялікая пуня. Ад лугавіны да вады пракладзены па пяску драўляны насціл, каб можна было пад'ехаць да самых лодак.

На беразе хлапчукі чакаюць вяртання рыбакоў з лову. Яны глядзяць удаль, засланіўшы рукою вочы. Некаторыя з хлапчукоў кідаюць у возера плоскія і гладкія каменьчыкі. Кожны стараецца кінуць так, каб каменьчык адштурхнуўся ад паверхні вады і рыкашэтам праскакаў па ёй як мага больш разоў.

Недалёка ад пуні сядзіць каля вогнішча некалькі рыбакоў. Яны паедуць на начны лоў і чакаюць тут сваёй змены, ведучы гутарку пра надзённыя справы.

Адзін з рыбакоў, Франц Антонавіч, пажылы чалавек, выказвае нездавальненне неразумнымі ўчынкамі тых несвядомых людзей, што глушаць рыбу дзеля сваёй забавы.

— Завялі пасля вайны дурную моду, — кажа ён, — рыбу глушыць. Ад выбуху ў вадзе гіне ўсё жывое. Усплыве з глыбі на паверхню некалькі буйных рыбін, вось і ўся здабыча «драпежніка», а малявак загінула пры гэтым без карысці некалькі дзесяткаў тысяч. Шкода такая, што і падлічыць немагчыма, бо з кожнай маляўкі вырасла б вялікая рыбіна.

— Кажуць, за глушэнне рыбы суд карае па закону, — перапыняе Франца Антонавіча малады рыбак, якога ўсе называюць Ясюнем.

— Закон правільны, — прадаўжаў пажылы. — Толькі ў нас не было яшчэ выпадку, каб таго злачынцу судзілі.

Тым часам да вогнішча падышоў галоўны інжынер рыбгаса, высокі мужчына ў сінім кіцелі, зялёных, вайсковага крою штанах і скураных ботах.

— Усё ўвойдзе ў норму, — сказаў ён. — Хутка ў рыбнай гаспадарцы навядзем парадак. Тады і меры па развядзенню рыб, па засяленню нашых азёр новымі відамі, якія мы праводзім, будуць сапраўды эфектыўнымі.

— А якія рыбы водзяцца ў Нарачы? — пацікавіўся я.

— У Нарачы мы ловім сяляву, вугра, акуня, шчупака, ярша, ляшча, язя, плотку, — адказаў інжынер. — Усе гэтыя рыбы маюць для нас прамысловае значэнне. Даўно быў выпушчаны ў возера сіг, але сустракаецца ён рэдка.

— Сея, падобна на сяляву, калі маленькая, — сказаў пажылы рыбак.— Толькі ў сялявы плаўнікі беленькія, а ў сеі — чырвоныя.

— А што гэта за сея? — спытаўся я. — Ніколі не чуў пра такую рыбу.

— Сея — мясцовая назва сіга, — растлумачыў інжынер. — Радзіма гэтай рыбы — Чудское возера. Пасля вайны лічынкі чудскога сіга былі прывезены ўпершыню ў 1948 годзе з Волхаўскага рыбаразводнага завода, але прамысловага значэння сіг у нас, на Нарачы, пакуль яшчэ не набыў. У сеці сея, як называюць сіга нашы рыбакі, трапляе толькі адзінкамі.

Найбольш характэрная для Нарачы рыба — рапушка, па-народнаму, сялява, — паведаміў далей інжынер. — Яна таксама завезена ў Нарач і вельмі добра прыжылася тут, размножылася і зрабілася мясцовай рыбай. Радзіма сялявы — Чудское і Ладажскае азёры. Належыць гэтая рыба да сямейства ласосевых. Жыве сялява не больш дзесяці год. Нідзе няма такіх вялікіх вугроў, як у Нарачы. Яны дасягаюць тут вагі ў чатыры кілаграмы. Вугор у нас вёўся здаўна, але потым пачаў знікаць. Сёлета прывезлі на самалёце паўтара мільёна лічынак вугра і выпусцілі ў Нарач. Выключна многа ў нашым возеры яршоў.





**На нарачанскім беразе можна часта ўбачыць вось такі малюнак. Рыбацкія сеткі развешаны для прасушкі.**

— Мы з гэтымі калючымі разбойнікамі ваюем, хоць яны і яршацца,— засмяяўся Ясюня.

— Ёрш, трэба сказаць, шкодны для рыбнай гаспадаркі, бо паядае ў вялікай колькасці ікру каштоўных відаў рыбы, — прадоўжыў сваё тлумачэнні інжынер. — Мы ловім ярша любых памераў. Для ярша ў нас ёсць спецыяльныя сеці — мутнікі, бо лавіць яго трэба ў мутнай вадзе. Такія сеці якраз і муцяць ваду.

— Нездарма кажуць у народзе — ён любіць у мутнай вадзе рыбку лавіць, — зноў засмяяўся Ясюня.

Франц Антонавіч нездаволена зірнуў на хлопца і прабурчэў:

— Не перапыняй старэйшых.

Пакуль у нас ішла гутарка ля вогнішча, хлапчукі на беразе кінулі свае гульні з каменьчыкамі і падбеглі да самай вады.

— Едуць, едуць!.. — пачуліся ўзбуджаныя галасы.

Сапраўды, да берага набліжаўся маторны баркас «Чайка». Ён цягнуў за сабою караван з трох рыбацкіх лодак першай змены.

У вячэрнім паветры запахла свежай рыбай.

— Вярнуліся! — закрычалі хлапчукі і абкружылі чорныя, прасмоленыя лодкі.

Рыбакі вышлі на бераг.

Усе яны ў кепках, гімнасцёрках і

ватоўках. На іх гумавыя боты вышэй каленаў і чорныя цыратавыя фартухі. На некаторых цыратавыя курткі пясочнага колеру з капюшонамі.

Па драўляным насціле пад'ехала да лодак фурманка, і рыбакі пачалі грузіць на яе ўлоў.

Спачатку ставяць на фурманку вялізны кораб са шчупакамі, потым такі ж кораб з акунямі і яшчэ адзін з сялявай.

— Рыбакі разбіраюць рыбу па гатунках адразу пасля лову і здаюць прыёмшчыку на вагу, — тлумачыць галоўны інжынер.

Баркас, які вярнуўся зноў на сярэдзіну возера, прывёз тым часам яшчэ тры лодкі. Адзін з рыбакоў, дужы і прысадзісты мужчына ў куртцы з капюшонам, стаў перад лодкай, на якой зложаны сеці.

Павярнуўшыся тварам да берага, ён схіліў галаву і падставіў сагнутую спіну, шырока расставіўшы ногі. Рыбакі накладваюць яму на спіну сеці, выцягваючы іх з лодкі. Яны робяць гэта марудна і асцярожна.

Калі сеці былі выцягнуты, рыбак з цяжкім грузам на спіне пайшоў па лугавіне наперад між двух радоў калоў. Двое другіх рыбакоў асцярожна, метр за метрам, знімаюць з яго спіны сеці. Распраўляючы іх і разблытваючы, яны рассцілаюць сеці па зямлі.

У сецях дзе-ні-дзе паблісквающь серабрыстыя рыбкі.

За рыбкамі, як гракі за аратым, спяшаюцца басаногія хлапчукі. Яны ўважліва аглядаюць разасланыя сеці.

У кожнага з хлапчукоў палатняная торбачка.

Стараючыся апярэдзіць адзін аднаго, яны спрытнымі пальцамі выбіраюць з ячэек дробную рыбу, якая там завязла, і кідаюць у свае торбачкі.



**Студэнты на возеры Нарач праводзяць цікавыя даследаванні.**

Гэта — іх законная здабыча.

Дайшоўшы да канца першага раду, рыбакі прывязваюць канцы сецяў да двух крайніх калоў і, вяртаючыся назад, расцягваюць сеці між абодвух радоў.

Рыбак, які нёс сеці, выпраставўся нарэшце і паварушыў плячыма. З яго цыратавай курткі і фартуха струменьчыкамі сцякае вада.

Рыбакі з другой змены моўчкі наглядаюць за ім.

— Здаровы дзядзька,—сказаў я.

— Былі і мы здаровыя, — уздыхнуў Франц Антонавіч. — Усяму свой час. Вось толькі невядома, хто нас заменіць.

— Як гэта хто? — здзівіўся я. — Моладзь!

— Нешта яе ў нас не відаць, — запярэчыў Франц Антонавіч.—Самі бачыце, амаль усе нашы рыбакі людзі старыя ды пажылыя, маладых сярод нас няма.

— А я? — высунуўся наперад Ясюня.

— Ты не ў лік, бо адзін.

Стары рыбак павярнуўся да мяне і растлумачыў:

— Адзін толькі ён і пайшоў з нашай вёскі ў рыбакі. Больш ахвотнікаў не знайшлося.

— Вы, дзядзька Пранук, сённяя, мусіць, з левай нагі ўсталі ці з цёткай пасварыліся, бо ўсё вам нешта не падабаецца, — пасмейваўся Ясюня.

— Не любіць моладзь нашу справу, — стаяў на сваім стары, не звяртаючы ўвагі на словы Ясюні. — Не любіць і не разумее. Мусіць, не падабаецца ёй рыбацкае жыццё. Зараз у нашай вёсцы, у Сцепянёве, ніхто не рыбачыць, а раней жа амаль усе былі рыбакамі. Няма каму вопыт перадаць, які нам ад бацькоў і дзядоў дастаўся. Чатыры хлопцы з нашай вёскі пайшлі ў армію, зрабіліся там шафёрамі і засталіся пасля службы ў горадзе. І калгас наш цяпер ужо не рыбалавецкі, а звычайны.

Франц Антонавіч змоўк і задумаўся.

— Крыўдуе стары, што ўнук яго не захацеў быць рыбаком. Працуе ў Паставах шафёрам, — ціха шапнуў мне Ясюня і падняўся з месца.

Рыбакі другой змены ўсталі і, развітаўшыся са мною, пайшлі да сваіх лодак заступаць на працу.

Рыбу адвезлі ў халадзільнік. Хлапчукі даўно ўжо зніклі. Лугавіна каля пуні апусцела.

На возеры было ціха і спакойна. У бледным небе з'явіўся месяц і адлюстраваўся ў бледнай і нерухомай вадзе.

Запасныя рыбацкія лодкі чарнелі каля светлай паласы пясчанага берага.



### У госці да знатнага рыбака

На другі дзень, як дамовіліся, у восем гадзін раніцы я пайшоў у пасёлак рыбнай гаспадаркі, каб адтуль на маторным баркасе паехаць у вёску Наносы, пазнаёміцца з самым старым нарачанскім рыбаком.

Неба пахмурнае. З возера дзьме вецер, імжыць дробны дожджык. Баркас на якары спакойна пагойдваецца на шэрых хвалях далёка ад берага.

Неўзабаве з'явіўся матарыст з вёскі Купы. Да баркаса трэба дабірацца на лодцы. Матарыст узяўся за вёслы, і праз некалькі хвілін лодка стукнулася аб борт баркаса, на якім чорнымі літарамі выведзен надпіс «Нарач». Мы пералазім на баркас, а пустую лодку бярэм на буксір.

Матарыст паднімае якар.

З намі едуць мастак з Мінска і пяцёра дзяўчат. Мастак, чалавек ужо немалады, невялікага росту, вязе з сабою вялізнае палатно, нацягнутае на раму, мальберт і эцюднік з пэндзлямі і фарбамі. Ён хоча намаляваць з натуры партрэт старога знатнага рыбака Міхала Роліча, які жыве на касе, у Наносах.

Дзяўчат, работніц з рыбгаса, матарысту трэба перавезці на супрацьлеглы бераг возера.

Баркас хутка аддаліўся ад берага. Хаты пасёлка пад соснамі робяцца ўсё меншымі. Раўнамерна стукае матор. Хвалі плёскаюцца ў борт, і халодныя пырскі б'юць нам у твар. Вада ў возеры цёмная, а над ёю ў шэрым небе лунаюць белыя чайкі.

Нягледзячы на халодны вецер і пахмурнае надвор'е, дзяўчаты спяваюць, прытуліўшыся адна да адной і хаваючы твары ад ветру. Усе яны апрануты ў ватоўкі, на нагах — высокія гумавыя боты. Вецер разносіць над возерам вясёлыя словы прыпевак, а баркас шпарка ляціць па высокіх хвалях, пакідаючы на цёмнай вадзе бурлівую баразну белай пены.

Гадзіны праз дзве мы набліжаемся да вузкай і доўгай пясчанай касы. Яна цягнецца з поўначы амаль да сярэдзіны возера, ствараючы дзве глыбокія затокі.

Усё вышэйшымі робяцца ў нашых вачах дрэвы на касе, усё больш выразна і ясна вырысоўваецца бераг.



**Ёсць і такія мясціны на Нарачы... Тут водзіцца шмат качак.**

З высокага берага ля Купы, з боку біялагічнай станцыі, каса выглядае вузкай і нізкай. Цяпер я пераконваюся ў тым, што сярэдняя частка касы не такая ўжо вузкая і зусім не нізкая. Гэта — выцягнуты ўзгорак, пакрыты соснамі.

Абагнуўшы мыс, мы бачым невялікую затоку з пясчаным берагам. Тут размясцілася рыбацкая вёска Наносы. Яе хаткі раскіданы далёка адна ад адной сярод пясчаных узгоркаў, між высокіх сосен і кустоў ядлоўца. Вакол хатак — сады і агароды.

Баркас набліжаецца да берага. На пяску ля вады чарнеюць рыбацкія лодкі. Мы адвязваем сваю лодку, бо тут таксама мелка і баркас не можа падысці да берага. Бярэмся за вёслы.

Перад вёскай Наносы цягнецца даволі шырокая паласа натуральнага пляжа з амаль белым пяском. Дзе-ні-дзе растуць крывыя ракіты. На зялёных узгорках высяцца сосны.

Вось мы і прысталі да берага.

Шукаем хату, дзе жыве Міхал Рыгоравіч Роліч.

— Ён мяшкае на тым баку, у свайго сына Сымона, — паведаміла нам старая жанчына, якую мы сустрэлі на беразе, і паказала на адну з хат.

Роліч быў дома. Ён сядзеў у сенцах і вязаў сець. У сенцах мала святла, але стары, нягледзячы на свае восемдзесят чатыры гады, працуе без акуляраў.

Роліч устае з лаўкі, і мы бачым, што гэта — чалавек высокага росту, хударлявы і жылісты. У яго невялікая сівая барада, але валасы на галаве цёмныя. Праніклівыя і разумныя светла-карыя вочы глядзяць спакойна і ясна. Гаворка ў яго павольная.

— Бацька памёр, калі мне было адзінаццаць, — гаворыць Роліч. — Пасля яго смерці я пачаў працаваць самастойна. Бацька, дзед мой і пра-

дзед таксама былі з маленства рыбакамі.

— Вы, мусіць, добра плаваеце? — пытаюся я з павагаю.

— Як тапор, — смяецца Роліч. — Пражыў усё жыццё на возеры, а плаваць не навучыўся. Часу не было.

У 1937 годзе, у часы панскай улады, Міхал Роліч быў завадатарам забастоўкі рыбакоў на возеры Нарач. Яго арыштавалі і пасадзілі ў турму, як небяспечнага бунтаўшчыка, але пад уплывам народнага руху пратэсту суд у Паставах вымушаны быў апраўдаць старога рыбака, і Роліч зноў вярнуўся да сваёй любімай справы. У гады гітлераўскай акупацыі Роліч дапамагаў партызанам. Да апошняга часу ён быў брыгадзірам у рыбгасе.

— Сам я не надта пісьменны, — тлумачыць стары рыбак, — а брыгадзіру трэба мець справу з паперкамі рознымі, справаздачамі.

Нядаўна стары майстар рыбнай лоўлі перайшоў на пенсію, але па-ранейшаму дапамагае рыбакам.

Мы выйшлі з хаты. Надвор'е тым часам палепшылася.

Мастак выбраў зручнае месца каля пуні, устанавіў свой мальберт, разлажыў на мокрай траве раскрыты эцюднік з фарбамі і пэндзлямі.

Роліч стаіць на фоне возера ў сваіх гумавых ботах і ў жоўтай цыратавай куртцы. На галаве ў яго традыцыйны рыбацкі капялюш-зюдвестка. У адной руцэ ён трымае сець, у другую мастак сунуў яму люльку.

— Я ж не куру, — мякка ўсміхаецца Роліч.

— Няважна, — гаворыць мастак аўтарытэтным тонам, які не дапускае пярэчанняў. — Люлька патрэбна для каларыту...

Пакуль мастак піша партрэт Роліча, я размаўляю са старым рыбаком. Мастак даў на гэта згоду. Ён заявіў, што гутарка яму не перашкаджае. Наадварот, «аб'ект» не будзе сумаваць і твар яго захавае ажыўлены выраз.

— Толькі варушыцца нельга, — папярэдзіў мастак заклапочана.

Рыбак добрасумленна стараецца не парушаць гэтай умовы і не варушыцца.

— Ці многа ў вас тут птушак? — пытаюся я.

— Ёсць у нас і касачы, і глушцы, і розныя качкі, — ахвотна адказвае стары. — Але найбольш на возеры чаек. Раней яны гняздзіліся ў самым канцы касы. Зробяць копачку ў пяску і кладуць стракаценькія яйкі. Часам у буру вада залівае пясок і змывае яйкі ў возера, а яны ўсё роўна кладуць на тым жа месцы новыя. Многія чайкі цяпер ужо выраслі і пачынаюць лятаць. Чаек у нас называюць «грачунамі».

Мне ўспомнілася, што ў вершах, прысвечаных Нарачы, нярэдка ўжываецца слова «кагарка», як мясцовая назва чайкі.

— Гэта, мабыць, толькі ў вашай вёсцы грачунамі называюць чаек? — пытаюся я.

— Не, — пярэчыць Роліч. — «Грачунамі» называюць іх па ўсіх узбярэжных мясцінах Нарачы.

— А што гэта за «кагарка»?

— Не ведаю. Ніколі не чуў такой назвы.

Падумаўшы трохі, ён дадае:

— Можа, гэта на Мядзелі так гавораць?

Я дапускаю і такую магчымасць.

— Ёсць яшчэ ў нас і кнігаўка. Маленькая, з чубікам на галоўцы — гаворыць ён далей. — Яйкі яна кладзе таксама ў копцы, але не на пяску, а на лузе, на балоце. Шмат у нас і чапляў, асабліва ля Нарачанкі. Лятаюць яны ўсюды, але гняздзяцца там, на рэчцы. Стаіць чапля ў вадзе, звычайна на глыбіні з паўметра, і пільнуе рыбу цэлымі гадзінамі.

Павольна, не спяшаючыся, расказвае Роліч пра птушак на возеры, а мастак тым часам працуе над партрэтам.

Іншы раз і ён устаўляе сваё слова ў нашу гутарку і пры гэтым уважліва ўглядаецца ў твар рыбака, крытычна параўноўваючы яго жывыя рысы з тым, што ўзнікае з-пад пендзля.

— Шкодная ці карысная чайка?— з такім пытаннем звярнуўся я да Міхала Роліча.

Рыбак падумаў і сказаў:

— Чайкі не шкодныя. Рыбы яны бяруць мала, і то больш хворую, якая трымаецца на паверхні, ці здохлую. Адной, двух маленькіх рыбак чайцы даволі на цэлы дзень.

— А як яна ловіць рыбу?

— Чайка бярэ рыбу дзюбай, — гаворыць рыбак, — і таму толькі дробную. Буйнейшую яна не можа схапіць, як гэта робяць арланы і каршуны, бо тыя бяруць рыбу не дзюбай, а кіпцюрамі сваіх магутных лап. Нам, рыбакам, чайка не перашкода: яна дзейнічае, як санітар. Чайка не нырае і таму не можа ганяцца за рыбай пад вадою. Яна можа ўзяць з налёту, з паветра толькі тое, што плавае на паверхні. Злавіць здаровую рыбіну пад вадою ці перашкодзіць ходу рыбных касякоў чайкі не могуць. Чайкі і крачкі нам, рыбакам, нават дапамагаюць у лоўлі, бо паказваюць ход сялявы пад вадою. Яны звычайна лятуць за касяком сялявы. Яшчэ чайка для нас карысная тым, што па яе паводзінах мы мяркуем аб надвор'і. Калі чайкі адлятаюць ад нас за Кабыльнік, на возера Швакшты, то будзе надвор'е дрэннае — вецер і дождж. Тады чайкі там збіраюцца вялікай грамадой. Калі ж яны прылятаюць сюды, на Нарач, значыць, чакай добрага надвор'я. Чайкі прылятаюць да нас у добры час. Чаму яны так робяць, не ведаю, толькі ведаю, што гэта так. Гняздзяцца яны і тут, і там, але больш на возеры Швакшты. Знаходзіцца гэтае возера за сем кіламетраў ад Купы, за Кабыльнікам. Ісці трэба на Глыбокі ручай.

— Гэта, мабыць, былы хутар?

— Так, раней гэта быў хутар. Там пры панскай уладзе жыў карчмар. Прадаваў гарэлку, купляў рыбу. Зараз гэтае месца забудавалася. Там цяпер стаяць тры хаты. У адной жыве дарожны майстар.

— Як трэба правільна гаварыць: «Швакшты» ці «Швакшта»? — пытаюся я, бо чуў, як адна дзяўчына ў Кабыльніку казала: «на Швакшчэ».

— Трэба казаць «Швакшты», — удакладніў Роліч. — У нас гавораць: «паехаў на Швакшты», ці «вярнуўся з Швакштаў». Яшчэ кажуць: «Швакшчанскае возера», або проста — «Швакшты».

— Адкуль жа ўзялася такая назва? Што яна азначае?

— Не ведаю. Мусіць ад вёскі. Там, між Кабыльнікам і Глыбокім ручаём, ёсць вёска Швакшты. То, мусіць, ад яе. Ёсць непадалёку другое возера, называецца — Папоўцы. Мусіць, ад вёскі Папоўцы і возера так называецца. Возера Мядзель называюць часам — Слуцкое возера, бо там ёсць вёска Слукі. Так і кажуць: «паехалі на Слуцкое», гэта значыць, на возера Мядзель.

Пасля гэтага невялікага адступлення мы вярнуліся зноў да пытання аб чайках.

Праз некаторы час пасля гутаркі з Ролічам мне давялося пазнаёміцца з навуковымі матэрыяламі Чарнаморскага запаведніка, з якіх было відаць, што чайкі сапраўды знішчаюць у вялікай колькасці насякомых, шкодных для сельскай і лясной гаспадаркі. Назіранні ў запаведніку, дзе чайкі і крачкі складаюць каля паловы ўсіх птушак, паказалі, што яны выкармліваюць сваіх птушанят амаль выключна гэтымі насякомымі. За чатыры месяцы чайкі і крачкі знішчаюць на ўзбярэжжы, плошчаю каля чатырох тысяч квадратных кіламетраў, да тысяч чатырохсот тон насякомых.

Ёсць адзін вельмі шкодны жук са смешнай назвай — кузька. На працягу двух тыдняў, у перыяд малочнай і васковай спеласці жыта, кожны такі жук знішчае да васьмі грамаў збожжа. Але якраз у гэты час чайкі выбіраюць да васьмісот мільёнаў штук небяспечных для гаспадаркі жукоў. З гэтых лічбаў відаць, якую вялікую карысць прыносяць чайкі ў справе аховы ўраджаю.

Значыць, на чайку, гэтую праслаўленую паэтамі белакрылую птушку блакітных водных прастораў, трэба глядзець, як на памочніка чалавека.

## Зімні лоў

Неўзабаве неба зноў пацямнела, пайшоў дождж.

Мастак неахвотна адклаў свае пэндзлі. Пачухаўшы патыліцу і пагля-дзеўшы на хмары, ён перанёс свае прылады у пуню. За ім пайшлі і мы, каб перачакаць там дождж.

— Хіба гэта лета? — бурчыць мастак. — Кожны дзень холад, кожны дзень вецер і дождж. І адкуль толькі бярэцца столькі вільгаці?

— Па радыё зноў перадавалі дрэнны прагноз, — безнадзейным тонам сказаў мастак.

Ён зірнуў на неба, уздыхнуў, падняў каўнер і ніжэй насунуў на лоб свой высокі зліняльі капялюш.

Роліч усміхнуўся:

— Прагноз дрэнны, дык ліха з ім, абы надвор'е было добрае!

— Калі ж яно будзе? — пацікавіўся я.

— Яшчэ дзён шэсць будзе дождж,— упэўнена адказаў стары.—Потым установіцца сухое, яснае надвор'е.

— Адкуль вы ведаеце?

— Па зіме можна меркаваць. Колькі снежных дзён зімою, столькі ж даждлівых дзён улетку. Колькі сухіх марозных дзён зімою, столькі ўлетку сухіх гарачых дзён. Рыбаку трэба ведаць надвор'е і ўлетку, і ўзімку.

— Хіба вы зімою таксама ловіце?

— А як жа! І не толькі на Нарачы. Мы рыбачым па ўсіх навакольных азёрах. Я і на Свіры лавіў, і на Глыбокім. На Свіры цяпер два гады ўжо, як не ловім. Там цяпер у нас перадышка, каб рыба не перавялася, а тады зноў нападзем, як тыя «грачуны».

Расказвае Роліч павольна, не спя-

шаючыся, і я, седзячы на бервяне ў пуні, запісваю тое, пра што ён расказвае.

— На Глыбокім сёлета зіма была для нас вельмі цяжкая. Шмат снегу насыпала. Калі снег растаў, лёд апынуўся пад вадою. Я там з брыгадай лавіў рыбу. Узяліся за тоню. А тут як сыпануў халодны дождж і снег! Нас усіх да апошняй ніткі прамачыла. Мала мы не кончылі абсякаць, як распагодзілася, на самым заходзе сонца. Цягнем ды цягнем, але ж нічога няма. Няма рыбы. Стаў я смутны. Што скажа дырэкцыя? Засталося ў вадзе якіх дзесяць сажняў невады, не болей. Але вось тут і пайшла рыба! Выцягнулі мы тон шэсць. Гэта з адной тоні, ляшчоў!

— А чаму спачатку рыбы не было? — спытаўся я.

— Там быў камень. Ляшчы як палі, знаеш, камень невад і парваў. Ляшчы, што былі зверху, уцяклі. Каб не гэты камень, узялі б мы яшчэ тоны тры.

Рыбак задумаўся.

— Вельмі цяжка нам было, — сказаў ён. — Лёд грубы, трэба плюхацца ў халоднай вадзе. Рукі і ногі нямеюць.

— Нялёгкая справа рыбацкая, — сказаў я.

— Нялёгкая, — пацвердзіў рыбак, — але я не прамяняю яе ні на якую іншую!

Ён усміхнуўся і дадаў:

— Ды і наогул лёгкіх спраў, сам знаеш, няма. Калі справа сур'ёзная ды патрэбная, то хоць і не лёгкая, а здаецца табе не такой ужо цяжкай, бо ты яе любіш.

Пакуль Роліч расказваў пра зімовы лоў на возеры Глыбокім, дождж перастаў. Мы выйшлі з пуні.

Мастак хацеў узяцца зноў за свае пэндзлі і фарбы, але тут прышоў баркас. Мы развіталіся з Міхалам Рыгоравічам і селі ў лодку.

На возеры была моцная гайданка. Вялікія хвалі з шумам біліся ў барты баркаса.

Калі з'яўлялася на хвіліну сонца, вада сінела. Неўзабаве сонца знікла зусім, і вада рабілася цёмна-свінцовай, густой і нібы непранікальнай. Шэрае неба нізка вісела над цёмным, змрочным і пеністым возерам.

### Думкі перад вяртаннем у горад

Надышоў час развітацца з Нараччу. Я гляджу ў апошні раз на блакітны прастор возера, на сіняе неба з белымі воблачкамі, на чаек над вадой, на пясчаныя ўзгоркі з высокімі соснамі, на зялёны ядловец, на ліловыя верасы і думаю: як добра, што я сюды прыехаў.

Злева на беразе я ўбачыў раптам знаёмую высокую постаць. Да мяне набліжаўся шпаркім, бадзёрым крокам Міхал Роліч.

Стары быў апрануты ў святочны чорны касцюм. Твар яго свяціўся.

— Адкуль гэта вы? — спытаўся я, прывітаўшыся.

— З Маладзечна, — ажыўлена адказаў рыбак. — Быў у вобласці. Пенсію персанальную мне прызначылі. Раней была звычайная, а цяпер, знаеш, персанальная. Вось, бачыце?..

Ён паказаў мне сваю новенькую, толькі што атрыманую пенсійную кніжку.

Я павіншаваў знатнага рыбака.

— Вы свой адпачынак даўно заслужылі.

— Які там адпачынак? — весела ўсміхнуўся Роліч. — Я сядзець, склаўшы рукі, не магу. Усё роўна рыбацкую справу, знаеш, не пакіну. Толькі, вядома, рабіць буду па сваёй сіле, не так, як калісьці.

— Куды ж вы ідзяцё?

— Дахаты, у Наносы. З Маладэчна ехаў да рыбгаса на аўтобусе, а адтуль іду берагам на сваёй парцы.

Ён паказаў на нозе ў новых гумавых ботах.

— А не цяжка ісці? Гэта ж для вас далёка.

— Якое там цяжка! Усяго каля дванаццаці кіламетраў вакол затокі, дый таго, мусіць, не будзе. Баркас пойдзе толькі заўтра, а я чакаць не хачу. Гадзіны праз дзве буду дома, якраз пад вечар.

Роліч развітаўся і тым жа роўным, бадзёрым крокам рушыў далей, уздоўж пясчанага берага ў напрамку на Сцепянёва.

Я паглядзеў старому ўслед і сказаў сам сабе: «Хацеў бы і я гэтак хадзіць у восемдзесят чатыры гады! Вось што значыць любімая праца на свежым паветры на працягу ўсяго жыцця!»

Думкі мае, перапыненыя з'яўленнем Роліча, вярнуліся да ранейшай тэмы.

Так, вельмі добра, што я сюды прыехаў.

Мне давялося тут блізка бачыць і наглядаць разнастайнае жыццё самага вялікага ў Беларусі возера, а самае галоўнае, я пазнаёміўся з цікавымі людзьмі — з нарачанскімі рыбакамі, з іх жыццём і працай, і з практыкантамі на біялагічнай станцыі — будучымі вучонымі арнітолагамі, іхтыёлагамі, гідрабіёлагамі.



Хто ў юнацтве не марыў аб вялікіх падарожжах у далёкія і невядомыя краіны, аб бяскрайніх прасторах акіяна, аб незвычайных і небяспечных прыгодах у трапічных джунглях і спякотных пустынях, у дрымучых лясах і сярод снегавых вяршыняў недаступных гор?

Гэта — вельмі добрыя мары. Яны абуджаюць у сэрцы мужнасць і адвагу, высакародныя імкненні да ведаў, да пазнання свету, да барацьбы і подзвігаў.

Тройчы шчаслівы той, хто здолеў у маладосці ажыццявіць гэтыя мары, бо падарожжы, і малыя, і вялікія, і па роднаму краю, і па іншых краінах, назіранні над прыродай, звярамі і птушкамі, збіранне вуснай народнай творчасці пашыраюць наш кругагляд, узбагачаюць новымі разнастайнымі ведамі, новымі незабыўнымі ўражаннямі. У падарожжах фарміруецца і мацнее характар. Падарожжы спрыяюць большаму і лепшаму разуменню жыцця народаў, іх культуры, побыту, нацыянальных асаблівасцей.

Але не кожны можа вандраваць у Андах, пераплываць акіяны, наведваць Палінезію, вывучаць Антарктыду. Што рабіць таму, для каго, па тых ці іншых прычынах, далёкія падарожжы немагчымы і высокія мары юнацтва застаюцца недасягальнымі, як зоркі ў небе?

У свой час і я не меў магчымасці рабіць далёкія падарожжы па замаргскіх краінах. Але я не вельмі аб гэтым шкадую. Я вандрую па той краіне, дзе жыву, і вывучаю яе прыроду.

Я ведаю, што прырода маёй краіны зусім не такая звычайная, як гэта некаторым здаецца толькі таму, што яны тут выраслі, што яна ім знаёма з маленства, што яна заўсёды знаходзіцца каля іх і побач з імі. Часам яны проста вельмі мала яе ведаюць, не ведаюць нават добра тую мясцовасць, дзе самі нарадзіліся і жывуць дзесяткі год.

Справа ў тым, якімі вачыма глядзець на гэтыя мясціны.

Для жыхара берагоў Белага мора, ці Камчаткі, ці Сярэдняй Азіі, ці Паволжжа, ці нават Каўказа блакітныя празрыстыя азёры нашага Паўночнага Захаду і лясы ў вярхоўях Бярэзіны з іх баграмі, выдрамі, ласямі і мядзведзямі, наша Беларускае Палессе з яго паўнаводнымі, спакойнымі рэкамі і балотамі, багатымі на ўсялякіх птушак, Белавежская пушча з яе зубрамі, аленямі і рысямі, прыгожыя краявіды Гродзеншчыны з сінім Нёманам, магутнымі дубровамі і рамантычнымі руінамі замкаў, помнікаў далёкага мінулага, на зялёных узгорках здаюцца такімі ж незвычайнымі і прывабнымі, якімі нам здаюцца бязмежныя прасторы снежнай Арктыкі, высокія горы суровага Алтая і паэтычнага Каўказа, непраходныя нетры сібірскай тайгі, шырокія стэпы Казахстана і сонечны бераг Крыма з яго вінаграднікамі і цёплымі хвалямі Чорнага мора.



**Непадалёку ад Нарачы ўзведзен помнік партызанам і воінам Вялікай Айчыннай вайны. Кожны год тут збіраецца моладзь.**

Рабіць нечаканыя адкрыцці, перажываць незвычайныя прыгоды, наглядаць цікавыя з'явы можна ўсюды. Трэба толькі вандраваць з шчырым сэрцам і адкрытымі вачыма, і ўмець бачыць.

Многія з нас вельмі рэдка выкарыстоўваюць свой вольны час для таго, каб быць бліжэй да прыроды, а яна так жыватворна ўплывае на чалавека! Прырода не толькі аднаўляе нашы сілы, але і ачышчае нас ад усяго лішняга, штучнага, непатрэбнага, што засталося ў спадчыну ад мінулага.

Прасторы нашай радзімы настолькі вялікія, прырода і геаграфічныя асаблівасці такія разнастайныя, што не хопіць жыцця чалавека на тое, каб толькі наведаць усе цікавыя месцы ў еўрапейскай і азіяцкай частках Савецкага Саюза, аб'ездзіць усе закут-

кі ад Поўначы да Поўдня і ад Захаду да Усходу.

Ці многія ведаюць, напрыклад, што на самым крайнім поўдні нашай радзімы, на граніцы з Афганістанам, жывуць у запаведных стэпах Бадхыза гепарды, вялікія дзікія кошкі на высокіх нагах, з целам сабакі, нястомныя бегуны, якія палююць на быстраногіх антылоп? Гэта тыя самыя гепарды, якія вядуцца ў саванах Афрыкі і якіх у Іране і Індыі прыручаюць, каб выкарыстоўваць на паляванні замест сабак.

Ці многія ведаюць, што тыя ж сухія туркменскія стэпы Бадхыза з рэдкімі зараснікамі тамарыску з'яўляюцца ў нас адзіным месцам, дзе можна ўбачыць на волі табуны куланаў — дзікіх аслоў?

Хіба не цікава было б паехаць і туды, панаглядаць за гепардамі і куланамі, вывучыць іх звычкі і асаблівасці, сабраць новыя матэрыялы аб жыцці гэтых малавядомых звяроў?

Можа я і туды паеду, магчыма, у недалёкім будучым. Але спачатку трэба мне яшчэ пабываць на Браслаўскіх азёрах, паглядзець, як прыжылася там андатра, выпушчаная ў возера Цно для акліматызацыі. Трэба з'ездзіць на Палессе, сабраць звесткі аб янотах-паласкунах. Неабходна наведаць і Сож, каб даведацца, як гадуюцца адноўленыя там хахулі. Нарэшце, нельга абмінуць і норак, якія развяліся ў вярхоўях Бярэзіны, і баброў, пераселеных нядаўна на раку Случ.

Як многа цікавых аб'ектаў для назірання ў нас на Беларусі!

Пра ўсё гэта я думаў, калі стаяў у апошні раз на высокім нарачанскім беразе пад стромкімі соснамі. І мне захацелася хутчэй вярнуцца ў горад, каб напісаць кніжку аб тым, што я бачыў і адчуваў на Нарачы.

Калі ў чытача абудзіцца любоў да роднай прыроды, зацікаўленасць да таго, што ён прачытае, калі яго ахопіць дух вандравання і ён захоча сам папільнаваць птушак у зарасніках чароту, прыслухацца да плёскату азёрнай хвалі і да крыку чаек, я палічу гэта за найвышэйшую сваю ўзнагароду. Дзеля гэтага варта блукаць па дрыгве, мокнуць у лодцы пад дажджом і ветрам, вандраваць у лясным гушчары і начаваць каля вогнішча.

Мне хочацца сказаць усім, хто прачытае гэтыя радкі:

— Трэба часцей вандраваць па роднай краіне, трэба больш яе вывучаць! Мы яшчэ недастаткова ведаем сваю радзіму, мы яшчэ мала любуемся цудоўным яе хараством.

## *Давайце пагаворым...*

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
**кіраўнік лектарскай групы**
**Мінскага абкома ЛКСМБ**

# ЗА ВЯЛІКАЕ І ПРЫГОЖАЕ КАХАННЕ

Як лектару, што выступае перад моладдзю па пытаннях камуністычнай маралі, мне даводзілася падоўгу гутарыць з маладымі калгаснікамі, рабочымі, са студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў, тэхнікумаў. Многія таварышы ў шчырых гутарках расказвалі пра сябе, пра сяброў, спрачаліся аб любімых героях савецкай мастацкай літаратуры. Я заўсёды захапляўся прыгажосцю, чысцінёй і шчырасцю нашых юнакоў і дзяўчат у сяброўстве і каханні. Але часам, развітаўшыся са сваімі слухачамі, адзін-на-адзін перачытваючы іх запіскі, міжволі задумваўся: колькі ўсё ж складанага, а часамі нават і супярэчлівага ў пытаннях сяброўства і кахання. Ці не варта больш шырока пагутарыць аб гэтым на старонках друку?

Вось некаторыя з пытанняў. Ці можа быць сяброўства ў хлопца і дзяўчыны? У чым адрозненне сяброўства ад кахання? Ці бывае каханне без рэўнасці? Ці праўда, што каханне — гэта захапленне, прывычка, разважнасць, страсць? Ці можа быць каханне без узаемнасці? Што самае каштоўнае ў каханні? і г. д.

Мы не прэтэндуем на поўнае іх асвятленне і спадзяемся, што чытачы ў сваіх пісьмах дапоўняць нас.

Вялікая мара чалавецтва — камунізм — ніколі не была такой адчувальнай і блізкай, як цяпер. На нашых вачах, нашымі рукамі ўзводзіцца светлы будынак камунізма. Нам, маладому пакаленню краіны Саветаў, выпала шчасце жыць і працаваць у самым дасканалым грамадстве на зямлі. Наша моладзь прыгожая сваімі справамі і ўчынкамі. Кожны з нас імкнецца выхаваць у сабе чалавека будучыні. У нас у характары ёсць такія рысы, якія ўласцівы не толькі чалавеку сённяшняга, але і заўтрашняга дня. Гутарка ідзе аб вялікім чалавечым сяброўстве савецкіх юнакоў і дзяўчат.

Сябар — гэта вельмі адданы табе чалавек, які цябе глыбока паважае і цэніць, які гатоў параіць, падтрымаць, памагчы ў цяжкую хвіліну. Сяброўства робіць наша жыццё багацейшым і прыгажэйшым. Мы нават не ўяўляем сабе, як можна жыць без адданых, шчырых сяброў. У дружбе, сяброўстве — сіла чалавека.

Сяброўства паміж юнакамі і дзяўчатамі не толькі можа, але і павінна быць. Калі ж яго няма, то гэта адмоўна адбіваецца на жыцці калектыву, на паводзінах юнакоў і дзяўчат. Правільнасць гэтай думкі пацвярджае само жыццё. Вось якую запіску падалі мне аднойчы навучэнцы школы № 32 г. Мінска: «Чаму ў нас у класе няма сапраўднага сяброўства паміж хлопчыкамі і дзяўчынкамі? Клас — гэта ж адзіная сям'я. Чаму нашы хлопчыкі пагардліва адносяцца да дзяўчынак? Чаму дзяўчынкі не шчырыя ў адносінах да хлопчыкаў? Чаму мы не гаворым праўды адзін другому ў вочы? Нам здаецца, што паміж хлопчыкамі і дзяўчынкамі ў класе павінна быць добрае сяброўства».

У адносінах паміж юнакамі і дзяўчатамі асабліва патрэбны шчырасць і

сумленнасць. Некаторыя таварышы лічаць, што сяброўства паміж юнаком і дзяўчынай не бывае, што яно абавязкова перарастае ў каханне. Думка гэтая *не зусім правільная.* Згадзіцца з ёю — значыць, прызнаць дзяўчат не здольнымі на высокае, чыстае сяброўства, якое ў сваёй аснове мае духоўны пачатак. Такое меркаванне не спрыяе добрым адносінам паміж хлопцамі і дзяўчатамі, пазбаўляе іх натуральнасці, прыводзіць да непатрэбнай манернасці, да некаторых умоўнасцей, якія перашкаджаюць працаваць, вучыцца, адпачываць. Варта часам дзяўчыне схадзіць з хлопцам у кіно, на танцы, папрацаваць разам над чарцяжамі, у полі ці на прадпрыемстве, як іх запісваюць у жаніхі і нявесты, «ухажоры» і «ухажоркі».

*Вядома,* сяброўства юнака з дзяўчынай абавязвае абодвух да захавання гонару і годнасці адзін перад другім. Яны не павінны дапускаць грубасці і цынізму, непатрэбнай фамільярнасці, яны не павінны пагарджаць пэўнымі правіламі прыстойных паводзін. Дзяўчаты, якія дазваляюць у сваёй прысутнасці расказваць пошлыя анекдоты, гаварыць рознае глупства, — такія дзяўчаты трацяць свой гонар, павагу да сябе. Дзяўчына павінна быць строгай, але ў той жа час чулай і ўважлівай. З такою дзяўчынай хлопцу лёгка знайсці правільны тон у сяброўстве.

Вядома, добрае, чыстае сяброўства *юнака з дзяўчынай можа перарасці* ў каханне. Але гэта зусім не абавязкова.

Адна студэнтка з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта пытаецца: «Чаму так атрымалася: юнак і дзяўчына *сябравалі шэсць год, а потым,* замест ЗАГСу, разышліся? Ці ў іх не было сапраўднага сяброўства?»

Сяброўства ж не абавязкова павінна заканчвацца рэгістрацыяй шлюбу! Гэ*тая маладая пара* будзе, відаць, паранейшаму сябраваць, але жыццёвая сцежка можа і не прывесці іх у ЗАГС. Урэшце, гэта іх асабістая справа. Няправільна не бачыць розніцы паміж сяброўствам і каханнем. Яна ёсць.

Сяброўства без кахання бывае, каханне без сяброўства — не. Калі для сяброўства прымаўка: «Не май сто рублёў, май сто сяброў» — закон, дык у каханні такі прынцып непрымальны. Сяброўства — гэта аснова кахання. Для кахання чалавек выбірае сабе таго адзінага, каму можна аддаць сваю руку і сэрца. Мне здаецца, не цяжка зразумець Галю Н., пра якую расказвае яе сяброўка работніца Мінскага трактарнага завода:

«Мая сяброўка Галя сябравала з Мікалаем з 7-га класа. Скончыўшы дзесяцігодку, Мікалай застаўся ў калгасе, потым паехаў на цаліну. Галіна паступіла ў педінстытут. Перапісваліся. Галя сумавала без Мікалая. І вось хлопец прызнаецца ёй у каханні. Галіна сказала Мікалаю, што яна яго не кахае. Я не разумею сваёй сяброўкі — нашто яна вадзіла хлопца за нос?» — заканчвае свой ліст яна. Натуральна запытацца: няўжо тое, што Галя сябравала з Мікалаем, можна назваць «вадзіла за нос»? Ці ж мала ў нас прыкладаў добрага, сумленнага сяброўства паміж юнакамі і дзяўчатамі. Узяць хоць бы прыклад узаемаадносін Тоні К. і Міхаіла Т. Пасапраўднаму сябравалі ва ўніверсітэце, атрымалі прызначэнне ў адну з сярэдніх школ Лагойскага раёна. Абое філолагі. Узаемадапамога, чулая ўвага аднаго да другога *ва ўсім* — ад дробязей быту да падрыхтоўкі да ўрокаў, ад спагадлівых клопатаў да прынцыповай крытыкі адзін другога — вось што характэрна для гэтых маладых людзей. Бачачы такія адносіны маладых настаўнікаў, многія прарочылі ім вяселле. Але калі ўбачылі, што да Тоні К. прыязджае малады чалавек і што яны ўсе трое вельмі цікава і весела праводзяць час, ад «прагнозаў» наконт вяселля Міхаіла і Тоні адмовіліся.

У калгасе імя Калініна Мінскага раёна Тацяна М. спыталася ў мяне: «Ці доўга могуць сябраваць хлопец з дзяўчынай і ці можа сяброўства перарасці ў каханне?» Вядома, будучы добрымі сябрамі, хлопец і дзяўчына могуць пакахаць адзін другога. Так часта і бывае. Але вельмі дрэнна, калі сяброўства спыніцца адразу пасля вяселля, бо без сяброўства не можа быць прыго*жага кахання, трывалай сям'і.* Калі ўжо гаварыць аб чыста сяброўскіх адносінах, дык варта сказаць, што чым больш, як кажуць, тэрмін сяброўства хлопца з дзяўчынай, тым лепш: яны могуць добра праверыць свае пачуцці.

Каханне робіць чалавека больш высакародным, прыгажэйшым, натхняе яго на добрыя справы. Каханне не мірыцца з пошласцю і цынізмам. «Лепш за сонца — няма ў свеце бога, няма агню — цудоўнейшага за агонь кахання», — пісаў А. М. Горкі. У народзе кажуць: «Каханне — гэта талент. Хто кахае, той таленавіты». Пранесці праз усё жыццё чыстае, светлае каханне — ці ж гэта не талент? Такі талент павінен быць абавязковым для кожнага савецкага чалавека, а для моладзі — у першую чаргу.

Вучні школы № 32 г. Мінска пытаюцца: «Чаму першае каханне лічаць самым моцным? Мы часта гаворым пра гэта. Многія лічаць, што яно самае моцнае таму, што ў спакойнае жыццё ча-



лавека ўліваецца новая бурная плынь. Гэтая плынь паварочвае, змяняе ў лепшы бок усё жыццё чалавека. Усе словы, дзеянні, учынкі, думкі ён ацэньвае, узважвае, на ўсё глядзіць па-новаму. Ці так гэта?»

Думаю, што з гэтым можна цалкам згадзіцца.

Гэты прыклад сур'ёзнага падыходу да пытанняў сяброўства і кахання сярод вучняў старэйшых класаў — не выключэнне. Аднак бывае і так, што не ўсе юнакі і дзяўчаты рыхтуюць сябе да сур'ёзнага кахання. Вось, напрыклад, запіска вучаніцы дзесятага класа адной з школ г. Мінска Ларысы Н.: «Што рабіць, калі я адразу кахаю двух хлопчыкаў? Адзін з іх сябруе з другой. Як мне яго адцягнуць ад яе? Мне здаецца, калі б адзін з іх звярнуў на мяне ўвагу, я дазволіла б яму нават пацалаваць мяне — няхай гэта і амаральна».

Відавочна, што Ларыса не разабралася ў сваіх пачуццях. Ці ж можна кахаць адразу дваіх? Ды яшчэ і добра не ведаючы — каго? Так лёгкадумна паводзіць сябе нельга. Каханне — гэта самадысцыпліна, гэта вышэйшае праяўленне культурнасці чалавека. І. У. Ленін у гутарцы з Клараю Цэткін гаварыў, што нават з цудоўных, высокаталенавітых маладых людзей «нічога добрага не выйдзе», калі яны мітусяцца і кідаюцца «з адной гісторыі кахання ў другую». «...Не павінна быць ніякай слабасці, ніякага растрачвання і знішчэння сіл. Самавалоданне, самадысцыпліна — не рабства; яны неабходныя і ў каханні», — гаварыў У. І. Ленін.

Каханне патрабуе праверкі сваіх пачуццяў і пачуццяў каханага чалавека. Але як часам правяраюцца гэтыя пачуцці? Вось што расказала мне работніца будтрэста № 5, калі я праводзіў гутарку ў інтэрнаце: «Мая сяброўка Зіна Ч., жадаючы праверыць пачуцці свайго былога аднакурсніка, чалавека, якога вельмі кахала і які кахаў яе, напісала ліст прыблізна такога зместу: «Ты ў Сібіры, а я ў Беларусі. Адлегласць адыграла сваю ролю. Я выходжу замуж за афіцэра, вельмі добрага чалавека. Ці дазволіш?» Што заставалася рабіць маладому чалавеку? Ён адказаў, што, мабыць, сілком мілы не будзеш, вырашай сама. Атрымаўшы адказ, Зіна Ч. абурылася: ён да мяне абыякавы! Вырашыла пайсці на зло яму замуж за першага сустрэчнага. Праз некалькі месяцаў прыехаў з Сібіры юнак, сустрэліся, ён пра ўсё даведаўся. Зіна ўжо чакала дзіцяці.

Я спытаў у дзяўчыны, што расказала мне гэтую гісторыю, ці шчаслівая Зіна. Яна адказала, што і хлопец той доўга не жаніўся, і Зіна не можа забыць пер-

шае каханне. Так стварыліся дзве сям'і, якія ні адной пары маладых людзей не прынеслі поўнага шчасця.

Можна спытаць: магчыма, у момант спаткання Зіны з першым каханым можна было выправіць памылку? Думаецца, што маладыя людзі правільна зрабілі, не пайшоўшы на гэта. Каханне — гэта абавязак у адносінах да грамадства. У Зіны — сям'я, а гэта да многага абавязвае. «У каханні, — гаварыў У. І. Ленін, — удзельнічаюць двое, і ўзнікае трэцяе новае жыццё. Тут заключаецца грамадскі інтарэс, узнікае абавязак у адносінах да калектыву».

У вачах савецкіх людзей толькі той варты павагі, хто выконвае свой абавязак перад грамадскасцю, калектывам, сям'ёй. Мы не маем права растрачваць свае пачуцці, разменьваць іх, абкрадваць пачуцці другіх, будаваць сваё шчасце на няшчасці другіх.

Прывядзем яшчэ адзін цікавы прыклад з жыцця. Раман М. каля двух год сустракаўся з Ганнай С., хадзіў з ёю ў кіно, на танцы. Ён пакахаў яе за строгасць паводзін. Раман М. вырашыў ажаніцца з ёю. Ганна адказала, што падумае. Калі праз дзень Раман прышоў да яе, Ганны дома не было. Ляжала пісьмо, адрасаванае Раману. З пісьма малады чалавек даведаўся, што Ганна замужам, што яна проста праводзіла з Раманам час і цяпер едзе да мужа, які закончыў Ваенна-марскую акадэмію.

Такія выпадкі здараюцца рэдка. Але ці ж можна так ашукваць сумленнага хлопца? Ганна С. проста здзекавалася з хлопца, трымала яго каля сябе дзеля «забавы».

«Ці можа быць каханне ў тым выпадку, — запытаўся ў мяне рабочы Мінскага радыёзавода Мікалай Д., — калі хлопец гаворыць, што кахае дзяўчыну, і ў той жа час не хоча быць разам з ёю ў кіно, на танцах, у тэатры і г. д.?» Думаецца, што калі чалавек па-сапраўднаму кахае каго-небудзь, ён не будзе шукаць іншых дзеля забавы. Інакш і быць не можа. Каханне патрабуе ад чалавека належаць другому непадзельна. Каханне — гэта перш за ўсё ўзаемнасць, шчырасць. Аматары забаў, лёгкадумных адносін да іншых часцей за ўсё сцвярджаюць, што кахання або няма, або калі яно і ёсць, дык яго нельга інакш разумець, як захапленне ці прывычку.

Мы ведаем, што захапленне — гэта першы штуршок да таго, каб зацікавіцца чалавекам. Ставіць знак роўнасці паміж каханнем і захапленнем, гэта значыць зводзіць пачуццё кахання на нішто. Ці не занадта многа мы часам гаворым аб захапленні там, дзе трэба па-

раіць чалавеку не шукаць апраўдання сваёй лёгкадумнасці?

Тыя, хто гаворыць, што каханне — гэта прывычка, не пазбаўлены старых поглядаў на ўзаемаадносіны людзей, аснову якіх складала багацце. «Сцерпіцца — злюбіцца», — гаварылі дзяўчыне, калі яе аддавалі замуж за нямілага, але багатага жаніха. «Прывыкнеш да чалавека — вось табе і ўсё каханне», — суцяшалі хлопца ці дзяўчыну.

Але прывычкі бываюць добрыя і благія. Ад благіх прывычак чалавек можа адвыкнуць, калі паставіць перад сабою такую мэту. А ці ж можна адвыкнуць ад каханага чалавека, забыць яго?

Відавочна, што аналізаваць свае пачуцці, паразважаць пра тое, што хвалюе, ніколі не лішняе. Аднак няправільна сказаць, што каханне — гэта разважнасць. Каханне — гэта пачуццё глыбокае, вялікае, якое, аднак, павінна кантралявацца розумам. Некаторыя «разважнасць» разумеюць як разлік. Але ж разважнасць і разлік — рэчы розныя, і блытаць іх нельга. Разважнасць — добры дарадца закаханых; разлік у каханні — справа страшная, ён губіць светлыя пачуцці, ператварае шлюб у камерцыю.

Аб разважнасці нельга забываць у першую чаргу тым, хто за аснову кахання прымае страсць. Мы не супраць таго, каб каханне было страсным. Аднак для некаторых страсць — паняцце толькі фізічнае, а не духоўнае. Мы не лічым пачуццёвую цягу адзіным стымулам і тым больш — асноўным у каханні. Калі б з гэтым пагадзіцца, знайшліся б людзі, якія апраўдвалі б пачуццёвую прыхільнасць да нашых класавых ворагаў: дыверсантаў, шпіёнаў і г. д. Важней за ўсё грамадская аснова ў каханні, якая мае ў сабе адзінства перакананняў, поглядаў, ідэйную блізкасць. Каханне толькі тады трывалае, калі мы горача любім сваю Радзіму, сваіх суайчыннікаў. А. М. Макарэнка пісаў: «Малады чалавек ніколі не будзе кахаць сваю нявесту і жонку, калі ён не любіць сваіх бацькоў, таварышаў, сяброў. І чым шырэй галіна гэтай непалавой любві, тым высакароднейшым будзе і каханне палавое.

Чалавек, які любіць сваю радзіму, свой народ, сваю справу, не стане распуснікам. І наадварот: той, хто здольны адносіцца да жанчыны са спрошчаным, бессаромным цынізмам, не заслугоўвае давер'я як грамадзянін, яго адносіны да агульнай справы будуць такія ж цынічныя, яму нельга верыць да канца».

Мы можам сказаць, што каханне — гэта вышэйшае праяўленне і духоўных і фізічных сіл чалавека, якое сцвярджае жыццё. Іменна сцвярджае, а не разбурае! Калі каханне не дапамагае, а перашкаджае жыць і працаваць, дык гэта не каханне.

Каханне абавязкова павінна быць узаемным. Сапраўднага кахання без узаемнасці не можа быць. Самае харошае ў каханні — гэта сумленнасць, шчырасць і вернасць.

Вернасць у каханні — прадмет бясконцых размоў і ў цяжкіх паходах суровых ваенных гадоў, і ў час абмеркавання прачытанай кнігі, і ў час дыспутаў моладзі. Вернасць здаўна ўслаўлялася ў песнях, у творах літаратуры і мастацтва. У вернасці — хараство кахання, шчасце закаханых. Добрае, вернае каханне не мірыцца з рэўнасцю ці халоднай абыякавасцю. Рэўнасць і моцнае каханне несумяшчальныя. Рэўнасць — гэта разнавіднасць зайздрасці, гэта недавер'е да чалавека, недаацэнка яго маральнай устойлівасці, прыніжэнне яго годнасці страх перад перавагай іншай асобы. Рэўнасць — вораг кахання. Рэўнасць псуе настрой усім, хто знаходзіцца каля цябе, яна штурхае людзей на неабдуманыя ўчынкі. Людзі, якія сцвярджаюць непазбежнасць рэўнасці, блытаюць часам гэтае нікчэмнае, несумяшчальнае з каханнем пачуццё з нераўнадушшам у каханні. Нераўнадушша ў каханні, пастаянная трывога за лёс другога чалавека, за шчасце таго, хто даверыў табе сэрца, — вельмі добрая рыса. Але гэтыя неабыякавыя адносіны да каханага нічога агульнага не маюць з рэўнасцю. Рэўнасць — непазбежны спадарожнік падарванага, нявернага кахання.

Моладзь цікавяць многія іншыя пытанні сяброўства і кахання. Сярод пытанняў, якія задаюць мне, як лектару, сустракаюцца і такія: Ці бывае каханне з першага позірку? Колькі разоў можна кахаць? Ці можа дзяўчына першай прызнацца ў каханні? Ці абавязкова прызнанне ў каханні? Каго можна кахаць?

Адказваючы на іх, я часам чую, як некаторыя юнакі і дзяўчаты не згаджаюцца са мной. Таму пасля кожнай лекцыі ў інтэрнатах, на вечарах прадаўжаюцца спрэчкі. У кожнага ёсць свой пункт гледжання. І заўсёды шкадуеш, што цікавыя думкі гэтыя выказваюцца ў малой аўдыторыі. Таму мы звяртаемся да юнакоў і дзяўчат адказаць самім на тыя пытанні, якія задаюць мне.

Чакаем вашых пісем, сябры.

# Бібліяграфія

## З ЧЫСТЫХ КРЫНІЦ ЖЫЦЦЯ

Чалавек прайшоў па зямлі нямала дарог, пабачыў многа людзей, іх добрых спраў, спазнаў нямала людскіх радасцей і гора. Быў аднойчы момант, калі ён азірнуўся на пройдзеныя дарогі. Перад яго вачамі паплылі, як дзівосныя сны, далі маленства. Чалавеку здалося, што яго вочы ўбачылі той далёкі свет нанава, упершыню, і яму захацелася расказаць пра гэта людзям.

Мне чамусьці здаецца, што іменна так узнік цыкл апавяданняў Івана Грамовіча «Вачмі маленства», які ўвайшоў у яго новы зборнік «Рына-Марына» *.

У адным з апавяданняў гэтага цыкла, — у «Крыніцах», — ёсць выразная алегарычная дэталь. У летнюю спёку змораныя дзед з унукам прышлі да крыніцы напіцца: «Ох, як прыемна стала пасля некалькіх глыткоў вады! Сцюдзёны струмень, асвяжаючы сілы, разліўся па ўсім целе. Свет адразу зрабіўся святлейшым. Жаваранкі званчэй заспявалі. Падбітыя ногі зноў сталі дужэйшыя».

Калі чытаеш апавяданні з цыкла «Вачмі маленства», гэтае адчуванне асвяжаючай чысціні і бадзёрасці не знікае, нібы пісьменнік сапраўды прыпаў да крыніц сонечнага маленства, напіўся з іх жывой вады і ў яго прыбыло сілы.

У маленькіх апавяданнях-эцюдах чытач не знойдзе незвычайных падзей і складаных сюжэтных ходаў. Але кожнае з апавяданняў — гэта жывы малюнак жыцця. А ўсе гэтыя малюнкі, узятыя разам, ствараюць вялікую сонечную карціну басаногага бесклапотнага маленства.

Простыя, як само дзяцінства вясковых хлапчукоў, апавяданні «Вачмі маленства» западаюць у сэрца перш за ўсё таму, што кожны з нас, як і героі гэтых апавяданняў, гадаваўся на вясковым прыволлі, быў пастушком, мачыў штаны ў сажалках, ловячы рыбу; у кожнага з нас была мара злавіць шчупака на цэлыя ночвы; на кожнай вуліцы не даваў нам праходу такі ж куслівы гусель; нашымі сябрамі маленства былі сабака і конь.

Апавяданні прасякнуты сардэчнай цеплынёй, тонкім настроем роздуму. Адразу і не зразумееш, адкуль гэтая цеплыня: падтэкст гэта ці лірызм, смутак ці добрая мудрая ўсмешка. Не, хутчэй за ўсё цеплыня тут ідзе ад таго, што чалавек, які многа пабачыў, кінуў некалькі насмешлівы, але вельмі разумны позірк на свет далёкага дзяцінства і адначасова развітаўся з ім з нейкім светлым смуткам. Нездарма гэтыя творы маюць двух чытачоў — дзяцей і дарослых.

У апавяданні «Крыніца» аўтару ўдалося стварыць арыгінальны вобраз дзеда-ведуна, які ведаў усе крыніцы ў наваколлі, чуў, як дыхае імі зямля. Дзед кожнае лета чысціў крыніцы, дапамагаючы ім выбіцца з-пад зямлі, каб зямля не перастала дыхаць, не высахла і не ператварылася ў пустыню.

А колькі паэзіі ў наіўнай мары хлапчукоў знайсці залаты наканечнік, якім страляе пярун (апавяданне «Перунова страла»). Амаль фізічна адчуваеш свежасць і празрыстую чысціню, калі чытаеш апавяданне «Выпаў снег», і пры гэтым бачыш вялікія здзіўленыя вочы хлапчука, якому ўпершыню адкрылася навізна прыроды ў першы дзень зімы. Магчыма, гэта аўтару ўдалося ўлавіць імгненне, калі недзе на вясковых ваколіцах нараджаўся паэт.

Алегарычнасць вобразаў крыніцы і маланкі не пакідае адчування ўмоўнасці іменна таму, што аўтар здолеў спалучыць сімвалічныя рэчы з будзённымі з'явамі, простымі людзьмі, дзіцячымі забавамі.

Самае, бадай, галоўнае для пісьменніка — падгледзець у жыцці даклад-

* І. Грамовіч «Рына-Марына». Апавяданні. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1959.

ныя, характэрныя дэталі-падрабязнасці і ўмела саткаць з іх палатно твора. І. С. Тургенеў так і лічыў, што талент—гэта падрабязнасць.

Грамовіч нядрэнна валодае ўменнем падбіраць трапныя дэталі. Дзеці пабеглі на адну толькі хвіліначку паглядзець шчупака, а забавіліся да самага вечара, бо дапамагалі рыбакам вытрасаць куль невада і атрымалі за гэта па плотачцы.

Пісьменнік правільна заўважыў, што ў дзяцей свая мерка ўсяго. Ліпа вельмі высокая,—расказваюць яны,—калі летам праязджаеш пад ёю на возе з сенам, да вецця нельга дастаць.

Не ўсе апавяданні цыкла роўныя па сваіх мастацкіх вартасцях. Апавяданне «Гусель», напрыклад, нагадвае стары анекдот аб тым, як поп чарніцамі з настойкі сп'яніў, а потым абскуб сваіх курэй. Не зусім выразны па думцы і эцюд «Дзіва». Але бясспрэчна тое, што цыкл «Вачмі маленства» — творчы поспех пісьменніка, які знайшоў нейкія свае жыццёвыя пласты, і там на дне адкрылася яму залатая жылка.

У новым зборніку Іван Грамовіч выступае перш за ўсё як майстар невялікага апавядання. Вось чаму здаецца спрэчнай думка Барыса Бур'яна, выказаная ім у газеце «Знамя юности» аб тым, што, пачаўшы з добрых апавяданняў, Іван Грамовіч няўхільна ідзе да эпасу. Ад гэтае думкі крыху павявае схемай, згодна якой кожны пісьменнік абавязкова павінен развівацца ад малых форм да эпапеі.

На самай жа справе, Іван Грамовіч, нягледзячы на тое, што мае значныя творчыя здабыткі, яшчэ ўвесь у дарозе, у пошуках. Калі параўнаць творы новага зборніка «Рына-Марына» з апавяданнямі адной з першых кніжак — «Запаветны камень», то стане зразумела, што за гэты час пісьменнік далёка пайшоў уперад, вырасла яго пісьменніцкае майстэрства, склаўся свой эканомны на фразу і на мастацкія фарбы, але багаты на падтэкст почырк.

Аднак жа у многіх апавяданнях асабліва першай часткі кніжкі «Рына-Марына», як пра тое слушна гаворыць Б. Бур'ян, прабіваюцца абыякавыя ноткі. Можна сказаць больш: у апавяданнях апошняга зборніка, такіх, як «Блакітная брошка», «Калі паспелі антонаўкі», сустракаюцца цэлыя старонкі, дзе старанна выпісаныя нехарактэрныя дэталі-падрабязнасці ніякай мастацкай нагрузкі не нясуць.

Іншы раз глыбокае раскрыццё жыццёвых працэсаў аўтар падмяняе павярхоўнай ілюстрацыйнасцю (апавяданні «Каралева палёў», «Таварыш Калыска»). Ствараецца ўражанне, што пісьменнік, пачынаючы новую баразну, мелка паставіў плуг і не заўважае, што арэ з паверхні.

І бадай самым галоўным недахопам такіх апавяданняў, як «Рына-Марына», «Блакітная брошка», «Калі паспелі антонаўкі», з'яўляецца невыразнасць думкі.

Агульнавядома, што мастацкія дэталі, з якіх пабудаваны твор і вылеплены характары, павінны быць размешчаны так, каб у самой іх накіраванасці закладвалася логіка характараў, якая потым і будзе кіраваць пяром мастака.

У творах жа такога тыпу, калі аўтар не можа саўладаць са сваімі дэталямі, вельмі патрэбен яркі апошні мазок.

І цікава тое, што такія дэталі ў апавяданнях Грамовіча ёсць, але яны так і застаюцца ў нявыразвітым стане.

Дэталям, з якіх вылеплены твор, не хапае пэўнай накіраванасці, паслядоўнасці, а апошні самы важны мазок-дэталь, які аформіў бы аўтарскую думку, пісьменнік наогул як бы забывaецца палажыць. У апавяданні «Рына-Марына» гэтай заключнай дэталлю, якая асвятліла б твор светлай чалавечай думкай, мог стаць, напрыклад, фарфоравы белы-белы лебедзь, як сімвал гордага, чыстага дзявочага кахання, якое нялёгка зберагчы і пранесці праз жыццё.

У Грамовіча выпрацавалася своеасаблівая, вельмі цікавая для беларускай літаратуры творчая манера пісьма. Ёсць пісьменнікі адкрытай экспрэсіўнасці. Яркія, сакавітыя метафары, эпітэты, параўнанні ў творах такіх пісьменнікаў шукаць не трэба: яны адразу відаць.

Грамовіч жа, наадварот, не хоча раскрывацца адразу. Ён, здаецца, скупіцца на паэтычныя фарбы, у мастацкай тканіне яго твораў пераважаюць самыя простыя, самыя звычайныя словы. Пры такім пісьме вастрэй становіцца зрок і паэтычнае адчуванне, пісьменнік у звычайных малапаэтычных рэчах адкрывае цэлы свет тонкага незаўважанага раней хараства. «На прастаце, — піша К. Паустоўскі, — ясней выступаюць якасці зямлі, вастрэйшым робіцца зрок і больш сабранай думка».

Іван Грамовіч тонка адчувае родную прыроду. Назіральны мастак прыкмячае, што, пакуль цвіце лотаць, вада ў азёрах халодная, што каровы, учуўшы ціхі плёскат крынічкі, здалёк брыдуць да яе на вадапой і г. д.



А звярніце ўвагу, якая чысціня і празрыстасць пануе ў яго нешматслоўным пейзажы: «Здалёк лясы — у бяздымных пажарах, а зблізку, калі падысці і стаць пад клён, як пад абажур,—усё свіціцца навокал.

Ідзеш пад цёмна-зялёныя шаты ельніку і ў зацені яго такая празрыстасць, што дробную ігліцу ці порсткую з вусамі мурашку прыкмеціш на адлегласці» («У лесе на палянцы»).

І ствараецца гэтая тонкая краса самымі сціплымі сродкамі, тут няма ніводнага прыгожага слова і ніводнага клічнага сказа.

Іван Грамовіч старанна працуе над словам, над яго сэнсавым напаўненнем. Гэтаю паўнатою слова і ствараецца багаты падтэкст.

«Чакаю цябе... калі не адпросішся... не прыедзеш... чуе маё сэрца.... нядоўга пражыву!»

Цяжка сказаць, на чыю долю тут падае большая нагрузка: на сам тэкст ці на падтэкст. Шматкроп'е вельмі ўдала выкарыстоўваецца аўтарам, як прыём яшчэ большага насычэння зместам фразы. Вось чаму ў гэтых словах так выразна чуцен шматпакутны голас маці, сэрца якой моцна засумавала па сыну.

Але пісьменніку трэба шукаць у народнай мове ёмкае, ядранае, сакоўнае слова і працаваць над свежымі выразнымі канструкцыямі фразы, бо ў мове нават самыя свежыя і трапныя словы вельмі хутка зношваюцца і часам бывае цяжка аднавіць іх, вярнуць ім першародны бляск і дакладнасць.

І. Грамовіч, безумоўна, авалодаў сакрэтам пабудовы фразы. Калі ў ранніх яго апавяданнях сказ нямоцны, выпадковы, такі, як напісаўся, то ў лепшых творах зборніка «Рына-Марына» ён эканомны, мускулісты, пастаўлен неяк асабліва выразна і важка.

Спачатку здаецца нават, што такі кароткі спрошчаны і нявыразвіты часам сказ, вельмі характэрны для прозы Грамовіча, не здольны стварыць адпаведны настрой. Але гэта так здаецца на першы погляд. На самай жа справе пісьменнік перадае ў ім самыя тонкія і глыбокія думкі.

Хацеў аўтар у апавяданні «Крыніцы» даць адчуць невымоўную прыгажосць зямлі, і першыя неяк важка і эпічна пастаўленыя зусім простыя сказы перадаюць гэтую думку і ствараюць адпаведны настрой:

«Пад гарою расла вярба. Пад вярбою было люстранае акно ў зялёнай траве. Тут пачынаўся і бег да рэчкі малы ручаёк. З узгорка да вярбы вытапталі сцежку» і г. д.

Цудоўнымі словамі з апавядання «Перунова страла» заканчваецца кніжка «Рына-Марына»: «А я на ўсё жыццё спадабаў навальніцу. Як загрыміць гром, як пакоціцца па небе, дык нібы чуеш моцную смелую музыку, якая навявае ўспаміны, абуджае сны маленства»...

І хочацца да гэтых паэтычных слоў дадаць: не толькі абуджае сны маленства, а кліча (і гэта самае важнае!) магутным поклічам у гушчу, да людзей, абуджае моц духу, непакоіць, хвалюе, збірае ў вялікую дарогу жыцця.

**А. ЯСКЕВІЧ.**

# ПАЭЗІЯ МАЛАДОСЦІ, ПАЭЗІЯ ПРАЦЫ

Калі перагортваеш апошнюю старонку першай кніжкі вершаў Рыгора Барадуліна*, з вялікай радасцю адзначаеш, што вершы маладога паэта непарыўна звязаны з жыццём нашай слаўнай моладзі, з яе вялікімі працоўнымі справамі. Перад намі — здольны паэт з яркай мастацкай індывідуальнасцю, прычым яго адносіны да жыцця, своеасаблівае ўспрыманне і адлюстраванне гэтага жыцця якраз і з'яўляюцца першай адметнай рысай яго творчай індывідуальнасці.

Удзел камсамольцаў і моладзі ў асваенні цалінных зямель — сапраўды хвалюючая тэма для кожнага літаратара, тым больш для паэта. Шмат напісана вершаў, якія ўслаўляюць працоўныя подзвігі нашай моладзі, але, нажаль, нямногія з іх палюбіліся чытачу, вытрымалі выпрабаванне часу. Часцей за ўсё гэта адбывалася таму, што высокая ідэя не заўсёды ўвасаблялася ў яркай мастацкай форме. Каб паэтычны твор сапраўды хваляваў чытача, ён павінен раскрыць нешта новае ў звычайных з'явах жыцця. Гэта і вылучае лепшыя вершы Р. Барадуліна з яго цалінай нізкі «Вечар над Таболам».

Б'е пярун прамой наводкай,
А маланкі неба крэсляць,
Як з бюро надвор'я зводку
Аб бясхмар'і на ўвесь месяц.

Такім параўнаннем пачынаецца адзін з вершаў. Паглядзіце, як гэта

* Рыгор Барадулін. Маладзік над стэпам. Вершы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1959.

свежа сказана! Рытм страфы, тонкая іронія фразы навяваюць адпаведны настрой. Далей паэт стварае малюнак працы — цалиннікі спяшаюцца прыбраць да навальніцы зерне. І нарэшце, калі дождж пайшоў, уся пшаніца была ўжо ў буртах.

Каб за моладдзю угнацца,
Духу мала,
навальніца!

Гэта не проста хлапечы задзірлівы выклік. Толькі працаўнік можа так радавацца сваім працоўным поспехам. У лепшых вершах Р. Барадуліна аб цаліне паэт перш за ўсё непасрэдны актыўны ўдзельнік вялікай народнай справы. Усе цалінныя ўражанні — гэта ўражанні, перажытыя ім. Таму чытач так шчыра верыць паэту. Тэмы вершаў нізкі — самыя будзённыя: кінасеанс у клубе-сталоўцы, кухня брыгады, імяніны адразу васьмі маладых цалиннікаў, танцы ўвечары ў стэпе пасля работы. Але ўсе творы прасякнуты своеасаблівай рамантыкай працы:

Па-над кухняй Насці адвячоркам,
Бы драбкі крыштальнай солі,
зоркі.
Мала солі—зьічка упадзі.
У кацёл сам прасіцца з нябёсаў,
Быццам часнаку зубок, курносы
Маладзік.

Прыглядзьцеся да сістэмы вобразаў паэта. Рыгор Барадулін, выкарыстоўваючы традыцыйнае фальклорнае адухаўленне сіл прыроды, смела параўноўвае іх са звычайнымі бытавымі з'явамі, як бы зніжаючы гэтыя «высокія» сілы. У вершы «Вечар над Таболам», адным з лепшых у нізцы, лілеі спяць, «ліст-далонь падклаўшы пад шчаку», Табол «стамлёна расцягнуўся на пяску», вецер так «залётаўся», што прылёг «падрамаць», бераг — «засмяглы». Такі падбор мастацкіх сродкаў тлумачыцца тым, што эстэтыка паэта — гэта эстэтыка працы. Так успрыймаць пейзаж можа толькі чалавек працы, а такім з'яўляецца наш малады сучаснік. І, нібы ўглядаючыся ў будучыню, паэт у вершы «Перад пачаткам сеанса» бачыць у сваіх сяброў і сяброўках рысы людзей камуністычнага заўтра.

Нажаль, асобныя творы з цалиннай нізкі не ўдаліся паэту. Нават верш «І венікамі з лозаў ніцых...», які заканчвае цалінную нізку і павінен быў бы абагуліць перажыванні і ўражанні паэта, атрымаўся слабы. І толькі таму, што сама па сабе цікавая задума не ўвасоблена ў яркія мастацкія вобразы, дэталі, паэтычныя знаходкі:

Каля палаткі тэрмінова
Сабраліся цалиннікі.
Сам брыгадзір пачаў прамову —
Падвесці трэба вынікі.

Знешне — усё правільна, усё на месцы. Але гэта — дрэнная проза, а не паэзія. Яе не хацелася б бачыць у зборніку багатага паэтычнымі вобразамі Р. Барадуліна.

Ужо ў нізцы вершаў, напісаных у выніку паездкі паэта на цаліну, выявілася і яшчэ адна своеасаблівасць Рыгора Барадуліна — яркая нацыянальная форма яго паэзіі. Матыў роднай Беларусі (традыцыйная тэма Радзімы), фальклорныя прыёмы і вобразы, адухаўленне прыроды, эстэтыка працы, спалучэнне рамантычнага і бытавога, будзённага ў сістэме вобразаў, народны гумар, — усё гэта яскрава праявілася ў цэнтральным раздзеле зборніка, які называецца «У маёй азёрнай старане». Раздзел даволі разнастайны па тэматыцы. І, нягледзячы на гэта, ён аб'яднаны з цалиннай нізкай адным і тым жа лірычным героем — прадстаўніком нашай цудоўнай моладзі. Гэта прадстаўнік таго пакалення, якому ў маленстве прышлося перажыць жахі вайны. І як водгулле суровых падзей мінулага, гучаць вершы «Бацьку», «Балада пра маці», «Вясна ў Брэсцкай крэпасці». У вершы «Бацьку» раскрыта трагедыя юнака, бацька якога загінуў на вайне. Трапныя паэтычныя дэталі ствараюць адпаведны настрой:

Не вышаў ты і ў гэты раз
Мяне спаткаць, паднесці рэчы...
Ля весніц толькі зноў твой вяз
Крануў галінамі за плечы.

Паэт тонка перадае і пачуццё любві да бацькі і вялікі, невыказны боль растання з ім. Няма ў вершы гучных фраз, але ён публіцыстычны па сваёй сутнасці і ўсім сваім пафасам накіраваны супраць падпальшчыкаў вайны. Такая ж публіцыстычная «Балада пра маці», дарэчы, твор, які выяўляе пэўную здольнасць паэта і ў галіне сюжэтнай лірыкі. Гэтым жа пафасам прасякнуты і верш «Вясна ў Брэсцкай крэпасці». Працягваецца размова аб лёсе пакалення і ў вершах «Дзень добры, інтэрнат» і «Падарунак». Апошні цікавы вельмі трапнымі псіхалагічнымі замалёўкамі характараў, — гэта даволі цяжка зрабіць у невялікім вершы.

Лірычны герой Р. Барадуліна, дзе б ён ні быў, заўсёды звязаны з роднай Беларуссю, з роднай Ушаччынай. Гэты матыў праходзіць праз многія вершы паэта. Лепшы сярод іх — «Як захліпнуўся ад радасці жаўранак». Сама задума перадаць адчуванні і хваляванні чалавека, які доўга не быў у родных мясцінах, безумоўна, не новая, але Р. Барадулін здолеў перадаць арыгінальнае паэтычнае ўспрыйманне свету, роднага яму з маленства.



Да гэтага верша прымыкаюць тэматычна вершы «Дома» і «У роднай хаце», але яны слабейшыя за папярэдні. Безумоўна, пасля доўгай ростані любы сэрцу паэта і «будзільніка знаёмы стук», і цьмяныя сукі ў столі, і прыпечак, і вілачнік, і парог, якому прысвечаны амаль дзве страфы, і фікус, які «ўпёрся ў столь ілбом ліста» («У роднай хаце»). Але не гэта істотнае, што магло змяніцца за гады разлукі,—змяніліся людзі, іх справы, і гэта павінна было зацікавіць паэта ў першую чаргу, таму што пры пэўным паэтычным увасабленні гэта можа зацікавіць усіх.

Родным мясцінам прысвечаны таксама верш «Ізноў вясна гасцюе на Ушаччыне» і «Ушачы». У іх ёсць пэўныя паэтычныя знаходкі. Шкада, што верш «Ушачы» сапсаваны слабай канцоўкай. Па думцы паэта, Ушачы—раённая сталіца таму, што аркестр духавы ўжо іграе там «натхнёныя вальсы». Гэта вельмі наіўна і кепска сказана.

Трэба адзначыць, што сур'ёзныя поспехі і зрывы сустракаюцца ў зборніку Р. Барадуліна побач, нават мяжуючы паміж сабой. Шмат вершаў прысвяціў паэт прыродзе, апяванню характара родных палёў, бароў, азёр. Сакрэт лепшых прыродаапісальных вершаў у тым, што ў іх адчуваецца прысутнасць усё таго ж лірычнага героя — маладога нашага сучасніка. Верш «З піпетак-сасулек...» прасякнуты радасным, светлым адчуваннем надыходу вясны:

З піпетак-сасулек, як доктар, вясна
Адмервае каплі гаючыя...
Зямля ажывае...

Усе мастацкія сродкі верша раскрываюць не толькі чароўнасць прадвесня, але і духоўнае багацце лірычнага героя, які так успрыймае прыроду. Пейзаж у вершы сагрэты вясёлай усмешкай героя, асветлены багаццем яго інтэлекту. А побач з гэтым творам у зборніку чытаем верш «Зімовае», зусім невядома, калі напісаны, бо ў ім няма ніякіх адзнак часу:

Маладзік на небе.
Воўк галодны шчэрыцца:
Тым (?) акрайцам хлеба
Добра б павячэраў ён. (?)
Снег рыпіць настылы,
Як масніцы новыя.
Як ты сэрцу міла,
Роднае, зімовае!

Штучна гучаць нават апошнія радкі. Добра, што такі верш — адзіны ў зборніку. Усе астатнія творы, якія апяваюць красу роднай прыроды, поўныя цікавых знаходак, якія зіхацяць сапраўдным паэтычным бляскам:

Конікі — начныя матарысты —
Завялі свае рухавічкі.
(«Над возерам»)

І кулачкі засохлых лісцяў
Сціскаюць маладыя ліпы.
(«Зазімак»)

Зноў восень гаспадыняю прышла,
І з новай збажыны — у дзве
асміны —
Духмяных караваяў напякла,
А жар павыграбала на рабіны...
(«Восеньскае»)

У лепшых вершах Р. Барадулін вельмі чулы і да гукавога малюнку радка:

Павекі ўжо заплюшчылі лілеі,
Спяць, ліст-далонь падклаўшы
пад шчаку.
(«Вечар над Таболам»)

Як і ў першай кніжцы кожнага маладога паэта, у зборніку Рыгора Барадуліна знаходзім вершы на адвечную тэму кахання. Нажаль, паэт пайшоў у большасці з іх па вядомых літаратурных сцежках, адмовіўшыся ад шукання свайго, індывідуальнага. Вершы «Добрай раніцы» і «Ты рамонкаў белавейкіх...» не ўзнімаюцца да мастацкага абагульнення, яны расказваюць толькі аб каханні аднаго паэта да адной дзяўчыны, і таму цікавыя толькі для двух.

Такім чынам, толькі тады, калі паэт няспынна шукае сваё, арыгінальнае, новае і ў выбары тэмы і ў яе мастацкім увасабленні, яго чакае поспех. Неабходна падкрэсліць, што наватарства Р. Барадуліна (калі так смела можна назваць яго творчыя пошукі) не проста фармальнае. Лепшыя вершы паэта ўзнімаюцца да філасофскіх абагульненняў, да асэнсавання вялікіх падзей, што адбываюцца ў нашым жыцці. Харатэрны ў гэтых адносінах верш «Шчабятун працягнуў ручаняты...». Паэт бачыць звычайную з'яву — маленькі хлопчык працягнуў ручаняты і ўсё просіць: «Дай!» Звычайны факт выклікае спачатку сур'ёзныя разважанні:

А ўзмужнее, дарослым стане —
Што ён возьме ў рукі тады?
Ці сякеру — стаўляць рыштаванні,

Ці жалейку — будзіць світанні,
Ці рыдлёўку — садзіць сады?

А далей, зусім, на першы погляд, нечакана, але, безумоўна, лагічна і паэтычна абумоўлена, выкарыстоўваючы фальклорны прыём, даецца публіцыстычнае абагульненне:

Хай не прыдзецца ім ніколі
Прабіваць амбразуры ў муры.
Браць сякеру — каб сеч тапалі,
Браць жалейку—пець аб няволі,
Браць рыдлёўку — магілу рыць.

Так звычайны факт набывае ў паэта філасофскае гучанне.

Для Р. Барадуліна характэрны шчырыя, цёплыя адносіны да сваіх герояў. Нават вобраз старога дзеда, які прадае нікому не патрэбныя калаўроты, сагрэты сонечным народным гумарам (верш «Калаўроты»). У вершы добры падтэкст — жыццё ідзе няспынна ўперад, і людзі, смеючыся, расстаюцца са сваім мінулым.

Кніжка заканчваецца невялікім раздзелам «Мае браты, мае суседзі», куды ўвайшлі вершы, напісаныя ў выніку паездак Р. Барадуліна за межы рэспублікі. З раздзела вылучаецца апошні верш, які называецца «Соль». Паэт едзе па саляной капальні ў Польшчы. І мімволі ўспамінае суровыя ваенныя гады, калі кожная шчапоць солі была ласункам:

І кажуць нездарма — ніколі
Не будзеш сябра знаць, пакуль
З ім гэткай вось сярдзітай солі
Не з'еў ты разам добры куль.

Менш удаліся Барадуліну астатнія вершы раздзела. Хацелася б убачыць больш свайго, арыгінальнага і ў адлюстраванні жыцця другіх народаў, характва зямлі, на якой яны жывуць.

Зборнік вершаў «Маладзік над стэпам» — кніжка вельмі цікавая, свежая, арыгінальная. Яе аўтар, бясспрэчна, таленавіты малады паэт, які вытрымае агонь любой крытыкі і яшчэ не раз парадуе чытача сапраўды паэтычнымі творамі.

**В. НІКІФАРОВІЧ.**

*Спорт*

# БУДНІ КАЛГАСНЫХ СПАРТСМЕНАЎ

— Не, што вы ні кажыце, а цяпер адказаць на ваша пытанне куды цяжэй, чым некалькі год таму назад, — смяецца старшыня Мінскага абласнога савета Саюза спартыўных таварыстваў і арганізацый Леанід Ільіч Прупес. — Бывала, папросяць назваць добры калектыў фізкультуры, дык нават у зводкі заглядаць не трэба было: я ўсе іх напералік ведаў. А цяпер такіх калектываў, як грыбоў пасля дажджу... Нават не ведаю, які вам параіць...

Сапраўды, фізкультурныя арганізацыі Міншчыны цяпер — лепшыя ў рэспубліцы. Гэта — вынік сумесных намаганняў фізкультурных і камсамольскіх арганізацый.

Параіўшыся, мы спыніліся на Крупскім раёне, дзе спорт развіты лепш, чым у іншых раёнах вобласці.

— Калгас выбераце на месцы, — гаворыць на развітанне Леанід Прупес.

І вось мы ў Крупках. Можна завітаць і ў калгас імя Калініна, і ў калгас імя Леніна, і ў калгас імя Варашылава, — ва ўсіх добра наладжана спартыўнае жыццё. Мы вырашаем наведаць самы малады фізкультурны калектыў і едзем у сельгасарцель імя Леніна. Галоўнае ў жыцці гэтага калектыву — яго хуткі, беспарапынны рост, яго велізарныя патэнцыяльныя магчымасці. Фізкультурнікі калгаса імя Леніна цяпер адны з лепшых, а вельмі хутка могуць быць і самымі лепшымі.

...Цёплы суботні вечар. Дарога прывяла нас у цэнтр калгаса — вёску Гапонавічы. Яшчэ па дарозе адбылося наша першае знаёмства са спартыўнымі справамі мясцовай моладзі: пры ўваходзе ў вёску, акаймаваны шчыльнай сцяною дрэў, раскінуўся калгасны стадыён. Нават беглы агляд цешыў вока. Але ва ўсёй прыгажосці мы ўбачылі яго назаўтра, у нядзелю.

Ужо раніцаю на стадыён спяшаліся калгаснікі. З музыкаю і песнямі ішла моладзь; паважна, цэлымі сем'ямі — старэйшае пакаленне; на грузавіках пад'язджалі аматары спорту з суседніх вёсак. Мелася адбыцца спаборніцтва футбалістаў некалькіх калгасаў.

Вынікі барацьбы хвалявалі ўсіх, асабліва старшыню калгаса імя Леніна Сяргея Іванавіча Літвінава.

— Ты глядзі ў мяне, — па-бацькоўску павучаў ён невысокага каранастага хлопца, — сораму не абярэшся, калі прайграеце...

— Вядома, Сяргей Іванавіч, кожны выйграць хоча. Але калі і прайграем — не бяда... Затое іграць навучымся.

І вось барацьба пачалася. Няхай не скардзяцца на нас знаўцы футболу, якія глядзяць матчы майстроў, за тое, што назавём мы ігру калгасных каманд вострай напружанай, поўнай спартыўнага запалу. Па ўзроўню тэхнічнай падрыхтоўкі і каманда калгаса імя Леніна і яе супернікі з калгаса імя Калініна ўступаюць «класным» калектывам. Але напору, тэмпераментнасці, працаздольнасці і ўзаемадапамогі ў іх не менш. Таму балельшчыкі з неаслабнай увагай сачылі за ходам барацьбы. Нарэшце — гол у вароты калінінцаў. Нехта крыкнуў:

— Малайчына, Аляксей!

І тут мы даведаліся, што Аляксей Кукін не толькі актыўны камсамолец, але і душа футбольнай каманды. Праўда, гол, забіты ім, не прынёс камандзе перамогі — калінінцы ўмудрыліся забіць два голы ў адказ. І ўсё ж Сяргею Іванавічу не прышлося чырванець за сваіх футбалістаў: яны прайгралі ў роўнай барацьбе, роўнаму па сіле праціўніку.

Увесь дзень на стадыёне было людна. Пачаліся спаборніцтвы па валейболу паміж камандамі брыгад.

На суседняй пляцоўцы трэніраваліся баскетбалісты. У кутку стадыёна паказвалі сваё майстэрства прыгуны. І мы пераканаліся, што стадыён — самае ажыўленае месца ў Гапонавічах, цэнтр культурнага адпачынку калгаснікаў.

Цікавая гісторыя пабудовы стадыёна. Яшчэ год таму назад у калгасе імя Леніна не было ні калектыву фізкультуры, ні сваіх спартыўных збудаванняў. Калектыў толькі лічыўся ў спісах раённага савета таварыства «Ураджай» і — бяздзейнічаў. Асобныя аматары спорту наведвалі заняткі секцыі фізкультуры ў Крупскай сярэдняй школе. Часам Аляксей Кукін, Галя і Тоня Кукіны, Сяргей Шахрай выступалі за сваю школу на лёгкаатлетычных спаборніцтвах, а Галя нават стала чэмпіёнкай раёна па бегу на 400 метраў. Юнакі і дзяўчаты з задавальненнем наведвалі трэніроўкі ў школе і зусім не задумваліся пра тое, што час ажывіць спартыўную работу ўсяго калгаса.

Але вось закончана школа. Выпускнікі засталіся працаваць у роднай вёсцы. Галя і Тоня сталі даяркамі, Аляксей і Сяргей пайшлі ў паляводчыя брыгады. Пасля працоўнага дня па старой звычцы збіраліся яны разам і не ведалі, чым жа заняць вольны час. Часам гулялі ў валейбол. Але ці ж маглі бессістэмныя гульні замяніць рэгулярныя трэніроўкі, барацьбу за секунды, за метры? І тады Аляксей вырашыў пагаварыць з камсоргам.

— Трэба, Валодзя, арганізаваць нешта. Моладзі ў калгасе амаль дзвесце чалавек, а спортам ніхто не займаецца...

Вырашылі сабраць камітэт камсамола і сур'ёзна абмеркаваць пытанне аб стварэнні калектыву фізкультуры, хоць і быў гарачы час: вясна, разгар пасяўных работ. Сход быў многалюдны і бурны. Выступалі многія, горача выказвалі набалелае:

— Сорам! Самы багаты калгас у раёне, лепшы па ўсіх паказчыках, а спорт занядбаны, моладзі недзе дзецца!..

Выступіў і Сяргей Іванавіч Літвінаў. Добра разумеў старшыня патрабаванні моладзі, разумеў, што яна ў гаспадарцы вялікая і асноўная сіла і што трэба ёй дапамагчы наладзіць культурны і карысны для здароўя адпачынак. Абяцаў дапамагчы, але папярэдзіў, што адно на дапамогу спадзявацца нельга, трэба і самім прыкласці намаганні.

Тут жа, на сходзе, усе камсамольцы ўступілі ў члены спартыўнага таварыства «Ураджай». І першым пунктам у плане работы савета калектыву фізкультуры было запісана: «Абсталяваць спартыўную базу». Рашэнне было правільнае — без пляцоўкі, без спартыўнага інвентара не арганізуеш работу секцый, не падрыхтуеш дзяўчат і хлопцаў для здачы норм на значок комплексу «Гатовы да працы і абароны СССР», не наладзіш трэніроўкі каманд, не адшліфуеш тэхніку мацнейшых.

Камсамольскі камітэт разам з саветам калектыву фізкультуры вызначыў месцы для пабудовы пляцовак, стварыў брыгады. Пасля працоўнага дня маладыя калгаснікі станавіліся будаўнікамі. Праца іх неўзабаве дала свае вынікі: ва ўсіх брыгадах калгаса з'явіліся добрыя валейбольныя пляцоўкі. Пасля агляду такіх пляцовак у вёсках Гапонавічы, Бярозаўцы, Ліванава, Маслёнках і другіх старшыня праўлення застаўся задаволены.

— Малайцы, — пахваліў ён моладзь. — І праўленне таксама стрымае слова — выдзелім грошы, купляйце мячы, форму. Набірайцеся сіл, спрыту і здароўя.

Але пры адборы каманд сустрэліся з вялікімі цяжкасцямі. Іграць хацелі амаль што ўсе, толькі ігралі хто як мог, правілаў гульні не ведалі, кожны тлумачыў іх па-свойму. І тады зноў сабраліся разам камсамольскія і фізкультурныя важакі, склалі спіс лепшых спартсменаў, падабралі людзей на трэнерскую работу, яшчэ не ведаючы добра, зможа ці не працаваць гэты чалавек трэнерам. Праўда, у «трэнераў» спачатку было шмат цяжкасцей: прыходзілася не толькі трэніравацца, але ўзмоцнена трэніравацца самому, у вольны час чытаць метадычную літаратуру. Большасць выдзеленых трэнераў справілася з задачай добра.

Шафёр Аркадзь Шахрай па-майстэрску водзіць машыну. Свой вольны час ён аддае любімаму спорту — лёгкай атлетыцы. Дапамагае яму кіраваць заняткамі секцыі даярка Галя Кукіна.

Вядомы нам ужо Аляксей Кукін — майстар на ўсе рукі: ён іграе ў футбол, трэніруе баскетбалістаў.

Такіх жа грамадскіх трэнераў маюць веласіпедная, стралковая і іншыя секцыі.

І вось калі крыху наладзілася спартыўнае жыццё, пачалі гаварыць пра стадыён. Ён быў неабходны. Колькасць фізкультурнікаў, а значыць і тых, хто займаецца ў секцыях, з кожным днём павялічвалася, на пляцоўках зрабілася цесна. Ды і лёгкаатлеты не маглі, напрыклад, трэніравацца без бегавой дарожкі.

Зноў запаліліся камсамольскія сэрцы жаданнем вырашыць і гэту праблему. Зноў пачаліся нядзельнікі, суботнікі, праца ў вольны ад работы час. І вось стадыён гатовы. Тут зроблена футбольнае поле нармальных памераў, бегавая дарожка, сектары для прыжкоў і кідання, дзве валейбольныя і баскетбольныя пляцоўкі. Ці ж не прыемна займацца на такім стадыёне, зробленым сваімі рукамі!

Савет фізкультуры і камітэт камсамола перанеслі цэнтр работы ў брыгады. Брыгады калгаса рыхтуюць свае каманды, спаборнічаюць не толькі за высокія вытворчыя паказчыкі, але і за спартыўны поспех. І брыгадзірам стала зусім не ўсё роўна, якія паказчыкі мае яго брыгада па выніках спартыўнага спаборніцтва. Зусім нядаўна закончыліся спаборніцтвы паміж камандамі ўсіх брыгад па лёгкай атлетыцы. Пераможцамі сталі спартсмены першай брыгады. Разыграна таксама першынство калгаса па валейболу, стральбе і футболу.

Адказным экзаменам быў для спартсменаў калгаса імя Леніна ўдзел у раённым першынстве. Гэтае права першымі атрымалі лёгкаатлеты. Цёпла сустрэлі хлебаробы сваю каманду пасля спаборніцтваў. Была ж атрымана першая перамога ў раённым маштабе! Першая, але не апошняя...

З кожным днём мужнее, мацнее калгасны калектыў фізкультуры. Ёсць ужо значкісты ГПА, спартсмены-разраднікі, расце і маладая змена. У калгасе больш за дзвесце фізкультурнікаў, каля трыццаці спартсменаў другога і трэцяга разраду, многія ўдзельнічаюць у зборных камандах раёна па розных відах спорту.

У чым жа сакрэт такога хуткага, няспыннага росту? На гэта адказаў нам сакратар калгаснай камсамольскай арганізацыі Уладзімір Астраумаў:

— А камсамол, па-вашаму, гэта што?.. Калі камітэт камсамола памагае фізкультурнаму савету не толькі прамовамі і абяцанкамі, а канкрэтнымі справамі, дык горы можна зрушыць з месца. Аляксандр Маласай, Сяргей Шахрай, Галя Кукіна, Сяргей Валасевіч і другія члены камітэта камсамола — усе мы ўваходзім і ў савет фізкультуры. Нам даверана важная справа выхавання жыццерадаснага і здаровага пакалення будаўнікоў камунізма. Гэта наша кроўная справа, і мы за яе нясём адказнасць.

Ініцыятыва і самастойнасць — вось што характэрна для фізкультурнікаў калгаса імя Леніна. Яны не ўтрыманцы, а гаспадары сваіх спартыўных пабудоў, свайго інвентару. Цікавы такі выпадак. Надумала моладзь арганізаваць секцыю цяжкай атлетыкі. Гіры для першых заняткаў былі амаль у кожнага, а вось штангі не было. Штанга каштуе дорага, і хлопцы не захацелі, каб праўленне выдаткавала такія вялікія сродкі з калгаснай касы. Надумалі яны зрабіць інакш, па-камсамольску, — сабраць дзесяць тон металалому і на атрыманыя за яго грошы набыць штангу. І набылі.

Перад ад'ездам мы зноў зайшлі ў праўленне сельгасарцелі. Хацелі даведацца пра паказчыкі спартсменаў на вытворчасці.

— Не крыўдуем мы на іх. Добра было б, каб усе так працавалі, — гаворыць Сяргей Іванавіч Літвінаў. — Напрыклад, Тоня Кукіна надаіла ў мінулым годзе па 1 870 кілаграмаў малака ад кожнай каровы, а цяпер узяла абавязацельства надаіць па 2 300 літраў. І ўсе нашы спартсмены такія. За гэта і любяць іх у калгасе.

**А. МАЙСКІ.**
**І. ПРАКАПОВІЧ.**

**Калгас імя Леніна**
**Крупскага раёна**



**Калгасныя футбалісты абмяркоўваюць толькі што праведзеную гульню.**

ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «Зрабі сам!»**





Сквер імя Янкі Купалы і праспект Сталіна ў гор. Мінску.
Фота І. Бяляева.